# М У Ш Т У К  І  П А П К А
**Аповесць**

## ДЗВЕ ПАХАРОНКІ

У жніўні сорак дзевятага, калі я, праз дваццаць сем гадоў пасля таго, як мяне вывезлі з Адэсы, наведаў горад майго пачатку, з ім нас, мяне і жонку з нашай малою дачкой, знаёміла ўдава майго найстарэйшага брата.

Таго амаль легендарнага Валодзі, які павінен быў забраць мяне з заходнебеларускай вёскі ў савецкі горад, як толькі я падрасту, а брат, закончыўшы свой сельгасінстытут, усталюецца ў пэўную самастойнасць. З гэтым не атрымалася... А ў трыццаць восьмым Валодзю закатавалі ў Белай Царкве, паблізу якое ён працаваў заатэхнікам у саўгасе.

Братавая Надзя да сваіх сарака чатырох пастарэла ў злыбедах жонкі «ворага народа», працавала кандуктарам трамвая, жыла ў пакойчыку старога дома з падлеткам сынам. На гэты дзень яна ўзяла адгул. Калі мы селі ў трамвай і я хацеў узяць білеты, Надзея Іванаўна шапнула:

— Не надо, Ваничка. Кондуктор — моя знакомая, проедем и так.

Усмешка яе бядняцкай задаволенасці, што можа вось і так яшчэ пачаставаць дарагіх гасцей, запомнілася мне ледзь не поруч з яе расказам пра першае і адзінае спатканне з арыштаваным мужам.

Познім зімовым вечарам, нарэшце падпільнаваўшы, дачакаўшыся таго, ад каго гэта залежала, яна ўпала перад ім на калені, у снег, і ён — надзіва — дазволіў спатканне.

Валодзя быў скатаваны, у пашматаным, выбруджаным адзенні, і ён здолеў неяк шапнуць ёй:

— Я ничего не подписал.

У вёсцы маці расказвала мне, хлапчуку, што ён быў гарачы і горды... Згадаю дзве паперыны.

Рабочы хлопец, шафёр аўтобуса, наведаў мяне ў бальніцы. Усім, хто прыходзіў, я быў, вядома, рады, аднак з асаблівай удзячнасцю, з прыемным здзіўленнем сустрэў гэтага госця. Мы зрэдку перазвоньваліся, сустракаліся яшчэ радзей, але ж вось ён дачуўся, сабраўся і перадачку прынёс. Я памятаю яго яшчэ няўрымслівым падшпаркам, у апошнім ваенным годзе; сустракаўся з яго старэйшым братам, прыгожым, выхаваным юнакбм, перад самым яго адыходам у армію; ведаў іхнюю маці, прыбіральшчыцу, ціхую, цягавітую кабеціну з

дабрадушнай усмешкай. І ў беднасці, і ў ваенным ліхалецці яна здолела падняць сваіх гарушчых мальцаў людскімі ды не распуснымі, як і хацеў бы іх бацька, які прапаў недзе ў лагеры. Калі мы з маім нечаканым госцем, я лежачы, ён седзячы, гутарылі паціху, між іншым успамінаючы яго маму і брата, ён дастаў партманэ, пашукаў у ім і падаў мне паперыну.

Так я і ўбачыў першую пахаронку.

У маім Загоры з франтоў не вярнулася трыццаць чалавек. У старэйшай сястры загінуў адзіны сын. Аднак такой паперкі мне ўбачыць не прыйшлося. Ніхто не паказаў, а сам жа не будзеш прасіць. Нават у сястры не змог.

А тут я трымаў яе ў руках і праз тры дзесяткі гадоў бачыў і таго, хто не вярнуўся, і тую, што плакала да апошняга дня. Мне стала сцішна, уявіўшы, як ён, гэты шматок казённай паперы, быў прачытаны найбліжэйшымі першы раз...

Значна раней за тую ціхую гутарку ў бальніцы я таксама ўпершыню, і толькі яе адзіную, убачыў іншую «пахаронку» — даведку пра пасмяротную рэабілітацыю. Еалі дакладней, дык копію з яе, прысланую мне братавай.

На танна-жаўтлявым лістку не вельмі спраўна было надрукавана, што ваенны трыбунал Кіеўскай ваеннай акругі 8 студзеня 1957 года перагледзеў справу па абвінавачанні майго брата і вырашыў, што «постановление Тройки (так яно там — з вялікай літары!) при Киевском Облуправлении НКВД УССР от 28-го сентября 1938 года в отношении Бриля Владимира Антоновича *отменено* (тут і далей падкрэслена машыністкай) и дело о нем производством *прекращено* за отсутствием состава преступления». Гэта ўжо не падкрэслена.

«Ён быў, сынок мой, гарачы і горды...»

А ўжо не з матчыных слоў, а з братавага пісьма памятаю такое.

Вясной трыццатага года па нашых мясцінах прайшоў вялікі градабой, і мы пра гэтую бяду напісалі братам за мяжу. Бо іх жа там было ў нас два. Уладзімір і Ігнат. Выразна помніцца, як адказаў нам Валодзя,— тыя словы з яго пісьма, што тады не здаваліся мне, дый старэйшым у нашай сям'і, небяспечнай неасцярожнасцю:

«Вы пишете, что у вас побил град. А кто у нас побил — черт его знает».

І гэта, відаць, пра «год вялікага пералому», а то ўжо і пра набліжэнне смяротнага голаду на хлебароднай Украіне?..

Нядаўна я прачытаў у газеце такое выказванне:

«Усе асобы, якія абвінавачваліся ў шпіянажы, асуджаліся толькі ваенным трыбуналам. У адпаведнасці з законам перагляд гэтых

spraў, a ix была пераважная большасць, аказаўся ў кампетэнцыі галоўнай ваеннай пракуратуры».

Асуджанага «тройкай» рэабілітаваў ваенны трыбунал. Значыцца, і тут *хвароба часу* — шпіёнаманія. Не абмінула гэта, як віна, і Валодзю.

А Надзя казала, што яго судзілі — так гаварылася ў саўгасе, пакуль яе з малымі адтуль не выгналі,— як «разоблаченного сына польского помещика»...

Ад кіеўскіх сяброў я даведаўся, хто ўвосень трыццаць восьмага ўзначальваў тую «тройку», што з вялікай літары. Таварыш сакратар абкома за дваццаць наступных гадоў вырас на кіраўніка адной з рэспублік. «За Богам малітва, за царом служба не прападаюць». Калі ён прыехаў на святкаванне саракагоддзя БССР на чале сваёй дэлегацыі, я горка пажартаваў пры сябрах, што вось вазьму тую «пахаронку», падыду ў перапынку да высокага госця і спытаюся: ці памятаеце вы, паважаны, такую вось справу? I назаву, і пакажу, і дадам. Хоць і ведаю, што дарма гэта,— адкуль жа яму памятаць? Што — ён, мой брат, адзін прайшоў праз такі суд?.. Дый наогул — як гэта несалідна, калі не горш: далі вам, Брыль, запрашальны білет на такое высокае святкаванне, а вы?.. Да госця такога — ды з чым? Трэба ж думаць!.. Хоць яно,— вы, чаго добрага, скажаце,— і праз тры гады пасля Дваццатага з'езда...

Гістарычны Дваццаты яшчэ свяжэйшы быў у памяці ў той дзень, калі ў мяне гасцявалі таварышы па працы і я паказаў ім нядаўна атрыманы дакумент пра невінаватасць майго брата.

Адзін з гасцей, былы ваенны журналіст, паэт пасрэдны, але з амбіцыяй («I Пушкіна пры жыцці не вельмі заўважалі!..»), прыпсаваў нам застолле выпадам супраць другога госця, які меў няшчасце трапіць у палон: «На фронце я такіх, як ты, страляў бы!..» Калі ж даведка, якую я паказваў, апынулася і ў яго руках, ён уважліва паглядзеў яе, з натарыяльным штампам уключна, а тады сказаў мне, гаспадару:

— А што ж ты дагэтуль пра брата маўчаў? На ўвазе меліся, вядома, і анкеты. Бо ён у нас меў да іх службовае дачыненне. Цяпер, праз трыццаць гадоў пасля таго застолля, можна спытацца ў мяне: што, і такія ў цябе (або, па-маладому, у вас) гасцявалі?

Што ж, людзі пазнаваліся на паваротах. Як і цяпер яшчэ ўсё пазнаюцца.

# ЗВАНОК

Гэта было напісана вясной восемдзесят восьмага. І яно мне здавалася *ўсім,* што я ведаў і буду ведаць пра братаў лес.

А ў студзені года наступнага, летась, на Рыжскім узбярэжжы, пасля самотнай праходкі па нешматлюдным зімовым пляжы, уздоўж сасонніку на крутым беразе, пад стомлена-спакойнае паплёскванне вады і гулліва-надрыўны чаячы крык, я запісаў:

«У каго спытацца ў Кіеве, як мне даведацца больш пра Валодзю?»

У псіхолагаў, трэба думаць, ёсць адпаведнае тлумачэнне такому стану душы. Я ж толькі заўважаю гэта ў апошнія гады ў самім сабе і не магу назваць такую з'яву інакш як прадчуванне, уласцівае старасці. Цяпер, больш як праз год, выпісваючы з блакнота тое мае пытанне пра брата, магу ўжо і сказаць, што я, зноў жа цьмяна ды падсвядома, набліжаўся ў той час да таго, што мелася на мяне неўзабаве абрынуцца...

У Кіеве пра Валодзю пытацца не прыйшлося: Кіеў азваўся сам.

23 сакавіка 1988 года — надзвычайная, паваротная дата — уранні з Кіева мне пазваніў незнаемы журналіст, украінскі карэспандэнт «Литературной газеты». Пазней, калі я пазнаёміўся з гэтым, як для мяне — маладым, энергічным, талковым таварышам, вельмі дзіўнай здалася першая, пасля вітання і рэкамендацыі, фраза яго паведамлення:

— Я хочу вас обрадовать...

Ад гэтай... радасці я разрыдаўся.

Як і тады, калі ў маю сям'ю, таксама па «міжгорадзе», з местачковай пошты, у нашым Турцы брат Коля праз хрып і трэск прабіўся з весткай пра зусім нечаканую, недарэчную смерць сярэдняга паміж намі — Мішы.

А яно ж, тое «обрадовать», калі падумаць спакойна, дык і сэнс пэўны тоіць. Страшная таямніца нашага найстарэйшага, пачынаючы з таго званка, пачала раскрывацца, ім пачаўся пакутлівы год, пра які мне трэба расказаць.

За чатыры месяцы да званка з «Литературной газеты», з паведамлення таго самага незнаёмага карэспандэнта я ўпершыню прыняў у памяць слова *Быкаўня,* украінскі адпаведнік нашых Курапатаў. І нават блізка тады не падумаў, што тая назва, той лес пад Кіевам праз нейкі час назаўсёды ўвойдзе ў мае жыццё.

Неўзабаве ў газеце з'явілася ў мільённым памнажэнні друкаванае пацвярджэнне якраз таго, што мяне ўразіла з тэлефоннай трубкі. Пры эксгумацыі сталінскіх ахвяр, закапаных у Быкаўнянскім

лесе, па знойдзеных там рэчах з індывідуальнымі адзнакамі іх уладальнікаў следства здолела ўстанавіць прозвішчы чатырнаццаці бязвінна рэпрэсіраваных. Сярод іх — наш Валодзя. На месцы захавання знойдзены мыштук з надпісам: «Брыль В. А. 16.IX.1937 г.».

Толькі праз сем месяцаў пасля гэтай публікацыі я буду трымаць на далоні той лімоннага колеру касцяны муштучок, які пад зямлёй, сярод астанкаў жахлівай брацкай магілы праляжаў больш за палавіну стагоддзя. Буду чытаць-перачытваць на ім старанна, далікатна, нават з прэтэнзіяй на арнамент выскрабеныя прозвішчы (і маё!), дзве літары ініцыялаў, што так хвалююча, горка, імем брата і бацькі, расшыфроўваюцца ў маёй свядомасці, і дату — дзень, месяц, год,— якая пасля агледзін муштука яшчэ блізу месяца будзе для мяне няпростай загадкай...

Тры невялікія абзацы — столькі я змог напісаць у блакноце пасля таго званка. Аднак і тады, у такім хваляванні, з'явілася думка, нават і прыкрая,— «пра нашу гэтую прафесійнасць»... Ледзь не адразу падумалася, што напішу пра знойдзены муштук, нават слова гэтае вынесу ў загаловак. І гэта, скажам у апраўданне сабе, відаць, зусім натуральна. Калі думаць пра службу словам.

Натуральна яшчэ і таму, што і ў той дзень, і пасля ды пасля да мяне ўсё ішлі ды ішлі сямейныя ўспаміны...

## ТАКАЯ РАМАЧКА

Сага — ісландскі старадаўні празаічны сказ, аповесць. Слова, можа, і завысокае для нас, нашай вясковa-гарадской ды нізавой сям'і. Зрэшты, кал і ў англійскага класіка «Сага пра Фарсайтаў» — твор высокаарыстакратычны, дык «Сага роду» ў майго польскага сябра Рыся Дабравольскага — рабоча-сялянская, аднак і яна расказана з належнай годнасцю ды правам. Ёсць і ў мяне ўпэўненасць, якая паўтараецца сяды-тады, што кожная чалавечая сям'я мае права на сагу, як і кожны з людзей на напісанне ўспамінаў. У кожнага яны ёсць, кожны перабірае іх у памяці, з выпадку якога, а то і так сабе. Асабліва пад старасць. А калі яшчэ і выпадак, прычына, дык успаміны самі пачынаюць жывей выядрывацца ў душы, як зоркі ў небе мінулага, збірацца, складацца ў яшчэ адну сямейную сагу.

У мяне ёсць выпадак, прычына... Аднак я сваю сагу за многа гадоў растрос па аповесцях, апавяданнях і запісах і цяпер магу яе толькі дапаўняць.

І дай мне Бог справіцца з гэтым як след, з накіраванасцю ў галоўнае, з двума замежнымі братаМі, а перш за ўсё — з нашым бедным Валодзем у цэнтры.

...Да лета семдзесят другога года мы з Ганнай заставаліся ўдваіх з усёй нашай дзесяткі Антосевых ды Настуліных дзяцей; сястры было семдзесят восем, мне пяцьдзесят пяць, найстарэйшая і кайменшы, такая «рамачка» для астатніх васьмі.

Трое памерлі ў маленстве: Марыя, Павел і Міша. З іх, па матчыных расказах, мне больш-менш выразней уяўляўся той наш першы Міша, які памёр найбольшым з траіх, шасцігадовым. Маці даволі часта ўспамінала яго як «такое ж удалае дзіця», нават размовы з ім, прадучы, уголас прыгадвала. Праз два гады пасля яго смерці ад усёмагутнай тады шкарлятыны нарадзіўся Міша другі — мой Міша, хочацца сказаць,— якога назвалі так ці таму, каб памяць пра першага была менш балючай, ці таму, каб, згодна з народным павер'ем, хлопец надзейна вырас і жыў шчасліва.

У маім маленстве Ганна, настолькі старэйшая за мяне, здавалася чужою цёткай. Аўдавела да сарака, зямлі было многа, гаспадарка растрэсена, а рабіць няма каму, дзяцей пяцёра, а найстарэйшай шаснаццаць. Падняўся гаспадар, адзіны сын, ды на яго прыйшла ўсяленская пахаронка: памёр ад цяжкіх ранаў каля Кёнігсберга. Пераяжыла траіх дачок, засталася пры апошняй, тым часам і пажыць бы, але ж старасць. Пад канец і аглухла зусім, і ледзь хадзіла, і ўсе мае намаганні дапамагчы сталічнай медыцынай не дзейнічалі.

Апошні раз — хто ж калі ведае, што апошні? — я гасцяваў у іх вялікім, раскіданым па ўзгорках ды ярах, цёпла і сумна з маленства знаёмым Палужжы ўлетку семдзесят другога. Пасядзелі на сонейку, ужо не на траве, а на табурэтках над травою, пагаманілі сяк-так. Пастарэлы, атаўсцелы гараджанін і забітая нягодамі, зусім нямоглая вясковая бабуля. Адно запомнілася найлепш — як яна махнула высахлай ад старасці рукой і сказала з нейчай, пачутай, а то і са сваёй ужо, самой зразумелай філасофіяй згоды:

— Ат, ці кошык бульбы больш з'ясі, ці кошык менш — усё адно!..

Я не ведаў і ведаць не мог, што гэта ў нас была апошняя сустрэча, але зноў жа як быццам штосьці прадчуваў, бо развіталіся мы не так сабе, а нібы надоўга — урачыста неяк, абняўшыся. А потым, вярнуўшыся з падарожжа па Енісеі, пачуўшы, што Ганны няма, я быў за тое наша развітанне ўпотай, спакойна рады, як за нейкі незвычайны абавязак, належна выкананы абрад — нібы апошняя споведзь ды прычасць.

«Рамачкі» больш не было — я заставаўся адзін з усёй бацькоўскай сям'і.

Абедзве сястры, Ганна і на два гады маладзейшая Віліта (Уліта ці Іуліта па Святцах), пайшлі векам па маме: абедзве памерлі таксама добра на восьмым дзесятку, адна «ад старасці», другая ад раку. Браты ніводзін не дацягнулі да шасцідзесяці. Ігнат намёр ад лейкеміі, Мікалай ад інсульту, абодва на ніасцідзесятым годзе. Міхаіл — на пяцьдзесят другім, раптоўна і «легка», ад сэрца. Ну, а Уладзімір, найстарэйшы з нас, братоў, пайшоў з жыцця ў найстрашнейшых пакутах, у трыццаць дзевяць — ад Сталіна.

Усё жыццё мяне не пакідала адчуванне, што вось я найменшы ў сям'і. Ці прывычка, ці, можа, такая ўжо рыса характару — нейкая дзіцячасць назаўсёды?..

Так думалася да муштука.

Але загрымеў той званок — і я другім пасля Ганнінай смерці наваратам адчуў тую «рамачку», ужо толькі паміж братамі, яшчэ раз, ужо назаўсёды журботна ўсвядоміў, што я — адзін з усіх, што я за ўсіх братоў старэйшы... Бо што такое шэсцьдзесят, пяцьдзесят, а тым больш Валодзевы трыццаць дзевяць перад маімі семдзесят трыма? Ужо мне тужыцца, смуткуецца, бядуецца па ім — як наймалодшым сярод нас...

## НАД ПАЛАВІНАЙ ЗДЫМКА

Яшчэ адно, пасля сагі, высокае слова — архіў. У мяне ён за паўстагоддзя сабраўся, можна сказаць, немалы: антрэсолі забіты папкамі, поўна і ў тумбах стала. А дома ў нас, у Загоры, перад вайной была на гарышчы вялікая карзіна, з кнігамі прывезеная з Адэсы. У тую карзіну «за польскім часам» клаліся і пісьмы ад замежных братоў, замежнага дзядзькі, замежных братавухаў, калі яны засталіся адны, толькі з малымі дзецьмі. У партызаны мы пайшлі сям'ёй, схапіўшы толькі неабходнае, дый то далёка не ўсё. Праўда, свае рукапісы я загадзя закапаў у дубовай бачулцы, таксама адэскай, у суседняй вёсцы, у гумне дваюраднага брата. Толькі гэта і ацалела, бо ад карзіны на гарышчы не засталося і следу.

У канцы сорак дзевятага года, над націскам падазрэнняў ды паклёпаў вакол маіх уцёкаў з палону і «сацыяльнага паходжання», спалохаўшыся горшага, мы з Мішам пераглядзелі тое, што ў акупацыю закопвалася. Сёе-тое яшчэ давялося спаліць, каб «у выпадку чаго лішне не ўскладняць біяграфію». Маю, вядома. Я ўжо не раз пашкадаваў, што мы тады так зрабілі. На добры лад, можна было

зноў схаваць гэта недзе да лепшага часу. Ды хто ж яго так ужо спадзяваўся? А ў страху вочы заўсёды вялікія.

Даваенная перапіска не захавалася. Захаваліся фотаздымкі. Што ў нас, у сем'ях сёстраў і братоў, што ў сваякоў па розных вёсках ды гарадах.

Я і пачну з ад ной дарэвалюцыйнай фатаграфіі.

Ніжняя палавіна здымка наўскасяк адарвалася і прапала. Знаёмы фатограф перазняў яго так, што як быццам яно з тым абрывам так было і задумана. На ацалелай палавіне — бацька і абодва старэйшыя браты, пазней, на працягу нашых вясковых гадоў, для нас, трох меншых, дзіўна *замежныя...*

Думкі, згадкі адны, паасобку не ходзяць. Над гэтым здымкам-паўздымкам я летась быў неяк задумаўся, успомніўшы Жукоўскага з той гарышчанскай карзіны — дванаццацітомны Збор твораў у чатырох кнігах, акуратна, моцна пераплеценых. Жыва ўявілася, як і калі гэтае багацце магло быць куплена: ці яшчэ тады, калі яны, хлопцы, вучыліся ў Міры, у гарадскім вучылішчы, ці тады, калі былі ў Адэсе гімназістамі?.. Трэба сказаць, што хоць Ігнат малодшы на паўтара года, вучыліся яны ўвесь час *вобруку,* і ў загорскай царкоўна-прыходскай, і ў гарадскім, і ў класічнай гімназіі, і ў сельскагаспадарчым інстытуце. Чамусьці найцяплей мне думаецца, што здымак зроблены тады, калі яны законны лі гарадское і прыехалі пастулаць у гімназію.

Бацьку — сорак чатыры. Ён пасярэдзіне. Абняў у поясе старэйшага, стройна-высокага пятнаццацігадовага Валодзю. Меншага бацька называў па-гарадскому Ігнашай, а імені Ігнат, Игнатий па Святцах, не любіў. Меншы ці самахоць, ці па ўдалай падказцы фатографа абняў аберуч бацькаву левую руку, на локцевым згібе, і злёгку прытуліўшыся да гэтай дужай і добрай рукі з ледзь не дзіцячым яшчэ, чыстым, сур'ёзным выразам твару. Падлетак на чатырнаццатым годзе.

Усмешка ў мяне. Ад таго, што нядаўна расказваў Шура, Ігнатаў адзіны сын, на шэсць гадоў маладзейшы за мяне пляменнік. З бацькавых слоў успомніў ён, як тыя два выпускнікі местачковага вучылішча пайшлі ў Адэсе на славуты базар Прывоз, а там купілі «сініх», баклажанаў, вельмі ж смачных з выгляду, і паспыталі іх на хаду, і ўпотай папляваліся.

На хлопцах строгія цёмныя гімнасцёркі, шырокія рамяні з адпаведнымі спражкамі. З якімі «сімваламі» на іх, наогул чыя гэта форма — ужо і спытацца няма ў каго. Усе мае знаёмыя, што ў розны час вучыліся ў гарадскім, паадыходзілі ў вечную памяць.

Зноў адхіленне ў мяне. У адзін час з нашымі ў Міры вучыўся Уладзімір Жылка, у сталасці — таленавіты паэт і таксама сталінскі асуджэнец. Над старонкамі грунтоўнай кнігі пра яго жыццё і творчасць мне прыемна і сумна думалася і зноў вось думаецца, што яны, падлеткі з Загора і Макашоў, і зналіся, і сябраваць маглі...

А галоўнае, што, гледзячы на абарваны здымак, уявілася, дык гэта ўзаемнае шчасце: хлопцам мець такога бацьку, а яму — такіх сыноў.

Па гімназічным «Свидетельстве» за шосты клас, прысланым сёлета мне з архіва адэскага сельгасінстытута, можна меркаваць, што Валодзя літаратуру любіў. Паміж двух «хорошо» і дзевяці «удовлетворительно» горда ўзвышаецца адно «отлично» — па рускай мове і «Словесности» (там гэта з вялікай літары). Аднак большым кніжнікам мне бачыцца Ігнат. Таму што і вершы яго, юнацкія і пазнейшыя, я чытаў, і ў перапісцы нашай з ім у 1944-1960 гадах бывала гаворка пра літаратуру. У яго — Дастаеўскі, о! «А вы, инженеришки человеческих душ, мелко плаваете». І непасрэдна гута рыл і мы з ім пра любімыя кнігі ў летнія дні сорак шостага года, калі ён са сваім Шурам, студэнтам, нядаўнім афіцэрам-франтавіком, гасцявалі ў мяне ў Мінску і ў вясковых родзічаў. Са здымка мне ўявілася, што хлопец, які абнімае бацькаву руку, што іменна ён просіць у нашага папы (па-гарадскому ўсё) грошай на той Поўны збор Жукоўскага, які значна пазней і мне даў нямала высокае асалоды. Просіць, добра ведаючы, што адмовы не будзе, як ніколі не было. А бацька дае, як даваў і будзе даваць, з тою шчаслівай гордасцю, якую мог ведаць сын патомнага «дваровага» мужыка, што так шчасліва выбіўся ў людзі: праваднік першакласных вагонаў!..

І яшчэ адно, ужо зусім сваё, тады мне адчулася — жаль, што на маю долю дружбы з бацькам прыйшлося так мала...

Ранейшых здымкаў Валодзі і ігната не захавалася, а быць яны, трэба думаць, былі. Як было ў іх і маленства, якое праходзіла там, дзе і мае, наша з Мішам (другая дружная пара), і іхнія ўспаміны пра маленства мне ў асноўныш не вельмі цяжка ўявіць. Тое, што ўспаміналася аднаму з іх на таежным лесапавале, на будаўніцтве Беламорканала, а другому за перадсмяротнымі кратамі, у горадзе з паэтычнаю назвай Белая Царква. Дашкольнае і школьнае маленства ў родным Загоры, у старадаўнім Міры, з яго замкам і паркам, з шумнымі кірмашамі, дзе так цікава было патаўчыся, з царквой, у якую іх, «гарадскіх», вадзілі, з касцёлам, у які з'язджалася навакольнае панства, з сінагогай і ешыботам, каля якіх снавала многа пейсатых

«падрабінкаў», сваіх і замежных, з мячэццю для агароднікаў і кажушнікаў татараў.

Было дзевяць вёрстаў дахаты, стары гасцінец, па якім у свой час нямала выхадзіў ды выездзіў і я...

З матчыных расказаў пра зусім малога Валодзю помніцца тое, як ён, дачакаўшыся бацькі з Адэсы, спаць лажыўся ў абдымку з яго чыгуначніцкай шапкай,— каб той ноччу не ўцёк у свой далёкі таямнічы Горад, каб потым зноў так доўга не прыязджаць. І такое яшчэ — як ён аднойчы, ужо крыху старэйшы, некуды знік, прапаў, і мама была ў вялікай трывозе. «Можа, дзе ў Каралевец ужо з віціннікамі заплыў?!» Ад гэтага сказа, які дакладна запомніўся, добра пахне мне родняй гісторыяй. І Каралевец, а не Кёнігсберг, і віціны, віціннікі, да якіх на Нёман, шэсць вёрст па нашай ціхай лугавой Вушы, не наўда і дабрацца. Прынамсі, ва ўяўленні запрацаванай, спалоханай маладзіцы. Яшчэ ж і гаварылася — і тады, і ў маім маленстве: «Лусту адкрою табе тоўстую, як віцінніку!..» Чалавеку цяжкай працы.

Малы Ігнась не толькі вучыўся лепш за Валодзю, гультаяватага «бацькавага пестуна», не толькі пайшоў у школу не зусім шасцігадовым, але наогул быў у нейкай меры вундэркіндзікам. І сястра Віліта, і наш сусед Алесь Шут, калі яны ў сорак шостым сустрэліся з Ігнатам у Загоры і трохі паўспаміналі свае школьныя гады, весела называлі яго, пажылога ўральскага выкладчыка, Сусаніным.

Гэта іх першая настаўніца так яго называла, калі на праходцы з вучнямі па зімовых сцежках пускала яго першым у ланцужку малечы. Гноміка ў гарадскім башлыку.

Мама расказвала і пра яго «распусту».

У наваколлі нашым былі тады маёнткі ды маёнтачкі. У адным з большых, што называўся Уцехай, у пана Анцуты быў аканомам беларус Дзядзюшка. Ездзіў на пары, у брычцы, і для вёскі быў панам. І вось аднойчы з чародкі малых, калі гэты пан ехаў ступою, наш Сусанін гукнуў на яго: «Дзядзюшка-пярдзюшка!..» А сам наўцёкі. Пан аканом не паленаваўся спыніцца, спытаўся ў дзяцей, чый гэта хлопец, зайшоў у наш двор, балазе недалёка, і паскардзіўся гаспадыні, нават і пакрычаў. Маці знайшла распусніка і, хоць пан ужо і пайшоў, дала дурноце махроў. Яна не толькі потым, удавою, ужо для Мішы і мяне, была ў выхаванні строгай.

Яшчэ пра сябе, гледзячы на другіх.

Думаю вось, якія ў нашага бацькі былі пачуцці да Валодзі, першага сына, і якія да мяне, апошняга? Пасля дзвюх дачок, калі адной было пяць, а другой тры,— нарэшце першы сын!.. А я

нарадзіўся, калі яму было сорак сем. Пра гады, якія мне вельмі мала помняцца, пазней, калі ўжо бацькі даўно не было, мама неяк успамінала: «З каленяў не спускаў, па галоўцы ўсё гладзіў». І першы здымак такі, трошкі на трэцім годзе — на бацькавых каленях.

У «Птушках і гнёздах» раздзел «Падарожжа ў найлепшае» і тая асаблівая сцэна ў ім, дзе смяротна хворы бацька, калі мы былі адны ў хаце, прасіў мяне маліцца за яго, бо «молитва ребенка услышится», напісана з памяці, без выдумкі.

Я не мудрую з кампазіцыяй і тут — гэта проста частка ўспамінаў з тых леташніх сакавіцкакрасавіцкіх дзён, калі — ад званка да наведання

Быкаўні, да спаткання з Валодзевай справай — нямала думалася пра адно. І запісы рабіліся.

Я, вядома, хацеў ехаць у Кіеў адразу, аднак абодва карэспандэнты «Литературной газеты», якія былі мне там неабходныя для пачатку, службова выязджалі на даўжэйшы час. Пасля надарылася зручная прычына пабываць і ў Адэсе, і ў Кіеве, а можа, думалася, і ў Белай Царкве,— мяне запрасілі на Шаўчэнкаўскае святочнае падарожжа ў палавіне мая па Дняпры, ад самага Чорнага мора.

## МАЯ АДЭСА

Трэба вярнуцца ў жнівень сорак дзевятага. Тады мне было трыццаць два, жонцы дваццаць восем, а нашай Галі, старэйшай, няпоўныя чатыры. Да гэтага часу малая паспела шмат адпакутаваць. Блізу год ляжала ў пасцелі, ад каленяў да грудзей закаваная ў гіпсавую шкарлупу, поўзала ў ёй, як чарапаха, па падлозе, да болю жаласліва прасілася «на ручкі», а потым, вызваленая з гіпсу, зноў пачала вучыцца хадзіць. Пажылы, культурна дасціпны прафесар, які і наша дзіця выратаваў ад калецтва, павіншаваў мяне з перамогай і загадаў:

— У Крым, таварыш дарап, у Крым!..

Жнівень, амаль да канца праведзены намі ў краі шчодрага сонца і цёплай вады, якая дзень-ноч набягала то меншымі, то большымі хвалямі на чысценькі мяккі пясок, прайшоў надзвычай хутка. Ды ўсё ж дзяўчынка наша паспела добра загарэць, пасмялець у хадзе і «аддаць рыбкам» ледзь не ўвесь запас сваіх трусікаў, якія ласкавае мора ахвотна брала з яе вясёлых рук.

І вось мы вяртаемся. Ужо не едзем у вагоне, як сюды, а плывём. На палубе цеплахода — маленькая малпа Яшка, якою ўвесь дзень заняты многія пасажыры, асабліва такія, як наша. Яна — пад

пільным, шчаслівым наглядам мамы. А мне прыемна стаяць бліжэй да самага носа нашага судна, паміж спакойным морам і ясным небам поўдня...

Цеплаход ідзе з Феадосіі ў Адэсу, у мой сямейна легендарны горад. Мы начавалі ў ялцінскім порце, потым на рэйдзе перад Еўпаторыяй і вось набліжаемся да канца цудоўнага марскога падарожжа, першага ў маім жыцці.

«Дэльфіны любяць музыку». Пра гэта і чыталася, і чулася. А тады, у сорак дзевятым, іх было вельмі многа.

Пазней я бываў на Чорным моры або каля яго даволі часта, і з захаду і з усходу, перасёк з поўдня на поўнач, і ніколі не бачыў столькі дэльфінаў за адзін раз. На шляху Стамбул — Адэса мы двойчы спыняліся на ноч, у Варне і ў Канстанцы,— з асцярожнасці, бо і тады яшчэ, увосень пяцьдзесят шостага, лепш было пабаяцца не дазвання вылаўленых мін. Не памятаю, ці падумаў я тады, як думаецца цяпер, калі пішу гэта: як жа іх абыходзілі разумныя, гуллівыя прыгажуны яшчэ на сем гадоў бліжэй да Другой сусветнай?

Святочна помніцца мне той першы падыход да адэскага порта. Уваход у пачатак жыцця, у першую, гарадскую, палавіну маленства. На раскошна пагодлівым захадзе сонца, пад прывольна-пяшчотную мелодыю і словы новай тады песні «В тумане скрылась милая Одесса» дэльфіны суправаджалі наш разрумянены сонечным развітаннем цеплаход, нібы ганаровы эскорт. Вынырвалі, ныралі, зноў вынырвалі, як вывінчваліся з чысценькага прадоння ў высокаіскрыстых усплёсках, і толькі што не перагукваліся радасна з усіх бакоў, паміж сабой і з людзьмі, што ўсе былі на палубах, што ўсе заслуханыя ў музыку, як і яны...

Сустрэчы, а лепш сказаць — знаёмствы з родным! — мы, позна ўладкаваўшыся ў гасцініцы, пачалі назаўтра зранку. І з самага галоўнага — з дзядзькі Паўла.

У нашага бацькі родных братоў не было, у дзядзькі таксама, і яны, дваюрадныя, дружылі лепш за іншых родных. Дома мы дзядзьку не засталі. Людзі, што жылі пры ім, у другім пакойчыку двухпакаёвай кватэры, на здзіўленне нам сказалі, што ён — семдзесят восем гадоў! — на рабоце... То за ручку з Галяй, то на руках з нашай курортніцай мы падаліся на вакзал, балазе туды з Вазнясенскага завулка, з маленства памятнага па назве, недалёка.

Шматпакутны ён быў чалавек, дзядзька Павел. Старэйшага сына, у Грамадзянскую чырвонаармейца, белыя захапілі ў палон і замучылі. Таксама з маленства памятаю тое жахлівае, што чуў — пра пяцікутныя зоркі, павыразаныя на жывым чалавеку. Адзіная дачка

памерла ад сухотаў, пакінуўшы бацькам малога сына. Ён памёр, калі ўжо нас у Адэсе не было, на тое самае, што і маці. Цётка Марта памерла ў акупацыю. Малодшы сын, ніколі мною не бачаны траюрадны брат, інжынер «по мукомольному делу», жыў далека, у Данбасе. Забраў быў бацьку, калі той зусім састарэў, але ён там не прыжыўся: «Разведзены жаніўся з разведзенай, з дзецьмі ад першага мужа,— ну што яны мне за родзічы?..» Так ён пісаў у Загора Віліце.

Мы знайшлі яго на пероне. Сівы дзядок у форменнай шапцы і тужурцы — не ў такім, праўда, шыку, як на даўнейшых здымках з нашым бацькам,— сядзеў на табурэтцы каля брамкі, правяраючы перонныя білеты. Кал і мы ўтраіх спыніліся каля яго, адбыўся такі дыялог:

— Добрый день! Вы Павел Осипович Брыль?

— Да, я. А вы кто будете?

— Узнавайте.

Ён паглядзеў на мяне больш уважліва і абыякава крутнуў галавой:

— Не знаю вас.

— Я — Ваня, сын Антона Даниловича.

— Голубчик! — з усхліпам крыкнуў стары, нялёгка ўсхапіўся і працягнуў да мяне дрыготкія рукі.

І вось я ўжо плачу, пішучы гэта, убачыўшы побач з дзядзькам свайго бацьку, адчуўшы цеплыню іх адносін.

З усяго даваеннага ліставання Загора *з* Адэсай, цераз граніцу, для дарослых тады зусім незразумелую, нейкім цудам захавалася ў мяне бацькава пісьмо дзядзьку, напісанае 6 снежня 1923 года, вечарам на зімовага Міколу, роўна за тры месяцы да бацькавага перадсмяротнага «духовного завещания», якое таксама ёсць у мяне. Шсьмо чамусьці не адаслана было. Яно пачынаецца словамі «Дорогой братец, Павел Осипович», а далей, з усёй кранальнай непісьменнасцю бацькі адукаваных дзяцей (на ўвазе маю старэйшых братоў), яно расказвае, як жылося тады, калі чалавек вярнуўся туды, адкуль падаўся ў свет, як думалася — назаўсёды. Вось урывак з таго вялікага і шчырага, як апошняя споведзь, паслання:

«...А мне скажу Павлуша скажу откровенно живется несладко а хуже всего что здоровья нет больше болею чем здоров а еще досадно и трудно терпеть недостатки коник паршивеньки и его мучу и себя земля твоя запущена обрабатывать с трудом ох голубчик от жизни остались только воспоминания а жизнь похоронена не знаю как живется тебе там а здесь деревня была есть и будет деревней а нам

разоренным и без денег приехавши в голые старыя углы это не жизнь а пытка все жалеем что уехали...»

«Голубчик Павел», нягледзячы на дружбу з «голубчиком Антоном»,— а слова гэтае было ў іх як быццам адно на двух,— у Загора разам не вярнуўся. Ён быў па натуры яшчэ больш за нашага невясковы, хоць і не такі энергічны ды абароцісты. Можна сказаць: мядзведзь наадварот — бо ён, калі ажаніўся, мерыўся па нагаворы жонкі і радні заняцца гаспадаркай, але ўздыхаў: «Эх, каб гэта ж так, як мядзведзь на зіму, заснуць на ўсё лета, а на зіму прачнуцца і — на цёплую печ!..»

Праўда, карэнне вясковае ён, застаўшыся ў горадзе, не абсякаў. На сваю зямлю прыслаў нам заверанае польскім консульствам у Кіеве даручэнне на часовае карыстанне — усё ж з надзеяй на славуты «ўсякі выпадак». Польскія ўлады спрабавалі зямлю тую ў нас забраць, як маёмасць чужынца, а мы судзіліся з казной аж да прыходу іншай улады. Тады ўжо Міша, польскі салдат, які па абмену вярнуўся з нямецкага палону ў лістападзе трыццаць дзевятага, пайшоў з тым даручэннем у сельсавет: бярыце, таварышы, зямлю савецкага грамадзяніна. Шнуры тыя пайшлі па людзях, а Міша з Колем былі рады, што так цяпер не раскулачаць, не вывезуць, хоць на гэта і свайго ўласнага хапала, а на дадатак — я быў у Германіі...

Дарэчы, улетку сорак першага, калі прыйшла акупацыя, у пакінутым сельсавеце нашы знаёмыя бачылі спісы людзей, якіх не справіліся вывезці на ўсход. Там — з-за мяне — значылася і наша сям'я, і яшчэ дзве сям'і, у тым ліку і ўдовай бяднячкі Турчыхі з дзецьмі, два старэйшыя сыны якое таксама былі з польскага войска ў палоне.

Дзядзькавай хатай, каморкай, паграбам, хлявом і гумном карысталіся далейшыя сваякі, а потым яшчэ ўсё пры Польшчы, ён напісаў нам прадаць будынкі і пляц і грошы выслаць яму, бо і жывецца туга, і хварэюць жонка і ўнук. Хіерапіскай ды перасылкай займаўся я. Памятаю з прыемнасцю, як паслаў тыя злоты, а таксама і недаўменне помніцца, з якім чытаў дзядзькавы радасна-ўдзячныя каракуле з пералікам тых звычайных і не вельмі дарагіх у нашым мястэчку рэчаў, якія там, у Саветах, купляюцца цераз загадкавы, экзатычны «Торгсйн». Скажам, бялізна, порткі, чаравікі...

Пасля вайны старому не палепшала...

Ды ён заставаўся самім сабою, усё яшчэ службістам.

Нам ён сказаў, што вызваліцца ў шэсць гадзін і будзе нас чакаць. А пакуль што, як мы зразумелі, ён на рабоце. Людзі зрэдку

ідуць праз брамку, у каго трэба праверыць перонны, каму адказаць на пытанне, што ён тым часам, гаворачы з намі, і рабіў.

Здарылася так, што мы, без віны вінавата, увечары прыпазніліся да яго. І тут я ўспомніў тое, што чулася пра дзядзьку ад старэйшых сямейнікаў: што і нервовы ён, і крыўдлівы, і рэзкі бывае, хоць і душэўны чалавек, і любіў спяваць украінскія песні, асабліва са сваёю таласістай хросніцай, нашай Вілітай. Гэта і ў Загоры, калі ён туды прыязджаў, і ў Адэсе, дзе яна вучылася шыць, а ў вайну і ў бежанстве была. На нас ён пакрыўдзіўся, пабурчаў, што мы «знайшлі раднейшых», а тут і вячэра даўно гатова, і суседзі запрошаны. Мы з жонкай павінаваціліся, ён хутка адышоў, разгаманіўся. Пад смажаную скумбрыю, якая і сапраўды астыла, пад памідоры, кабачкі і іншую смакату мы выпілі маленькімі чарачкамі «Червоного міцного», ад чаго Адэса цяплей спалучылася з Украінай, а адтуль — і з нашымі роднымі мясцінамі.

Ён гаварыў па-адэску. «Я слышал *за тебя* по радио, но думаю: не напишу! Кто чей племянник — я твой или ты мой? Почему Улита мне пишет, а ты что — не можешь?» Хвалячы калі-небудзь, гаварыў: «Это — *тот* парень». «Слушай, голубчик, *сюда...»* Да Ніны маёй звяртаўся «мадамачка». «Внучаньку», як і на пероне, пагладзіў па галаве. Паскардзіўся на сваю пенсію: шэсцьдзесят гадоў у адным дэпо, а плацяць капейкі. «Обидно, голубчик Ваня! А все равно — приболею когда, не выйду, так и кажется, что там без меня все поезда постали!..» Праз мноства небеларускіх гадоў прарывалася і наша, загорскае. «Калхоз там хочуць рабіць? Так жа з нашых гор трактары к чорту пазвальваюцца!» А яшчэ і такое, зусім ужо сваё:

«Ванячко, сэрцо мае ўсё баліць. Стары я, адзінадзіночанькі...»

Калі яго субкватаранты, пажылая бяздзетная пара, што і з падрыхтоўкай вячэры дапамагалі, сціпла развіталіся і пайшлі, я нарэшце спытаўся — пачакаўшы і прыцішана:

— Дядя Павел, как же это с Володей нашим случилось?

Стары, заслужаны рабочы, партрэт якога вісіць на вакзале, бацька двух камуністаў, старэйшы з якіх яшчэ і герой, ён адказаў мне зусім «па-старарэжымнаму», не вельмі і прыцішаючыся:

— Жидова партейная погубила его, вот как!..

Так мы з жонкай другі раз за дзень пачулі тое, чаго не было ў пісьмах. Што нейкі М., партыйны сакратар, яўрэй, калі Валодзя, загадчык саўгаснага аддзялення, па справядлівасці выкрасліў яго са спісу на ўзнагароджанне, спадцішка насмуродзіў у гістарычнае «куды трэба». Былі ў яго і сувязі, і памагатыя, на беспартыйнага «паляка»,

радня якога за мяжой, ды яшчэ і «памешчыкі», таго «куды трэба» хапіла...

Цяпер — пра тых, кім дзядзька папракнуў мяне, сказаўшы пра «раднейшых за яго».

Ігнат яшчэ вясной сорак пятага пісаў мне: «Дяде Павлу и Наде по некоторым причинам не пишу». Мае заходніцкае неўразуменне ён праясніў праз год пры сустрэчы. А нядаўна яго Шура, калі мы зноў закранулі гэтую тэму, яшчэ раз растлумачыў тыя «некаторыя прычыны». Сам ён, Ігнат, спачатку свяшчэннік, пасля «перековки» на Беламорканале са сваёй папоўскай маланадзейнасцю схаваўся за ўральскім хрыбтом, а Валодзя наогул «вораг народа» — што гэта за сваяцтва для дзядзькі з яго сынам-камуністам? А для Надзі — мужаў брат і поп былы, і зэк? А для самога Ігната — з адзіным сынам, за якога дрыжалася ўсю вайну, які павінен далей вучыцца? І асцярожнасць тут, і ўсёмагутны *таварыш Страх!..*

Тыя «некаторыя прычыны», сцішнаватае для нас з жонкай пачужэнне родных людзей паміж сабою мы ў нейкай меры адчулі і самі. У адносінах дзядзькі з удавой і сіротамі найстарэйшага пляменніка, сына «голубчика Антона», а тым больш да сваякоў па жонцы другога пляменніка, Ігната. Здалося нават, што ўсе яны, бліжэйшыя і далейшыя родзічы, нібы толькі дзякуючы нашаму прыезду і дачуліся адны пра адных, схамянуліся, што вось жа поблізу жывуць, а так даўно не сустракаліся, не ведаюць дакладней: хто, дзе, што...

На «Сквере 9-го Января», які я памятаю як «Старосенную площадь», дзе замест сённяшніх пастарэлых таполяў і акацыяў была проста бязмежная для малечы прастора, стаяць у рад некалькі аднатыпных невысокіх камяніцаў з брамамі і тунельнымі ўваходамі на квадратныя «італьянскія дворыкі», замкнёныя сценамі — на тры паверхі адна, ад вуліцы, і на два з цокалем з трох іншых бакоў, з вялікімі вокнамі і балконамі — усярэдзіну. Мяркуючы па колішніх расказах старэйшых і па сваёй памяці, а цяпер і па некалькіх дзвярных візітках, якія паспелася заўважыць, кватэры тут здаўна і пераважна засelены беларусамі. Лейка, Літвінка, Радзюк, Шавейка, Стэльмах, Булдык, Пляскач... У большасці гэта ўжо дзеці і ўнукі тых, што наязджалі ў Адэсу-маму на лягчэйшы хлеб і часцей за ўсё ўладкоўваліся на «жалезнай дарозе». Удала сяліліся паблізу ад вакзала, які цяпер, пасля ваеннага разбурэння, адбудаваны па-сучаснаму, а дамы — тыя самыя.

Зайсці ў нашу былую кватэру, паказаць яе жонцы, а перш за ўсё пабачыць самому, я не змог, бо там не было нікога дома. Зайшлі мы

толькі да Ігнатавых сваякоў па ягонай Веры Раманаўне. Старая мачаха, пажылая сястра па бацьку. Выпадкова, пасуседску пабачыўся там і з мамінай, нібы спрадвечнай сяброўкай, якая пляснула далонькамі і развяла іх, пачуўшы, чый я: «Господи, такой крошка был! Сколько же лет прошло?..» А ў іншым доме, цераз адзін, праясніўшы нумарацыю, якая змянілася, мы знайшлі нарэшце і засталі дома тых, каго хацелі пабачыць першымі.

Вузкі, бедны пакойчык. На тое мае, у сорак дзевятым, яшчэ маладое ўспрыманне — немаладая жанчына, як пішацца даўно і часта, са слядамі былое красы, не вельмі здаровая з выгляду. Надзя, «Надежда Ивановна Бриль». Беларуска, па бацьках зямлячка, з не надта далёкага ад Загора Бярозаўца. У дзявочым прозвішчы Трыбуць рускае вымаўленне даўно адкінула мяккі знак і пераставіла націск з другой на першую галосную — Трибуц. Нават такой беларускасці не засталося.

Праз нейкі месяц яна мне напіша: «...Вы все стоите перед глазами, особенно Вы, Ваничка (разрешите мне называть Вас так, как-то роднее),— как много общего у вас с Володей!..» А тады, спачатку, была таксама стрыманасць. «По некоторым причинам»? Аднак не доўга. Потым пайшлі і гутарка блізкіх людзей, і плач, і трохі смеху...

Віктар — бялявы, моцна загарэлы, быстры адэскі галубятнік і рыбак. У мамы,— яна мне сцішана расказвала,— быў клопат і страх, калі ён, у іхняй чуткай камунальнай камеры з дзвюма койкамі, малым сталом каля сцяны і традыцыйнай «керосинкой» у кутку, аднойчы закрычаў... «подумайте только!» — пра Сталіна: «Я ненавижу его! Он убил моего папу!..»

Набліжалася першае верасня, яму трэба было ў сёмы клас, а яшчэ не сабраўся, падручнікаў ды сшыткаў не купіў. Я тады, ужо трэці год, быў «пры грашах»: за той час выйшлі два зборнікі, вясной апублікавалася ў часопісе першая частка рамана. Мы былі з Віктарам адны ў пакойчыку, жанчыны выйшлі ў магазін. І вось я з грошай, якія заставалася да Мінска, працягнуў хлопцу купюрыну: меншыя грошы былі ў жонкі. Ён сумеўся: «Мне никогда таких денег не давали. У мамы нет. Она мне не разрешила бы взять...» Заплакаць можна ад такога, але я стрымана і з няёмкасцю ўгаварыў яго ўзяць і пайсці, адразу цяпер, купіць усё, што трэба. Потым, калі ён хутка вярнуўся з бярэмем кніжак і сшыткаў, мы і далей былі адны ў пакоі, зноў трэба было ўгаворваць пляменніка рэшту пакінуць сабе. «Нет, дядя, я отдам их маме». Строгасць выхавання? Сталенне ў беднасці?.. Кранае гэта і помніцца. І вывад я для сябе зрабіў тады, на некалькі гадоў наперад...

Валя жыла асобна і з'явілася пазней. Сярод маіх пляменнікаў — большасць дзяўчат. Калі я ўпершыню ўбачыў «адэскую Валю» (ёсць і другія Валі, вясковыя), іх, пляменніц, было чатырнаццаць. Няёмка перабіраць, ацэньваць, але пятнаццатую, Валодзеву, я любіў, здаецца, найбольш. Перад усім, вядома, з-за яе трагічнага сіроцтва. Дый так, сама па сабе, яна была слаўная. Добрая, шчырая, шчабятліва-вясёлая. І ўся наша радня яе любіла. Гэта — пазней ужо, пасля таго, як я ўлетку пяцьдзесят дзевятага ездзіў на толькі што купленай «Волзе» ў адэскі дом адпачынку ўкраінскіх пісьменнікаў, а вяртаючыся адтуль, з прыемнасцю пачаставаў нашу Валю радзімай бацькоў. З жонкай, траіма дзецьмі і госцяй — на Кішынёў, Львоў, Брэст, з заездам у Белавежскую пушчу, і — у нашу сталіцу, Загора. Дзе жылі яе цётка і дзядзька. Тады ў суседнія Маласельцы, дзе яшчэ адзін дзядзька. Пасля ў «далёкае» па-ранейшаму, за цэлых семнаццаць вёрст, Палужжа, дзе найстарэйшая цётка. І ўсюды столькі дваюрадных, і ўсе так шчыра рады ёй!..

А ў сорак дзевятым убачыў яе і сапраўды «з першага позірку» палюбіў я першы.

...Два здымкі ў альбоме. Гляджу на іх — праз сорак гадоў пасля той першай сустрэчы.

На адным — дзве сям'і, абедзвюх Трыбуцянак, Надзі і яе старэйшай сястры. У тое хлопец і дзве дзяўчынкі, у нашай толькі маленькая Валя. Па выглядзе яе можна меркаваць, што было ў трыццаць трэцім або ў трыццаць чацвёртым годзе. Цыбаценькая, тады светлагаловая, яна сядзіць на бацькавых каленях, тварыкам вельмі падобная на таго, каго абняла тонкай ручкай за шыю., замкнутая ў кальцы ягоных рук, счэпленых спераду ў «клямары» вялікіх далоняў. Вясёленькая — побач з яго вялікай, пад машынку астрыжанай галавой і худым, чагосьці сумным тварам. Побач з тым, каго я ледзьледзь, «як праз сон», памятаю і не ведаю так, як трэба ведацца братам. Яна — як іскарка, што збліжае нас хоць так: з ім была ў маленстве, са мной у маладосці... Мець брата і так вось, больш як праз паўстагоддзя, пазнаваць яго вельмі здалёк, прыблізна, па здымках такое даўнасці — як гэта дзіўна, нязвычна да сцішнаватасці!

На другім здымку, таксама не пазначаным датай, Валі, адной тут, па выглядзе нейкіх дзевяць гадоў. Яна ўжо чарнявенькая, пастрыжаная пад хлопчыка, з непаслухмяна прыгладжанай направа грыўкай. Вялікія цёмныя вочы, гатовыя бачыць не проста вельмі многа, але ўсё-ўсё. І стрыманая ўсмешка. Бацькава. Складзеныя рукі — локцямі на засланым стале, а далоні схаваныя. Шчаслівае дзіця ў

сям'і, якой страшны лёс мноства іншых людзей яшчэ не пагражаў сваім наканаваным набліжэннем...

Цяпер адной з маіх унучак, сынавай дачцэ, таксама шчасліва-вясёленькай, якраз столькі, колькі Валі на здымку. Я даўно прызвычаіўся да глыбейшага пазнавання жыццёвых з'яў такім чынам, што перш за ўсё і міжвольна стаўлю ў розныя незвычайныя сітуацыі сваіх найбліжэйшых, уяўляючы іх на тым месцы. І мне цяпер, праз унучку, балюча бачыць, як яе даўняя равесніца,— Надзя расказвала мне і пра гэта,— крычала цераз бездапаможны плач:

— Ты не иди за ним! Ударь его! Прогони их! Папочка, не иди!..

Гэта — увосень трыццаць сёмага, калі Валодзю арыштоўвалі. Калі прыйшлі ў сям'ю і па нейкім «праве» забралі бацьку. У тых, для каго ён — *усё.*

Думаючы пра яго, бацьку *тое* дзяўчынкі, пра лёс яго, мне страшна, жудасна перайсці думкай і сэрцам да бацькі *гэтай* дзяўчынкі, ставіць унучку на месца пляменніцы, сына на месца брата. А ён жа, Валодзя, таксама быў сынам!.. Цераз сваіх найбліжэйшых — да разумення агульналюдскога. Тут мы становімся найбліжэй да спрадвечнага, найвярнейшага запавету чалавечнасці: палюбі бліжняга *як самога сябе,* як сваіх найраднейшых, такое хочацца дадаць.

У сорак дзевятым Валя была на сваім дваццаць першым. Мела сыночка, мужа. (Мы не пабачылі яго, ён паехаў да маці, у сяло.) Прыгожанькая, стройная, бойкая адэсітка. Калі мы віталіся, упершыню ў жыцці, яна какетнула: «Я не целую вас, дядя, я накрашена». «А мне это совсем не мешает»,— адказаў я, абняўшы яе, танклявую, модна-элегантную, ці то з нейкім дзіўным, невыразна светлым напамінам пра кагосьці вельмі блізкага, любімага, ці то з прадчуваннем нашай сардэчнай дружбы, з перапіскай і спатканнямі.

На працягу наступных гадоў, да восені семдзесят другога,— да таго адвячорка, калі яна, касір невялікай аптэкі, маці двух сыноў і жонка хваравітага мужа, шафёра таксі, сумна вярталася з працы і... назаўсёды ўпала на тратуары свайго завулка. Падкошаная кровазліццём у без пары пасівелую галаву, бездапаможную ў жахлівым тупіку наркаманавай маці.

І ўсё гэта жыццё, жыццё!..

Дзядзька Павел яшчэ ў пяцьдзесят трэцім годзе пайшоў з дому і не вярнуўся, так ужо абяспамяцеў. Надзя ледзьве знайшла яго ў адной з бальніцаў, на самым адыходзе.

Сама яна, сардэчніца, памерла ўлетку шэсцьдзесят сёмага.

Потым Валя. І ўжо таксама семнаццаць прайшло.

Мая Адэса для мяне пусцее...

Зрэшты, на гэты раз я меў толькі тры гадзіны вольнага часу, ад самалёта да вечара ў тэатры, дзе будзе Шаўчэнкава міжнароднае свята, дзе трэба будзе выступіць, а пасля вечара — на цеплаход і ў Херсон, і далей.

Я паспеў толькі сустрэцца з Віктарам, пагаварыць ды памаўчаць удвух над Валіным фотаальбомам... Інжынер-будаўнік, і ён тым часам — куды мы, Божа, спяшаемся? — таксама ўжо добра на шостым дзесятку.

А бацьку не памятае зусім...

## БРАТ № 17643

Быкаўнянскія сосны больш дародныя за нашы, што ў Курапатах, хоць і растуць таксама на пясчаным грунце. І лес як быццам чысцейшы, цяплейшы. Як у нас на Брэстчыне. Сярод соснаў сямтам акацыі, якім гадоў па дваццаць пяць. Трава і траўка, свежая, якою гэтай вясной пакрылі раскопкі, маскуючы сляды эксгумацыі. Яшчэ і бярозкі, таксама сёлета пасаджаныя,— у светлым дзіцячым няведанні яны хораша прыняліся, зелянеюць новай лістотай, пяшчотна стракацяць тоненькімі сцваламі і галінкамі.

Прастадушны румянец вялікіх півоняў — букеты ў нашых руках. Я прыехаў сюды са сваім даўнім сябрам, украінскім пісьменнікам. Кветкі мы пакладзём да помніка з чырвонага граніту, перад якім стаімо. На ім надпіс: «Вічна пам'ять», а што было яшчэ ў правым ніжнім кутку — пра ахвяры... нямецка-фашысцкіх зверстваў — акуратна здзёўбана. Нядаўна. Пад націскам грамадскасці.

«У мяне не забілі нікога — ні маці, ні жонкі, ні брата...» Успамінаецца такі пачатак ваеннага верша аднаго з нашых паэтаў. Гэты першы радок засеў у памяці даўно і частавата паўтараецца з нейкім няпростым сэнсам.

Успамінаецца і бліжэйшае, з тэлеперадачы пра адкрыты, паказальны суд паміж староннікамі розных лагераў: прасталінскага і новага, сучаснага.

Слова сваё прагрэсіўны адказчык пачаў з таго, што ў сям'і яго ніхто не быў рэпрэсіраваны, і таму ён будзе гаварыць *зусім аб'ектыўна.* Як і той, у каго не забілі нікога, і таму ён пра зверствы гітлераўцаў таксама гаворыць з вышэйшай пазіцыі.

І дзякуй Богу, што не забілі, не рэпрэсіравалі.

А ў мяне тут брат, у сябра майго жончын бацька. Усенароднае мы адчуваем праз сваіх. Мяркую так па сабе, бо мы, вядома, маўчым.

Усе ж яны, якіх тут пад старой і новенькай травой толькі сямтам прыкрытая безліч, усе камусьці блізкія, а з гэтых блізкасцей і складаецца неабдымна жахлівая лічба сталінскіх ахвяр, пра якія так пранікнёна гавораць словы памінальнай малітвы: «...имена же их Ты, Господи, веди...» І ад свайго, ад роднага ідучы, я неяк бачу, нібы ўяўляю мноства тых, каго не бачыў, не ведаў, а намагаюся адчуць іх жывымі, у невыносных пакутах. З яшчэ большай безліччу іхніх сем'яў, таксама ж ахвяр, пакутнікаў.

Зусім нядаўна я ўпершыню дакрануўся да братавай «справы».

Адзін з карэспандэнтаў «Литературной газеты», не той, што званіў мне два месяцы таму назад, а цяпер у далёкім ад'ездзе,— другі, старэйшы, знаёмы і паважаны даволі даўно, дапамог мне і кіеўскаму сябру скантактавацца з гарадской пракуратурай. Там нас прыняў следчы па Быкаўні, сярэдніх гадоў таварыш, інтэлігентны і сціплы.

Нечакана, адразу расхваляваўшыся, я пачаў гаварыць яму тое, што чуў і думаў дагэтуль пра брата, паўтараць паўвекавую сямейную легенду пра «сына польскага памешчыка», закатаванага ў белацаркоўскіх засценках, які на спатканні з жонкай сказаў,— я паўтарыў гэта ледзь не з прыплачам гордасці,— што ён *нічога не падпісаў...*

І тут таварыш следчы па асоба важных справах падсунуў злева да сябе нейкую папку, разгарнуў яе і ветла, сумна паведаміў страшнае, паваротнае:

— Падпісаў. Падпісаў...

І адразу дадаў пра вочную стаўку з братам у турме, пра што ў папцы маецца запіс.

Той чалавек, з кім была вочная стаўка, братаў таварыш па працы, разам арыштаваны ў трыццаць сёмым па падазрэнні ў шкодніцтве, у пяцьдзесят шостым, калі рыхтавалася Валодзева рэабілітацыя, засведчыў — братава прызнанне ва ўсім, што яму навязвалі, *выбіта катаваннямі.*

А галоўная яго «віна», адно з трох абвінавачванняў,— славуты, універсальны *шпіянаж.* Але не ў польскім варыянце, як можна было б па простай логіцы меркаваць, а... нямецкі, на карысць Германіі, яшчэ з дагітлераўскай пачаўшы, з дваццатых гадоў...

Здаецца, што не пазней, а іменна тады, у горкім ашаламленні такім паваротам трагедыі, я ўспомніў не толькі тое наша пісьмо пра градабой трыццатага года і словы з Валодзевага пісьма: «Вы пишете, что у вас побил град. А кто у нас побил — *черт его знает*». Калі ён мог такое пісаць за мяжу, дык мог жа і думаць так, і гаварыць з кім-небудзь. Я ўспомніў і іншае. Спачатку тое, як мы ад'язджалі з Адэсы, як Валодзя, плачучы, ніяк не мог закончыць развітвацца з бацькам,

на хаду саскочыў з праёма таварнага вагона, у якім мы ўжо ціха паехалі, і доўга махаў услед сваёй студэнцкай шапкай. І тут жа ўспомніў я, як вясной дваццаць чацвёртага Валодзя нам пісаў, што, атрымаўшы вестку пра бацькаву смерць, ён кінуў усё і паехаў да нас, у Загора, аднак на граніцы яго затрымалі, вярнулі назад. Гэта магло б лічыцца доказам, не меншым за тое «черт его знает», але не стала, знайшлося *другое...*

Карэспандэнт, якога з намі не было, які папярэдне дагаварыўся са следчым пра наша спатканне і даў нам з сябрам сваю службовую машыну, спачатку ў пракуратуру, потым у Быкаўню, гаварыў мне па тэлефоне, што братаву справу хутчэй за ўсё, дый напэўна, мне не пакажуць: таямнічае «не положено...».

Папка ляжала перад следчым, разгорнутая на той вочнай стаўцы, а я глядзеў на яе здалёк, усётакі збіраючыся папрасіць — хоць кінуць вокам, хоць у руках патрымаць. Следчы тым часам рабіў сваё. Паколькі справа пачыналася са знойдзенага муштука, ён спытаўся, ці пацвярджаю я, што брат мой курыў. Я сказаў, што па расказах маці і старэйшых братоў ведаю — курыў. Спачатку ўпотай, выходзячы на балкон. Ад матчынага вока цяжка штонебудзь утаіць. Калі бацька вярнуўся з чарговай паездкі, яна расказала яму пра патайныя папяроскі. І бацька вырашыў справу так, што падарыў дарослаunion любімцу партсігар — куры ўжо адкрыта.

Расказваючы гэта, я нібы раптам успомніў, што пазычыў у Віктара Валін фотаальбом, а там жа на адным са здымкаў — Валодзя якраз з цыгарэткай у муштуку. Не надта выразна, аднак...

— О, гэта вельмі важна,— сказаў следчы.— Альбом з вамі?

Ён папрасіў прынесці яго з гасцініцы. А я спытаўся пра муштук — ці можна паглядзець. Яго, аказалася, няма, ён у іншым месцы, вось толькі фотаздымак, але ў адным экземпляры, і даць мне хоць здымак нельга.

Калісьці пра аднаго з маіх літаратурных герояў я напісаў, што ён любіў часамі ісці да сэрца другога чалавека напрасткі. Гэтую рысу характару я герою пазычыў. А цяпер, успомніўшы пра яе, вырашыў прымяніць. Пачаў з муштука, што вельмі хацеў бы яго не толькі ўбачыць, але атрымаць, як горкую сямейную рэліквію. А тады сказаў і пра папку. І потым дзякаваў сабе ў душы за тое *напрасткі.* Пра муштук следчы сказаў, што той, магчыма, пойдзе на экспертызу, аднак ён перадасць маю просьбу. А што да папкі, дык прамаўчаў, а потым знайшоў такі выхад:

— Пачнём з таго, таварышы, што вы цяпер, пакольки транспарт у вас ёсць, паедзеце ў Быкаўню, а пасля абеду пазваніце, каб я быў на месцы, і прыязджайце з альбомам.

Я зразумеў, што тут не ўсё залежыць ад яго, хоць ён і па асоба важных справах, аднак і на яго як чалавека можна разлічваць.

Сябру майму, паглядзеўшы даведку пра таксама пасмяротную рэабілітацыю яго цесця, медыка з дарэвалюцыйнай адукацыяй, ён сказаў «пакуль што» адно: расстраляны — бясспрэчна, але ці ў Быкаўні закапаны, ці ў іншым лесе каля Кіева — цяжка сказаць. Такіх захаванняў знойдзена некалькі, і яшчэ, трэба думаць, яны не ўсе...

Пасля абеду мы званілі з майго гасцінічнага нумара ў пракуратуру доўга і беспаспяхова. «Найгорш даганяць і чакаць» — мудрасць з вялікага вопыту. Толькі зусім пад канец рабочага дня панылыя працяглыя гудкі перасталі нас раздражняць — трубка паднята!

Следчы, яшчэ задыхана, растлумачыў простую прычыну: ездзіў па выкліку, толькі што зайшоў, і ясна, таварышы,— сустрэнемся ўжо заўтра ўранку.

Глядзенне на папку толькі *здалёк* і на наступны дзень закончылася не адразу. Сябру майму не было чаго рабіць у пракуратуры, і я прыехаў туды адзін. Следчы спачатку пазнаёміўся з «вельмі важным» фота ў прынесеным мною альбоме, папрасіў яго для пераздымкі, прыняў у мяне другія братавы фатаграфіі, копіі іх, захопленыя мною з Мінска, нібы з прадчуваннем патрэбнасці, а тады выклікаў падначаленага, даў яму тую балючую папку, а мяне папрасіў ісці з гэтым таварышам у яго кабінет. Я падзякаваў з пэўнай палёгкай, зразумеўшы, што і прасіць, і чакаць было варта. І ўжо раскрыўся душой на чытанне, якім бы яно ні было для мяне...

У сваім кабінеце новы таварыш сядзеў не адзін, за другім сталом пісаў нешта яшчэ адзін супрацоўнік. А сам ён папрасіў мяне прысесці паўзбоч яго стала, на якім станкачом грувасцілася старая пішучая машынка. Таварыш сеў таксама. А папка лягла на стол — зноў *здалёк...* Таварышу трэба было спачатку апытаць мяне для справы па Быкаўні, пасля надрукаваць пратакол...

Праз месяц я зноў сядзеў у гэтым пакоі. Таварыш зноў апытваў мяне, дадаткова — пра тыя здымкі, якія я даў следству, а ён тады забыўся спытацца ў мяне, хто там яшчэ на тых здымках, калі яны, здымкі, рабіліся. За другім разам гутарка наша была карацейшая, і таварыш убачыўся больш сімпатычным, асабліва калі сказаў, што тады, у тыя трыццатыя, проста «уничтожались все мыслящие люди», калі да ўсяго, што мною чыталася ды чулася, ён дадаў і такое, новае для мяне, так сказаць — «чыста савецкае». Некаторым жанчынам

яшчэ і цяпер паведамляецца пра пасмяротную рэабілітацыю мужоў, а гэтыя цёткі ды бабкі, аказваецца, не проста не ведалі пра тое, што *іхнія* расстраляны або памерлі ў лагеры, а думалі столькі гадоў, што гэта яны, сволачы, пакінулі сям'ю, удала замёўшы сляды...

А першы раз таварыш апытваў мяне так няспешна, у два пальцы клацаў на сваім «станкачы» так марудна, даваў мне той пратакол прачытаць, падпісаць... А папка ўсё ляжала... і мне ўжо да болю хацелася выбухнуць, толькі ж баяўся, што напсую, і цярпеў, пазіраў. І нарэшце яна, тая ліловая папка з пяцізначным нумарам, чорна, выразна выведзеным пасля стандартна надрукаванага «ДЕЛО», лягла перада мною на суседнім невялікім стале.

Анкета. Ордэр на арышт. Другі — на вобыск. *Даносаў няма, допытаў сведак таксама.* Пачата справа 27.XI. 1937 года. Пасля — паўза на цэлыя чатыры месяцы, а 22.III.1938-га — «заявление» на імя начальніка аператыўнай групы «куста», падпісанае вязнем белацаркоўскай турмы. Служыў дзянікінцам. Потым дэзерціраваў з Чырвонай Арміі. З 1928 года нямецкі шпіён, цераз консульства ў Кіеве. Шкодніцтва на працы заатэхнікам, знішчэнне маладняку. І перад подпісам вязня — подпісам іншым почыркам! — такая канцоўка:

«Моя работа как шпиона и двурушника заслуживает тяжелейшего наказания, сознавшись чистосердечно прошу даровать мне жизнь и дать возможность исправиться».

Гэта я запісаў.

Ашаломлены болем, ухапіўся пасля таго «заявления » за сведчанні братавых саслужыўцаў, узятыя пад канец 1956 года. Таксама выпісаў з некаторых галоўнае. Перш за ўсё тое — з вочнай стаўкі.

Ветэрынар Л. Клісенка, у адзін дзень з Валодзем арыштаваны за сумеснае шкодніцтва на рабоце, да чаго потым яму дадаліся яшчэ і «антысавецкія анекдоты», праз два месяцы пасля вочнай стаўкі быў выпушчаны з турмы, а ў кастрычніку пяцьдзесят шостага засведчыў, «як камуніст», што на той вочнай стаўцы:

«...Бриль подтвердил о тех анекдотах. На коридоре я возмущенно спросил, как же это ты сделал, и он мне сказал: «Если бы тебя так избивали, как меня, ты еще не то сказал бы». Наблюдая за Брнлем, я заметил, что он находился в крайне подавленном состоянии и был ко всему безучастен. Тогда он бросил такую фразу: «Если бы ты знал, что я на себя наговорил! Я уже не жилец на этом свете, я почти слеп». Более того, в тот момент Бриль производил впечатление полувменяемого человека».

У пакой да таварыша, які здымаў з мяне пратакол, і да яго маўклівага супрацоўніка за трэцім стадом пачалі заходзіць то адзін, то другі, з пагаворваннем пра абед. Мяне з папкай пакінуць аднаго, вядома, не маглі, і я пачаў спяшацца. А ўсё ж і са сведчанняў іншых братавых саслужыўцаў у пяцьдзесят шостым паспеў сёе-тое выпісаць.

Я сазваніўся з сябрам, да якога паабяцаў зайсці адтэтуль, і не падумаў адразу, чаму ён здзівіўся, што я не стаў слухаць, як мне лепш даехаць да яго, сказаў, што дайду пехатой.

А тады я ішоў — спачатку ўніз па крутым завулку, завужаным высокім плотам нейкага будаўніцтва, а потым доўга, вельмі доўга па людной, шумнай вуліцы. І ў маёй утрапёнай душы паўтараліся то чорныя, то святлейшыя плямы з той акаяннай папкі, то запісаныя мною, то не. Канцоўка «заявления», падпісаная іншым почыркам,— тая апошняя просьба.

Вузенькая паперына, не першы і не другі, а то і не трэці або чацвёрты, цьмяна-мурзаты экземпляр з-пад машынкі, куды персанальнае ўпісана ад рукі, а ўсё падпісана чырвоным алоўкам і замацавана трохкутнай пячаткай — пра тое, што «приговор приведен в исполнение».

Братавы словы ў двайной падачы — цераз Клісенку і таго, хто пратаколіў: «Если бы ты знал, что я на себя наговорил!.. Я уже не жилец...»

Тады яшчэ словы іншага саслужыўца, старшага заатэхніка В. Коваля, які ведаў Валодзю ў 1930-1937 гадах:

«Характеризуя Бриля с политической стороны, я могу сказать, что он был настоящий советский человек. Политикой он не интересовался, так как все время отдавал основной работе. Случаев вредительства в совхозе не было никогда. Один из лучших совхозов не только на Украине, но и в СССР...»

Яшчэ адзін, Ф. Гацэнка, дырэктар саўгаса, у якім Валодзя працаваў раней, у іншым кутку Кіеўшчыны:

«Работал Бриль добросовестно, все у него было в образцовом порядке. Всем своим поведением он создавал впечатление лойально настроенного по отношению к советской власти человека».

Звычайныя, пратакольна будзённыя словы. Можа, яны і гаварыліся людзьмі, якія сведчылі, даслоўна так, а хутчэй так службова запісваліся„ А мне яны гучалі так па-людску, так высока, змястоўна, былі такою светлай разрадкай у невыноснай чарнаце, што я, як толькі выйшаў са старога цаглянага дома пракуратуры, яшчэ спускаючыся па крутым, пустым завулку, заплакаў ад шчасця такога выхаду ў справе, ад удзячнасці тым людзям...

Дайшоўшы нарэшце да сябра, я пачаў званіць па гарадской даведачнай, шукаць тэлефоны тых, чые адрасы запісаў. Адзін з Васільхава, другія два кіяўляне. Аказалася, што тэлефонаў кватэрных няма. А ісці шукаць людзей я ў той дзень не мог.

Назаўтра ўранні, па тэлефоне развітваючыся са следчым, чаго я не змог зрабіць учора ў пракуратуры, бо ён кудысьці пайшоў, я спытаўся пра тых, каму хацеў падзякаваць. Ён адказаў, што ўсе яны ўжо не жывуць. Пра гэта я і сам учора, астыўшы, падумаў: дзе там — дзевяцьсот першы, дзевяцьсот трэці, дзевяцьсот шосты гады нараджэння... Палажыўшы тэлефонную трубку, я сказаў сам сабе — чамусьці па-польску, як выдыхнуў:

— Cześć ich pamięci!

## ЧАМУ ТЫ ПАКІНУЎ?..

«Чаша сия» Ігната таксама не абмінула. Па-свойму. І на шэсць гадоў раней за Валодзю.

Пасля заканчэння гімназіі ў яго спачатку быў намер паступіць на медыцыну. Цьмяна ўспамінаю мамін расказ пра тое, што ён ад гэтага намеру адмовіўся, не могучы пераносіць анатамічкі. Сярод прысланага мне з архіва адэскага сельгасінстытута ёсць таксама даведка, што «Бриль Игнатий Антонович, 19 лет», працаваў у бальніцы санітарам. Магчымасць наглядзецца на розныя жахі была, Разам з Валодзем, нібы па іхняй спрэжанасці ў вучобе ад самага маленства, і ён паступіў у сельгасінстытут, але закончыў толькі два курсы. Бо паралельна і ледзь не падпольна рыхтаваўся да іншага. Вясной дваццаць другога экстэрнам здаў экзамены за духоўную семінарыю і неўзабаве быў рукапаложаны, перад гэтым, як належыцца, ажаніўшыся.

Гэта — знешні бок справы, частка біяграфічных даных. Як знешняе можна дадаць, зноў жа з матчынага расказа, што ён яшчэ гімназістам, ды нешта хутка пасля паступлення, уцёк быў у манастыр, а бацька знайшоў яго там і забраў, пасля чаго называў часамі трынаццатым апосталам. Забягаючы наперад, ажно ў 1952 год, згадаю, як ён пісаў мне тады: «Радует твое трудолюбие в развитии дарования, печалит твое отношение к самому дорогому для меня и покойной матери». На ўвазе мелася «безбожие», праяўленае ў аповесці «У Забалоцці днее», а таксама і наша з Мішам захапленне Талстым, пра што Ігнат ведаў яшчэ з даваеннага часу.

Хто з іх на каго больш уплываў у набожнаеці, ён на маці пазней ці яна на яго раней, з маленства, мне цяжка сказаць. Мама, пры ўсёй

наяўнасці ў яе натуры здаровага сялянскага сэнсу і гумару, і верыла, і малілася шчыра. Ад нашага з Мішам юначага вальнадумства, калі ўжо махры ў выхаванні не памагалі, яна, старая і нямоглая, з невылечна хворай нагой, магла часамі сысці на ранішнюю малітву ў каморку, дзе, стоячы перад цьмяна-гарызантальным акенцам, шаптала ўвесь немалы набор сваіх пацераў. Не памятаю, ці гэта я неяк аднойчы падгледзеў, ці потым, у палоне, у суме разлукі ўяўляў яе перад тым акенцам, цераз якое ў спакутаваны, адухоўлены твар свяціла роднае сонца, таксама нястомнае. Затое помніцца зусім выразна, як яна тады, калі лепш хадзілася, прыйшла аднойчы з мястэчка, за чатыры вярсты з царквы і, сеўшы каля стала адпачыць, сказала:

— Вось хоць ачалавечылася. А то і жыў бы чалавек без слова божага, як якая скаціна...

Кожны з нас, а я думаю перш за ўсё пра братоў, любіў яе па-свойму. Па праву старэйшага, бо Валодзі ўжо не было, Ігнат пісаў мне, але з надзеяй на перадачу Колю і Мішу, вясной сорак пятага, калі ўсе ваенныя злыбеды закончыліся: «Дорогие братья, насколько возможно заботьтесь о маме, мы все в большом долгу перед нею. *Она выносила в сердце все наши невзгоды».* Гэта ўжо цяпер мне захацелася падкрэсліць, наўздагон, думаючы перш за ўсё пра нашага найстарэйшага,— колькі яна выплакала па ім, спачатку як прадчуваючы бяду, а потым і ведаючы пра яе...

Быў у адным з Ігнатавых пісьмаў і прыклад з геніяльным Пастэрам, які, калі ў яго спыталіся, як ён сумяшчае свае веды з вераваннем, адказаў: «Я многа вучыўся і веру, як брэтонскі селянін, а калі б я мог яшчэ больш вучыцца, я верыў бы, як брэтонская сялянка».

Ігнат наш верыў — амаль з маленства і да смерці ў сане протаіерэя з акадэмічнай адукацыяй, закончанай у апошнія гады жыцця завочна.

Ягоны Шура ў бяздольным маленстве ізгоя-паповіча, калі бацьку забралі, быў пераведзены маткай на яе прозвішча, бо інакш не прымалі ў школу. Мабілізаваны на другі дзень вайны «са студэнцкай лаўкі», вярнуўся ардэнаносным параненым афіцэрам. Энергетык з грунтоўнай адукацыяй і шматгадовай практыкай на ўральскіх электрастанцыях, у канцы шасцідзесятых ён пераехаў з сям'ёй і з аўдавелай маткай у Мінск, «бліжэй да радні і радзімы». Праз нейкі час яго павысілі на пасадзе і адпаведна прапанавалі ўступіць у партыю. На прыёме знайшоўся, вядома, марксіст «с вопросиком»: «А скажыце, таварыш Лейка, як вы ставіцеся да таго, што ваш бацька быў

папом?» Адказ чалавека на шостым дзесятку гадоў: «Я ўсё жыццё глыбока паважаў яго, і памяць яго паважаю». Такое ж магу сказаць і я — пра бацьку і пра сына. Дарэчы, «вопросик» не перашкодзіў на прыёме, бо і кандыдат — адпаведны работнік, і час быў ужо крыху не той, хоць і «застойны».

А ў даўнасці маёй, у тым дваццаць другім годзе, калі на адэскім пероне ішло развітанне перад разлукай, калі наша сям'я трагічна распалавіньвалася ўслед за падзелам і Беларусі на дзве палавіны, калі Валодзя ніяк не мог развітацца,— Ігнат адчуваў сябе як быццам спакайней. Удваіх са сваёю Верай яны развіталіся з усімі як належыцца хораша і сталі сабе на пероне, побач. «Той плача,— успаміналамне ў вёсцы мама, прадучы,— а гэты стаіць са сваёю матушкай, і абое маўчаць». «Матушка» -— гэта пра Веру, маладзенькую, вось-вось і пападдзю. Бо ён, Ігнат, быў яшчэ не ў расе.

Веру нашы бацькі любілі, я памятаю гэта па маме. Ціхая, сціплая сірата пры мачасе, дачка бацькавага саслужыўца і блізкага земляка. А з Ігнатам яны, маладыя, сябравалі, яшчэ ходзячы ў гімназіі, кожнае ў сваю. Дый жылі нашы сем'і — вокны ў вокны, цераз забрукаваны дворык, нават паверх той самы.

Яшчэ раз, і не апошні, вяртаючыся да розных дакументаў, якія Валодзеў Віктар сёлета што выпрасіў, а што спісаў для мяне ў архіве сельгасінстытута, адкуль і ён, як званіў мне, так нямала даведаўся пра свайго бацьку, я з прыемнасцю сустрэў даведку, выдадзеную Ігнату. Будучы студэнтам, ён, аказваецца, падзарабляў у садаводстве ў якасці «огородного рабочего» і, як дадаў да гэтага Шура, калі мы глядзелі з ім тыя даведкі, «насіў маёй маме ружы. Яна расказвала мне». Тады, відаць, расказвала, калі яны, маці і сын, былі з Ігнатам разлучаны.

Шура прынёс мне яшчэ адзін цікавы і патрэбны дакумент, знойдзены ў маленькім чамаданным архіве, што застаўся пасля яго набожнай мамы. Мне хочацца прывесці тое пасведчанне ў шэрых вокладачках проста поўнасцю:

«УССР. Губтрудсобес и Губкомтруд. Подотдел учета и распределения силы.

Личный учетный билет № 8292. Лейко Вера Романовна, 1901 г. р., возраст 19 лет. Педагог дошкол ьн. Белорусская труд, школа № 115. Судейский пер., 2.16.XII.1920 г.

Продлен до 9.V.1921 г.».

На Ігната такой даведкі няма, не захавалася. А ён таксама працаваў тады вечарамі ў беларускай школе, можа, і ў той самай. У пачатку сорак пятага, калі я паслаў яму свае першыя публікацыі ў

газеце-плакаце «Раздавім фашысцкую гадзіну», ён мне пісаў, што яны з Верай чытаюць іх разам, бо «мы ведь с нею учительствовали в белорусских школах в Одессе».

Пішучы пра вучобу ў Мірскім гарадскім вучылішчы, я адзначаў, як мне прыемна было думаць, што ў адзін час з нашымі вучыўся Уладзімір Жылка... У верасні шэсцьдзесят сёмага мы, чатыры беларускія літаратары, будучы ў Маскве, паехалі ў Хімкі — наведаць старога Міхайлу Грамыку. Вучоны-геолаг, паэт і драматург, яшчэ адна ахвяра сталінскай барацьбы з беларускім «нацыяналізмам», ён быў яшчэ і вельмі змястоўны, абаяльны чалавек. Светла ўспамінаецца мне вечар, праведзены ў гасціннай сям'і гэтых маскоўскіх беларусаў, а перш за ўсё — сам белабароды, у белай доўгай кашулі, светлы душой гаспадар. Потым, прачытаўшы, што ён у пачатку двадцатых гадоў наладжваў і вёў у Адэсе беларускія школы, я сумна пашкадаваў, чаму не ведаў пра гэта ў той вечар. Тады старэнькая гаспадыня сказала, адкуль яна родам — з мястэчка Ярэмічы, што за шэсць кіламетраў ад маёй вёскі, і мы весела паўспаміналі роднае Наднямонне. Зноў жа неяк па-зямляцку шчымліва-светла думалася над Верыным даўнім адэскім пасведчаннем пра тое беларускае настаўнічанне, і шкада (ох, ці мала чаго шкада!..), што і ў Грамыкаў пра гэта не згадалася, бо не ведаў, і з братавай не сабраўся пагаварыць як след пра гэта дый пра іншае таксама...

Тая адэская моладзь, пераважна дзеці чыгуначнікаў, русіфікаваная царкоўнапрыходскімі школкамі ў вёсках, гарадскімі вучылішчамі ў мястэчках Беларусі, гімназіямі ды інстытутамі ў рускамоўным горадзе, дома чула беларускую мову бацькоў, адчувала роднасць яе такім чынам. Нашы хлопцы найбольш па маме, якая потым, у вёсцы, і мне дала вельмі нямала род нага ў пісьменніцкім станаўленні. І таму мне Ігнатава з Верай настаўнічанне бачыцца невыпадковым. Не думаю, што і ў Валодзі тое роднасці не было, х.оць ён чамусьці не настаўнічаў.

Службу свяшчэннікам Ігнат пачаў — выразна помніцца гэта змалку па зваротным адрасе яго пісьмаў адтуль — у сяле Візірка на Адэшчыне. Арыштавалі яго ў кастрычніку трыццаць першага года; Шура і дзень мне дакладна назваў — 31-га, страшны дзень іх сямейнай гісторыі. Спачатку рабілі вобыск. Хлопцу было тады восем гадоў, ён памятае, як адзін з чэкістаў нават вядро памыйнае не абмінуў — выплюхнуў яго перад ганкам: ці не схаваны там якія доказы або каштоўнасці. Ігнат яшчэ заставаўся дома. Назаўтра, калі малы прачнуўся, то ўбачыў, што бацькаў ложак —засланы. Спытаўся,

дзе папа, а мама заплакала. Зрэшты, яна, відаць, яшчэ і не спынялася ціхенька плакаць.

Свяшчэнніка адправілі на. лесанарыхтоўкі, у тайгу каля Марыінска, адкуль пасля перавезлі на будаўніцтва Беламорканала.

Амаль праз сорак гадоў пасля таго будаўніцтва, падарожнічаючы па Карэліі, у драўлянай Кемі, перавалачнай перад Салаўкамі, я, наслухаўшыся расказаў пра частыя гукі начных адстрэлаў *у той час,* успамінаў Ігнатавы пісьмы з тых катаржных мясцін. Пісьмы — ужо без зваротнага адраса, з суровай тэлеграфнасцю тэксту, на няпоўную старонку са сшытка, адкуль тры словы адчаканіліся ў маёй памяці, нібыта назва аповесці з таго жыцця: *«Одет, обут, накормлен».* І подпіс: адно загалоўнае «И» з кропкай... (У лістападзе трыццаць дзевятага, мокры, халодны, галодны нявольнік, зусім нядаўні польскі салдат, я пісаў з «арбайтскаманды» маме — тымі самымі словамі пра сваё ўжо — «адзеты, абуты, накормлены». Пісьмо гэтае, на стандартным лагерным бланку, першае мае пісьмо з палону, дайшло і захавалася...) Успаміналіся ў Кемі і чатыры радкі Ігнатавага зэкаўскага верша, што трапілі ў маю памяць з яго пасляваеннага пісьма з Урала:

Малыша моего мне хотелось бы видеть портрет:
У меня, как вы знаете, ведь его нет.
Радость будет большая моя.
Ах, мой мальчик, порадуй меня!

Улетку трыццаць трэцяга года мы атрымалі ў Загоры яшчэ адно кароценькае нісьмо з подпісам И., і я са здзіўленнем убачыў на паштовым штэмпелі слова *Мінск* (а можа, і *Менск*: не запомнілася). Колькі розных здагадак і меркаванняў у нашай вясковай глухамані!.. Намнога назней стала вядома, дзе ён быў, адкуль вяртаўся. З «перековки», датэрмінова, як ударнік. Так успамінае яго сын. А я чытаў нядаўна, што, калі тое славутае будаўніцтва было трыумфальна закончана, начальства атрышала ордэны, а кожны шосты зэк (там гэтае слова і ўзнікла) адпускаўся дахаты. Відаць, наш аказаўся шостым.

Забралі айца Ігнація ў расе, а вярнуўся ён у нейкім бушлаце, «лагерном серяке», разрэзаным на левым баку, дзе нутраная кішэня. Расказаў, што ў вагоне ён засынаў на сярэдняй паліцы, а цераз праход ляжала нейкая жанчына. Нібыта праз сон, яна махнула рукой і — ён пачуў праз дрымоту — ляпнула па левым баку яго грудзей. А потым, калі ён прачнуўся,— там было разрэзана, дакументы і сякія-такія грошы зніклі. Суседка — таксама. Праз нейкі час, ужо ў Адэсе,

дзядзька Павел прынёс з вакзала яго паперы, знойдзеныя ў смеццевай урне: па прозвішчы іх аддалі старому Брылю.

Неўзабаве прыехаў з Кіеўшчыны Валодзя. Шура бачыў тую сустрэчу. Мамы, фельчаркі, дома не было. Абдымаючы брата, дзядзька Валодзя расплакаўся, але ж адразу тады і сказаў:

— Ну что, помог тебе твой Христос?

На што Ігнат адмахнуўся:

— Об этом не будем. Не будем.

Па характары ён быў стрыманы, аскетычны. У маладосці купаўся ў моры зімой, правяраў сябе доўгаю галадоўкай, строга займаўся гімнастыкай па сістэме Мюлера. Бязлітасна муштраваў па ёй Колю і Мішу, з абліваннем халоднай вадой уключна. Толькі мяне яшчэ не чапаў, па малалецтве ці па матчынай забароне. Нават і ў вёску ён нам тое «пособие» палажыў у карзіну разам з іншымі кнігамі, і мы з Мішам, вярнуўшыся з вучобы на гаспадарку, у разгары самаадукацыі нават і таго Мюлера не абмінулі, што было смешна для юнакоў, скажам, пасля накідання гною або малацьбы цапамі. А Ігнату ён, Мюлер, і галадоўкі, і маржаванне, можна думаць, і ў тайзе, і на канале прыдаліся як набытая загартоўка.

Пра стрыманасць. У сорак шостым, калі яны з Шурам прыехалі да мяне, я быў на рабоце, у рэдакцыі. Прыбег дахаты, куды было недалёка, задыханы, кінуўся вітацца і заплакаў. А брат, такі незнаемы і такі свой па расказах ды пісьмах, у той час не святар, а часова, дзесяць гадоў, выкладчык рускай літаратуры, геаграфіі і нямецкай мовы ў Троіцкім рабфаку, саракапяцігадовы, трохі вусаты мужчына ў даўгавечнай выгаралай касаваротцы,— ён павітаў мяне стрымана, словамі першымі і ў памяць маю — назаўсёды:

— Спокойно. Спокойно.

Расказваючы пра тую сустрэчу бацькі з дзядзькам, дзе быў закрануты Хрыстос, Шура мне сказаў, што бацька тады вельмі пакрыўдзіўся. Гэтую крыўду я памятаю і па Ігнатавым расказе пра сустрэчу са старэйшым, які ў той час, можна сказаць, быў у росквіце сваёй кар'еры: і прэміі атрымліваў, і на курорты ездзіў, нават з наркомам сустракаўся. І крыўда тая, справядлівая, усё-такі ў нечым была для мяне з нейкай горкай недагаворанасцю...

Сухаром Ігнат не быў. У адзін з тых радасных дзён, над рэчкай і яго маленства, над нашай ціхай, маляўнічай Вушай мы сядзелі з ім удвух, з вудачкамі, глядзелі на паплаўкі, на родную красу, няспешна гаманілі. І вось ён пачаў спакваля падбірацца са сваім запаветным — угаворваць, каб я ахрысціў сваю Галю, якой не было яшчэ года.

Пасля «перековки» ёнбыўпаспрабаваўзноўстаць святчэннікам, але яго зноў, ужо ў іншай вобласці, выклікалі і строга папярэдзілі. Прыйшлося падацца за Урал, балазе там былі знаёмыя па Адэсе, надзейныя. Яны, самі ўжо там абжыўшыся, змаглі ўладзіць яго настаўнікам у іх рабфаку. Дырэктар, праўда, касавурыўся на той разрэзаны ды зашыты лагерны «серяк», аднак і выкладчыкі былі патрэбны, і рэкамендатар салідны,— новага прынялі. Настаўнічаў ён на добрым узроўні, карыстаўся пашанай студэнтаў і выкладчыкаў, аднак у душы заставаўся самім сабою. Што і ўсплыло наверх праз год пасля гасцявання ў нас. Ён па здароўі звольніўся ў рабфаку і зноў аблачыўся ў расу.

Але пакуль што мы з ім над ракой.

Мама жыла тады ў мяне, яна засталася ў Мінску, не з яе здароўем было ехаць у вёску на спадарожных грузавіках. На тэму святога хрышчэння яны з Ігнатам паспелі сам-насам пагаварыць. І вось ён прадоўжыў тэму на адпаведным узроўні:

— Не лишай ты своего ребенка благодати, которую сам получил...

Я ўжо добра асвойтаўся з ім і ў адказ, з цёплай рыбацкай лянотай, адказаў нешта так: я вельмі рад, што вы з Шурам прыехалі, што мы нарэшце ўбачыліся, і я магу табе, бадай, уступіць — ахрысціць малую...

І тут ён зусім нечакана сышоў з набожнага тону, засмяяўся свабодным мужчынскім смехам:

— Чудак! Да разве же это — для меня?

І стаў я шчэ бліжэйшым.

Аднак невыразна прыкрае ўражанне ад той яго сухавата-праведнай крыўды на Валодзю за Хрыста не толькі закранула мяне ў тыя нашы загорскія дні — я гэта ўспомніў і летась, пасля ракавога кіеўскага званка. Баюся браць грэх на душу, але быў, здаецца, і затоены працяг той праведнай ісрыўды: калі прыйшоў Валодзеў час — яму, маўляў, ніхто не дапамог, нічога не дапамагло!..

І горка думалася мне, пасля таго званка згадалася, што калі б і самому яму, Ігнату, пасля арышту,— Шура расказваў: *не бітаму*,— прыйшлося так пакутаваць у бясконцых, пякельна напрактыкаваных катаваннях, дык, можа, і ён сказаў бы *са свайго крыжа* — у душы ці ўголас:

— Божа мой! Божа мой! Чаму ты пакінуў мяне?

Як гаварыў гэта — нялёгка думаецца — і Валодзя.

## ВАКОЛ ПАДТЭКСТУ

Сорак гадоў насіць у памяці вобраз брата, які не скарыўся ад катаванняў, «нічога не падпісаў», а потым уведаць, што адбылося *не так,*— гэта нялёгка...

Пасля дняпроўскага тыдня, на працягу якога столькі было вячэрняй і ранняй красы ўкраінскай прыроды, шматлюддзя сустрэчаў у некалькіх гарадах, столькі паэзіі і музыкі, Шаўчэнкавай і народнай, пасля Быкаўні і папкі з пяцізначным нумарам — я апынуўся ў родным наднёманскім кутку, у прылясной цішыні.

І кожную раніцу абуджаўся з тым самым сумам і болем...

За тым, пра што я даведаўся, прыадкрыўшы заслону паўвекавое даўнасці, адчуваўся глыбокі, цёмны, студзёны *падтэкст...*

Я шукаў выхаду, і ён мне ўсё з большай ды большай настойлівасцю бачыўся ў тым, што трэба зноў ехаць у Кіеў, пагартаць тую папку яшчэ раз.

Было і тое, што адцягвала ўвагу *ад аднаго,* рассейвала яе і неяк супакойвала,— сякія-такія дачныя клопаты, чытанне вялікай карэктуры, глядзенне па тэлевізары Першага з'езда народных дэпутатаў. Аднак жа праз некалькі дзён я ўжо званіў з Мінска ў Кіеў, следчаму, і дамовіўся пра сустрэчу. Справа была яшчэ ў яго.

Пачалося лета, курорты, канікулы, з білетамі ў паўднёвым кірунку стала туга, і самалёт быў мне ў Саюзе пісьменнікаў забяспечаны толькі на дваццатае чэрвеня. Але і гэты дзень нарэшце прыйшоў. І вось я яшчэ з аэрапорта званю ў гарадскую пракуратуру, зноў чую знаёмы голас: калі ласка, чакаю.

Праз дзве гадзіны, уладзіўшыся ў гасцініцы і дачакаўшыся канца абедзеннага перапынку, я прыйшоў да следчага і, павітаўшыся яшчэ раз, прысеў да стала, у добрым настроі і поўнай гатоўнасці. А ён, усётакі сімпатычны хлапчына, скажам па праву ўзросту, убачыўся нейкім стомленым ды маркотным. І зусім не спяшаўся даваць мне папку. На ягоным стале яе не было. І ён прыкметна змагаўся з няёмкай неабходнасцю штосьці сказаць. А потым і сказаў, з недагаворваннем ды невыразнасцю, што справу даць мне другі раз — не можа. Яна ўжо не ў яго...

Ясна стала адно — я прыляцеў дарма. І падумалася таксама, пачалася такая здагадка, што за дзве гадзіны, ад майго званка да прыходу, адбылося тое, што ён камусьці пазваніў, на ўсякі выпадак папрасіў дазволу паказаць мне яшчэ раз, і яму, таксама на ўсякі выпадак, не дазволілі.

Дзіўны характар у мяне! — успрыняў я няўдачу... раптам спакойна, як быццам нават ці не з палёгкай. А ў апраўданне самому сабе падумаў: ну што ж, нічога не зробіш, можа, нічога я там больш і не вычытаў бы, хопіць і таго, што прачытаў месяц таму назад. Цудам паказаўшыся з таго страшнага часу, папка тая махнула ліловым хвастом і, нібы залатая дзедава рыбка, нырнула ў сваю, зноў таямнічую, недасягальную глыбіню — «пучину совершенной секретности», выкінуўшы на бераг «вещдок с индивидуальным признаком» — мундштук.

Яшчэ раз успомніўся компас у маім палоне: як хітра мы з сябрам схавалі яго перад вобыскам у бараку — загарнулі ў шматок бруднай газеціны і кінулі каля лагернай «лятрыны», так сказаць, адкрытай прыбіральні, даўжэзнай яміны з жэрдкамі на слупках, для доўгага, натужнага сядзення галодных нявольнікаў. Нехта яшчэ хітрэйшы прыкмеціў, як быў кінуты той шматок, падняў яго, компас узяў, а газеціну шпурнуў. Як жа абурыўся гэтым мой сябар па таямніцы, па намеры ўцякаць дахаты, як ён зласаваў на мяне за... спакой! Ён той компас недзе (ужо не памятаю дзе) раздабыў, спачатку насіў таямніцу адзін, потым даверыўся мне, а я... Што ж, я цяпер, праз сорак дзевяць гадоў, зноў успомніўшы тое, падумаў, што ў мяне, чаго добрага, было і падсвядомае прадчуванне, чым закончыліся б на радзіме нашы ўцёкі, калі б яны ўдаліся. Тады, улетку саракавога. Яшчэ на двух «нямецкіх шпіёнаў» стала б і больш, а потым і менш — адразу, у Еурапатах ці, спакваля, у якім-небудзь з ГУЛАГаў. Праўда, праз два месяцы я ўсё-такі ўцякаў, з іншым сябрам, бо з тым разлучыла няволя, і праз тры тыдні нас злавілі, ужо на польскай зямлі. І яшчэ раз, відаць, трэба падзякаваць лесу, што не ўдалося стаць «інпіёнам»...

А якая ж тут аналогія з папкай? Так думаў я, ідучы з пракуратуры. І адказаў самому сабе: ды проста тая, што ўжо не будзе больш так балюча рупіць, абы прачнуўся, што не прачытаў братаву справу з як найбольшай увагай, што павінен быў убачыць у ёй значна больш, чым убачыў. Хопіць, відаць, і таго, што ведаю, каб надежна сказаць сваё, напісаць патрэбнае. Нават канцоўка сама па сабе атрымалася. Тое, што называецца крывавай сталіншчынай, не канчаецца — ёсць яшчэ сілы, якім не патрэбна поўная ліквідацыя белых, чорных, чырвоных плямаў нашай жахлівай гісторыі, што не так лёгка сілы тыя пойдуць наператварэнне ўсіх лубянак у музеі ці кнігасховішчы, як прапанаваў на з'ездзе адзін з народных дэпутатаў, не дадуцца яны, тыя сілы, і пад народны кантроль, як патрабаваў другі дэпутат. Хутчэй паставяць помнікі ў раскрытых Курапатах ды

Быкаўнях, чым пойдуць на раскрыццё іншых захаванняў памардаваных, на рассакрэчанне цяжкаўяўнай безлічы спраў — у папках і без іх...

Калі пра безліч, дык вось і прыклад: з адной Белай Царквы, з аднаго «куста раёнаў» — 17 643. А на Валодзю нашым і не пачалося, і не закончылася...

Канец майго сумнага дня прайшоў у беспаспяховых намаганнях дастаць на заўтра білет на самалёт або цягнік; пад вечар прыйшлося-такі звярнуцца ў Саюз пісьменнікаў.

А ўранні трэба было пазнаёміцца з тым Палацам культуры, дзе раней рыхтаваліся трупы для Быкаўні.

...Мой Кіеў.

Першае ўражанне — у тым усё, не раз успомненым дваццаць другім — доўгі мост на шырокім Дняпры, які мы пераязджаем, высокі бераг, густая зеляніна дрэў, золата купалоў з іскрыстымі крыжамі. Праз шэсцьдзесят сем гадоў бачу, як ён асцярожна сунецца па тым мосце, наш бруднаватабелы таварны вагон... І я ўдзячны таму, хто тады разбудзіў мяне зарана, каб я панёс на ўсё жыццё ўспамін пра першае бачанне такой красы. А разбудзіў хутчэй за ўсё бацька. Маці пашкадавала б у сваёй больш практычнай любасці да найменшага, а бацька не мог не паказаць таго, чым сам неаднойчы любаваўся з правадніцкага акна. Так мне хочацца думаць. Бо так зрабіў бы і я, дый рабіў падобнае з дзецьмі, а цяпер з унукамі.

Пасля, у глухой заходніцкай вёсцы, Кіеў быў для мяне на каляровай паштоўцы, забытай некім у адной з нашых адэскіх кніжак. На ёй былі і Дняпро, і зеляніна на кручы, і залатыя купалы. На для кагосьці звычайнай, паднішчанай паштоўцы, з якое дзіцячае сэрца так многа бачыла. Гэта — пакуль навучыўся чытаць. Бо тады ён, мой Кіеў, пачаў адкрывацца ў кнігах, скажам — у Гогаля, з апісання Падола ў «Віі», а далей і ў многіх іншых.

Першы ў жыцці, дзіцячы прыезд у Кіеў адбыўся ў раннюю рань канца мая. Другою майскай ранню, і таксама з поўдня, летась я набліжаўся да любага горада па Дняпры. Пад салаўіны бой на абодвух церпка-зялёных, крыху прымглёных берагах, абапал шырокай, спакойнай вады. Пад гутарку з другім старым дзіваком, якому таксама не спіцца,— з кітайскім паэтам, перакладчыкам Кабзара. Таварыш і ў нас, у Мінску, бываў. У гутарцы на сыраватачысценькай, яшчэ пустой палубе, пад песні салаўёў, мы ўспомнілі, між іншым, і пра яшчэ аднаго салаўя — несмяротную дацкую казку з прастадушна чароўным пачаткам, які мы на мове Талстога, якога таксама згадвалі, працытавалі, дапамагаючы адзін аднаму, амаль з дзіцячай

прыемнасцю: «Ты, верно, знаешь, что в Китае все жители китайцы и сам император китаец». Без лішніх ды гучных слоў адчуваліся намі і мудрасць, і краса чалавечых, братніх адносін, да якіх яшчэ так далека...

А ў душы ў кожнага з нас было, вядома, і штосьці толькі сваё. Што ў яго — я магу вельмі прыблізна меркаваць. А ў мяне быў глыбінна прыглушаны боль, прадчуванне ўжо недалёкай сустрэчы з братняй трагедыяй...

Побач са словам *Быкаўня,* з якім я нядаўна зблізіўся, стаялі яшчэ тры словы: *Жовтневий палац культуры.* За першым бачылася невымерная магіла, за другімі — патайное месца забойстваў...

Палац гэты я ўбачыў спачатку толькі збоку, праездам. Першы раз едучы ўранні з гасцініцы ў пракуратуру, папрасіў таксіста паказаць мне яго, паехаць тою дарогай. І неўзабаве здзівіўся, што гэты будынак з выгляду я ведаю, што ён — цераз вуліцу ад высотнай гасцініцы на гары, дзе я некалькі разоў спыняўся. І ў падарожжы з найбліжэйшымі, вяртаючыся з чароўнага Закарпацця, і ў камандзіроўцы, калі мы прыехалі ў Кіеў удвух з маладым, ці не найбольш сімпатычным мне нашым пісьменнікам, а тут і з даўнімі сябрамі сустрэліся, і новых набылі...

А наведаць Палац культуры ў маі мне не ўдалося, не хапіла часу.

Цяпер, уладжаны якраз у той, даўно знаёмай гасцініцы, я з найранейшага ранку быў гатовы да сустрэчы з палацам, перад вайной — галоўным падзямеллем братняй Украіны. Гатовы і толькі стрымліваўся, каб не прыйсці зарана, калі там яшчэ не будзе яго цяперашніх гаспадароў. А ледзь прычакаўшы пачатку рабочага дня — пайшоў.

У даведніку «Кшв» пра «Жовтневий палац культури» напісана, што ў дваццатых — трыццатых гадах XX стагоддзя ў ім *«розмищувалися різні державни установи».* І як даніна сучаснасці (год выдання даведніка — 1981) адзначана, што двойчы там выступаў Леанід Ільіч Брэжнеў, уручаючы гораду і рэспубліцы ўзнагароды.

У іншай украінскай кнізе я прачытаў, што гэты колішні «Институт благородных девиц», збудаваны ў пачатку мінулага стагоддзя, пераабсталяваны быў пад сядзібу Народнага камісарыята ўнутраных спраў УССР пасля таго, як у чэрвені 1934-га ў Кіеў з Харкава перанеслі сталіцу рэспублікі. У гэтым гмаху размясціліся і работнікі наркамата, і тыя, з кім яны «працавалі». У турме гэтай было ціха, як у магіле. Наглядчыкі хадзілі перад камерамі ў валёнках па дыванах, вязняў на допыты выклікалі шэптам.

Падобнае, працішыню, чытаў я летась і яшчэ ў адной кнізе, рускай, у дачыненні да самых першых насельнікаў палаца «благородных девиц», якія тут «ходили бесшумно, как того требовал устав заведения».

Трэба думаць, што гэтай даўняй традыцыі прытрымліваліся і «тройкі» з усім дапаможным персаналам *інстытута ўсясільных катаў,* і гукі расстрэлаў не парушалі рабочай цішыні паверхаў — схаваныя глыбока, за тоўстымі сценамі.

Дзень абяцаў стаць зноў спякотным, але раніца была яшчэ толькі прыемна светлая, молада свежая пасля начной астыласці. Лістота дрэў і травы на адкосе ад вуліцы гусцела сакавітасцю. Урачыста яснелі кветкі. Чысценька ўсюды, злёгку росна. Перачырыкваліся вераб'і. Стары дворнік на ўзбочнай ад вуліцы алеі ішоў сабе па нядаўна палітым асфальце. Мы павіталіся, пастаялі, ён паказаў мне, дзе, за вуглом, цэнтральны ўваход.

Даўні, класічны колер сцен — светла-жоўты. Белыя калоны, белая абрамоўка акон і дзвярэй. Тры паверхі і цокаль, пад якім падзямелле, куды мне трэба заглянуць.

Пажылы вахцёр, калі я пачаў гаварыць яму, што мне трэба, сказаў, што ён тут працуе даўно, але нічога такога не ведае. Аднак начальніку свайму, па маёй просьбе, пазваніў. Неўзабаве да нас спусціўся малады ветлы мужчына і, выслухаўшы мяне, павёў у падзямелле.

Бясконцы лабірынт. Былыя камеры. І сцішна, як пад пірамідай. Хоць я пад пірамідамі і не бываў — проста такое адчуванне чагосьці аграмаднага, цяжэннага над табою... Як быццам усе тыя асоба-троечныя фараоны яшчэ ўсё сядзяць наверсе, яшчэ ўсё «судзяць», ціснуць зверху ўсім сваім злавесным цяжарам... Там, дзе былі камеры, карцэры, бойні,— цяпер то нейкія майстэрні, дзе відаць адзін-два чалавекі, а то ўсё дзверы, дзверы, ці так зачыненыя, ці пад навясным замком. Дзе ж тут стралялі? Ад куль на паверхах, з дыванамі і валенкам!, не чуваць было наганных туканняў?.. Ветлы таварыш не ведае. Ідзём, ідзём... І вось ужо выхад — на задні двор.

Тут мой прыязны чычэронэ ўбачыў каля грузавіка старога без шапкі, з мноствам ордэнска-медальных планак, павітаўся з ім і папрасіў падысці.

Пазнаёміў нас. Чалавеку гэтаму, як аказалася, ужо за восемдзесят, сёе-тое ведае і раскажа.

І расказаў, што прыблізна, па чутках, а што і дакладней, вядомае яму. Вазьму з дакладнага.

У вайну гмах быў разбураны бомбамі. Аднаўляць яго сабраліся толькі ў пачатку пяцідзесятых гадоў. Прыбіраючы, вымятаючы ацалелае падзямелле, *вёдрамі выносілі кулі.* Была тут у той час і *механізацыя,* транспарцёр для падачы трупаў на грузавікі. *Начамі...*

Так я выйшаў адтуль — з тою транспартнай стужкай, на якой мне бачыўся *і Валодзя,* з тымі кулям!, відаць, у большасці расплясканымі аб бетон, кожная з якіх 9 грамаў, стандартных, як і 100 грамаў, агульнанародных, і адна з і х — *ягоная,* наша.

## ПРАЦЯГ

Калі мы развітваліся са следчым, ён нараіў мне пра муштук напісаць у пракуратуру рэспублікі. Даў адрас і прозвішча.

«На гэтым будзе і ўсё»,— падумалася, запісаўшы.

З пракуратуры той мне адказалі тыдні праз два, а паехаць па «вещдок» я сабраўся ажно праз тры месяцы.

...У чорным канверце ад фотапаперы ў тумбе майго пісьмовага стала вось ужо хутка чвэртку стагоддзя ляжыць страшны здымак. Канверт гэты не адзін, у іншых таксама здымкі, у розны час атрыманыя ад сяброў-фатографаў. Але ж як толькі я, для чаго-небудзь перабіраючы фота, выпадкова ды памылкова загляну і ў той канверт — заўсёды міжволі ахну!.. Там — наш, мой Міша на белым, пад белым, пакуль прывязуць труну...

Здаецца, першая смерць, што так глыбока мяне ўразіла, нават у параўнанні са смерцю бацькоў, Бацькаву смерць я, шасцігодак, усвядоміў не адразу. Маці памерла ў такім узросце, калі мы, пачуўшы ад знаёмага пра смерць каторага з яго бацькоў, міжволі пытаемся, а колькі ёй ці яму гадоў. Пачуўшы, што і нямала, гаворым, каб перакрыць няёмкасць: «Усё роўна шкада». А Міша памёр так нечакана, так без пары, так адчувальна нагадаўшы мне, што вось і гавары, і спадзявайся, плануй, а яна толькі пстрыкне, як з-за вугла, і ўсё — назаўсёды, беспаваротна...

Пра здымак той я ўспомніў, думаючы, як жа сустрэнуся з муштуком. Стары ўжо, здаецца, і з вопытам, а наіўна падумаў, што яго аддадуць мне ўсё-такі неяк больш-менш урачыста...

Праўда, таварыш, які адказаў мне замест таго, каму я пісаў, сустрэў мяне ветліва, нават здзівіўся, што я прыехаў, бо можна ж было і выслаць мне муштук. Як быццам не сам ён, пракурор і кіраўнік адпаведнай трупы, пісаў мне, што «мундштук будет вручен Вам в удобное для Вас время», і нумар свайго кабінета паведаміў. Я сядзеў, ён шукаў, адамкнуўшы адзін з двух сейфаў каля сцяны. Шукаў

марудна, шалпочучы раскалмачанымі папяровымі скруткамі, перабіраючы, абшукваючы іх адзін за адным, некаторыя развязваючы, тады завязваючы, усё гэта няспешна, заклапочана, і толькі ў самым апошнім скрутку знайшоў патрэбнае. Падаў мне, а я... без хвалявання ўзяў яго, амаль зусім спакойна. Распіску напісаў пад дыктоўку, нібы атрымаўшы на складзе нейкую запасную частку.

І таксама спакойна спытаўся, ці можна мне паглядзець у іх братаву справу.

А яна, аказалася, была ўжо не тут, а *там,* адкуль бралася для следства. Я ўжо ведаў, што іменна гэты таварыш, з кім гавару, не дазволіў у чэрвені даць мне папку яшчэ раз. І я не паверыў яму, што справа не ў іх,— падумаў, што ён адводзіць убок. Але таварыш параіў мне самому зайсці ў Камітэт дзяржаўнай бяспекі і папрасіць. Назваў адрас, растлумачыў, як даехаць. І я, у тым самым — дзелавым, ці што,— спакоі вырашыў сваё «ісці да сэрца напраcткі» прымяніць яшчэ раз.

Там, пакуль што ў прыёмнай, элегантны прапаршчык прапанаваў мне пасядзець. Намеснік старшыні камітэта якраз заняты іншым наведвальнікам. Мінут праз дзесяць мой папярэднік выйшаў, і я быў запрошаны ў кабінет. Яшчэ ўсё спакойна выклаў сваю просьбу. Малады чалавек выслухаў мяне, сказаў, што іменна сёння вырашыць гэта нельга. «Гэтаж не проста спусціцца ўніз ды папку тую ўзяць — архіў наш не тут, гэта справа некалькіх дзён». А ў мяне зваротны білет, цягнік праз тры гадзіны. Таварышу намесніку, вядома, трэба і параіцца. А мне, старому, з хворымі нагамі, не так ужо і зручна паехаць-прыехаць... І тут ён параіў зрабіць прасцей: напісаць ім з дому, на імя старшыні камітэта (назваў імя, па бацьку, прозвішча), і папку мне, «у парадку выключэння», вышлюць для прачытання ў ваш, беларускі, Камітэт дзяржбяспекі.

Вунь на якім узроўні пайшло! Ажно, вядома ж, не верыцца...

Дома, адаспаўшыся пасля дзвюх начэй «пункцірнага» ад грукату колаў недасыпання, я павагаўся трохі, а ўсё ж такі напісаў у тую найвышэйшую інстанцыю — хай ужо будзе, што будзе. Адаслаў пісьмо ў панядзелак, а ў пятніцу пад вечар — чаго не бывае ў наш час! — сам старшыня камітэта пазваніў мне з Кіева, што папка будзе днямі выслана. Пра «выключэнне» і намёку не было. Яшчэ больш — на развітанне ён ажно расчуліў мяне, пажадаўшы добрага здароўя... «от вашего читателя».

Яшчэ праз два тыдні мне пазванілі з нашага камітэта.

## ПРАВА БОЛЮ

Ідучы на другое спатканне з братавай справай апоўдні, я думаў, што сёння, вядома ж, прачытаць яе як след не здолею. Так і сказаў супрацоўніку ў цывільным, які зачыніўся са мной у пакоі і, пакуль я чытаў, цярпліва, карэктна глядзеў на мяне з-за другога стала. Ці проста так сабе, ці хутчэй успамінаючы тое, што ён, трэба думаць, сам папярэдне вычытаў у гэтай кіеўскай папцы. Яго прысутнасць я, і заглыблены ў сумна знаёмы тэкст, адчуваў па ягоных вачах — не бачыў іх, а падсвядома адчуваў.

Першы раз, у Кіеве, справу чытаў я трохі больш за дзве гадзіны. Цяпер прайшло тры, калі я адчуў, што годзе, усё, больш не магу... І не здзівіў гэтым свайго наглядчыка: ён і гэта прыняў карэктна.

Выбух, што скалануў маю душу ў канцы мая, дэтаніраваў болем і сумам усе пяць месяцаў. Сёння боль паўтарыўся ці не з большай нават сілай, хоць і без выбуху. Здавалася, што я сваёй настойлівасцю вось і дамогся таго, што сам сябе падняў на новую, вышэйшую, паліцу, на якую цяпер паложана папка, і сам сябе гвазнуў адтуль аб падлогу. Потым — бяссонная ноч, блакнот, раз-поразу святло, ад якога не рабілася відней. Падтэкст, адчуты раней, заставаўся. Жахлівы падтэкст таго часу, а ў ім — ад наго чалавечага лесу. Спробы пранікнуць у той падтэкст зноў натыкаліся на глухату навечнага маўчання, у якое пайшлі ўсе тыя, хто мог бы мне многае праясніць або сказаць *хоць нешта,* так неабходнае!..

Было і тое, што пры другім чытанні праяснілася. З муштуком. Але і гэта не адразу.

Чытаючы справу ў Кіеве, я не звярнуў увагі на дату на адной з самых першых паперак — 16.IX.937 г. Не звярнулі на гэта ўвагі і юрысты. Следчы, напрыклад, пытаўся, што яна азначае на муштуку, і я сказаў: братаў дзень нараджэння. Раней, з маіх слоў, так было напісана ў газеде «Літаратура і мастацтва», а пазней, увосені, паўтарыў я гэта, выступаючы ў Курапатах. Словам, нібы і ўзаконілася. Пры Шуравай дапамозе. Ведаючы абодва, што бацька яго маладзейшы за дзядзьку большменш на паўтара года, мы пайшлі ад Ігнатавага дня нараджэння 20.XII (ст.ст.) 1900-га і выйшлі на той загадкавы верасень. Бо дакладнейшай даты не было, ні ў нас, ні ў Віктара. А тут нібыта першы раз гляджу — у справе паперка — папярэдні, больш за два месяцы да арышту, выклік Валодзі да пракурора, іменна ў гэты дзень, 16 верасня.

Ну, а як жа дзень нараджэння?

Дапамога прыйшла з нечаканага боку. Пасля беспаспяховых тэлефонных перамоваў ды перапіскі з архівамі ў Мінску, Гродне, Наваградку я ўспомніў нарэшце пра адэскі сельгасінстытут, пазваніў Віктару, каб ён спытаўся, як там у іх з архівам. Праз месяц, у лютым, я атрымаў цэлы пакет дакументаў, сярод якіх пасведчанне пра заканчэнне шостага класа гімназіі і копія метрыкі, двойчы з дакладнай датай Валодзевага нараджэння — 10 (22) ліпеня 1899 года.

Муштук — касцяны, ім ні зарэзацца, ні парэзацца нельга, таму яго ў вязня і не забралі. Выскрабці на ім тую сакраментальную дату пасля таго, як той вязень зусім аслеп ад катаванняў, сам ён не мог. Выходзіць — або ён зрабіў гэта неўзабаве пасля арышту ў белацаркоўскай турме, або і раней, вярнуўшыся ад пракурора Вялікапалавецкага раёна, з гутаркі пра «шкодніцтва на рабоце», бо быў жа яшчэ два з палавінай месяцы дома. А магло быць і так, што па просьбе яго, аслеплага, калі ад пералому да смерці было яшчэ столькі дзён і начэй, гадзін і мінут для роздуму, успамінаў, адчаю, надзеі... хоць бы на лагер, можа, тады гэтую няхітрую гравіроўку мог зрабіць хто-небудзь з сяброў па камеры...

У Курапатах, у некалькіх правераных захаваннях, сярод мноства астанкаў не знойдзена ніводнага «рэчавага доказу з індывідуальнай адзнакай», на якім стаяла б прозвішча ці хоць імя ахвяры. Толькі на адной расчосцы, таксама касцяной, ёсць надпіс, таксама выскрабены нечым, на польскай мове:

Ciężkie są chwile więźnia. Minsk, 25.04.40. Myśl o was doprowadza mnie do rozpaczy. А на другім баку расчоскі: 26.IV.40. Rozpłakałem się — ciężki dzień. Тут свой падтэкст, які мяне, пры пэўным веданні Польшчы наогул, а тым больш палякаў у Заходняй Беларусі, хвалюе з іншымі здагадкамі ды меркаваннямі...

У Быкаўні, сярод знойдзеных імянных «вещдоков», чатырнаццаты па ліку — муштук. З прозвішчам, з ініцыяламі, з датай, але нічога на ім пра «цяжкія хвіліны», думкі пра родных, пра плач... Такое тут — зноў жа ў падтэксце. І ён, падтэкст гэты, не толькі ў лесе гэтых двух, курапацкага паляка і быкаўнянскага беларуса,— усенародны ён, усясветны!..

Муштука, што цяпер затаіўся ў шуфлядзе майго пісьмовага стала, магло і не быць — ужо і знойдзенага, і абвешчанага ў друку. Нібыта падказаў мне хтосьці мудры — папрасіць у следчага аддаць рэліквію родным. Ён сказаў тады пра экспертызу, а пазней, калі мне муштук аддалі, растлумачыў па тэлефоне, у чым яна, экспертыза, заключалася б. Вельмі проста — дзеля таго, каб навукова ўдакладніць,

што муштук сапраўды касцяны, яго спачатку трэба было б раскрышыць...

А так ён сведка і катаванняў, і падзямельных стрэлаў, і начнога закопвання, і сам выйшаў з таго палітычнага пекла, і мяне ўжо двойчы — цераз ліловую, з мноствам наклеек, крыху зацапаную папку — уводзіў туды ж...

Ці вытрымаў бы я яшчэ і трэці раз?

Выпісваю блакнотнае:

«Бывае так горка і цёмна ад тое папкі, што ўчора нават... праўда, упершыню, падумалася: няхай бы лепш я, ужо адзін, апошні з сясцёр і братоў, застаўся лепш пры тым варыянце Валодзевага канца, які мы ведалі да знойдзенага муштука!.. Хоць «ведалі» не падыходзіць — толькі меркавалі...»

За пятнаццаць месяцаў, падораных муштуком і папкай, я многа чытаў блізкага майму болю, патрэбнага для маёй задумы. Турэмныя ды лагерныя ўспаміны тых людзей, што выжылі. Яны — і *нямногія* з ліку забітых ды замучаных, іх адначаена і *многа*, калі далічыць і тых, пра каго яны расказалі, а ўлічыўшы іх права і абавязак гаварыць і за тых, што самі ўжо нічога не скажуць, іх — вялікае *мноства.* Бо праўда іх — *найвялікшая.*

Гэтая праўда свяціла і мне, дапамагаючы ад свайго, сямейнага ісці шырэй. І тое, чым я хачу падсумаваць свае пошукі, свой роздум, мне цяжка дый і не трэба аддзяляць ад таго, што я ўзяў ад народжанай у пакутах праўды другіх людзей, ад іх вопыту, што мне дапамагала ў цяжкія хвіліны.

Справу чытаў я двойчы, з пакутлівай пільнасцю. Раіўся з двума юрыстамі, у Кіеве і ў Мінску. Па маёй просьбе, з ужо адасланай папкі, мне прыслалі ксеракопіі чатырох вырашальных дакументаў: з аднаго боку — выпіска *з пратакола* пасяджэння «тройкі» і *з акта* пра выкананне прысуду, а з другога боку — *заключэнне* па архіўна-следчай справе па абвінавачанні і *акрэсленне* ваеннага трыбунала,— прысуд і забойства, расследаванне і рэабілітацыя, яшчэ ад на чалавечая гісторыя, заключаная ў векапомных датах: 1937-1956. І шкодніцтва (артыкул 54-7 украінскага Крымінальнага кодэкса), і шпіянаж (артыкул 54-6) юрыдычна палічаны поўнасцю бяздоказнымі. Так і падкрэслена: *«не нашло своего подтверждения».* Са спасылкамі на розныя архіўныя нумары і абрэвіятуры. А тое, што як між іншым, дадаткова, без якога-небудзь артикула, ушчэмлена паміж тымі «вінамі» — служба ў белых і дэзерцірства ад чырвоных — пры разглядзе справы на рэабілітацыю праігнаравана зусім, не згадваецца аніяк...

Што застаецца?

Жахлівы махавік круціўся ва ўсю няспынную сілу, жорны малолі, не буксуючы ў чалавечай крыві. І брату майму, як і многім, патрэбен быў *той,* хто штурхане пад махавік, у жорны, і *той* знайшоўся. Гэта мог быць і загадкавы М., яўрэй, і нехта рускі, украінец, беларус — у мярзотнікаў таксама ж ёсць свой няпісаны інтэрнацыянал. Імёны членаў яго з надзейнай сакрэтнасцю, відаць, наперад ахоўваючы сакрэты метадаў, схаваны недзе ў іншых папках, кажуць: з паметкай «агентурные сведения», і папкі тыя не паказваюць нават «у парадку выключэння». Ба ўспамінах людзей, якія цудам ацалелі ў жорнах «класавай барацьбы», мне двойчы сустрэлася такое акрэсленне «судоў» і «асобых нарад»,— судзілі не *за што,* а *дзеля чаго.* Чалавека трэба было знішчыць, камусьці гэта было патрэбна, і яно рабілася. З усёй каравасцю крыважэрнага хамства, з тоўстымі белым! ніткамі юрыдычнага дылетанцтва, з магільнай неразгаданасцю падтэксту. Многа ўсялякіх варыянтаў у тым падтэксце, а вядома агульнае *адно* — такі быў *час і лад.*

Яшчэ два запісы з розных дзён.

Першы — зроблены адразу пасля другога чытання справы:

«...Душа мая зыоў дакранулася да бездані жаху, ужо ў большым спакоі, аднак і зноў яна *смуткуе,* няхай сабе не *смяротна,* як у Валодзі было, але блізка да гэтага. Хрысту было лягчэй: ён жа і Богачалавек, і тры апосталы, найвярнейшыя з дванаццаці, былі пры ім. А брату майму не было каму сказаць у безвыходнасці чалавечай тугі: «Душа моя скорбит смертельно; побудьте здесь и бодрствуйте со мною...»

І другі запіс, пазнейшы:

«І зноў, і ўжо даўно не ўпершыню вяртаецца бачанне страшэнна невымернай чалавечай крыўды і абразы. Ён працаваў сумленна, жыў сціпла, шчасліва ў сям'і, і вось яго бяруць, катуюць датуль, пакуль яму не стане абыякава, што перапісваць пад дыктоўку (тое «заявление»), што падпісваць, нібы нямоглай старэчай рукой (тыя тры пратаколы), тады яшчэ паўгода — скатаванага да слепаты, зламанага, зганьбаванага — трымаюць за кратамі, каб потым завезці за сто з гакам кіламетраў, у галоўнае падзямелле, дзе ў рабочым парадку, на масавым канвееры застрэліць ва ўпор у скронь ці ў патыліцу, а потым механізавана, на транспартнай стужцы выкаціць у грузавік,— ноччу! ноччу! — завезці далей за горад, у лес, і закапаць разам з мноствам таксама скатаваных, зламаных, зганьбаваных, у скронь ці ззаду застрэленых, навекі,— бо так і лічылі каты-следчыя, атлусцелыя «троечнікі»ірадавыязабойцы,— навекі, наглуха закапаных у

«праклятае народам» небыццё. Разам з усімі бездапаможнымі пратэстамі, заклікамі да справядлівасці, з мільённадушным адчаем: за што? у імя чаго?..»

Пры той жахлівай масавасці генацыду — у адным чалавечым лёсе няма нічога надзвычайнага.

Апроч цуду з імянным муштуком, цуду — аднаго на сотні тысяч ці на мільёны. І мне так неабходна найясней убачыць, *як* расказачь пра гэта — пра звычайнасць і незвычайнасць, універсальнасць трагедыі, заключанай, як у маленечкай кроплі, у гісторыі адной чалавечай сям'і. На прыкладзе свайго мне лепш, а можа, і найлепш відно, як гэта жудасна — замучыць, забіць *невінаватага.* Думаючы пра мільёны, адзін бачыцца вельмі маленькім, у вялікай краіне, тым больш ва ўсім вялізным свеце гэта так мала — адзін. А ў сям'і, у душах родных гэта ж цэлы свет болю. А ў душы найраднейшай — у матчынай? Я памятаю, я чую зноў, як яна плакала начамі... Не ведаю, што адчуваў бы я як сын яго, як бацька, як шчыры друг. Я адчуваю сваё, як ледзь не па-сыноўняму малодшы брат. Так пазнаю, і яшчэ пазнаю свайго таямнічага, амаль зусім невядомага... Вось я чытаю пра допыты, пакуты, стойкасць і ламанне і ўвесь час міжволі думаю пра свайго. Ён трымаўся чатыры месяцы. Ён быў, як маці казала, «гарачы і горды», і гэта раз'юшвала катаў, яшчэ ўзмацняла яго і так невыносныя пакуты. Сам ён зламаўся? *Яго зламалі!* Як многіх, вельмі многіх... Гляджу на фота яго, адно з апошніх, *ужо,* як мне здаецца, *з тым* сумам у вачах, гляджу найменшы на найстарэйшага, цяпер старэйшы за яго на паўстагоддзя, і хочацца бацькавым любімым словам сказаць, і я гавару: «Голубчик мой!..» І плачу за ўсіх, за бацькоў, за сясцёр і братоў. І за Валю ягоную, нашу мілую Валю, якая плакала б цяпер найбольш.

«Віна» з пакутнікаў пераходзіць на віііу над крэслена, без двукосся — на іхніх «суддзяў», на той час, на тую палітыку, аслепленасць, апантанасць, чуму, халеру... штосьці яшчэ горшае!.. І як ні многа я чытаў і слухаў пра той генацыд, не памятаю, каб сярод прычын, якія спрыялі яму, накіроўвалі яго, была названая яшчэ ад на прычына, вельмі істотная, з найгалоўнейшых — *партыйная дысцыпліна,* што спараджала, натхняла, апраўдвала выканаўцаў...

У «Выпісцы з пратакола пасяджэння Тройкі», нібы незаўважна, сціпла, стаіць такая вышынская фраза: «В проведении шпионской деятельности сознался». І яна там, для «тройкі» — галоўнае. *Агавор* самога сябе, выбіты катаваннямі, быў для ахвяры не проста небяспечны, а смяротны. Канцоўка ў «заявлении», трафарэтна прадыктаваная вязню, з тым «сознавшись чистосердечно прошу

даровать мне жизнь и дать возможность исправиться» — гэта банальны інквізітарскі цынізм. Ужо само накіраванне следствам справы на «асобую нараду» азначала і суд і прысуд адразу...

А быў жа яшчэ і *нагавор.* На ветэрынара Клісенку, таварыша па працы. Таксама выбіты катаваннямі, а тым не менш такі мне балючы. І радасна, што нагавор Клісенку не зашкодзіў. Праз два месяцы пасля вочнай стаўкі з Валодзем ён быў выпушчаны з турмы пад распіску пра нявыезд, дапушчаны да ранейшых абавязкаў, каб потым, у маі трыццаць дзевятага, калі ўжо не было яжоўшчыны, а прыйшло берыеўскае ўступнае паслабленне, быць апраўданым пракуратурай «як няправільна арыштаваны». Не ўзяўся пад увагу і той «антысавецкі анекдот», які, дарэчы, не падняўся да самога Сталіна, а быў нібыта расказаны пра Калініна. Сяржант Сагалаеў, які і следства вёў, і пратакол вочнай стаўкі падпісваў, вышэй узняцца не асмеліўся...

З падтэкстам бачыцца мне ўвесь той нагавор. Балюча было ад падазрэнняў, чытаючы і ў «заявлении», і ў пратаколах *перадсмяротнае трызненне* блізкага чалавека... Няўжо і гэта было патрэбна толькі для таго, каб так ламаць і зламаць упартую ахвяру?

Я паўтараю — як гэта добра, радасна, што нагавор той не зашкодзіў, што Клісенка дажыў да часу, калі ў яго сталі зноў пытацца пра Валодзю, і сумленна сказаў пра яго тое, што так прычынілася да зразумення, да апраўдання хоць пасмяротнага. Свет не без добрых людзей, і шкада, што падзякаваць ім ужо нельга.

У прачытаным мною для тэмы маёй, занатаваным ёсць і развагі аднаго з *тэарэтпыкаў мужнасці.* З вышкі сваёй ён «аб'ектыўна» прымервае ды акрэслівае, хто з пакутнікаў як зламаўся, як ён мог не зламацца і як гэта, бачыце, добра было б, каб і тут герояў было ў нас як найбольш. Такое адчуваецца ў гэтай дасужай філасофіі.

Назаву два імені.

У пісьме да Аляксандра Салжаніцына Варлам Шаламаў, турэмна-лагерны пакутнік з дваццацігадовым стажам, піша так:

«...Я за свае два следствы не падпісаў ніводнага пратакола супраць самога сябе і ніякіх прызнанняў не даваў — толк быў той самы. Далі тэрмін і так. Да таго ж на следстве мяне не білі. А калі б білі (як з другой палавіны 1937 года і пазней) — не ведаю, што я зрабіў бы і як бы паводзіў сябе». А праз два гады, у іншым пісьме, паўтарае: «Я не ведаю, як бы я трымаўся, калі б мне іголкі ўсаджвалі пад пазногці».

Аўтар «Архіпелага ГУЛАГ», з навуковай грунтоўнасцю апісаўшы пяцьдзесят два спосабы катаванняў, кажа пра тых, хто не вытрымліваў:

«Чалавек дзейнічае напалавіну свядома або зусім несвядома, дык за яго паказанні не трэба на чалавека крыўдзіцца».

І далей, пры ўсёй эпічнай стрыманасці гэтага, таксама *нетэарэтыка* мужнасці,— такі прарыў у сардэчную, мудрую чалавечнасць:

«Брат мой! Не асуджай тых, хто трапіў у такое, хто аказаўся слабым і падпісаў лішняе...»

Не кожны мог быць героем. Аднак каму ж яно дадзена — права рабіць *такую праверку мужнасціі*

Я не ведаю, колькі ён перанёс, мой брат, ці на долю яго выпалі *ўсе* катаванні, *усе* пакуты, якія можа вынесці чалавек. Мне вельмі прыкра, балюча, што ён зламаўся, і мне яго, роднага, вельмі шкада.

Аднаго з тых, каго было так многа, многа...

Праклён і ўсім катам, і кожнаму ладу, які на гэтым трымаецца!

## СВАЁ

Я абавязаны яму жыццём.

Быў дзень, калі я, настолькі малы, што змог пралезці паміж радкаватымі металічнымі прутамі старога балкона, праціснуўся так і, з другога боку, упёршыся нагамі і ўчапіўшыся рукамі, пачаў пагойдвацца наперад ды назад. Пакуль не стала страшна і не закрычаў!.. Валодзя выбег на мой крык, паспеў схапіць за каўнер паліцечка. Старога, сіняга, якое яданошваў пасля двух старэйшых.

Я той чорны каракулевы каўнерык запомніў на ўсё жыццё. А на балкон той і на брук пад ім глядзеў у сорак дзевятым. І яшчэ раз, праз сорак гадоў, калі мне пазванілі пра муштук, успомніў таксама...

А мог жа я таксама і памерці разам з ім, нашым найстарэйшым. Калі б здзейснілася тое, што бацька вырашыў, калі з жонкай і меншымі ад'язджаў у вёску. Каб Ігнат, уладзіўшыся на прыходзе, забраў на выхаванне, на вучобу Мішу, а Валодзя, калі закончыць свой інстытут і стане працаваць, а я тым часам падрасту, забраў мяне. Коля застанецца пры бацьках, каб вырасці гаспадаром.

Бацька памёр праз два няпоўныя гады. Мяжа паміж Загорам і Адэсай варожа ўмацавалася. І з нашай замежнай вучобай нічога не выйшла.

У Валодзевым *трыццаць сёмым* мне было дваццаць. Многія там, куды мы меліся выехаць, у «ворагі народа» траплялі значна маладзейшымі. Курыў бы я, жывучы пры Валодзю, ці не курыў бы, як

у Загоры, цяжка сказаць. Застаўся б ад мяне які-небудзь «вещдок» ці не застаўся б — таксама не скажаш.

Ёсць і такое яшчэ.

У першым раздзеле гэтай журботнай *недасагі* я расказаў, як адзін з маіх паплечнікаў па пісьменніцкім гурце, убачыўшы пасведчанне пра Валодзеву пасмяротную рэабілітацыю, высокаідэйна спытаўся, чаму я маўчаў, што брат мой быў рэпрэсіраваны.

Другі паплечнік, па гурце партызанскім, таксама мой трохі начальнік, вычытаўшы ў газеце пра знойдзены муштук, пазваніў ноччу па міжгароднім, паспачуваў і... зноў жа спытаўся, чаму я пра брата не казаў нічога раней.

У пасляваенным, літаратарскім, варыянце гэта прыдалося б для належнага выпраўлення майго «складанага» жыццяпісу, дапамагло б патаемным біёграфам.

Ну, а ў ваенным, лясным, чаго добрага, прыдалося б яшчэ больш. Асабліва — калі б адразу не «польскі памешчык», а «нямецкі шпіён». Ды таму, хто і сам быў два гады ў Германіі...

Як тут не радавацца жыццю?!

Магло ж быць і трохі не так...

1990

## ЗА СВЕТЛУЮ ПАМЯЦЬ

Пра маці — зноў, праз дваццаць два гады пасля апавядання-эсэ «Ты жывеш».

* * *

Маладою яна была дужая, а смелая — заўсёды.

Жывучы ў вёсцы адна (мужык у горадзе, на чыгунцы), пабойвалася за малых. Неяк зімовым вечарам, у яшчэ незамкнёную хату нехта загрукаў, а потым і ўлез, уварваўся. Нейкі праезджы — у бурцы, аблеплены снегам, не адразу пазнала, што нецвярозы.

— Дай, баба, бляску на дарогу!

А яна — за край пустога чыгуна, які стаяў на прыпеку.

— Такога бляску дам,— размахнулася,— што ў вачах табе заблішчыць!..

Прагнала і замкнулася.

Расказвала пра гэта, прадучы, як пра даўнейшае. Змалку помняцца тыя бляск і чыгун.

* * *

У пачатку двадцатых гадоў, калі Адэса стала, нарэшце, надзейна савецкай, хтосьці з пільных «пазнаў» на вуліцы ў высокім, спраўным студэнце сельскагаспадарчага інстытута... нядаўняга белага афіцэра.

Гэта быў наш Валодзя, найстарэйшы з пяці братоў.

Пакуль справа выяснілася... Маці расказвала мне, найменшаму, ужо ў вёсцы, як тая страшная справа выяснялася. Многа чыгуначнікаў падпісалася пад заявай, што гэта ніякі не афіцэр, а сын рабочага, студэнт. Была і яшчэ адна акалічнасць. Не памятаю, ці гэта ў грамадзянекую, калі Адэса была чарговы раз некім акупіравана, ці яшчэ раней, наш бацька дапамог аднаму з камуністаў, сыну знаёмага па службе земляка, а той камуніст, па прозвішчы Кергет, з падпольнага стаў уплывовым і змог адудзячыцца. Словам, Валодзю даволі хутка выпусцілі. А пакуль справа выяснялася — усё для маці праходзіла вельмі няхутка. І ў чарзе каля турмы настаялася з перадачамі, і наглядзелася, наслухалася. Памятаю: «Як скажуць: «Выбыл в ЧК», дык яна, бедная, тут і самлее!..» Ездзіла да яго і на ліман, дзе вязні працавалі на здабычы солі. Змалку засела ў памяці незвычайнае слова, якое вось знайшоў у Грынчанкі, «украінскага Даля»,— кагат, вялікая горба. «Тачкамі, бедныя, соль тую вазілі ўверх, на кагаты». Відаць, вялікія яны былі, бо наш студэнт зваліўся з поўнай тачкаю з таго кагата, натоўкся дужа і вывіхнуў вялікі палец ці нават

усю руку ў запясці«А галадалі як у турме! Кілька салёная без хлеба, а потым піць не даюць...»

І яшчэ што помніцца з матчынага расказу — вобыск у нашай кватэры.

Бацькі, відаць, не было, ён заўсёды быў «у дарозе». Інакш мама ўспомніла б яго, бо матрыярхату ў нашай сям'і не было — яна неаднойчы казала, што жыла са сваім вельмі дружна. Але ж і прывыкла за час замужжа да разлук, то карацейшых трохі, а то ўсё больш доўгіх, калі ён ездзіў ці на поўнач, у Пецярбург, пасля Штраград, ці на поўдзень, у Баку, у Батум. Гэта я пра той час, калі з пятнаццатага і да лета дваццаць другога ўся наша сям'я жыла ў Адэсе, разам. Прыйшлі з вобыскам ды з рэквізіцыяй, калі маці была адна, з трыма малымі хлопцамі. Калі ж і быў яшчэ дома Ігнат, другі са старэйшых братоў, таксама студэнт, дык ён, відаць, маўчаў: яму было лепш памаўчаць. А яна не хацела... «Жыдовачка нейкая, маладая яшчэ, а з ляворверам,— расказвала мне потым, па-вясковаму, без усякай палітыкі. — Усё маё найлепшае на стол паклала. Хусткі мае, і квяцістую, і каўровую, у вялікую клетку, і шалі два, цёмны і светлы... І кажа: «Эта я ўсё бяру». А я кажу: «А я не дам!..»

Што было далей — не памятаю, і не буду сачыняць. «Ляворвер», трэба думаць, быў там не адзін... З мяне, малога, ужо вясковага сіраты, хапала і гэтай мужнасці — не дам свайго, зробленага, і я не сумняваўся, што было яно іменна так.

Цяпер пра тое ўжо, што я сам бачыў.

Мы былі з багацейшых у вёсцы, аднак у пачатку трыццатых гадоў славуты эканамічны крызіс, якім была ахоплена і Польшча, цяжка перажываўся і нашай гаспадаркай, якою, хоць ужо і пры дваццацігадовым сыне, кіравала маці, «удава — шалёная галава», як гаварыла часам яна пра сябе. Усё, за што ў мужыка могуць быць сякія-такія грошы — збожжа, жывёла,— усё страшэнна патаннела. А падаткі не памяншаліся, іх трэба было своечасова плаціць. І па вёсках хадзілі секвестратары. Дзе з паліцэйскім, а дзе толькі з солтысам ці падсолтысам, вясковай уладай.

Вясной трыццаць першага года я, сямікласнік, прыйшоў са школы ў мястэчку і яшчэ за брамай, на вуліцы пачуў у нашай хаце крык — мамін і нейчы другі. Я кінуўся туды...

У сваёй «Граніцы», якая па лішне смелай пасляваеннай задуме мелася быць вялікім раманам, а друкуецца як «раздзелы з рамана», ёсць сцэна, дзе п'яны секвестратар, падвучаны на гэта падсолтысам, катўе старую сялянку, адзін сын якое недзе ў камуністычным падполлі, другі сёння зранку арыштаваны, а найменшы пасе карову.

Калі хлапчук прыбег, п'яны вылюдак кінуўся і да яго... У творы гэта, што называецца, сацыяльна завострана, і я не каюся ў зробленым, бо і такое бывала — гэта я ведаў па расказах і з архіўных матэрыялаў.

Аднак тое, што я ўбачыў з-за парога нашых сенцаў, было таксама страшным. Яно і сёння бачыцца мне такім, а тады, калі я — у сорак шостым ці ў сорак сёмым годзе — пісаў той раздзел, бачылася, адчувалася яшчэ свяжэй, страшней.

Мама сядзела на гліняным таку, спіной да сцяны, каля ног секвестратара, аберуч трымалася за бацькаў адэскі, доўгі і чорны немясцовай поўсцю «мерыносаўскі» кажух, які ў яе вырывалі, крычала сваё «не дам!», штосьці яшчэ, з праклёнам і слязьмі...

На сённяшні мой падлік, калі ўжо сам я на восьмым дзесятку, ёй было тады... толькі пяцьдзесят восем. Але ж яна, яшчэ ўсё нястомная работніца, ужо больш за дзесяць гадоў была калекай. Нагу са страшнымі вузламі варыкозных вен, з язвамі на іх, яна лячыла яшчэ ў Адэсе, а тут і лячыцца не было калі, і местачковы пан доктар нічога не дапамог, а на дадатак, спяшаючыся з поля, не сагнулася пад калючую драціну, якою было ад дарогі зацягнута прыгуменне, а напяла яе ўніз рукою, каб перасігнуць, шарпанула ржавымі калючкамі па тых вузлах ды язвах, і неўзабаве прыкінулася яшчэ і экзема. Начамі, прачнуўшыся на яе асцярожны плач ці пацерны шэпт, можна пыло зразумець, як ёй балюча, як яна ўдзень цярпела, а ноччу не можа заснуць.

Так, каб не тое калецтва, дык яна і не ўпала б з кажухам, а — чаго добрага — і шуганула б таго, з кім тузалася, а так... Можа, і заплакала ад прыкрасці такой, ад немачы, ад справядлівай злосці?

Над мамай, абёлап трымаючыся за другое крысо кажуха, стаяў пан Кісель, плюгавенькі звягун з жоўтымі шчопцямі вусікаў пад сінім носам. Я яго ведаў, бачыў даволі часта, але ж у мястэчку ці проста ў нашым Загоры, толькі не ў нас ды не так. І я закрычаў. Яшчэ пахлапечы, але ўжо, можа, і з нечым мужчынскім у голасе. Бо спачатку падсолтыс, які ўжо стаяў не ў сенцах, а на двары, — наш сусед, чалавек, як на сённяшні мой успамін, няхай сабе прыкметна фанабэрысты, але і недурны, нядрэнны,— спачатку вылаяўся, плюнуў у знак пратэсту і пайшоў з двара, а тады ўжо за ім, без кажуха падаўся і «абдзірач»-секвестратар.

Я хацеў памагчы ёй устаць. Але маці ўстала сама. І ўжо не плакала. Усё ж такі з перамогай!..

* * *

Вясною сорак другога года яна сяк-так трымалася на сваім сямідзесятым. Хадзіла прысутулена, кульгаючы, з кійком. Сілы ўжо не было, а мужнасць яшчэ засталася.

Нашы суседзі, некалькі хат цераз вуліцу, зноў пасварыліся. Ды так, што гэта ўжо з хаты выйшла на вуліцу, нарыў смуродам прарвала на ўсіх бліжэйшых. Сёння, падумаўшы пра той час, можна здзіўляцца прычыне іхняй сваркі, варажнечы. З-за зямлі, якой ужо не пагражала калектывізацыя. Маючы галаву, можна было і тады, у акупацыю, дадумацца да вельмі простага — якая тут калатнеча, якая дзяльба наўме, калі на свеце такое страхоцце?..

А нарыў прарвала. Ен выспяваў спакваля, з зімы, з таго часу, калі маладзейшы брат гаспадара прыехаў з Мінска, дзе ён жыў з грамадзянскай вайны. Першы раз пабыў тыдзень, паехаў. Напрадвесні прыехаў зноў — і не спяшаўся ад'язджаць. Яму трэба было, больш бяспечна, пабыць як найдаўжэй не там, дзе яму штосьці, відаць, пагражала. Але ён, маўклівы па характары ці з патрэбы, брату і братавай нічога не тлумачыў — проста жыў у іх, пакуль жылося, дый хлеб еў не за так, памагаючы ў гаспадарцы, балазе не забыўся яшчэ на сваёй чысцейшай рабоце ні цэпа, ні сякеры, ні сахара.

Брата і братавуху пачаў забіраць неспакой, падазрэнне, што ён гэта хоча, мосціцца тут, каб забраць сваю палавіну зямлі, якая ўсе дваццаць год пры Польшчы была толькі іхняй. Гэты пякучы нарыў, скула растрывожанай небяспекай уласнасці прарвала самым агідным чынам — здрадай... У адзін звычайны, рабочы, сонечны дзень, калі сады цвітуць, а людзі возяць гной пад бульбу, з мястэчка прыехалі конна тры паліцаі.

Немец шырозным фронтам стаяў далека адгэтуль на ўсходзе, яшчэ і ціснуў, пёр на той усход далей, а тут, у Заходняй, у глыбокім ды ціхім вясковым тыле, гаспадарылі свае. Нядаўнія свае, хлопцы з сялянскіх хат, з суседніх вёсак, пад камандай аднаго толькі жандара, паслугачы з чужою зброяй у руках, якія былі ўжо неаднойчы акрываўлены. Першыя паліцаі прымалі ўдзел у ліквідацыі актывістаў — і тых, што пры панах былі ў камуністычным падполлі, і тых, пераважна з беднаты, што пасля Верасня таксама дапамагалі іначыць жыццё на савецкі лад. Іх, пад камандай немцаў, якія прыехалі з раённага гарадка, вешалі, стралялі, секлі ім галовы шаблямі. Большасць паліцаяў, кожны ў сваю пару, служылі ў польскай арміі, са зброяй былі знаёмы. Хто з уланскім карабінам і шабляй, хто з пяхацінскай вінтоўкай ды штыхом. А тут жа, у мностве кінутай у адступленне зброі, былі яшчэ і пісталеты. У панскім войску з

пісталетамі хадзілі старшыя унтэры ды афіцэры. Цяпер наган ці ТТ мог начапіць кожны бобік. Адчуванне ўлады, здаўна знаёмай служывым мужчынам «силы оружия», напаўняла і перапаўняла мелкія душы яшчэ адной разнавіднасці двухногага са зброяй. І крыві прыбывала. Пасля першай масавай акцыі — расправы з актывістамі, прыйшла другая, яшчэ больш масавая — вынішчэнне яўрэйскага насельніцтва ў мястэчках н'ваколля. А потым ужо былі толькі паасобныя катаванні і расстрэлы, рэдкія, як для забавы, каб не забыцца, як гэта рабіць. Адзін з найбольш старанных ды ўмелых казаў тады, і гэта пайшло па людзях жахам і агідай: «Страляю — і хочацца!..»

Дык вось гэта ён з двума іншымі, падначаленымі яму, прыехаў тады, па сігнале расправіцца з яшчэ адным бальшавіком.

Калісьці, і так нядаўна яшчэ — і шэсць, і чатыры, і два гады таму назад, — хлопец ён быў як хлопец, і проста кавалерам быўшы, і спраўным уланам у водпуску, прыходзіў у нашу вёску гуляць, і калі чым адрозніваўся ад каго іншага, дык нейкім ледзь не дзявочым голасам і рэдказубым хіхіканнем. Ён быў равеснікам нашага Мішы, нават цёзкам яго, лез, ліпнуў у дружбу, заходзіў з хлопцамі і ў нашу хату.

Тады, вясною сорак другога, наш Міша з жонкай і маленькім сынам жыў ужо ў суседняй вёсцы. Колю, старэйшаму, гаспадару з дваіма дзецьмі, і мне, яшчэ дзецюку, які пасля ўцёкаў з Нямеччыны начамі пісаў ці пачатае перад службай у польскім войску, перад вайной і палонам, ці новае што, зусім патаемнае,— нам з Колем сустракацца з такім знаёмым было зусім недарэчы. І мы на вуліцу не выйшлі.

Выйшла яна, наша маці.

Я глядзеў праз акно, адзін у хаце. Як сёння бачу старую — ссутуленую, з кіёчкам. Кульгае, спяшаецца, як заўсёды спяшалася на ўсё патрэбнае, важнае.

Мне не адразу стала зразумелым, што гэта яна туды, дзе крык на суседнім двары. Не памятаю, ці быў тады страх за самую яе, ці сорам, што мы з братам, які ці затуліўся недзе на панадворку, ці з жонкай і малымі на агародзе за хлявом, і я, што стаю ў хаце, не затрымалі старую; пачуцці гэтыя заварушыліся ў душы цяпер, калі запісваю,— і страх, і сорам, уперамешку з цвярозай развагай, заднім розумам, з такой адлегласці ў часе.

Пра тое, што было далей, на тым двары, — тут ужо мае ўяўленне зыходзіць з расказу таго засядзелага мінскага госця. Пасля вайны сяды-тады прыязджаў на радзіму, але не ў сваю вёску, а да швагра ў

суседнюю, дзе жыў і наш Міша. Не помсціў брату з братавай... Ды я спачатку не пра гэта.

Наша маці, калі паліцаі, спешыўшыся на вуліцы, на двары білі яго нагайкай (яшчэ адна традыцыйная «сила оружия») і прыкладамі двух карабінаў,— маці ішла на іх ад незачыненай брамкі, і яны — нечаканасць? — спыніліся. Сусед-мінчанін пра гэта потым расказваў нам так:

— Кіёк свой узняла і, трасучы ім на таго, што з нагайкай: «Міша, Міша, пабойся Бога!..»

Так яно спрадвеку называлася — сумленне, чалавечнасць — словам Бог, з вялікай літары.

Тады яны, паліцаі, былі ападлелымі яшчэ не да самага дна. Гэта прыйшло пазней, пад восень і зімой, калі і ў нашай мясцовасці як след заварушыліся парызаны, калі да подласці здраднікаў далучыўся страх за ўласную скуру, калі яны сваю злосць на «бандытаў» пачалі зганяць на іх матках і дзецях.

І вось той крывавы Міша... Ажно горка і гідка, што ён таксама так называўся... Тады ён сваё задание выканаў толькі напалавіну. Нават і біць спыніліся — пакрычалі яшчэ і паехалі.

Стары мінчанін, я паўтараю, не помсціў брату і братавай, стаў вышэй над уласніцкай цемрай. Аднак і пачужэў ім да канца. А нашаму Мішу ён, у швагравай хаце, і сам, як наша маці ў той яго найстрашнейшы дзень, таксама ўжо стары, нямоглы, з няпоўнай чарачкай у дрыготкай руцэ гаварыў:

— Ну, Міхаіл Антонавіч, за светлую памяць цёткі Настулі!

І не адзін раз так — за многа пасляваенных гадоў. І ці ж гэта не гордасць за маці?

* * *

А яшчэ і такое, што мне здаецца таксама адзнакай сілы, можа, нават і мужнасці,— гумар, які ў яе быў, як там часамі ні жылося.

Нядаўна ў вёсцы (не нашай) мне расказвалі, як раней, пры Польшчы, з ляснога хутара, з-за Нёмна сюды прыходзілі на вечарыны пяць братоў з адной хаты. «Усе як адзін, толькі і розніцы, хто маладзейшы, хто старэйшы». З бутэлькай. Вып'юць у сваёй цёткі, прыйдуць на танцы, іхойдуць польку, дык нікому тутэйшаму ў той хаце ўжо і месца няма. «Сённячы, праўда, клуб у нас, але ж і танцаваць ужо няма каму. А тады!..»

Наша старэнькая маці казала калісьці, таксама ўжо даўно:

— Пяць хлопцаў у мяне, і ўсе адзін на аднаго не ггадобныя. Кожны сам у сваю с... удаўся!

І смяялася.

І ніколі, быўшы дарослымі,— заатэхнік, святар, земляроб, будаўнік, літаратар,— ніколі мы ўсе пяцёх разам пры ёй не сабраліся.

1988

## РУКА

Тое драўлянай царквы ўжо даўнавата няма. Ей не месца было сярод высозных, уладна разлогіх гмахаў, яна даўно муляла вока бацькам горада, і яе паспелі неяк неўпрыцям прынясць, а месца па ёй загладзіць асфальтам раней, чым прыйшлі гады пэўнай еваболы і ў справах набожнасці. Яна мне помніцца не купаламі, якія сяк-так узвышаліся, не асцярожным звонам, які і мне даводзілася пачуць, а сінявата-шэрай сціпласцю ашаляваных сценаў. Гмахі навокал раслі, узвышаліся, а яна понізу каля іх тулілася, нібы вясковая бабуля ў гарадской радні, што вунь ажно як павыходзіла ў людзі.

У кніжцы-альбоме «Мінск на старых паштоўках» царква тая на адным з дарэвалюцыйных «відзікаў» нават крыху вышэйшая паміж драўляных асабнякоў, наўзбоч мураванак на дватры паверхі, слупоў з дратамі ды ліхтарамі. А на пярэднім плане, вышэй за царкву, бачыцца каменная капліца, з нейкай прэтэнзіяй на ўзорыстае хараство. Перад капліцай, яшчэ бліжэй да таго, хто глядзіць на паштоўку, рэдкія слупкі дэкаратыўнай агароджы, а далей, перад царквой — штакетнік ледзь не вясковага плота.

На маёй пасляваеннай памяці ані капліцы, ані іншага невысокага акружэння царквы ўжо не было. Дарэчы будзе тут працытаваць з подпісу пад паштоўкай:

«Цяпер на гэтым месцы сходзяцца вуліцы Савецкая, Мяснікова і Бабруйская. За капліцай стаяла невялічкая царква, узведзеная для чыгуначнікаў у 1890 г.»,

Апошні сказ у подпісе хоча прывесціся асобна:

«Абодва будынкі *не захаваліся*».

Такая знаёмая ды нявінна-сучасная прастата!

Ажно маленькі сын успомніўся. Разбіў прыгожы кубачак з чайнага сервіза, і маці, вядома, злуецца, ушчувае распусніка, а той, амалі ужо трохгадовы філосаф, спакойна, важна адказвае, адкапыліўшы ніжнюю губку:

«Ен — вельмі — любіць — ражбівацца».

Так, царкву тую, трэцюю на ўвесь наш, тады блізу мільённы, горад называлі Чыгуначнай — гэта я памятаю. Калі яна збудавана — даведаўся з подпісу пад рэпрадукцыяй са старое паштоўкі. Калі ж

захацела разбіцца — у памяці не засталося. Скажам, як адыход у вечнасць тое вясковай бабкі, што дажывала каля знатнай ды апаратнай радні.

Па тым, што царква «не захавалася», не была знішчана яшчэ перад вайной, можна меркаваць, што яна і тады працавала. Зрэшты, не ведаю, а спытацца няма ў каго. А што ў гады гітлераўскай акупацыі ў царкве гэтай званілі і маліліся, як і пасля вайны гадоў некалькі, гэта ўжо мне вядома: што чуў, што бачыў. Хоць сам зайсці ў яе і не сабраўся.

Як і ў найбольшую з трох у сталіцы. Праўда, аднойчы перад Вялікаднем, на ўсяночную, якая хораша помніцца мне з вясковамястэчковага маленства, паспрабаваў праціснуцца цераз знадворны натоўп і — не змог. Быў толькі неяк у Аляксандра-Неўскай на Вайсковых могілках. Потым прыйшлося ўбачыць у газеце, што гэтая невялікая і прыгожая святыня, у аслоне высокіх дрэў, пабудавана па адным праекце з той, што красуецца каля крывава-славутай балгарскай , Шыпкі (проста шыпшыны), у вёсцы з такою самай назвай. Прыемна ўспомнілася, як я там быў, і на гістарычных скалах, і ў даліне, каля царквы, куды больш велічнай, чым яе мінская адпаведніца.

У Чыгуначнай царкве, пакуль яна жыла, меўся, вядома, і стараста.

І я яго ведаў. Не так, каб зусім ці бліжэй, а ведаў, чый ён цесць. Нават адзін раз сустрэўся і вітаўся за руку ў сямейным застоллі. Зяць яго, вядомы навуковец і паэт з першага пакалення беларускіх савецкіх інтэлігентаў, гадоў некалькі быў маім суседам па пад'ездзе. Асаблівай блізкасці не было, проста прыязнасць людзей адной прафесіі, са значнай розніцай ва ўзросце і ў чынах. Але аднойчы, калі ў кватэры на два наверхі ніжэй было нейкае святкаванне, запрасілі і нас. Жонка пайсці не змагла, і я спусціўся ў той шумны вечар адзін.

Вечар — як вечар, людны, вясёлы. А я з яго найвыразней запомніў сівавусага, статэчнанегаваркога дзядка — таго царкоўнага старасту. Сядзеў, маўчаў, выходзіў моўчкі, моўчкі вяртаўся. А потым настаў той час, калі дзядок з кішэні сваёй камізэлькі выцягнуў за ланцужок спрадвечную цыбуліну ці не славутага «Паўла Бурэ», паглядзеў на стрэлачкі, схаваў свой непадкупны жыццямер і з поўным правам на гэта сказаў... Каму сказаў? — сыну, з сям'ёй якога прыйшоў, і зяцю, гаспадару, хоць абодва яны і на сёмым дзесятку, і акадэмікі, фізік ды лірык, а тым не менш:

«Хлопцы, пара канчаць. Заўтра рабочы дзень».

Як той шум аціхаў ды канчаўся — не помніцца. А да вобраза статэчнага дзядка трэба дадаць, што жыў ён на ўскраіннай, ледзь не

вясковай вуліцы, ва ўласным драўляным доме з добрым агародам і садком. Набожны быў і адпаведна пісьменны. Нават як быццам і вершы пісаў, меў свае дзякасці з рыфмай. Адзін з сяброў яго зяця казаў, што як толькі стары адразу ці неўзабаве пасля вызвалення Мінска ў ліпені сорак чацвёртага дачуўся пра шчаслівы лёс дзяцей, якія з сем'ямі былі ў эвакуацыі, у старасты натхніліся радкі:

Дорогие деточки, увы,
Вы остались живы!..

Чаго добрага, а то і хутчэй за ўсё, гэта прыдумана самім зяцевым сябрам, чалавекам весела-з'едлівым, аднак да вобраза дзядка яно і прыліпае, калі яшчэ да гэтага бачыць і акуляры, і абмакнутае пяро...

Усё яно так, але ж мне трэба гаварыць пра іншае, сур'ёзнае, дзеля чаго і ўвесь уступ.

І гаварыць мне трэба ўжо зусім адкрыта.

...Адзін з маіх незаменных, ціхі, глыбокі Фёдар Янкоўскі, які на працягу звыш трыццаці гадоў абдорваў мяне шчырай увагай і спагадай, даў мне калісьці тэмы дзвюх мініяцюр. Пра мацярок — сваю і чыюсьці, найдаражэйшае з успамінаў. А тры гады таму назад, калі я па яго запрашэнні выступаў у педінстытуце, якому ён, падзвіжнік роднага слова, аддаў і ледзь не палавіну жыцця, і найшчырэйшы максімум высакароднай душы, і нястомнасць багатага розуму, Фёдар Міхайлавіч узрадаваў мяне яшчэ адным пры знанием, якое — ужо ўслед яму — успамінаецца з асаблівай удзячнасцю. Адкрываючы тую літаратурную сустрэчу, ён расказаў прысутным тое, пра што я забыўся і тут шчасліва прыгадаў, а ён, аказваецца, памятаў, лічыў у нашых адносінах вельмі значным. Назваў адну з тых тонкіх драбніц, якія і паміж блізкімі людзьмі могуць стаць вырашальным зрухам у той ці ў іншы бок. У нашым выпадку пайшло ў бок станоўчы. У свой час я быў ці не самым першым чытачом яго мовазнаўчых работ, машынапісаў «Беларускай фразеалогіі» і кнігі прыказак. Пасля ён, таксама для першай праверкі, папрасіў мяне паглядзець рукапіс лірычных запісаў, названых ім «абразкамі». І вось праз два дзесяцігоддзі, ды на людзях, перад выкладчыкамі і студэнтамі, прафесар палічыў патрэбным у сваёй сяброўскай аб'ектыўнасці падкрэсліць тое, што пачуў ад мяне, першага чытача яго не мовазнаўчых ужо, а мастацкіх старонак. Нешта не літаральна так, як я яму сказаў, а па галоўным значэнні такое вось помніцца цяпер з яго заўсёды нягучных, нетаропкіх слоў:

«Сам ты вось, браце, кажаш як след, што табе трэба сказаць, і я ад цябе больш нічога, каб як ні прасіў,— не вазьму. Пішы сам».

Я і не браў, а ён не даваў. І далей чыталі адзін аднаго ў рукапісах, дзяліліся ўражаннямі, заўвагамі, пры натуральнай пільнасці да той далікатнай мяжы, якая падзяляе творчыя абавязкі аднаго і другога.

Так, дружа мой,— яшчэ далека была наша разлука, ніхто пра яе не думаў, а ты ўжо, як быццам у нейкім глыбінна-цьмяным прадчуванні, пасля не адной (ведаю па сабе) і зноў нялёгкай спробы пачаць, нарэшце, пісаць тое, чаго ніхто за цябе не напіша, што не павінна застацца незапісаным, ты мне яшчэ адну тэму вырашыў падказаць, уступіць, для магчыма належнага вырашэння.

Ідзе толькі пяты месяц пасля твайго пакутніцкага адыходу, твая сяброўка, былая памочніца, яшчэ ўсё не можа без болю, з патрэбным спакоем узяцца за разбор тваёй рукапіснай спадчыны. Яна тут незамянімая, бо найлепш чытае твой прыгожы, але нялёгкі почырк, тым больш дробненькі, чым больш ён быў «для сябе», на далейшую ўласную расшыфроўку. Пасля, чытаючы старонкі ды староначкі, паметкі ды паметачкі (словы — твае), яна, магчыма, знойдзе нешта і ў сувязі з драўлянай царквой і яе сівавусым старастам — нейкі накід або задание самому сабе, а то і намёк пра перадачу тэмы...

Не ведаю пакуль нічога. Ведаю толькі адно. , Што вось ужо ці не два гады ў маім «тэмніку» значыцца тое, што ты мне гаварыў, без намёкаў ды адыходаў, адкрыта перадаючы сваё. Як быццам мне лягчэй будзе справіцца з тым, што перажыў ты сам, што бачыў, чуў у той жахлівы час, і дзень, і хвіліны. І я баюся, што будзе ў мяне не тое, не так. Але ж і мне ўжо няма калі лішне спадзявацца на больш адпаведны настрой, нельга і гэта адкладаць, як адкладаю нямала таго, што «ўразіла розум і сэрца» і не павінна пайсці ў нябыт.

І вось я пішу, запісваю тое, Што ты мне расказаў, што табою было перажыта на ўсю душэўную глыбіню.

Аднаго не ведаю, і ўжо няма з кім удакладніць, калі яно, тое здарэнне, адбылося — перад тваёй сямейнай трагедыяй ці пасля таго, як у полымі хаты, што так нядаўна стала родным гняздом для цябе, першай жонкі і першай дачушкі, якія загінулі ў варожым агні, а ты не змог ім памагчы?.. З якім цяжарам у душы ты, салдат недарэчнай фінскай вайны, недастрэлены снайперам, недамарожаны за дзень ва ўпадзіне паміж карэльскімі сумётамі, ты, што цудам быў знойдзены ў акачанелай непрытомнасці і да лета вылежаны ў шпітальных пакутах, потым адпушчаны ў сельскую школу, з якое пайшоў у шынельную масу, ты, надзелены крыўдна кароткім шчасцем кахання, бацькоўства, любімай працы... Гэтага я не чуў ад цябе тады, калі ты дзяліўся са мною тэмай,— пра гэта я потым пачаў разважаць, а тады не стаў распытваць, а гаварыў табе, каб не спяшаўся адступаць сваё,

запаветнае. А потым, калі и так мала — сёння бачыцца — наведваў цябе то дома, то ў бальніцы, пра такое распытванне і не падумалася...

Пасля таго мінскага акупацыйнага адвячорка, калі ты, падпольшчык, балюча адчуў, што ўжо, здаецца, і выследжаны, ты будзеш яшчэ і ў сядле, на партызанскім кані, на якога цябе, маладога настаўніка з мужна затойванымі пакутамі ад франтавога ранення, будуць часамі падсаджваць сябры, а яшчэ пазней, на працягу пасляваенных гадоў, таварышы па разведцы і цёткі ды дзядзькі ў падмінскіх вёсках будуць з пашанай — найбольшая ўзнагарода! — гаварыць пра тваю колішнюю спакойную мужнасць і светлую чалавечнасць...

Гэта будзе пасля. Яно і было. Я гэта чуў таксама, і неаднойчы. А тады, у сорак другім, у сваім адчайным асочанні, ты, можна думаць, талковы, непалахлівы сувязны, а знешне няраслы, чарнявы і, няцяжка ўявіць, збялелы юнак,— ты, стараючыся не пабегчы, не замітусіцца, спыніўся перад дзвярыма драўлянай царквы. Яна была пустая, дзень несвяточны, і навокал людзей не было. Каля дзвярэй — твой момант! — стаяў пажылы чалавек. Усаджваў ключ у вялікі навясны замок. Няспешна, па-гаспадарску замыкаючы святыню перад тым, як самому падацца дахаты.

За трыццаць з гакам гадоў, што я цябе бачыў і чуў, нешта не помніцца тэайго крыку. Заўсёды ціха, па-твойму кажучы, акуратна. Ну, а тады? Тады ты сказаў чалавеку сваё так ціха, так блізка, што ён цябе адразу зразумеў. За словамі, так незвычайнымі, неадпаведнымі ды нечаканымі чалавеку адчулася страшная праўда. Ты папрасіў, каб ён не замыкаў, што ты хочаш тут памаліцца. Ен павярнуў свой ключ у іншы бок, асцярожна выняў са скабы дужку замка, ціхенька рыпнуў старымі дзвярыма — і ты ўвайшоў у пустую царкву...

Сёння мне трэба пашкадаваць, што за столькі пасляваенных гадоў не сабраўся зайсці ў тую несамавіта-сціплую будыніну, каб найбліжэй да праўды ўявіць, як ты — напэўна ж упершыню, бо камсамолец, настаўнік — апынуўся ў той падіконнай, сцішнаватай пустаце і цішыні, гатовай адгукнуцца і на шэпт, у тваёй магчымай пастцы, за сценамі якое смяротная небяспека, ад якое ты абаронены толькі даверам да невядомага чалавека з ключом...

Тут у мяне яшчэ большае шкадаванне, бездапаможная прыкрасць,— што не змагу ні праверыць, ні здагадацца, як доўга ты там прабыў, дзе заставаўся староста: ці ён замкнуў цябе на нейкі час, ці за та бой увайшоў, можа, нават схаваў у надзейным месцы, хоць бы — Божа, даруй! — за алтар, ці гаварылі вы штосьці, ці зводдаль былі, пакуль ты «маліўся», ці ён выглядаў на двор?.. Ен жа, вядома, таксама

баяўся, разгублены быў, здагадваўся, хто ты... Тут я ў здагадках бездапаможны. А прыдумваць прыблізнае — не хачу.

Мне, відаць, дастаткова тое апоры, якую меў, перш за ўсё, ты — безвыходны і рызыкоўны давер да чалавека, той давер, тая ўдзячнасць, якія ты там адчуу і вынес адтуль у прыцемак зруйнаванага горада, з-паміж руінаў якога табе яшчэ трэба было звышасцярожна ды звышрызыкоўна выбрацца — ці зусім, у вёску сваю, ці да адной з надзейных явак...

Пішу, і вось якраз цяпер успомнілася, як я, ратуючы блізкага чалавека, тапіўся ў моры і сам. Пайшоў на дно і яшчэ вынырнуў, нават падумаў: лягу на спіну, перадыхну і тады... І лёг, здавалася, як трэба, але ізноў пацягнула на дно... Аднак жа вынырнуў яшчэ!.. І тут убачыў, што ад берага да мяне шыбуе — і гэта заўважылася! — аднарукі мужчына. Потым даведаюся, што ён марак, капітан, франтавы інвалід. А тады, даплываючы, ён закрычаў:

«Толькі не цапай!»

Цапнуў мяне ён сам: сваёй учэпістай за маю, ніжэй плечука. І гэтага хапіла — я ажыў, я адчуў сябе на вадзе!..

Параўнанне, відаць не надта далёкае. Бо і ў мяне ж быў страх. Ці не апошні? І не толькі за сябе...

Чалавечае разуменне. Чалавечны давер. Адчуванне рукі.

Гэта пайшло з маім сябрам ад тое сціплай царквы назаўсёды.

Потым ён перадаў яго — далей панесці — мне.

1990

## СМЕХ І СМУТАК

Пяць слухачоў вячэрняга універсітэта марксізму-ленінізму, мы паехалі на некалькі дзён у Дом творчасці Каралішчавічы, каб як след падрыхтавацца да экзамену па кароткім курсе гісторыі партыі. Натхніцеля і сааўтара гэтай кнігі ўжо не было, але настрой яго часу яшчэ трымаўся. Быў май пяцьдзесят трэцяга года. Дый няёмка было нам здаваць абы-як. Найстарэйшаму, Тарасу Хадкевічу, было за сорак, наймаладзейшаму, мне, трыццаць шосты. Пасярэдзіне былі такія дзецям бацькі, як Антон Бялевіч, Дзіма Кавалёў, Валянцін Зуб. Пішу імёны, і спыніцца трэба: ужо ніводнага з хлопцаў няма... Як няма і тых двух старэйшых, што сядзелі ў сваіх пакоях амаль пустога на той час двухпавярховага драўлянага дома: Петруся Броўкі і самога Якуба Коласа.

Дзядзька Якуб прыехаў сюды ўпершыню, ён не любіў гэтай нядаўняй зімовай паляўнічай дачы, зверху аддадзенай пад

літаратурную творчасць, называў яе Камарышчавічы. Зудлівай камарэчы тут, на нізкай лясной паляне, хапала аж надта. Былі і яшчэ сякія-такія нязручнасці чалавеку старому, нямогламу — скажам, вада толькі халодная, проста крынічна-сцюдзёная, а ў туалеце голыя унітазы. Прашу прабачэння за «натуралізм»: далей драбніца гэтая будзе неабходная.

Сабраўшыся ў адзін пакой, найбольшы, мы, слухачы, калектыўна зубрылі ды абмяркоўвалі свой найадказнейшы прадмет, стараліся адолецьтакі славуты чацвёрты раздзел...

Над вечар аднаго з тых аўральных дзён Броўка вельмі дарэчы запрасіў нас да сябе, на другі наверх, паслухаць новыя вершы. Яны былі розныя, але крытыкі з нашага боку ён не пачуў, дый не надта чакаў яе — старшыню свайго мы ведалі. Гасціннасць яго — таксама. Знайшлася чарка, закуска, пайшла гамана. І да песень дайшло б, балазе гаспадар спяваць любіў і мог, дый памагчы яму маглі б.

Ды тут пачуўся стук у дзверы і ўвайшоў — наш паважаны патрыярх.

Трыццаць пяты гадок ідзе з таго вечара, і я не буду ляпіць недарэчную п'есу з той нашай гутаркі. У памяці найлепш замацавалася першая Коласава фраза:

— Во, а пра старога Якуба і забыліся!

Нягучна сказаў, трохі нібыта для смеху, а больш дык з прыкметнай крыўдай, зразумелай таму, хто і сам да нечага падобнага дажыў.

Апроч гэтых слоў я запомніў два моманты, з-за якіх усё і запісваю.

Расказваючы нам сёе-тое з трыццатых гадоў, дзядзька Якуб сказаў, што тры гады ён спаў не распранаючыся — чакаў... Змест гэтых слоў, нібыта зразумелых, так і застаўся тады глыбей не раскрытым.

Другое — гутарка пра Дастаеўскага.

Не памятаю, як ён пачаў яе, якія словы былі, помніцца тон — мудрае захапленне сапраўднага інтэлігента з народных нізоў, настаўніка і паэта, якому было што сказаць. Пра веліч мастака, псіхолага і гуманіста.

Гэта ўжо сёння мы глядзім на аднаго з найвялікшых у рускай і сусветнай літаратуры праз два яго Зборы твораў — дзесяцітомны, першы пасляваенны, і праз магутны акадэмічны трыццацітомнік. Гэта ўжо сёння можна ўбачыць у кнігарні той ці іншы раман ці аднатомнік Дастаеўскага, яшчэ не куплены якім-небудзь нямодным чытачом. У тыя пасластлінскія дні пра Дастаеўскага гаварылася

яшчэ ўсё ледзь не шэптам, а кнігу яго можна было пазычыць па блізкім знаёмстве.

Найглыбейшы ідэйны папрок, які я пачуў пра свой раман «Граніца» на яго першым абмеркаванні ў канцы сорак дзевятага года, гэта была «дастаеўшчына», «корпанне ў чалавечых перажываннях». Забягаючы на тры гады наперад ад той нашай гутаркі ў Каралішчавічах, згадаю люты знамянальнага пяцьдзесят шостага, ленінградскі музей Някрасава. Мы з жонкай распраналіся ў гардэробе, самавітая музейная бабуля нешта вязала і слухала радыё. «Вот те и на! — раптам не вытрымала яна, як да сваіх, звярнуўшыся да нас. — А сама ведь видела, как мемориальную доску ломом-то отдирали!..» Перадача ішла — подых свабоды! — пра Дастаеўскага.

Я ведаў яго, так сказаць, па-заходніцку. Са старых выданняў і па польскіх перакладах. «Записки из мертвого дома», «Преступление и наказание», некаторыя апавяданні, «Gracz», «Bracia Karamazow». Так нямала і так далека не ўсё! Ведаў няхай не падпольна, але ж, як аказалася потым, і збоку ад генеральнага курсу.

Адтуль, ад гэтага курсу, ішла і Броўкава нязгода з Коласам. Кіраўнік пісьменніцкай арганізацыі, у прысутнасці яе маладзейшых прадстаўнікоў, прытым, за выключэннем аднаго, беспартыйных, ён не згаджаўся, пярэчыў, прыгладжваў. Як мне яно і дагэтуль чуецца — на ўзроўні тагачаснага «Блакнота агітатара», не вышэй. Аднак афіцыйна, настойліва, нават са страсцю свайго прывычнага аратарства. Пра «рэакцыйнасць», «Бесаў», «мракабесаў». Ажно стары замоўк, а потым заключыў дыскусію, па-свойму, па-народнаму грубавата, знішчальна:

«Філосафы!.. Каб я сюды не прыехаў, каб днушкаў вам не нарабіў, дык вы так і с... на голым холадзе. А ў філасофію лезеш!..»

Мы, слухачы, смяяліся потым. Там стрымаліся, не пазіраючы адзін на аднаго. І на збянтэжанасць гаепадара.

* * *

У маі пяцьдзесят чацвёртага года, перад святам трохсотгоддзя ўз'яднання Украіны з Расіяй, у Кіеве праводзілася Дэкада рускай літаратуры і мастацтва. Глебка, Шамякін і я былі гасцямі гэтай дэкады. Потым Шамякін паехаў дахаты, а мы з Пятром Федаравічам засталіся на асноўнае святкаванне.

Пачуўшы, што ў беларускай урадавай дэлегацыі прыехаў і Якуб Колас, мы пайшлі адведаць яго. Стары вельмі ўсцешыўся:

— Як гэта добра, хлопчыкі, што вы прыйшлі!..

Усцешыўся і наш прэзідэнт, які па-суседску, са шлейкамі на беленькай расшпіленай кашулі, зайшоў неўзабаве ў Коласаў нумар.

Аказваецца, што яму, дзядзьку Якубу, якому і семдзесят другі год, і няможацца, і сапраўдны народны паэт,— яму трэба напісаць выступленні тром членам беларускай дэлегацыі. Самому таварышу прэзідэнту, бо звыш прамовы, напісанай яму ў дарогу рэферэнтамі, трэба і яшчэ адна. Сакратару аднаго з абкомаў партыі, чалавеку на трыццаць з гакам маладзейшаму за паэта. І работніцы тонкасуконнага камбіната, наогул ледзь не праўнучцы дзядзькі Якуба па гадах. Зрэшты, і прэзідэнт быў за яго маладзейшы на цэлы сыноўні век.

Аднак над усім гэтым панавала такая привычная, неабвержная логіка: калі ты пісьменнік, дык і пішы!

Згодна з гэтай логікай вядомае выступленне «Кліч да беларускага народа» ў сорак першым годзе за Янку Купалу, яшчэ ж і не шасцідзесяцігадовага, напісана знясіленым нядаўнімі катаваннямі і турмой Кузьмою Чорным.

«Мне і самому гэта нядобра,— праз тры гады пісаў пра гэта Чорны ў дзённіку, яшчэ ў ваеннай Маскве,— але тады не напісаць гэтага я не мог». І так яшчэ, ясней: «... Я не маю магчымасці пісаць свае раманы... як чорнарабочы, пісаў і пішу бесперапынна публіцыстычныя тэксты без подпісу, яны друкуюцца, устаўляюцца ў тэксты рэзалюцый антыфашысцкіх, скажам, з'ездаў, друкуюцца ў зборніках Купалы, як купалаўская публіцыстыка... А я хаджу спрацаваны і хворы і жыву ў катуху...»

Успамінаюць таварышы, што Купала Чорнага любіў, называў Кузёмкай...

А «логіка», аднак, сваё рабіла.

Калі б тады, у Кіеве, бачачы той вялікі клопат, у якім апынуўся наш дзядзька Якуб, дазволіць сабе невялічкую злараднасць, яна была б у нечым і справядлівая. Бо гаварылася ж, што і за яго таксама часам пісалі так званую публіцыстыку.

Адзін толькі прыклад, уласны. І забягаючы наперад.

У пяцьдзесят пятым годзе, да стагоддзя з дня смерці Адама Міцкевіча, я склаў, а Танк, пры маім некаторым удзеле, адрэдагаваў даволі салідны, а галоўнае — першы ў нас аднатомнік паэзіі вялікага земляка. Прасілася салідная прадмова. Броўка ўзяў мяне, я — карэктуру кнігі, і мы пайшлі да Коласа. Ён згадзіўся, але ж па той славутай логіцы: «Напішыце хто-небудзь, я падпішу...» Пятрусь Усцінавіч, дзякуй яму, не тады, а калі мы з ім выйшлі, прапанаваў зрабіць гэта мне. Каб такое было сказана пры дзядзьку Якубу, я, бадай, і згадзіўся б. Другой просьбай, з якою мы з Броўкам звярнуліся

тады да старога, была просьба толькі мая: падключыць і мяне ў групу пісьменнікаў, выбраных для паездкі ў Польшчу, на Дэкаду беларускай літаратуры і мастацтва. Мне вельмі хацелася паехаць, і я быў вельмі ўдзячны дзядзьку Якубу, калі ён дапамог у гэтым. Аднак мне так прыкра было ад таго, упершыню, не ад іншых, а самім пачутага: «я падпішу», што перад Броўкам я даволі легка адмовіўся.

Зноў працытуем;Чорнага: «...але тады не напісаць гэтага я не мог». Не маглі і мы адмовіць у клопаце любімаму, паважанаму дый нямогламу чалавеку. Пятро ІФёдаравіч узяў прэзідэнта, я ткачыху, а пра сакратара абкома, калі мы выйшлі з гасцініцы, я па няспеласці сваёй еказаў, што пайшоў ён, сам хай напіша. Лагодны філосаф Глебка усміхнуўся:

«Ты думает, што так ужо ў яго і атрымаецца?..»

Атрымалася б, змог бы як-небудзь, але — быў заняты.

На раскошным перадсвяточным Крашчаціку, пад белай духмянасцю расквітнелых каштанаў, недзе гуляла незнаемая нам абодвум маладзенькая ткачыха. А таварыша сакратара мы неўзабаве, зусім нечакана, засталі з жонкай у павільёне «Морозиво»...

* * *

«Агульнае, грамадскае, народнае — памёр Колас, пакінуўшы нашу літаратуру без галавы.

Праўда тое, што ён некалькі гадоў фактычна не прымаў удзелу ў літаратурным жыцці, не цікавіўся моладдзю па-горкаўску, пісаў ніжэй сваіх магчымасцей...

Але праўда таксама і тое, што ў асобе яго мы страцілі сапраўднага старшыню нашага саюза, да каго можна было звярнуцца ў цяжкую хвіліну, страцілі любімага народам, найлепшага пісьменніка і заступніка нацыянальных інтарэсаў.

Любоў да Коласа... Увечары народ пачаў націскаць на ашклёныя дзверы Палаца культуры, а назаўтра заліў плошчы і вуліцы Мінска...

Як нам пойдзе цяпер — колькі пошласці ўздыме галаву, які размах возьме бяздарнасць?..»

Гэты мой запіс надрукаваны толькі ў перакладзе, у «скандальным» нумары «Немана» за люты семдзесят восьмага года.

Патрэбны, лічу, некаторыя тлумачэнні.

«Сапраўдны старшыня».

Гэта праўда, што старшынямі пасля вайны былі спачатку Лынькоў, потым Броўка, аднак яшчэ большая праўда ў тым, што за імі, афіцыйнымі, мы адчувалі галоўнага — Коласа.

«Звярнуцца ў цяжкую хвіліну».

Я звяртаўся толькі адзін раз, калі мяне — я паўтараюся — не уключылі былі ў пісьменніцкую групу на дэкаду ў Польшчы. Дзядзька Якуб тады адразу моўчкі зняў тэлефонную трубку, набраў нумар сакратара ЦК і сказаў туды сваё «я прашу». І гэтае «прашу» мне помнілася ў тым незабыўным падарожжы, помніцца жыва і сёння.

«Любоў да Коласа...»

Так у «Немане» скарацілася: «каб прайшло». А ў рукапісе больш: «Любоў да Коласа пераўзышла ўсе меркаванні начальства».

Напярэдадні пахавання я ўвечары быў на дзяжурстве каля труны. Хто яшчэ з пісьменнікаў? Выразна помню толькі К. Крапіву. Чарга на плошчы ў Палац культуры пасоўвалася вялікая, і калі было аб'яўлена па радыё, што развітанне спыняецца, людзі націснулі на дзверы ледзь не да звону шкла. Хоць і звон, здаецца, быў. Сам міністр унутраных спраў, які хацеў спыніць той націск сваім аўтарытэтам, уціснуты быў назад у вестыбюль, бездапаможна крутануўся, неяк устаяў на нагах, але рэшата генеральскай шапкі зляцела з лысай галавы і пакацілася па падлозе. Ен сам дагнаў яго і, спачатку абцёршыся хустачкай, надзеў. Не памятаю, кім і куды было пазвонена, хто дазволіў, але развітанне прадоўжылі.

Здымаючы гэты запіс з кнігі «Трохі пра вечнае», што якраз тады, у лютым семдзесят восьмага, была ў карэктуры, дырэктар выдавецтва сказаў мне, як вопытны апаратчык, што каб людзей было многа — трэба ўмець гэта арганізаваць. Вячэрні націск не быў арганізаваны. Дый тое, што ў ясны жнівеньскі будзень народ «заліў плошчы і вуліцы Мінска» — справа далека не толькі ў спраўнай гарсавецкай арганізацыі. Сёння мне думаецца, што такога натуральнага шматлюддзя ў нашым горадзе не было нават у дзень сталінскага пахавання. Такое ўражанне засталося. Трэба толькі ўдакладніць: залітыя былі дзве плошчы, Цэнтральная і Перамогі, і вуліцы таксама дзве, шырозны праспект і шырокая Даўгабродская.

«Як нам пойдзе цяпер?..»

Адзін з галоўнейшых па пахаванні, сакратар ЦК КПБ Гарбуноў, прамаўляў па звычаі не на роднай мове, з банальна-стандартным «наш дорогой Константин Михайлович Якубколос!..».

Чыноўнікі прарочылі: «Памёр Якуб — і ўсё памрэ». А гэтай вясной, праз трыццаць з гакам гадоў, пісьменніцкі пленум разглядаў і такое пытанне: пісьмо, з якім Якуб Колас хадзіў у ЦК партыі ў дзень сваёй смерці, павінна быць нарэшце апублікавана. Пісьмо — пра становішча з роднай мовай. Копію яго я чытаў значна пазней, і трэба сказаць, што тон пісьма, тон просьбы, не зрабіў на мяне вялікага ўражання. Стары, нямоглы чалавек прасіў, сам занёс тое прашэнне ў

найвышэйшую інстанцыю, а там было важнае паседжанне, ніхто з галоўнейшых яго не прыняў. І тое смеласці, тое крыўды, непавагі сэрца Паэта не вытрымала: вярнуўшыся дахаты, ён памёр.

«Колькі пошласці ўздыме галаву...»

Адзін з нашых гаварыў на абмеркаванні таго нумара «Немана», што пошласці хапала і пры Коласе. А я, пішучы гэта пад свежым уражаннем вялікай народнай страты, меў на ўвазе тую пошласць, што ў справе нацыянальнай хоць трохі зважала на яго аўтарытэт...

1987

## АСЦЯРОЖНАСЦЬ

Уладзімір Дубоўка. Магутны і прыгожы чалавек. Нікому, здаецца, так не падыходзіла б вялікая сівая барада, пры светлых, чыстых вачах, харошай, прыязнай усмешцы, нетаропкай, разумнай гутарцы пра адзіную справу жыцця.

У лістападзе семдзесят першага года, у падмаскоўным Доме творчасці Перадзелкіна, мы з ім сустрэліся нечакана і, за сябе скажу, вельмі прыемна. Неяк вечарам, у вестыбюлі, сам-насам пад фікусамі, я спытаўся пра тое, што даўно цікавіла:

— Уладзімір Мікалаевіч, і як вы маглі столькі гадоў вытрымаць за кратамі, у лагеры, у тайзе?

«Столькі гадоў» — амаль што трыццаць.

— У тайзе? — перапытаў ён, крыху падумаўшы. — Калі мае таварышы грэліся каля вогнішча, я націраўся снегам.

— Ну, а разбуджаны інтэлект? А пакуты ад немагчымасці пісаць, хоць бы чЫтаць?

— Я так навучыўся быў адключацца, што ў самай цясноце, у самым найбольшым шоламе ды гвалце мог анічога не чуць, думаць сваё.

Толькі думаць... Таму, хто меў святое права, усе падставы для таго, каб думкі яго, пачуцці, палёт уяўлення ішлі да роднага народа, да ўсіх людзей у паэтычным слове.

Што вельмі не падыходзіла гэтаму асілкупрыгажуну, дык гэта яго асцярожнасць.

Сваё шасцідзесяцігоддзе ён адзначаў у невялікай групе родных і сяброў, куды меў прыемнасць быць запрошаным і я. Колькі мы там ні стараліся ўзняць тост за яго ці за мілую, інтэлігентную, таксама шматпакутную Марыю Пятроўну, юбіляр касаваў усе нашы намеры неабвержным: «Таварышы, за нашу родную партыю!..» або «Таварышы, за наш родны ўрад!..».

Няхай сабе на юбілеі — сціпласць, няхай сабе і тое, што ў Мінск ён не пераехаў з Масквы таму, што там быў арыштаваны.,Што ж, беражонага і Бог як быццам беражэ...

Хоць і вярнулася шчасце выхаду словам у людзі, хоць і прызнанне пэўнае прыйшло — ён быў адзначаны Літаратурнай прэміяй Янкі Купалы,— хоць, нарэшце, і тыя стараццелі, што залічылі яго калісьці ў славутыя «нацдэмы» (канвой лаяўся: «Эй, вы, надземы!..»), прыціхлі пасля XX і XXII з'ездаў партыі і толькі памармыталі, як «последняя туча рассеянной бури»...

Так адзін з кіраўнікоў нашай культуры, які, скажам дарэчы, на адкрыцці Тыдня літаратуры і мастацтва ГДР выпусціў у абыходак гістарычнае: «Іаган Себасцянавіч Бах», падпісваючы Дубоўку дыплом лаўрэата, сказаў: «Жыве яшчэ нацдэм гэты, маць яго...» І не каму сказаў, стары ўжо чалавек, а сакратару камітэта па прэміях, паэту таксама з пакутнікаў.

Лішне асцерагацца ўжо не было чаго. А Дубоўка яшчэ ўсё асцерагаўся. І гэта, крый мяне Бог, не папрок яму, а яшчэ раз пра тое, як гэта страшна было — тады!

На ўсесаюзным пісьменніцкім з'ездзе, у чэрвені восемдзесят шостага, жывой была трывогаЧарнобыля — і ў выступленнях, і ў гутарках. Таленавіты ўкраінскі паэт і добры таварыш, Іван Драч, здзівіў мяне і трохі збянтэжыў сваім изданием нашай паэзіі. Ен спытаўся, як дакладна гучыць трэці радок класічнага верша Дубоўкі «О Беларусь, мая шыпшына...». Пакуль мы з Іванам удакладнялі гэта пад яго саркастычнавясёлую ўсмешку (такога ды беларусу не памятаць!), я быў уражаны, як гэта дзіўна, сцішна падыходзіць да трывогі часу!..

О Беларусь, мая шыпшына,
зялёны ліст, чырвоны цвет!
У ветры дзікім не загінеш,
чарнобылем не парасцеш.

Цяпер я здзіўлена і прыкра думаю пра тое, што і гэты цудоўны верш сваёй маладосці выдатны паэт Уладзімір Дубоўка ў загартаванай нягодамі песні сталасці палічыў патрэбным паправіць. Праўда, ён уключыў яго ў свой двухтомнік 1965 года выдання, але ж і перакрыў, так сказаць, паправіў другім варыянтам, удвая большым і добранадзейна рытарычным.

«Правіў» таксама іншыя вершы, паэмы...

Дарэчы будзе тут адступленне. Пра Змітрака Бядулю. І ён таксама нямала нашкодзіў сваёй паэзіі. Калі Ян Рушча рабіў другую, пасля зборніка «Вершэ бялорускe», ужо больш анталагічную кнігу нашай

паэзіі, ён, як і раней бывала, пісьмова папрасіў у мяне дапамогі — прыслаць вершы Бядулі. Жывеш, чалавек, і часамі здаецца, што нешта ўсё-такі ведаеш. А тут я ўпершыню пачуў, што Бядуля ў дарэвалюцыйны час не выдаў сваёй паэзіі кнігай. Не ведаў ці не памятаў я таксама, як яна выдавалася ў савецкі час. Першы том даваеннага Збору твораў Бядулі я змог знайсці ў жонкі паэта. Усцешаная тым, што гэта пойдзе па-польску, Марыя Ісакаўна пайшла нават і на такую рызыку — даверыцца пошце, паслаць той адзіны том у Лодзь. Пакуль выслаць, я кнігу збольшага пераглядзеў, што прыгадваючы, як чытанае калісьці, скажам, у хрэстаматыі Дварчаніна, а з чым знаёмячыся ўпершыню. Паэзія нашаніўская, з густой біблейскай прымессю, што і зразумела для яе аўтара. Як мне, дык Бядулева проза, яго апавяданні, больш чым паэзія, падабалася і ў юнацтве, і падабаецца сёння. Але справа не ў гэтым. У тым унікальным томе хтосьці разумны не паленаваўся над радкамі алоўкам панапісваць іх ранейшае гучанне. Пара ўноўваючы цвёрдасць друку з алоўкавай мяккасцю пісьма, і я выразна бачыў у большасці вы падка ў мастацкую перавагу ранейшага.

Пішу гэта ў вёсцы, і ў мяне няма, на жаль, магчымасці занядца праверкай, як жа зрабіў паважаны Ян Гушча, добры паэт і перакладчык культурны, неабыякавы. Ні анталогіі, зробленай ім, няма пад рукою, ні таго тома, які, зрабіўшы карысную справу, шчасліва вярнуўся з Лодзі ў Мінск. Зноў жа — галоўнае тут у іншым. Я хачу нагадаць пра яшчэ адну сумесь асцярожнасці... проста са страхам.

Ніхто, наколькі мне вядома, не запісаў вясёлага вуснага апавядання Міхася Лынькова пра тое, як сумнапамятны Бэнда вярнуўся неяк з камандзіроўкі ў калгас і расказваў пра адну сваю класава-патрыятычную ўдачу. Нехта там ад яго ўцякаў і, загонены ў тупік, схаваўся... у падвешанай калысцы. Няраслы быў чалавек, а то і са страху так скурчыўся, і дзяругай завесіўся. Таварыш Бэнда знайшоў яго і там. : Чалавек у акно, а высокаўпаўнаважаны са сваім славутым пісталетам, якога ён і на пісьменніцкіх сходах не здымаў, тут закрычаў: «Стой, враг народа, не уйдешь!» Лынькоў, разумны, вясёлы Ціханавіч, любіў і паважаў Бядулю. Але ж і ведаў ён, які смелы быў яго сябар, і разумеў прычыны яго «захаплення» тым Бэндавым подзвігам. І мне не перадаць тут, пісьмова, з якім бядулеўскім гучаннем ды мімікай ён ажыўляў тое захапленне: «Які сюжэт! Уй, дарагі Лука Апанасавіч, які сюжэт!»

Тады было каго баяцца: Бэнда, сам дастаткова страшны, быў далека не адзін у полі воін.

А чаго ж так асцерагаўся... скажам проста: чаго так баяўся, вярнуўшыся, наш дарагі, высокакультурны Уладзімір Дубоўка?

Час настаў іншы, аднак страху было перажыта, назапашана вельмі нямала...

Мы з ім абменьваліся кнігамі, зрэдку пісалі адзін аднаму, яшчэ радзей сустракаліся, то ў Мінску, то ў Маскве. Мала было сустрэч, але таму яны, відаць, і помняцца выразней.

У канцы шасцідзесятага года ў Маскве праходзіла Дэкада ўкраінскай літаратуры і мастацтва. Ад беларускіх пісьменнікаў гасдявалі там Вітка, Макаёнак і я. Як ні цікавыя былі ўкраінскія вечары, мы знайшлі-такі час наведаць Дубоўку дома. Ад тое харошай сямейнай утульнасці мне ярка, цёпла помніцца перш за ўсё сам гаспадар. За сталом, пасля памяркоўнага пачастунку, па-хатняму вольна і сціпла, у паэтычным настроі ён, румяны ды срэбрабароды прыгажун, чытаў нам свае новыя пераклады з Байрана. І думалася, слухаючы, і гаварылі мы потым пра тое, якая сіла таленту, эрудыцыі, глыбіннай прастаты ў гэтым нашым старэйшым таварышу, якое гэта злачынства было — у самым пачатку яго ўздыму затармазіць той уздым, спыніць бязглуздымі абвінавачаннямі ў тым, шо так неўласціва было і яму, як і многім яго сябрам па страшным лёсе!..

У адной з апошніх кніг Дубоўкі, у зборніку 'празаічных апавяданняў-успамінаў «Пялёсткі», ёсць характэрная, у сэнсе асцярожнасці, мініяцюра, з не менш характэрным загалоўкам — «Даехалі ў добрым гуморы...».

На адной з паўночных рэк, на змрочна тужлівым, небеспадстаўна трывожным шляху ў невядомае, на адкрытай для ўсіх нягодаў палубе прымітыўнага параходзіка адзін няшчасны чалавек, мужчына, пашкадаваў яшчэ больш няшчаснага чалавека, жанчыну, што да слёз ацэпла на холадзе, — ён узяў са свайго, улетку на зіму разлічанага, багажу суконную коўдру і даў жанчыне накрыць плечы ў адной лёгкай блюзачцы...

У чалавеку гэтым я бачу Дубоўку. Чырвонаармейца грамадзянскай вайны, студэнта Брусаўскага інстытута, блізкага сучасніка Ясеніна і Маякоўскага, паэта божай міласцю...

А сам ён, Дубоўка, піша так, што чалавек той, — як быццам не ён, сасланы паэт, і яна не такая самая пакутніца, а проста нейкія падарожныя... Чаму? Навошта так — на семдзесят трэцім годзе жыцця, ужо, напэўна ж, падумваючы і пра адыход, што наступіў праз тры гады?.. Я напісаў старому пра такое мае недаўменне. Але ён мне пра гэта ў сваім пісьме не стаў гаварыць, толькі падзякаваў за добрыя словы.

Падарожныя... На пальцах дзвюх рук, ды з недаборам, можна палічыць іх, нашых пакутнікаў-«падарожных». Тых, што вярнуліся. І пра свае «падарожжы» гадамі пісалі, павінны былі пісаць да суму і болю не тое, не так. Хто з іх, бачыце, быў бухгалтарам, хто цесляй, хто настаўнікам, хто геолагам. Проста ўзялі ды перайшлі на іншую прафесію, на заработкі адлучыліся на пэўны час. На трыццаць, дваццаць пяць, дваццаць гадоў — такі сабе перапынак у творчай працы...

Колькі трагічна значнага, патрэбнага сучаснікам і гісторыі, праўдзе жыцця пайшло і можа пайсці ў нябыт!..

Не папрок гэта — крыўда і жаль.

1987

## АДЗІН НЕ СКАЖАШ

Два блакнотныя запісы. Першы. Улетку семдзесят восьмага: «Варшаўскі шлях». Яшчэ раз, у добрым перакладзе Хелемскага, перачытаў у кнізе ўспамінаў пра Твардоўскага. А нядаўна дома перачытваў яго ў арыгінале. Культура і душа. І легенда ці не, што ў бальніцу да Аркадзя, у семдзесят другім годзе, прыходзілі высокія наведвальнікі, спачатку Машэраў, які сам не змог, прыслаў Пілатовіча, у якога хапіла ідэйнасці, каб сказаць: «І навошта вам тут, у такой добрай рэчы, Твардоўскі? »

На што адказ:

«Сяброў і мёртвых я не пра даю». Успомнілася наша з ім гутарка ў вагоне, па дарозе з Масквы, калі ён пытаўся, ці ісці яму з рэдкалегіі «Нового мира». Яго нерашучасць. А ласка ў начальства была ўсё-такі страчана: з-за паэмы. А потым самотная, нават трагічная смерць. Што ж, «jeder sterbt für sich allein»[1]. Аднак у замку-санаторыі зімовым досвіткам упасці на парозе медпункта, неяк дабрыўшы да яго з адзіночнай палаты наводшыбе, на даўнім крапасным вале, — гэта аж надта сцюдзёнае «allein»...

І зноў жа — яму ўжо нічога не скажаш.

Другі. У восемдзесят пятым: Зноў успомнілася, як мы вярталіся з Куляшовым з Масквы. Выпадкова сустрэўшыся на пероне, дамовіліся, што я зайду ў яго вагон,— Аркадзь запрасіў.

Ен быў адзін у двухмесным купэ. Нешта хутка, без усякіх уступаў, спытаўся, што яму рабіць — ісці з рэдкалегіі «Нового мира», у знак

---

[1] «Кожны памірае сам-насам» (ням.).

пратэсту супраць дзікага «вызвалення» Твардоўскага, ці заставацца там?

Я сказаў яму проста, з сяброўскай грубасцю: «Ты будзеш..., калі не пойдзеш».

Ен не пайшоў. Ен напісаў «Варшаўскі шлях». Сумна: такое — ды наўздагон!..

Агульны наш з Куляшовым сябар казаў мне нядаўна, што Твардоўскі пад канец іхняй з Аркадзем дружбы пахаладзеў да яго. Марыя Іларыёнаўна Твардоўская расказвала мне ў Дубултах, на зімовай ранішняй праходцы, як Аляксандр Трыфанавіч цяжка перажываў тое, што ніхто з рэдкалегіі так і не запратэставаў супраць яго зняцця. Гамзатаў нават пытаўся па тэлефоне, ці друкавацца яму ў «Новом мире» пасля таго, што адбылося, на што Твардоўскі сказаў насарогу:

«Гэта справа твайго сумлення». Баюся памыліцца, але як быццам і яшчэ адзін з сяброў пытаўся...

Не асуджаю, пішучы. Бо гэта ж вам не тады, калІЧэхаў і Караленка пратэставалі за Горкага!..

Слізняк Аўчарэнка спытаўся неяк, што я, відаць, у крыўдзе на яго «за некоторые критические замечания» пра мой раман. А ў мяне не хапіла ахвоты сказаць, што я проста не паважаю яго за выступленне на тым сходзе, дзе здымалі Твардоўскага, дзе Аляксандр Трыфанавіч — такое чулася — сказаў у сваім апошнім слове: «Какие же вы все животные!..» І толькі. І хопіць.

Цяпер — пачатае ў восемдзесят грэцім, з крыху пазнейшай пdefinitely паметкай: «Не проста гэта — дакранацца да чужога жыцця!»

Няпроста, аднак...

З прадвесня сорак чацвёртага года, з партызанскага лесу жыве ўва мне і адгукаецца самае першае ўражанне ад паэзіі Куляшова — радкі «Ліста з палону», прачытаныя ў нейкай брашуры, прысланай з Вялікай зямлі, іх высокая паэтычная прастата:

> ...А след тваіх ботаў убачу —
> Пацалую яго і, як баба старая,
> Заплачу...

У заслужанай славе ў трыццаць гадоў ён быў першым пасляваенным рэдактарам «Літаратуры і мастацтва». Цягнула і мяне туды, да той вясёлай творчай атмасферы з новымі сябрамі, перш за ўсё Таўлаем і Вялюгіным, з такім рэдактарам, які хоць і з'яўляўся на службу не надта рэгулярна, але ж і прыносіў туды, і чытаў свае новыя вершы. Зноў жа помніцца іх абаяльная прастата, шчаслівa неразгаданы сакрэт яе ў радках:

Жыў ляснік са сваёй леснічыхай
каля завадзі ціхай...

Або такое — ад радасці волі, імкнення да маладое несмяротнасці:

Шумі, шумі, дуброва!
Звіні, звіні, падкова!..

Прастата ад народнасці і культуры.

Я быў шчаслівы яго ўвагаю да мяне. Ён быў адзін з першых чытачоў таго, што з Налібоцкай пушчы, самалётам, цераз карэспандэнта «Правды» А. Л. Земцава, які прылятаў у наш Стаўбцоўскі міжрайцэнтр, было паслана ў Маскву, Максіму Танку. Машынапіс аповесці «Жывое і гніль», на аснове якое і яшчэ адной, незакончанай, праз дваццаць год я напісаў «Птушкі і гнёзды». Чытаў ён, ужо ў Мінску, і іншае з таго, што я асмельваўся даваць, і гаварыў са мною пра мае вершы і апавяданні.

Калі памёр Кузьма Чорны, у самотнай кватэры Міхася Лынькова, што была заадно і першай пасляваеннай рэзідэнцыяй Саюза пісьменнікаў, некалькі старэйшых таварышаў уголас рэдагавалі некралог. Я нагадзіўся на гэта, і Аркадзь сказаў сакратару партыйнай арганізацыі Модалю, які ў гэтым даваенным званні зусім нядаўна вярнуўся ў ватнічку з далёкага мірнага тылу, далучыць і мой подпіс. Двойчы сказаў. Той Модаль двойчы мудра не пачуў, і гэта мне, пры ўсім адчуванні свайго месца, было балюча. Бо ўжо і ад Чорнага, сустрэўшыся з ім на вуліцы і дома ў яго, некалькі дзён да канца, мне давялося пачуць спрыяльную шчырасць старэйшага.

Сваё месца, адчуванне дыстанцыі — гэта карысныя адчуванні. Аркадзь старэйшы за мяне на тры няпоўныя гады, яму было, як на сённяшні мой падлік, толькі трыццаць. Але здаваўся ён мне намнога старэйшым. Бо і рана пачаў друкавацца, і нямала зрабіў, у яго ўжо быў вопыт майстра, што я не мог не паважаць.

Дарэчы, як і ў адносінах з Таўлаем, хоць з Валянцінам, настолькі ж, як і Аркадзь, старэйшым за мяне, я адчуваў сябе адразу неяк свабадней. Не быў ён ні рэдактарам, ні лаўрэатам. А можа, і не толькі па гэтай прычыне...

Як яшчэ адзін знак Аркадзевай прыхільнасці прыемна ўспамінаю наш, можна сказаць, сакрэт. Вясной пяцідзесятага года, у лясной і сонечнай працавітай раскошы Каралішчавічаў, ён папрасіў мяне прачытаць яго празаічны рукапіс. Пачатак рамана ці аповесці «Зорка Канікула». У прозе той не было Куляшова — так сабе аблегчана белетрыстычная канструкцыя. Ён і сам гэта адчуваў, ад сумненняў і даў прачытаць, а я не пакрывіў душою. З задумы той пасля выйшла паэма «Толькі ўперад!», таксама не з мацнейшых.

У залатым, пагодлівым верасні таго самага пяцідзесятага, у тых самых Каралішчавічах, дзе мы і працавалі, і ў грыбы хадзілі, і захапляліся гарадкамі, Аркадзь прачытаў у «Полымі» маё «Забалоцце», і мы з ім не проста пагаварылі пра гэтую рэч, а разам некалькі разоў меркавалі пра яе дапрацоўку. Ен параіў аповесць у «Новый мир». Яна там не з'явілася, хоць і не была канчаткова адхілена — гэта другая гаворка, тут не да месца. Прыемна, што ў тыя лютаўскія дні пяцьдзесят першага года я пазнаёміўся з магутным, складаным і ў набліжэнні прыемна простым Твардоўскім, цану якога я ўсё больш тады пазнаваў, і з яго другім намеснікам, Сяргеем Смірновым, яшчэ не «брэсцкім», для мяне ў той час прыкметным толькі сваёй чалавечнай сціпласцю.

О так, няпроста гэта — дакранацца да другой душы!.. Чалавек пражыў цэлае жыццё, а ты бярэшся пісаць пра яго, калі яго ўжо няма, калі ў цябе сцішнаватае права, дараваная лесам магчымасць успамінаць...

Адзін і так усяго не скажаш, бо кожны, хто ведаў яго, бачыў і чуў па-свойму.

«Ах, які ён быў тады малады!..» Наіўнасць старых — здзіўляцца таму, што звычайна было і звычайна прайшло ў свой час. Аркадзя лічылі і ганарлівым. Ен такім трохі і быў, і здаваўся. Успамінаецца з выступлення Твардоўскага на Другім усесаюзным з'ездзе маладых пісьменнікаў: «Калі малады чалавек да таго яшчэ і таленавіты, дык чаму яму трохі і не зазнацца?» Другі на месцы Куляшова зазнаўся б і не так. Хоць і былі ў яго ў той час таксама і нялёгкія хвіліны... Было, аднак, і адчуванне ўласнай годнасці, і, там дзе трэба, нармальная прастата.

Пасля ваеннага і адразу пасляваеннага трыумфу быў у яго перапынак, нават і спад, праца ў кіно з вельмі прыблізным поспехам. Калі я аднойчы, ці не на Нарачы, дзе мы лёталі, сказаў яму пра гэта, ён вельмі проста адказаў: «А што мне рабіць? Жыць жа трэба». У графаманаў ні пера^ынку, ні спаду не бывае, канвеер коціцца роўненька, спраўна...

А потым і свята было, святы дзень паэзіі, калі ён,новы Куляшоў, чытаў нам — Лужаніну, Караткевічу і мне — вершы са сваёй «Новай кнігі». Зноў жа ў Каралішчавічах, вясной шэсцьдзесят другога, у яго любімым ценевым пакоі, з радасным сонцам на соснах, за вялікімі вокнамі. Ранняя была тады вясна. У мяне запісана, што ўжо 13 красавіка я пачуў салаўя. І такое затсана, тыдні праз два: «Як гэта добра, што на нашай мове ёсць яшчэ і паэзія Куляшова!..»

Неяк Аркадзь расказваў, што, ідучы на сустрэчу са сваімі каўказскімі сябрамі, ён проста баіцца: ці зможа гаварыць з імі пра іх паэзію, пра новыя вершы з надежным напалам хвалы. Бо, праслухаўшы новае, проста сказаць, што ты, браце ці дружа, напісаў добры верш або добрыя вершы — гэтага будзе ледзь не да абразы мала...

Пра яго «Цунамі» я гаварыў у дакладзе, двойчы прачытваў паэму для трох абзацаў пра спалучэнне майстэрства і глыбіні. Пра «Хамуціуса» паспеў сказаць яму асабіста. А пра «Варшаўскі шлях» не сказаў... На яго юбілейным вечары, атрымаўшы слова для тоста, я штосьці гаварыў пра яго, але цяпер здаецца, што не так, не тое... Цяпер сказаў бы яму больш.

Да болю часамі шаблонная фраза: «У асобе яго мы страцілі...» Не, у асобе Аркадзя Куляшова мы — у самым шырокім, трывалым гучанні гэтага мы — набылі, маем паэта, значэнне якога надзейна мацуе вечнасць нашага слова.

1987

## КАНЬЯК

Пра аднаго з маіх добрых знаёмых у скупой энцыклапедычнай нататцы значыцца: «Яўрэйскі і рускі сав. пісьменнік». Пра другога, значна старэйшага, сказана дакладней: «Яўрэйскі сав. пісьменнік... Пісаў на яўр. і руск. мовах».

Кажуць, што кошцы смех, а мышцы слёзы. Я не быў у той час ні мышкай, ні кошкай, я не надта каб разумеў, чаму і навошта так адбывалася. «Той час» — канец саракавых гадоў, калі некаторыя нашы яўрэйскія таварышы па прафесіі вымушаны былі перайсці з роднай мовы на рускую. Такога загаду ім не было, проста — ох, як няпроста! — не стала дзе друкавацца, не стала свайго чытача. Гавару пра некаторых, а не пра ўсіх таму, што іншыя, з найбольш таленавітых, або апынуліся там, дзе не пішуць, а сёй-той, хоць і дома, а зусім прымоўк, як аказалася, да лепшага часу, які і наступіў у палавіне пяцідзесятых гадоў.

Маладзейшы з маіх добрых знаёмых, з каго я пачаў, гэта яўрэйскі паэт, а потым рускі празаік Рэлес. Павольны, удумлівы Гірш, з адчуваннем гумару, ён мне прыемна нагадваў тых местачковых яўрэйскіх хлапчукоў і дзецюкоў, якіх я блізка ведаў са школьных і пасляшкольных гадоў у сваім старадаўнім Турцы. Дарэчы, Грыша быў мне сяды-тады патрэбны як кансультант, для праверкі таго, што я памятаў і сам. Гэта — у аповесцях «Ніжнія Байдуны» і «Золак, убачаны

здалёк», там, дзе гаворка і пра яўрэяў, удзельнікаў і нашага вяскова-местачковага інтэрнацыянала. Калі мы з Гіршам пазнаёміліся, яго паэзіі на роднай мове я не ведаў. і Чытаць па-яўрэйску не ўмею. Значна пазней, скажам, калі ён чытаў свае вершы на вечары памяці, Шолам-Алейхема, я — на слых, праз пэўнае веданне нямецкай са школы і з палону, і па малеча-юнацкай памяці сябравання з яўрэйскімі аднагодкамі — сяк-так разумеў яго ідыш, адчуваў там паэзію. З рускай прозай яго я знаёмы па кнігах, нават па рукапісах, якія ён даваў мне «на арбітраж», калі нешта туга ішло ў часопіснай ці выдавецкай рэдакцыі. Руская мова яго, што мне сказаць яму шчыра было цяжкавата, нагадвала прыблізны пераклад. : Чытаеш і возьме ды ўспомніцца першы Гіршаў прыход у «Вожык», з першым рускім фельетонам, з першай фразай у тым фельетоне: «Любовь Иванович сидел задумавшись...» Ад майго веселастрыманага недаўмення ціхманы Гірш тады збянтэжыўся і заўвагу прыняў без усякага гумару...

Лягчэйшым у аптымізме (а куды ж дзявацца!) быў той другі пісьменнік, які пісаў «на яўр. і руск. мовах», нашмат старэйшы за Гірша і мяне, няраслы і рухавы Цодзік Даўгапольскі. Смешнага ў яго рускай мове было значна больш, чым у Рэлеса, і заўвагі мае ён прымаў як нейкае адкрыццё, ледзь не радасна, з нязменным «ну» ў належнай інтанацыі.

— Цодзік Львовіч, вы ў сваёй аповесці напісалі, што «колхозник убил кабана и закоптил все четыре окорока».

— Ну.

— А у кабана окорока только два.

— А еще два?

— Это лопатки.

— Ну?!

І нічога пра тое, што ў выдавецтве павінны былі б і заўважыць, рэдактары або карэктар, — чатыры там ці толькі два кумпякі.

Старому было ўжо добра за семдзесят, а жартаваць ён любіў па-маладому. І зноў жа трэба прыводзіць яго гутарку ў той рускай мове, з якою яму было як быццам зусім свабодна і легка.

— Умер Нохим. Ента пошла потом на его могилу. Стала плакать: «Уй, Нохим, Нохим, ты оставил меня, ты оставил детей!..» А уже, вы понимаете, была весна, и на кладбище много деревья, и на деревьев пела эта самая птичка, которая говорит «ку-ку». Кукавка, о! А на могиле Нохима уже выросла травка, и эта травка была уже высокая, и она, вы понимаете, пошевелила у Енты под колено. И она уже не плачет — она уже с улыбкой, и она говорит: «Уй, Нохим, Нохим, и ты еще не забыл свои старые шуток!..»

Ен быў дапытлівы, прыязна гаваркі, даверлівы. Неяк зімой, у Доме творчасці «Каралішчавічы», здарыўся мне выходны дзень. Калі не пішацца, нешта «зацялося», але не хочацца і ныць, бо ёсць і выхад са становішча — добрая кніга. У мяне ў той дзень быў толькі што атрыманы па падпісцы том горкаўскай перапіскі. З ім я, пасля снедання і праходкі па светлым, аснежаным лесе, прысеў у холе на другім паверсе, у сонцы і спакойнай адзіноце. У іншых пакоях таварышам працавалася, і ў доме была цішыня. Аднак не доўга я тым снакоем цешыўся. Цодзіку Львовічу сёння, відаць, таксама не працавалася. Ен выйшаў са свайго пакоя, пастаяў, гледзячы на мяне (я гэта толькі адчуваў, не хочучы адрывацца ад светлай старонкі), а тады пачаў хадзіць па дывановай дарожцы — ад лесвіцы да балконных дзвярэй, праз шыбы якіх у хол лілося сонца і віднеліся прыснежана-зялёныя верхавіны соснаў. Аднак цяргілівасці на такую раскошную маўклівасць у Цодзіка Львовіча хапіла ненадоўга. Ен спыніўся каля мяне з пытаннем:

— Скажите, откуда вы родом?

Чытанне — чытаннем, але ж і павага да старасці трэба таксама.

— Вы ведаеце такі гарадок — Мір?

— Ну.

— Дык вось я з вёскі каля гэтага Міра.

Стары надаўся па сваёй дарожцы ад мяне далей: Там, каля спуску лесвіцы ўніз, павярнуўся, зноў падышоў.

— Скажите, а вы знали, что в этом Мир был ешибот, еще лучше по-нашему — ёшиве?

— Ведаў, чаму ж не.

Пайшоў. Спыніўся зноў.

— Скажите, а где вы тогда работали?

Цікаўнасць пачынала ўжо напрыкраць. Але і смяшок абудзіўся ў душы.

— Якраз у тым ешыбоце.

— Ну?!

Здзіўлбнне проста радаснае. А я кажу далей:

— Мы называлі яго духоўнай акадэміяй. І студэнты былі з усіх краін свету, і Чалавек з восемсот. Людзі вясковыя называлі іх проста падрабінкамі.

Стары зноў топ-топ. Паўза трохі даўжэйшая. Спыніўся.

— Скажите, а что вы там преподавали?

Мой патаемны смяшок вядзе ману далей.

— Вышэйшую матэматыку.

— Ну?

— А чаму «ну»? Трэба ж было працаваць.

Пасля наступнай тупатлівай паўзы — далейшая распрацоўка тэмы.

— Скажите, а как же вы были преподаватель, вы что — знаете нашего языка?

— Я ж вам казаў, што там былі студэнты з многіх краін, вучыліся на розных мовах. Я выкладаў па-польску, польскім яўрэям.

На гэты раз стары, дзякуй яму, хадзіў, маўчаў даўжэй. А потым зноў спыніўся, з рукамі за сабой, з вялікім, як у вясёлага гнома, носам, неяк нават горда вытыркнутым наперад, і закончыў наш дыялог, бадай, найвышэйшай ацэнкай, ужо без «ну» і «скажите»:

— Вы знаете что? Вы совершенно иначе предстали в моих глазах!..

Не ведаю, да канца нашага з ім сужыцця не ўведаў: паверыў ён мне ці не, сказаў яму хтонебудзь ці не, што з майго боку гэта... от сабе бяскрыўдная містыфікацыя, каб весялей было. Калі і так, дык ён, і сам чалавек вясёлы, зразумеў гэта і не пакрыўдзіўся.

Апошняя наша сустрэча была для мяне зусім нечаканай. Улетку пяцьдзесят дзевятага года, у Ленінградзе. Я не ведаў перад гэтым, і даўгавата, дзе Цодзік Львовіч і што з ім, і здзівіўся, калі наш магілёўскі ленінградзец Павел Кабзарэўскі, чалавек энергічны і дабрадушны, сказаў, што сёння нам абавязкова трэба зайсці да Даўгапольскага — з ім ужо, можна сказаць, зусім дрэнна.

Нам адчыніла незнаемая мне жанчына, з проседдзю, у сціпла дагледжанай статнасці. Дзіўна было ад думкі, што яна — дачка маленькага, шчуплага, пацешна-вясёлага Цоціка Львовіча. А гаварыла ціха, засмучана, бо як медык ведала ўсё. Але сказала, што ён будзе рады. І мы ўвайшлі з калідора ў пакой.

Стары ляжаў на пасцелі наўзнак, прыкрыты беленькай прасцінай. Яшчэ меншы, худзенькі і горда насаты.

— Папа, к тебе пришли.

Не расплюшчыўшы паўпадалых вачэй, не павярнуўшы носа, на здзіўленне, моцна спытаўся:

— Кто?

Дачка назвала нас. Нягучным і ашчадна чулым голасам яго найбліжэйшай істоты.

Тады — зусім ужо дзіўна, неадпаведна гучным, нібы камандным голасам — угару было пададзена другое слова:

— Конь-як!

Яна пагладзіла яго бязвольную руку на прасціне.

— Какой коньяк, папа милый, какой коньяк? Друзья навестить тебя заглянули...

А ён не сказаў больш нічога.

Хвілін праз некалькі мы ціха выйшлі.

Не ведаю, ці я тады, гледзячы на яго, падумаў так, ці гэта я цяпер, амаль праз тры дзесяцігоддзі, так думаю, перанёсшы сябе ў той час, у тое маўчанне. А ўсё ж хочацца гэта сказаць.

Уваходзячы ў савецкае літаратурнае жыццё, ужываючыся ў афіцыйную, газетную і кніжную мову, у многім адметную ад той, у якой я рос і пачынаў пісаць перад вайной, я з асаблівым нясмакам прывыкаў да двух слоў: не зорка, а «Звязда» — назва рэспубліканскай газеты, і «яўрэй» — слова не толькі для беларускай мовы ненатуральнае, але ж і такое, каля якога трэба хадзіць з найвялікшаю асцярогай...

На стыку дзвюх моў, польскай і рускай, дзе żyd. у адной і еврей у другой гучаць натуральна, кожнае на сваім месцы, заходнія беларусы да самага Верасня карысталіся спрадвечным і бяскрыўдным жыд, і не было ў гэтым ані крышку пагарды, варожасці. Жылі побач, як людзі з людзьмі, ацэньваліся па чалавечых якасцях, і звычайна, нармальна гучала народнае: «добры жыдок», «ласкавая жыдовачка», «дагледжанае жыдзянятка». І ніхто з тых, пра каго самога або пра блізкіх яго так гаварылася, не крыўдаваў за гэта, не бачыў у такіх словах таго, што на прасторах вялікай савецкай радзімы стала тым часам жупелам, пробным каменем добранадзейнасці, ды з многімі «вытекающими последствиями», калі хоць што трохі наадварот...

І тады, у Ленінградзе, ужо на дваццатым годзе зліцця Беларусі ў адну рэспубліку, трывалага прыросту яе да ўсёй сям'і народаў, я, ужо нядрэнна прывучаны да афіцыйна-ідэйнага, юрыдычна-пільнага «яўрэй», — я стаяў, глядзеў і думаў, як думала б у гэты ўрачысты момант мая найбліжэйшая — маці:

«Добры, вясёлы, цярплівы старэнькі жыдок. Вясёлы ды прыязны да канца, да апошняга слова — «конь-як» — як ні жылося яму, як ні пісалася з іншым, нібы вышэйшым акрэсленнем яго нацыянальнаай прыналежнасці — яўрэй...»

1987

## ЖЫТА І ВАСІЛЬКІ

У жніўні трыццаць дзевятага мы, польскія салдаты, цераз дзень спалі апранутымі, капалі акопы, узмоцнена займаліся, стаялі на граніцы. Трывожна адчувалася, што вайна непазбежная, што вораг

мацнейшы за нас. Цяжкія, сумныя дні, тым больш ночы. Не памагала і маладосць, якой належыць быць бесклапотнай.

Святамі з казармаў у Гдыню або да мора не пускалі.

У адну з такіх маркотных нядзеляў, калі я вяла і нават у гурце адзінока сноўдаўся па пляцы, здарыўся цуд. З радыёрэпрадуктара на слупе раптам прагучала знаёмае імя і палілася песня. Спяваў Міхал Забэйда-Суміцкі!..

Выконваў ён песню польскую, аднак я ведаў ужо тры гады, што гэта наш паляшук, бежанец першай сусветнай вайны, які воляю лесу цераз Харбінскую, а потым Міланскую кансерваторыі ўзняўся на вяршыню еўрапейскай вядомасці. У віленскай беларускай прэсе я чытаў пра яго, бачыў партрэт. У мяне быў дэтэктарны прыёмнічак з навушнікамі, і я, здаралася зрэдку, удзячна слухаў Забэйду ў роднай хаце.

Песні былі ў яго польскія, італьянскія, рускія, іспанскія... А ў тым міжнародным букеце — абавязкова і нашы. У такім акружэнні яны гучалі неяк асабліва хораша.

Пазнаёміліся мы праз дваццаць чатыры гады. У пачатку лета шэсцьдзесят трэцяга ён нарэшце прыехаў у Мінск з Залатое Прагі, дзе жыў з саракавога года. Ці эмігрант, ці хутчэй выгнаннік, калі мець на ўвазе недавер да яго з боку нашых уладаў.

Гастролі Забэйды былі сапраўды трыумфальныя. І ў сталіцы, і ў іншых гарадах Беларусі яго віталі шчыра і горача, часта стоячы, не адпускалі са сцэны доўга.

Асабліва светла помніцца заключым канцэрт, на які дзяўчаты прыйшлі-прыехалі з вёсак і гарадоў не толькі з кветкамі. Край сцэны яны заслалі перад спеваком нібы саматканай дарожкай — сіва-зялёным жытам з васількамі. Такога яму, трэба думаць, не было анідзе.

Тады мяне з Міхасём Іванавічам пазнаёмілі , Шырма і Танк, яго сябры яшчэ з Вільні. Калі мы абедалі ў рэстаране, я расказаў шаноўнаму госцю і пра тую песню яго, што загучала мне над казармамі.

Потым мы перапісваліся, я пасылаў яму свае кнігі, ён мне пласцінкі, і здавалася, як усім нам звычайна здаецца, што так яно і будзе вечна...

Яшчэ праз шаснаццаць гадоў, упершыню будучы ў Чэхаславакіі, я наведаў славутага і яшчэ ўсё апальнага земляка ў яго сціплай пражскай кватэры. Дзе і раяль на палавіну адзінага пакоя, і кніжак многа, і нотных сшыткаў, і кветак. Мы прыйшлі да Міхася Іванавіча ўдвух з нашым агульным сябрам, даўнім другам нашай літаратуры

Вацлавам Жыдліцкім, прафесарам Карлавага універсітэта, для многіх у Беларусі проста мілым Вашакам. Трохі пазней забегла адна з вучаніцаў прафесара Забэйды, маладзенькая чэшская слэчна, паненка, якой наш маэстра прывіваў любоў і да беларускай песні.

Ен быў стары ўжо і нямоглы. Але — як заўсёды — абаяльны ў чалавечым набліжэнні душ.

Такім ён і жыве ў маёй памяці, сяды-тады хвалюючы сваім непаўторным голасам.

Ды хіба ж толькі мяне!..

...Таленавітая і шматпакутная Ларыса Геніюш, у свой час таксама пражанка, у пасмяротна надрукаванай «Споведзі» піша:

«Вельмі нейк інтэрнацыянальна адносіўся да беларускай справы і Забэйда-Суміцкі».

На ўвазе маецца Прага ў гады гітлераўскай акупацыі. І гучыць гэта ў Ларысы Антонаўны нібы дакор. А мне гэта блізка.

Вось перачытваю яго пісьмы, і амаль у кожным хочацца нешта адкрэсліць на полі. Столькі ў іх святла і цеплыні, спалучэння роднага з агульналюдскім.

«У садзе, л я якога жыву, цяпер цвітуць ліпы, акацыі, язмін. Часта туды заходжу, каб паўглядацца на рухавых шпачкоў, паслухаць галасістых птушак (павучыцца ў іх), палюбавацца нявіннымі, шчырымі вачамі дзяцей, якіх вельмі люблю. Адвесці душу».

Такое — 29 чэрвеня 1970 года. А трохі вышэй, у тым самым пісьме, пра яго юбілейны дзень:

«Мой скромны пакоік запоўніўся кветкамі. Загаварылі ў газетах, тутэйшых і замежных. Ад чэшскага музычнага фонду атрымаў ганаровую ўзнагароду... Адным словам, жыві і радуйся. А ў мяне ў галаве словы нашага Багдановіча: «Радасць душу мне шчаміла, быццам сум...» Не ведаю, ці перажыў я калі чыстую радасць, без суму. І гэта не сентыментальнасць. Вось і цяпер, калі чую ці чытаю пра сябе прыгожыя словы, думаю, — як мала ўдалося зрабіць у параўнанні з тым, што хацелася зрабіць, што мог бы зрабіць...»

Праз тры гады:

«На Новы год зрабіў «свята беларускай песні»: прайграў амаль усе пласцінкі, з наспяванымі мною ў розныя часы беларускімі песнямі, і на душы стала лягчэй...»

Яшчэ праз два гады, на новым юбілеі, ён пісаў мне пра свой святочны канцэрт:

«Праграма, як заўсёды, інтэрнацыянальная. Пасля нашай калыханкі ў многіх былі мокрыя вочы ».

У першым сказе падкрэсленне маё.

...Днямі я выпадкова знайшоў у сваім архіве яшчэ некалькі пісьмаў Міхася Іванавіча, у тым ліку тое, пра якое нават забыўся, — ягоны водгук на мае «Птушкі і гнёзды», у самым канцы 1963 года, «пад елачку» пасланы яму ў часопіснай публікацыі.

«Калі чытаў Ваш раман, дык вельмі захацелася даведацца многа і аб самім аўтару. Таму я, здаецца, ужо ў першым пісьме напісаў, што хацеў бы пазнаёміцца з Вамі бліжэй. Мо буду жыць даўжэй, тады і жаданне маё збудзецца. Пакуль што гэтае ўпэўненасці не маю, бо ў маім веку столькі людзей нечакана адыходзіць «на той свет», што ажно сумна робіцца. Але, нягледзячы на сум, спяваю! Стараюся даць людзям радасць і радуюся сам, калі гэта ўдаецца. Якраз узаўтра спяваю для савецкіх пацыентаў у Карлавых Варах. Буду ўспамінаць усіх сваіх землякоў і шкадаваць, што яны мяне не пачуюць».

У канцы, пад подпісам, пастскрыптум:

«Пісьмо не паспеў адаслаць. Канцэрт у Карланых Варах прайшоў вельмі добра, і мяне паклікалі на другое выступленне, на 8 мая. Парадуе Вас напэўна, дарагі сябра, што на канцэрце (па ўсіх бісах) адзін са слухачоў устаў і сказаў: «Спойте нам, пожалуйста, еще белорусскую песню», што я з вялікай радасцю і зрабіў. Як бачыце, векавы шавінізм памалу ўмірае...»

«Блажен, кто верует», — уздыхнём, чытаючы гэта. А паўтарыўшы словы: «Але, нягледзячы на сум, спяваю!» — скажам, што сум свайго адыходу маэстра наш пачаў адчуваць ранавата. Можа, тут вінаваты і адарванасць ад радзімы, і адчуванне недарэчнасці такога пакарання.

«Пра сябе ўжо думаю: «Ныне отпущаеши раба Твоего, Владыко, по глаголу Твоему с миром...»

Гэта — за трынаццаць гадоў да «отпущения». А яшчэ на чатыры раней, у канцы аднаго з пісьмаў:

«Не забывайце! (І калі сціхну... назаўсёды.)»

Нібыта не забываем. І пачынаем прыпамінаць. Самі. І маладзейшым.

1990-1991

## НЯСМЕШНЫ ГОГАЛЬ

Шчасце — смяяцца над яго старонкамі я спазнаў вельмі рана, толькі-толькі навучыўшыся чытаць. Пісаць пра тое смешнае пачаў ледзь што не ў самых першых празаічных спробах.

«Смяяцца», «смешнае»... Пра непаўторна жыццярадасны, назаўсёды свежы гумар Гогаля гаварыць такімі словамі няёмка — з-за іх убогай прыблізнасці. На гэты раз я і не буду шукаць больш адпа-

ведных слоў, бо гаварыць хачу пра Гогаля іншага, які хвалюе мяне таксама вельмі даўно.

Яму было дваццаць адзін — дваццаць два, калі ён пісаў «Сарочынскі кірмаш». А мне здаецца, нават нібы помніцца, хоць і невыразна, але шчасліва, што надрыўна, шчымліва журботнае заканчэнне гэтай сонечнай аповесці я адчуў яшчэ пастушком.

Асцярожна папешчу яго, той цудоўны акорд, родным словам.

Спачатку набліжэнне, падыход: «Гром, рогат, песні чуліся цішэй ды цішэй. Смычок паміраў, слабеючы і трацячы няясныя гукі ў пустаце паветра. Яшчэ аднекуль чулася тупаценне, штосьці падобнае на рокат мора, і хутка ўсё стала пуста і глуха».

Тады музычная паўза, як перадых, каб з новай сілай выказаць найважнейшае:

«А ці не так і радасць, цудоўная і няпэўная госця, адлятае ад нас, і дарэмна самотны гук думае выказаць весялосць? Ва ўласным водгуллі чуе ўжо ён сум і пустэчу і дзіка ўслухоўваецца ў тое рэха. А ці не так вясёлыя сябры бурнага ды вольнага юнацтва, кожны сабе, адзін за адным, разыходзяцца па свеце і пакідаюць, нарэшце, іх даўняга брата? Сумна пакінутаму! І цяжка, журботна гады на сэрцы, і няма чым яму памагчы».

Якія тут знойдзеш словы, каб як след перадаць гэты высокі, глыбінны сум? Асабліва ў падкрэсленым мною. Ці не ад гэтага суму пачынаецца ён, той украінска-рускі Гогаль, што вельмі нялёгкі для пераносу на іншую моўную глебу. які так нямала траціць ад перакладу? Праўда, пра гэта я больш чытаў, а сам, на жаль, магу меркаваць па перакладах толькі нашых і польскіх, аднак пэўнае права так меркаваць ёсць і ў мяне.

«Яшчэ пастушком...» Думаў, думаў і дадумаўся, успомніў. У чарнавіку сваёй «Граніцы» знайшоў такое:

«Валька канчаў «Сарочынскую ярмарку». Дачытаў, адвёў рукою каласок ад шчакі і азірнуўся. Азірнуўся і ахнуў: іхнія каровы выпрасталіся на пашы адна за адной, як вагоны, а за імі ішоў Паўлік і, пэўна ж, смяяўся з «чытакі».

Валька пусціўся ўдагон, да сэрца тулячы кнігу. Ён бег спачатку па вузкай мяжы, абмінаючы калючыя кусты расцвіўшай шыпшыны, а потым па голай, як бубен, пашы, пастукваючы па выпражаным грудзе карэлымі пяткамі. А ў душы яго свяціла гарачае ўкраінскае сонца, задаволена пакрэхтвалі падмазаныя салам колы, ні крышачку не варушыліся раскошныя, як сонца, сланечнікі і тэнарам рыдала скрыпка. А з рыданнямі яе неразлучна, бясконца шчасліва хапалі за

сэрца заключныя словы аповесці: «І цяжка, і сумна робіцца сэрцу^і няма чым яму памагчы...»

Пісаў я гэта ў канцы сорак сёмага года, і было яно не толькі ўспамінам пражытага, але і ўспамінам пра адно з самых першых апавяданняў, якое не захавалася, толькі пакінула ў памяці той запаветны плач і словы «няма чым яму памагчы».

У першай, часопіснай і кніжнай, публікацыі «Граніцы» ў сорак дзевятым годзе гэта ішло, а ўжо ў чатырохтомніку і пяцітомніку, дзе незакончаны раман, відаць, у апошняй ужо рэдакцыі, друкуецца як раздзелы з яго, я — дзеля кампазіцыйнай строгасці — апусціў гэтае «адхіленне»: пра тое, што іменна чытаў малы пастух. І цяпер цытую па чарнавіку. Праз сорак з гакам гадоў і прыемна, і сумна гэта — свежым вокам, здалёк зірнуць на тое, што калісьці рабіў, нейкім чынам паглядзець і на самога сябе колішняга. І з сумам, нават крыху па-старэчы расчулена думаецца: няўжо гэта, чаму аддадзена столькі сэрца і працы, ні на што больш не патрэбна, як на ляжанне ў архіве дома, а потым дзе-небудзь яшчэ? Няўжо гэта толькі вучоба? І няўжо з цябе мала гэтага? А што, як і з усёй той вучобы ды выйдзе няўдача, як у мяне з раманам?..

Але гэта ўжо зноў «адхіленне».

Задоўга да часу, калі і мне давялося самому адчуць цяжар трывожнай разлукі з родным кутком і найраднейшай істотай, я перажыў гэта ў малечай самоце над кнігай, чытаючы заканчэнне першага раздзела «Тараса Бульбы». Уражанне — зноў жа на ўсё жыццё. Далека было мне тады да сыноўніх дарослых пачуццяў, яшчэ далей да пачуццяў бацькоўскіх. Але матчына гора я адчуваў, відаць, дзякуючы той чысціні, з якою мы пачынаем свой шлях. Вось перачытваю тыя старонкі і зноў хвалююся, ужо і ўспамінаючы тое маё, такое даўняе, уражанне, на яго памнажаючы вопыт і стому старасці. «Адна бедная маці не спала...» Яна незабыўная — тая бяссонная ноч на двары, над сынамі, што завіталі пасля разлукі на адзін толькі дзень, што спяць бесклапотным сном маладосці, каб зноў пайсці ў разлуку, цяпер ужо не ў семінарскую бурсу, а на Запарожскую Сеч, не проста ў матчын сум і чаканне, а ў яе трывогу, жах і боль як найгоршага прадчування. Потым, уранні, пасля развітання, — яшчэ адзін, яшчэ апошні парыў, калі яна «з неўразумелай сілай спыніла каня і абняла аднаго з сыноў з нейкай вар'яцкай, непрытомнай гарачнасцю; яе зноў павялі». Яе павялі, а я, малы, зарумзаны чытач, пераходжу да суму сыноўняга, які мне ўсё-такі бліжэйшы, хоць яшчэ і далёкі. І я зноў паўтараю яго — больш як праз цэлую палавіну стагоддзя:

«Вось ужо адзін толькі шост над калодзежам з прывязаным зверху колам ад воза самотна тырчыць у небе; ужо раўніна, якую яны праехалі, здалёк стала гарою і ўсё сабою закрыла. — Бывайце і маленства, і гульні, і ўсё, і ўсё!»

Выпісваючы гэта ў сваім перакладзе, я думаў пра тое, што аўтар, і мой змалку любімы Мікалай Васільевіч, пісаў гэтую аповесць, ці не найбольш працаёмкую з усіх яго твораў, ва ўзросце дваццаць шэсць — трыццаць адзін, але многае за гэтыя гады сталення шмат разоў перапісаўшы, сцэну ад'езду Бульбы з Бульбэнкамі на Сеч пакінуў у першым варыянце. І ў гэтым бачыцца мне трываласць самага істотнага, трапнасць падачы яго ў найбольш адпаведны момант адчування. І хіба таму яна, тая мясціна ў аповесці, хвалюе мяне з найбольшай сілай, прайшоўшы ўсе праверкі часам і вопытам.

Цяпер — пра патрэбнае ў «Шынялі».

У наш суровы, бездухоўны час такое адчуванне зусім нядаўна лічылася, а кім і лічыцца сентыментальнасцю, закансерваванай у класіцы на ўспамін пра беззваротна мінулае. А сёння, у чэрвені восемдзесят восьмага, у мнагаслоўі перабудовы яно — яшчэ ўсё трывожна: а ці надоўга? — называецца то гуманізмам, чалавечнасцю, то ажыўленым рэлігійна-паэтычным словам міласэрнасць. Тое, што слабасць і сіла адразу, тое, што ў тайніках душы ад самага пачатку тоіцца побач з найзапаветнейшым словам, якое прачынаецца і выходзіць на вусны ў апошні момант адчайнай мужнасці, перад-смяротнага жаху, у невыносных пакутах і ў паніжэнні, — першае і апошняе чалавечае слова...

Як празаічна гэта, нібы звычайна:

«Толькі калі ўжо зусім невыносны быў жарт, калі штурхалі яго пад руку, перашкаджаючы займацца сваёю справай, ён гаварыў: «Не чапайце мяне, завошта вы мяне крыўдзіце?»

І тады ўжо непаўторна гогалеўскі па сваёй прастаце і змястоўнасці ўзлёт туды, адкуль ідзе наша галоўнае:

«І доўга потым, у самыя вясёлыя хвіліны, яму ўяўляўся нізенькі чыноўнік з лысінкай на лобе, са сваімі праніклівымі словамі: «Не чапайце мяне, завошта вы мяне крыўдзіце?» — і ў гэтых праніклівых словах звінелі іншыя словы: «Я брат твой». І закрываў сябе рукою бедны малады чалавек, і шмат разоў скаланаўся ён пасля на сваім вяку, калі бачыў, як многа ў чалавеку бесчалавечнасці...»

З гэтага «Шыняля» нам бы як найдалей і вырастаць, і расці!..

І апошняе, што з «Запісак вар'ята».

Артыст быў не тое каб вельмі таленавіты, і чалавек ён, казалі, не надта цікавы, а я яму ўдзячны вось ужо трыццаць шэсць гадоў. На

стагоддзі з дня смерці Гогаля ён вынес на людзі тое, што хвалявала мяне зноў жа ў маленстве, вынес на сцэну адтуль, з надкніжнай адзіноты, ад сутыкнення дзіцячай чысціні і велічы слова, якое — як зорнае неба, што над табою, калі ты адзін у дарозе, ідзеш і спыняешся, і глядзіш...

«Інтэлігент у першым пакаленні». І я магу так сказаць пра самога сябе, з агаворкай, што ў нашай сям'і я не адзін такі. Нада мною было дзве сястры і чатыры браты, усе пісьменныя, хто з пачатковай, сярэдняй, а хто і з вышэйшай асветай, усе чыталі, хто менш, а хто і вельмі нямала, калі мне сёння параўнаць з начытанасцю нават некаторых літаратараў. Але ні сапраўднага спевака, ні сапраўднага драматычнага артыста я, пакуль гадаваўся ў вёсцы, не чуў і не бачыў. І не скажу, што быў ад гэтага ў вялікай духоўнай нястачы. Няхай засведчыць фальклор, як яны і жывуць у народзе, і радуюць людзей у найважнейшай працы — таленты з самых нізоў. Былі яны і ў маім сялянскім асяроддзі. На патрэбу сваю, няхай сабе без прафесійнай вывучкі, аднак і спявалі яны, і расказвалі, і смяяліся з божай іскрой. А ўжо ж як прафесійнасць, адукаванасць ды спалучаецца з душой — гэта зусім ад сапраўднага.

Калі гаварыць толькі пра Гогаля, дык «Рэвізора» на вялікай сцэне, у маскоўскім Малым тэатры, я пабачыў на трыццаць пятым годзе жыцця. Урывак з «Запісак вар'ята» слухаў са сцэны па ўзроўні меншай, у мінскім рускім тэатры. Тою самай юбілейнай вясною. І ў Маскве, і дома я быў, нарэшцде, шчаслівы дасягнутым, аднак не залішне думаў пра высокую прафесійнасць ды славутасць тых, што і мне давалі Гогаля, — галоўнае было ў ім, у свеце яго, і ў тым таксама, як той свет быў і маім, у пажыццёвых скарбах маёй памяці.

Артыст чытаў...

Я зноў жа адхіляюся ад рускага слова ў сваё, перакладаю і гэты фрагмент. Спачатку вырываючы паасобныя сказы. Такія: «Што я зрабіў ім? За што яны мучаць мяне?» Тут у душы маёй ажываюць згаданыя словы беднага героя «Шыняля», з новай сілай вяртаедца тое самае адчуванне. Тады яшчэ: «Выратуйце мяне! вазьміце мяне! Дайце мне тройку быстрых, як віхар, коней!..» Яшчэ раз тройка, але ранейшая ды іншая, чым у «Мёртвых душах», хоць у нечым калі не такая, дык падобная — з тым самым пафасам і адчаем, з выхадам на ўвесь свет, аднак не гістарычнапатрыятычная, а журботна і нават цёпла агульналюдская. Можа, адгэтуль і «струна звініць у тумане», і «з аднаго боку мора, з другога Італія», а тады ўжо «і рускія хаты паказаліся»?.. І, нарэшце, заканчэнне цалкам. Як геніяльны заклік да святое міласэрнасці:

«Ці гэта мой дом сінее ў далячыні? Ці гэта маці мая сядзіць каля акна? Матуля, выратуй свайго беднага сына! капні слязінку на яго бедную галоўку! Зірні, як яны мучаць яго! прыгарні да сваіх грудзей беднага сірату! няма яму месца на свеце! гоняць яго! Матуля! пашкадуй сваё беднае дзіцятка!..»

Колькі разоў паўтараецца беднасць, колькі клічнікаў, таксама лішніх для сучаснага рэдакцыйнага грамацея!.. А яны — глыбіннае пульсаванне, дэтанаваныя штуршкі, стрымана-глухаватыя выбухі пачуцця. А потым, пасля шматкроп'я, такі нечаканы, такі неабходны абрыў:

«А ці ведаеце вы, што ў алжырскага дзея пад самым носам скуляк?»

І ўжо не смешна яно, хоць гэта і тормаз адтуль, дзе найвышэйшае адчуванне меры і такту. Хоць і смешна яно, але — са слязьмі. Тымі, што словамі значацца на яго надмагіллі, белым па чорным — спрадвечнае, прароцкае: «Горкім словам сваім пасмяюся».

Тое, што Гогаль. І смешны, і не. Кажучы найпрасцей.

1988

## ЗАЎСЕДЫ СЛОВА

У наш нялёгкі ды шалёны час чаго-чаго, а палітыкі ўсім хапае. Радыё, тэлевізар, прэса, сходы, чэргі — усюды яна... Кажуць, багатаму не спіцца. Не спіцца і старому. І дзень ад гэтага даўжэйшы. І ўвесь з палітыкай!..

Як быццам не нацешыўшыся ёю, ужо ў пасцелі ўключаю радыё. І раптам — Смактуноўскі, якога я яшчэ больш палюбіў, калі даведаўся, што ён вясковы хлопец з нялёгкім лёсам, а не з нейкай, як здавалася, рафінаванай інтэлігенцкай сям'і, выдатны артыст Смактуноўскі пачаў чытаць яшчэ выдатнейшага мастака — Пушкінаву «Метель». Як хораша стала на душы, якім гэта святам адчулася!..

Сёння ў мяне такім святочным быў увесь дзень. Без радыё, тэлевізара, без газет, толькі з Коласавай паэзіяй, у яго родных мясцінах, дзе ўсё нагадвае «Новую зямлю» з яе прыродай, жыццёвай красою, душэўнай шчырасцю.

Гэта не азначае, што так вось трэба ўцякаць ад пытанняў гарачай сучаснасці. Я пра тое, што гэтак добра і хочацца палячыць душу высокім, найвышэйшым.

* * *

Хораша гэта — месца на сваёй зямлі, у родным кутку, стол перад самым акном у любае поле, неба, аддалены лес... І слова сваё, якое трэба сказаць. З упэўненасцю і з сумненнямі: а ці дойдзе яно да людзей будучыні, да твайго народа?.. У Багушэвіча — дайшло.

І на яго радавой сядзібе, у адноўленым доме, з якога робіцца музей, а потым і каля валуна на лясным узвышшы, толькі ў адным месцы прычасанага валуна, дзе па-польску, але пра беларускага паэта Macieja Buraczka сябрамі сказана высакароднае слова братэрства, — усюды там, у Кушлянах, добра, глыбінна думалася. І пра тое, што вось праз дзве сусветныя вайны, праз безліч дзён і начэй, марозных, слотных, сонечных, месячных, словы тыя і мне на семдзесят трэцім годзе іх існавання моўчкі гучаць пра вечнасць.

* * *

Пра Чорнага мне было жыва, хораша згадалася здалёк, з Польшчы, з Зялёнагурскага ваяводства.

Гаварылі там пра славутых сілезскіх ткачоў — не толькі пра іх умельства, але і пра тое, што ім было цесна ў родных мясцінах і яны ездзілі, а то і хадзілі далека ў людзі, шукаць работы, месца на Зямлі.

І ў Беларусь траплялі. А потым — і на старонкі яе грунтоўнага таленавітага летапісца.

Праз год, на васьмідзесяцігоддзі Мікалая Карлавіча, у Цімкавічах, я гаварыў пра гэта ў сваім выступленні каля школы, перад землякамі патомнага парабка, якому жорсткі час не даў стаць нашым Бальзакам, гаварыў у яго роднай вёсцы, якой яму прататыпна хапіла б, як ён казаў, на ўсё яго творчае жыццё.

Ен спадзяваўся, вядома, на доўгае, плённае. Не на сорак чатыры гады. Уключна з арыштам, катаваннямі, турмой і немаччу на апошняй свабодзе...

* * *

Нешта ўвосені сорак пятага года, калі ў мяне было больш сялянскага клёку, я, супрацоўнік «Вожыка», ужо тым часам і пасмялелы ў дэмакратычным рэдакцыйным калектыве, спытаўся ў нашага галоўнага, Крапівы, пра адно сваё неўразуменне.

Добры касец скошвае ў дзень паўгектара ці больш. Працуючы — «як сабе», на ўсю сілу, добрасумленна. Як жа ён можа перавыканаць план?

Кандрат Кандратавіч, — а мы былі толькі ўдвух у пакоі, дарэчы, адным на ўсю рэдакцыю, — наглядзеў на мяне праз свае нетаропкія

акуляры і пачаў паволі ды грунтоўна гаварыць штосьці правільнае, што ні мяне не вельмі пераконвала, ні яго самога, думалася мне, таксама. Бо і ён жа ад плуга, ад касы.

А ўлетку пяцьдзесят першага мы з Уладзімірам Калеснікам, перад сваім падарожжам па Наваградчыне, прыйшлі на Камароўскі рынак, каб забраць з рамонту мой (пазычаны) веласіпед. Дома ў мяне нікога не было, жонка з малымі ў вёсцы, а Валодзя наогул божая птушка, аспірант, і мы вырашылі там жа, на рынку, і паабедаць. У драўлянай «чайной» старога рынку нам падалі нейкі «суп», нейкае «ўтарое». Гародніны — анізвання. А цераз нешырокую, спякотна-пясчаную вуліцу яе — можна сказаць,, і процьма. Чырвона, жоўта ды зялёна на доўгіх сталах. Але ў чайную гэтай свежасці не перабрацца. Бо толькі ж цераз базы, накладныя, перавозкі, добра прыпсаваўшыся...

Гэтага нам, хлопцам з вёскі ды «заходнікам», таксама, як і са стаханаўскай касьбой, было не зразумець

І гэта — адзнакай здаровага сэнсу, народнага клёку — помніцца мне чатыры з гакам дзесяцігоддзі.

* * *

Гэта было б натуральна, каб ён яшчэ жыў, наш Мележ, як жывём і працуем мы, — няхай нямногія ўжо, — яго сябры, равеснікі ды менш ці больш старэйшыя. Была б паўнацэнна завершана і раз, і два, і тры разы грунтоўна дапрацавана, перад здачай у друк і пры кожным перавыданні, яго «Палеская хроніка». Ажыццявіліся б, новымі адкрыццямі выйшлі б з тайнікоў глыбокай, шчырай душы іншыя задумы. Нібы не цяжка ўявіць, як ён балюча перажываў бы чарнобыльскае гора родных надпрыпяцкіх мясцін, як ён па-сыноўняму, па-грамадзянску, па-чалавечы ўдзельнічаў бы сёння ў жыцці Беларусі, краіны, свету...

Журботна і радасна стаяць на Іванавых кнігах аўтографы і мне. Пачынаючы з першай кнігі, аж надта сціпла выдадзенага зборніка апавяданняў, пад ваеннай назвай «У завіруху», і да апошняга з яго рук падарунка — важкага тома з таксама змястоўнай назвай «Жыццёвыя клопаты». У «капітальным», а ўсё ж няпоўным яшчэ, бо патузаным, пакляваным цэнзурай, дзесяцітомніку з найбольшай цеплынёй бачыцца мне вяршыня ягонай творчасці — тыя сардэчна-запаведныя чатырыста старонак «Людзей на балоце», што былі калісьці і маім хвалюючым адкрыццём, і маёй чытацкай радасцю, што найбольш надзейна застануцца з намі і застануцца пасля нас — як нятленны народны набытак.

* * *

Музей Алесю Пальчэўскаму зрабілі ў школе добры. Светламу, добраму чалавеку можна трохі і перадаць як пісьменніку — за пакуты яго ту рэмна л а гер н ыя, за чалавечнасць, якую адчулі многія. Родная хата і роднае месца апошняга супакаення пад урачыстай засеншо спрадвечных дрэў. Адрамантаванай, пафарбаванай хаце нязвычна быць у вясковым бязлюддзі нібы таксама музеем, а помнік, гранітная стэла з прафесійным барэльефам, сярод старых, нават замшэлых, і навейшых, стандартна танных помнікаў па радні і суседзях не выбіваецца нясціпласцю. «Добры быў чалавек, такому не шкада», — скажу за Алесевых землякоў. І не думаю, што памылюся.

* * *

Папрасілі выступіць у тэлеперадачы, што рыхтуецца да 70-годдзя Веры Палтаран. Спачатку падумаў: а што я магу сказаць больш пасля таго, што напісаў дзесяць гадоў таму назад? Перачытаў колішняе, і ясней не стала... А пасля падумалася пра той «дэфіцыт», які ў наш час найгалоўнейшы, — недахоп, удушлівы недахоп прыязнасці, дабрыні, узаемаразумення... Дарэчы, і гэта ўжо стала пашлець у моду, і пра гэты недахоп ужо замнога крычаць, стараюцца адзін аднаго апярэдзіць у крыку... А іншыя сціпла маўчаць, нясуць тую святую службу чалавечнасці, якая была для іх заўсёды непрыкметна галоўным. Пра адну з такіх я і сказаў сваё юбілейнае слова.

...Верачка. Якою яна была неўзабаве ў рытуальнай зале крэматорыя. Не «страшная» ад бязмежных пакутаў, а дзіўна, ледзь не хораша спакойная. У дарозе яе крыху раскалыхала ў труне, галава ад гэтага трохі збочылася, легла свабадней. Пасля прамоў і развітання паволі пад ціхую музыку яна — з мноства кветак — паехала, апусцілася ўніз, у нашу светлую, сумную памяць.

Згадалася, як два... так, ужо два гады таму назад мы наведалі яе ў трагічных Бараўлянах з Міхасём Стральцовым. Дзве блізкія і мне душы. А яго ж — пад музыку жаль удвая. — таксама ўжо год і восем. месяцаў няма...

Тэлеперадачы пра сябе яна ўжо не бачыла, была ў непрытомнасці.

Яшчэ адзін з бліжэйшых пазваніў мне пасля пахавання, што перадача наша і для яго прагучала як рэквіем...

* * *

Сакратарыят Саюза пісьменнікаў Беларусі звярнуўся ў ЦК КПБ з пісьмом, больш за дзесяць старонак машынапісу, пра непаладкі з нацыянальным пытаннем у працы дзяржаўнага выдавецтва. Пісаў

тое пісьмо ў асноўным Іван Мележ, я збольшага дапамагаў, падпісалі ўсім сакратарыятам, плюс сакратар партыйнай арганізацыі.

Сем чалавек, і немаладых, і нібы вопытных, а пралічыліся ў адным. Кнігі на рускай мове, выдаваць якія абавязвала Масква, з'ядалі львіную долю нашай паперы. І трэба ж было, каб на той час сярод такіх кніг была і «Молодая гвардия», якую мы ў пераліку назвалі. І таварыш Машэраў знайшоў у гэтым выхад з пікантнай сітуацыі: «Да как они смели?!» Нават як быццам назваў тую кнігу «нашим Евангелием», на. якое мы «посягнули»...

На гэтым справа і закончылася.

Гэта было ў пачатку шэсцьдзесят восьмага года. Праз два гады пасля вялікай гутаркі ў ЦК па нацыянальным пытанні. Вялікай гутаркі — з дзесяці гадзін раніцы да васьмі вечара, «чтобы не отвлекаться на обед» — з перакускай на месцы, у цэкоўскім буфеце. З аднаго боку наш прззідыум, з другога — члены бюро і ўрада. Гаварылася многа, адкрыта. Намі, вядома. Я і сам, якраз вярнуўшыся з пахавання брата, гаварыў на ўсю душу. А ўсё абышлося касметыкай, абяцаннямі, і яшчэ раз ясна стала, што пытанне вырашаецца не ў рэспубліцы... Хоць новы сакратар па ідэалогіі. самападкрэслены бел ару с Пілатовіч, які толькі што замяніў вялікага маўчуна Шауру, што за паўтара года на знайшоў часу прыняць наш прэзідыум, каб пагаварыць па тым горкім нацыянальным пытанні, здаўся нам тады на штосьці добрае надзейным.

Дарэчы, гэта і спакусіла Мележа, Панчанку і мяне пайсці праз два месяцы ў пісьменніцкі сакратарыят — таксама з надзеяй...

Зноў жа ў пачатку шэсцьдзесят восьмага, выступаючы на нарадзе ў ЦК, я гаварыў і пра тое, што дырэктар і загадчык літаратурнай рэдакцыі выдавецтва «Беларусь» — адзінага тады, што выдавала мастацкую літаратуру, — наладзілі, нібы па прыкладзе яжоўскіх «троек», вырашальна безапеляцыйныя « пяцёркі».

Спрэчны рукапіс абмяркоўваўся такім складам: дырэктар, галоўны рэдактар, загадчык літаратурнай рэдакцыі, сакратар партыйнай арганізацыі, хоць сабе і адстаўнік-маёр з нейкай гаспадарчай пасады, і, нарэшце, рэдактар рукапісу, найменшы ў «пяцёрцы». Ен жа потым перадаваў аўтару вырашэнне ягонага лесу.

Так было, напрыклад, са мною, з «Птушкамі і гнёздамі». Пратакол у мяне захаваўся. Вядома ж, крытычна-адмоўны. І вынесены мне рэдактарам на калідор. Алесь Адамовіч казаў тады, што калі б у яго было сваё выдавецтва, ён выдаў бы маю кнігу з тым нратаколам у канцы. Факт усё-такі гістарычны.

На той цэкоўскай нарадзе гаварыў я і пра Якава Герцовіча, галоўнага «бракера», ацэншчыка Быкава, Караткевіча і іншых ненадзейных, прыдворнага крытыка і рэцэнзента, «явно и тайно образующе». Назваў яго нават літаратурным рабінам.

І кіраўнік той нарады, ідэалагічны сакратар Пілатовіч, сказаў мне пасля яе заканчэння, самнасам, што як сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў я не меў права так гаварыць. Не толькі, вядома ж, пра рэбэ...

Я адказаў, — што як толькі калі адчую, што вось і перастаю быць пісьменнікам — адразу ж перастану быць сакратаром.

З такім вырашэннем сваёй пазіцыі было часамі
даволі складана, яшчэ ажно тры гады...

* * *

З трыбуны сходу, скліканага на асуджэнне Пастарнака за «Доктара Жывага», таварыш Б. выступаў, каб з найбольшай ударнай сілай, паруску:

— І этат празрэнны Пястрак...

Піліп Сямёнавіч, які з-за глухаватасці сядзеў у першым радзе, пырхнуў смехам, разам з усімі, і з узнятым наперад пальцам павучальна сказаў:

— Акадэмікам трэба выступаць па паперцы!..

Праз некалькі гадоў, у Нарыльску, пасля
нашага беларуска-рускага выступлення па тэлебачанні, да нас, беларусаў, прыйшоў у гасцініцу нарыльчанін, здаецца, бухгалтар, і назваўся бра там Б. Даўняя заслуга акадэміка: у канцы трыццатых гадоў ён ад гэтага брата публічна адмовіўся. Сцішнаватае пачужэнне, убачанае і адчутае мною ўпершыню так канкрэтна. Цяжка сказаць, як гэта паварушвалася ў выпетранай рознымі накірункамі душы нашага Б. А яго малодшы, і мы разумелі гэтага чалавека, не меў намеру братацца нанава.

Яшчэ адно, пазнейшае. Абмеркаванне на рэдкалегіі «Полымя» дзённікавых запісаў Івана Мележа. Рэдакцыя, у згодзе з духам часу, патрабавала купюраў. Там, дзе развагі пра культ асобы і штрыхі да вобразаў некаторых, завысока ўзнятых, сучаснікаў. Зноў жа найбольш запомнілася выступленне Б. Ен, вядома, стаяў за купюры.

— Прабачце, — сказаў я, — дык вы ж гэтага рукапісу не чыталі.

Ен — чалавек на восьмым дзесятку — бойка, пачырванела абсек мяне:

— Ну і што з гэтага? А я веру рэдакцыі!

Адхілімся ў пастскрыптум.

Румяна ўсмешлівы філосаф, таксама Б., сказаў тады, што ён «рассматриваемую рукопись тоже не читал, но, уважаемые товарищи, поскольку теперь на Западе...». Як быццам «на Западе» толькі цяпер!.. Словам, і філосаф, хоць і кроў з малаком, і маладая, хітрая ўсмешка, і толькі дальні прыцэл на акадэміка, таксама выказаўся за купюры.

* * *

Рукапіс пабіты воспай дурных рэдактарскіх і цэнзарскіх. заўваг.

У кнізе мецiны гэтай немачы прыязны чытач не заўважыць — яны толькі ў горкай памяці аўтара.

* * *

Патрабаванні бывалі ўсякія — сам такога як быццам і не прыдумаеш.

У апошнім брэжнеўсісім годзе галоўны рэдактар партыйнага часопіса, знаёмы з партызанскага лесу, па-сяброўску прасіў мяне ў юбілейным артыкуле пра славутага паэта — ужо ў карэктуры — «дапісаць яшчэ некалькі абзацаў». Навошта? Каб апошняя старонка была запоўнена ніжэй. Паперу трэба лепш выкарыстоўваць. Бо згодна з дэвізам часу «эканоміка павінна быць эканомнай».

Ен не настойваў, ён прасіў, аднак з усёй нрафесійнай сур'ёзнасцю, і здзіўлены быў, што я не згадзіўся дапісваць.

* * *

Мантэнь, «Вопыты.»:

«Честолюбие несовместимо с уединением. Слава и покой не могут ужиться под одной крышей».

Першае, што захацелася выпісаць, бо найбольш яно падыходзіць да майго тут, у вёсцы, жыцця, бо ў гэтым і я знаходжу пункт апоры.

Думаў спачатку чытаць усё падрад, але пасля некалькіх раздзелаў павяло на выбарку, што цікавейшае. Во ж і нялёгка дый нецікава бясконца лазіць з тэксту ў каментарыі, каб лепш зразумець той далёкі час. Далёкі і агромністы, таямнічы. Ажно навальнічныя хмары згадаліся — з глухім мармытаннем грому, які сваё адгрымеў, але яшчэ ўсё варушыцца, злуецца, як. патрывожаны ў берлагу мядзведзь... «Я ведаю толькі тое, што я нічога не ведаю». А пасля таго, як гэта было надумана і сказана, чалавецтва назапасіла такую процьму культуры, што адчуваеш сябе зусім бездапаможиым, каб хоць часткова, сяк-так у ёй разабрацца.

...Дзіўна ды цьмяна думалася над Мантэнем пра тое, як чалавецтва жыве ў слове сваіх лепшых сыноў, якія нібы свядома

перадаюць адзін аднаму агеньчыкі несмяротнасці, што і мала, і больш пажыўшы як быццам не паміраюць яны — для тых, што былі перад намі, што будуць пасля нас.

...І заўсёды было шмат палітычнай блытаніны, то мутнай, то крывавай, і не ўсім яна перашкаджала паводзіць сябе разумна.

* * *

Шаламаў, «Четвертая Вологда». Шчырыя, мудрыя ўспаміны, якія пісаліся «для сябе»... ва ўсякім выпадку без асаблівай надзеі на хуткае ці нават пазнейшае надрукаванне. Подзвіг і катарга сапраўднага інтэлігента, у гэтым выпадку рускага.

Бог мой, колькі ж яшчэ трэба ўбачыць, пачуць, каб думаць або гаварыць, што ты ведаеш жыццё хоць бы ў пэўнай меры!.. Не толькі ў вялікай літаратуры, але і ў меншай. Вось жа не ведаў я, упершышо пачуў нядаўна пра мовазнаўцу Анатоля Багдановіча, які добра, плённа пачынаў, а потым быў лягчэй за іншых выкінуты з роднага асяроддзя: не застрэлены, не замучаны ў тайзе ці ў шахце, а толькі сасланы туды, куды і вароны нашы не далятаюць, каб там яму вылечыцца ад «беларускага надыяналізму». Прыжыўся там недзе, як Язэп Пушча рускім настаўнікам на Уладзіміршчыне, як Сцяпан Ліхадзіеўскі і Сяргей Гайко рускімі выкладчыкамі ВНУ, адзін у Ташкенце, другі ў Сярове на паўночным Урале... 8 першымі двума я сустракаўся, памятаю сумную ўсмешку Пушчы, энергію Ліхадзіеўскага. З Гайком, вялікім кніжнікам, мы перапісваліся да яго апошніх дзён...

Пішучы «лягчэй за іншых», я падумаў: а ці такім ужо і лягчэйшым было для іх, пачаўшы з Анатоля Багдановіча, тое выгнанне, тая адчужанасць?..

Многае трэба ўбачыць, уведаць, адчуць.

* * *

Славак Дамінік Татарка. Па-польску.

Тры ўзоры сапраўднай прозы, асабліва апавяданне «Пеўнік у агоніі», сведчаць пра значнасць гэтага, як ён кажа сам пра сябе, «карпацкага пастуха, які абагаўляе ўсё, што праўдзівае», пра яшчэ адно для мяне радаснае адкрыццё.

А яшчэ прыемна было, на прыкладзе гэтага славака, думаць, як гэта важна — клопат пра родную мову.

І блізка нам тое, што ён гаворыць французу Наэлю:

«Гэта страшна — спісванне ў страты малых народаў. Для каго ён небяспечны, такі малы народ, у якога свая культура, свае традыцыі і імкненні? Вы ведаеце, гэта сапраўды драматычна».

* * *

«Байкал» Валянціна Распуціна. Учора пачаў, толькі што кончыў. Увесь час адчуваючы розніцу паміж рускім і «рускамоўным». І не «расавасць» тут, як крычаць з-за мяжы і дома іхнія падпявалы, а законная арганічнасць. Яна адчуваецца, калі гаварыць пра рускіх, апроч Распуціна, у Казакова, Бялова, Астаф'ева...

...Па тэлевізары — Нагібін пра Апалона Грыгор'ева. Паслухаў з павагай да эрудыцыі і адданасці справе, што мне даўно імпануе ў Нагібіна, і з зайздрасцю да такой багатай літаратуры.

І паралельна такая думка ішла: гэта ж не выхад — перакантоўвацца ў тую, гатовенькую літаратуру, як гэта робяць некаторыя нашы «рускамоўнікі», спадзеючыся, што ад гэтага і яны будуць значна большымі самі.

* * *

Чытаю «Вороненка» Юры Тууліка, падарунак з аўтографам. Зноў прыемнае адкрыццё, зноў сапраўднае слова. І яшчэ што хораша раскрываецца: раней чым па-руску, гэтая кніга выдадзена ў яго па-фінску. Навошта гігантаманія (ці як тут сказаць ясней?), калі ёсць і такія слаўныя народы, як эстонцы і фіны, такія землі, як Суомі і (Юравы словы) «маленькая Эстония», калі ёсць законнае шчасце быць самім сабою?..

Як жа гэтага не хапае нам, беларусам!..

* * *

Салжаніцын, «Бодался теленок с дубом». З цікавасцю чытаў і з пэўным здзіўленнем: якія справы адбываліся ў наш час, колькі мужнасці, працавітасці праяўлялася іншымі, пакуль мы не «дацягвалі» на сваім месцы!.. І, разам з тым, думалася і пра тое, што не трэба было яму, няхай сабе і Салжаніцыну, беручы яго ў сённяшнім сусветным вымярэнні, узвышацца над Твардоўскім, які — таксама ж з'ява, значна непаўторная.

* * *

«Нехта напіша: увайшоў чалавек, і не верыцца, а Гогаль напіша: увайшоў чорт — і верым».

У разумнага, народна вясёлага балгарына Ердаиа Радзічкава, у кнізе «Успаміны пра коней», бедны дзядзька, чыча па-іхняму, уцякае ад лесніка. Ужо няма куды дзецца, а тут над полем стаіць раскошная вяеёлка. І ён набег па ёй, як па гарбатым мосце над ракою, цераз якую лесніку не перапправіцца. І ўсё было б як найлешп, аднак з рукі, з вясёлкі ўпала сякера... Ах, сякера — як і яе набыць у бядоце няпроста!.. А ляснік задаволены, яішу большага і не трэба, падняў і пайшоў у свой лес.

І я, чытач, задаволены — найісана хораша і праўдзіва.

* * *

«Дзённік» братоў Ганкураў. Куплены ў палавіне шасцідзесятых, гэты мажны двухтомнік, выбранае з 22-х тамоў французскага выдання (!), я пачынаўужо чытаць неўзабаве пасля набыцця і, здаецца, яшчэ раз пазней, але тады «не пайшло». Цяпер, калі згадаць тое, што мне Лакшын пісаў пра «Поиски слова», я пачаў «выклёўваць» у Ганкураў сваё, бліжэйшае. Смерць Жуля, апісаная Эдмонам, вярнула мяне з ісанца першага тома да яго пачатку, і пайшло «выклёўванне», з алоўкам на палях. З аднаго боку — духоўнае, агульналюдскае, з другога — пра пісьменнікаў, якіх у пэўнай меры ведаю і я, а яшчэ і ецэны сустрзчаў, цудоўныя навелы, асветленыя высакародетвам, як смерць іхняй старой служанкі... Абмінецца ўвагай пры такім выбарачным чытанні і шгосьці, напэўна ж, важнае, але і ўсё пад рад чытаць я цяпер не магу.

Пераклічка з леташнім Мантэнем.

* * *

Позні вечар.

У гастракоме каля акна плача малая дзяўчынка. На падваконніку — недаедзеная шакал гдка.

Дзяўчынку пацяшаюць нейкая добрая цёця і п'янаваты дзед, хутчэй за ўсё пенсіянер-рабочы.

Дзед грубавата гыркнуў на добрую цёцкх. прадаўшчыца ўмяшалася, і пачалася сварка. Сталі збірацца людзі.

Малая расплакалася яшчэ горш. І ўсё толькі паўтарае назву вуліцы, нумар дома і кватэры.

Перагнуўшыся цераз прылавак, прадаўшчыца зашаптала мне, незнаёмаму, што маці дзяўчынкі «зноў з некім на блядаход да дому падалася, сцерва. Дзевачка ім мяшае...».

Прыйшоў міліцыянер, і малая, забраўшы сваю шакаладку, пайшла з ім у аддзяленне.

Жонка, калі я дома расказаў ёй пра гэта, параіла напісаць навелу. Але тут жа сама сябе і папраравіла: будзе нетыпова...

Да запісу, зробленага тады, просіцца дата: канец шасцідзесятага.

* * *

Ніколі не вядома, дзе што згубіш, дзе што знойдзеш.

У наваполацкай гасцініцы, слухаючы па рэпрадуктары абласную радыёперадачу, раптам пачуў ад вясковага дзеда такое акрэсленне нашай «галоснасці» — неціхота.

«А дяпер нецiхота такая, дык гэта добра!..»

У народа ёсць усё.

* * *

У ашчадным банку нестарая бойкая жанчына справядліва абураецца, як марудна ёй афармляюць штосьц ў чэкавай кніжцы.

— Я ноч прастаяла каля станка, і тут яшчэ трэба стаяць? Я вось зараз вазьму!..

І гэтак далей.

Падышла загадчыца, ветліва пачала растлумачваць кліентцы, якая тут у іх сёння загружанасць. А работніца маладая. На сценачку перагародкі загадчыца, і сама маладжавая, усперлася аголенымі да локцяў рукамі і прыстойным бюстам. Кліентка зноў не вытрымала:

— А ты вось не стаяла б ды не лэхтала, а памагла б ёй узяла!..

У нашым «рюскім», а кажуць яшчэ «камароўскім», дыялогу, які не хочацца перадаваць без перакладу, гэтае лэхтанне, пачутае мною ўпершыню, і смешна гучыць, і даўнавата помніцца. Абы зайшоў ды ўбачыў тую загадчыцу.

* * *

Сціплы, сумнавата ўсмешлівы Сяржа Міхальчук, хлопец з бедным маленствам, з цяжкім салдацкім раненнем, старанны, уважлівы выдавецкі рэдактар. А ўзяў ды ўпёрся на адным слове ў маім рукапісе: зладзяйчук. Карандашныя «птушкі» на полі, і раз, і два, і тры...

— А што? — спытаўся я.

— Па слоўніку трэба зладзюжка.

Пры маладосці яшчэ і рашучасць — ані з месца. Я пачаў гаварыць, як тады гаварылася, што першы пасляваенны руска-беларускі слоўнік выйшаў пад вырашальным удзелам двух уздзенцаў, Крапівы і Глебкі, і ў іх нямала «зямляцкамясцовага ўплыву»... Не памагло. Пад руку трапіў яшчэ адзін аргумент:

— Ну сам жа ты, Сяргей, не Міхалюшка, а Міхальчук!

Усміхаецца.

— Давай пазвонім Глебку!

Згадзіўся.

Заўсёды спакойны, мудра-ленаваты, як лічылася, наш эрудыт... Як ён хораша, сумна бачыцца цяпер на фоне хоць бы толькі мнагатомнага збору фальклору, саліднага трыццацітомніка, пачатага ім!.. Яшчэ і вясёлы, Пятро Фёдаравіч выслухаў мяне, за гэты час у галаве яго няспешна і грунтоўна выспеліўся адказ, які мне выразна помніцца ўжо больш за трыццаць гадоў:

— Слоўнік гэты не тлумачальны, па-руску кажучы — не талковы, і ўсе талковыя хлопцы могуць яго, вядома, дапаўняць, дасканаліць для другога выдання.

— Можа, вы і рэдактару скажаце гэта?

Ен — весялейшым голасам:

—Ну, дай яму трубку, калі ўжо ён так, цераз цябе, не верыць.

Сярожа выслухаў і праверыў.

А ў пяцітомным тлумачальным «зладзейчука» ўсё ж няма. Той самы толькі «зладзюжка». Універсальны.

* * *

Бела-ружовая пяшчотнасць яблынькі, каля якой стаю. Сябар маленства — шпак сядзіць амаль побач, на краечку шыфернага даху павеці; ён час ад часу, у развод паварушваючы крыллямі, пакрэхтвае, трэба думаць, ад задавальнення. За сеткай агароджы, у зарасніку альховай латачыны — салавей, да якога, як заўсёды здаецца, падаць рукою. Далей, у радкаватай яшчэ лістоце дубоў, таксама час ад часу жаўна падае сваё «тр-р-р!», нібы кіёчкам па штыкетніку. Успомніўся Багдановіч:

...а там каля акна
Малінаўка пяе і *стукае* жаўна.

Не стукае, а трашчыць, хоць яна і дзяцел.

Празаічная прычэпка?

* * *

Апавяданні Гарэцкага, якія не пайшлі, бо не маглі ў той час пайсці ў чатырохтомніку, а таксама «Жартаўлівы Пісарэвіч».

Думалася пра мову Максіма Іванавіча, пра тое, як яна адрозніваецца — мастацкая ў апавяданнях і ў «Пустарэвічы», — ад публіцыстычнай у артикулах і ў крытыцы. У лепшы бок, вядома, бо ён

жа перш за ўсё мастак, і калі ўздымаецца да сваёй галоўнай сутнасці, тады і гаворыць сваёю мовай, ускормленай народнасцю.

Так, дарэчы, і ў Ларысы Геніюш — мова яе «Споведзі» даволі прыкра засмечана разнамоўнасцю, а мова вершаў — непараўнана чысцейшая.

* * *

Неяк пасля вайны я прыехаў у родную вёску. Тады яшчэ з адчуваннем, што не ў госці, а дахаты. На шарай гадзіне, адзін у матчынай хаце, не знайшоў запалак, а праз акно ўбачыў, што цераз вуліцу, на суседскай лаўцы кураць.

Аказалася — дзядзька Кандрат, тады часовы фінагент, і нейкі райупаўнаважаны, незнаемы. Пакуль я падышоў да іх, дзядзька шапнуў яму пра мяне, і ён, даўшы мне прыкурыць і запрасіўшы прысесці, пачаў:

— Дык што, ты пісацель?

— Ага, — адказалася неахвотна.

— Эпізадыст? Эпізоды апісваеш?

Не памятаю ўжо, што я на гэта адказаў. А яшчэ і такое акрэсленне жанру, якім ахвотна карыстаюся, сяды-тады ўспамінаецца.

* * *

Хваліць наймалодшых, новае пакаленне літаратараў, трэба ўсё-такі памятаючы, што, пакуль гэтае пакаленне пакажа сябе па-сапраўднаму, спакваля астыўшы ад самазахаплення, надыдзе пакаленне новае, з тымі самымі, а то і з большымі прэтэнзіямі на сваю выключнасць.

За многія пасляваенныя гады мы ўжо такое бачылі ў некалькіх варыянтах.

* * *

Немаўлятка крычыць непрыгожа. Хоць і сваё, але ж плач той — грымаса грымасай.

Сапраўдная радасць прыходзіць да бацькоў, калі яно ўсміхаецца. Ужо адухоўлена.

Гэта — пра наймалодшых у літаратуры. Вось і яшчэ адно пакаленне пачынае са скаргаў, з плачу ды крыку, з грымасаў. Цяпер ужо на тое, што бацькі іх абакралі, пазбавілі роднай мовы!.. Толькі бацькі!.. Сам ён, бачыце, не можа яе а ні як след любіць, а ні вывучыць. Хоць і ганяў футбол на поплаве, побач з бібліятэкай, да васемнаццаці гадоў.

Хочацца іхняй усмешкі — як адзнакі росту.

* * *

Ацэньваючы таго ці іншага пісьменніка, мы сёння зусім не ўжываем слова «здольны», а замест «таленавіты» гаворым «надзвычай таленавіты», у чым як мне дык і чуецца штосьці накшталт «аж лішне таленавіты». Пакуль што зрэдку, але ўжо дабіраемся, пра жывых гаворачы, да акрэслення «геніяльны», нават «гігант» ды «тытан», прычым «сусветнага маштабу», не чакаючы, што скажа яго вялікасць Час... І вось, чытаючы проста таленавітую кнігу, хочацца выкарыстаць моднае ў моладзі слова «нармальна», сказаць: нормальна таленавіты пісьменнік.

* * *

«А еще я пою. Теперь же все поют...» Трапна, але і крыху збянтэжана гаворыць такое па тэлевізары сімпатычны юнак, адзін з пасрэдных універсалаў ад усіх відаў мастацтва.

Ад гэтага «все поют», улічваючы і большасць нашых бардаў ды бардзіхаў, бывае проста моташна — ад вякання нейкай рыфмоўкі, глухавата развязнага брынчання, захопленага, як ад козыту, павісквання, хрыпу ажно з утробным булькannem...

Моладзь часамі пытаецца, ды яшчэ з праведна пераможным пад-кусваннем, што такое быў «ваш сацрэалізм». Можна адказаць і так.

Нам, калі і мы былі маладыя, убівалі ў галовы, утоптвалі ў душы перакананне, што найважней і перш за ўсё патрэбна ідэйнасць. І мы, хто як мог, таксама вякалі ды хрыпелі, толькі што на паперы, а не пад бедную гітару, — як тая большасць вельмі прыблізных «кампазітараў» ды «паэтаў» у адной асобе, у каго таксама перш за ўсё — ідэйнасць на свой лад, па іншай модзе.

* * *

Памятаю яго на шаснаццаць гадоў маладзейшым — светла, нават і з захапленнем яго таленавітасцю. І вось, пасля доўгага перапынку, надарылася магчымасць пабываць на яго радзіме, павітацца, сказаць яму штосьці заслужана добрае. І гавару гэта. А ён, заўважаю тым часам, грунтоўна п'яны. Сярод белага дня, на ўрачыстым шматлюддзі, а набраўся, як чоп, ледзь мяне бачыць і чуе...

Можа, і ў гэтага трэба шукаць глыбіннага апраўдання?

А можа, будзе дазволена калі не сказаць, дык падумаць: «Ну і пайшоў ты, хлопча, у хлеў»?..

* * *

Капуста-*шаткаванка* і паэма-*рыфмаванка.* Толькі ж не такая смачная ды спажыўная, як капуста. У паэзіі такой — абы зрыфмаваць, а ў іншай драматургіі — абы «здыялагізаваць», раскласці на шэрую, мляўкую гутарку.

Чытаеш, і ўспамінаюцца самадзейныя, няхай сабе і надрукаваныя, п'ескі ў колішняй Заходняй, аўтары якіх, ушчэнт заблытаўшыся ў сваёй бездапаможнасці, часта канчалі так: «Ну, а цяпер паскачам «Лявоніху»!» І скакалі на радасць публіцы, і ўсё цудоўна завяршалася.

І сёння некаторыя п'есы, з новага сяк-так пашытыя або пераліцаваныя з уласнай ці чужой прозы, хочацца закончыць парадай аўтару:

«Давай, можа, лепей паскачам «Лявоніху»?»

* * *

Добра знаёмая мне польская літаратурная сям'я, у якой і сам «пан дому» пісьменнік, і «пані дому» пісьменніца, і дачка паэтка, і зяць паэт. Больш дарослых пакуль што няма.

Падаючы далейшае, прозвішча «панства дому» прыйшлося змяніць.

Пані вядзе на праходку цюціка. Насустрач ім — таксама літаратар, але з тых, што не надта салідныя, а да таго яшчэ і выпіўшы. Праўда, капялюш прыпадняў ён ветліва, аднак і спытаўся:

— Проша пані, чы песэк Кусьнежэўскі руўнеж пішэ?..

Мы са сваімі літаратурнымі сем'ямі да «песка» яшчэ не дайшлі. Усюды наша адсталасць!..

* * *

Механізатар на пенсіі. Інвалід вайны. Значна старэйшы за свае гады і п'янаваты. На другім годзе ўрадавай пастановы супраць п'янства.

Вяртаемся з санаторыя, І там я неаднойчы бачыў яго пад патаемнай чаркай, з нейкай нягеглай фанабэрыяй вышэйшасці. У нашым купэ яго знайшоў знаёмы па санаторыі, з другога вагона. Пагаварыць яны выйшлі на калідор. Адтуль, цераз прачыненыя дзверы, пачулася, як той знаёмы шаптаў інваліду, хто я. Вярнуўшыся ў купэ адзін, таварыш, крыху памаўчаўшы, спытаўся:

— А вы пісьменнік? Я і не ведаў.

Зноў памаўчаў, а тады, уздыхнуўшы:

— Дурная, браце, работа!

Адкуль ён ведае гэта, я не спытаўся. Аднак бывае, калі прыцісне, і падумаеш: а ці ж не праўда?..

* * *

Разгарнуў пад вечар таміну «Жизнь животных. Птицы», трапілася на жаваранка, пачаў чытаць пра яго, і стала так добра, журботна на душы.

Колькі ўсяго непазнанага, і не пазнаеш яго як след, пакуль прыйдзецца ўсё пакінуць...

* * *

Няўжо гэта конча трэба пасля сябе «пакінуць след» — у сэнсе славы нейкай, шырокай вядомасці? А калі проста жыць на радасць і пашану блізкім і трохі далейшым, з кім зводзіла жыццё?

І я такіх ведаў, і шчыра паважаў, і з удзячнасцю ўспамінаю.

* * *

Чаму я павінен маўчаць, адкладаць на далей свае думкі і пачуцці з нейкіх палітычных меркаванняў, як быццам вышэйшых за маё чалавечае права на свабоду, на адно толькі жыццё?..

* * *

Калі ты сам сябе — хоць і заслужана, і шчыра — у душы або ўголас называет дурнем або гадам — гэта яшчэ не канчатковы прысуд. Недзе глыбей затоена перакананне, упэўненасць, што гэта не ўсё або не зусім яшчэ ўсё, што ёсць жа ў цябе, было і штосьці добрае, а застаецца — спрадвечна і назаўсёды — святое, дзіцячае: я больш так не буду.

«Все в табе, все в любве», — чытаў такое зноў жа ў Льва Мікалаевіча, вельмі ўжо даўно. Так проста і мудра гаварыў у яго хтосьці з вясковых сяброў) не памятаю ўжо, Бондараў ці Сютаеў. І словы тыя, з нейкім ці не беларускім налётам, успомніліся цяпер. Як вывад з горкіх пакутаў, гнілых сумненняў, дробнай, злаславай зайздрасці, падазронасці, незадаволенасці, крыўды...

Усё ў табе, і гэтага ніхто не забярэ, калі яно будзе ў сіле.

**ПА ПЛАНЕ**

Снедаючы ў Доме творчасці, Піліп Пястрак і Мікола Хведаровіч дзеляцца турэмнымі ўспамінамі. Польскі вязень успамінае адзін іх

бурны пратэст, потым, між іншым, згадвае пра шмалец, які ім дазволена было выпісваць.

— Ну-у, браце, — засмяяўся вязень культаўскі, — наеўшыся шмальцу, добра было пратэставаць!..

Праз дваццаць год, выпісваючы гэта з блакнота, успамінаю прачытаны ў машынапісе дзённік Кузьмы Чорнага. Як ён, наслухаўшыся расказаў Пестрака пра катаванні ў дэфензіве, успамінаў свае, тэхніку іх параўноўваў...

Нямала нарасказваў мне Хведаровіч, расказчык куды цікавейшы, чым літаратар, і ў вершах, і ва ўспамінах. Сёе-тое я занатоўваў.

«...Па плане ўсё рабілася. Прыходзіш у турму, а там ужо твая пайка сабралася за некалькі дзён: павінны былі ўзяць раней, але турма была забітая.

Камера на дзесяць чалавек, а нас там каля сотні. Мокрыя ад поту, у адных трусах, ляжым проста адзін на адным.

А параша саракавядзёрная, ажно брадзіць пачынае ад гарачыні. Уранні наглядчык адчыніць дзверы, а сам набок, каб духам з ног не збіла!..»

Бядняк, член партыі, адказны работнік, з моладу нястомны актывіст, пралетарскі паэт, ён і думаць не думаў, што і яму прыйдзецца цярпець такія пакуты, быць западозраным у такіх неверагодных злачынствах... Упершыню ўштурхнуты, пасля катавання, у перапоўненую камеру, прысеў каля napora, слухае, як храпуць... А потым голас з верхніх нараў:

— Отрок, поди сюда, приляжешь у меня.

Поп расказаў яму паўшэптам пра сябе. Пацяшаючы:

— Привыкнешь, отрок. Я уже четвертый раз посажен. Придешь домой, не успеет матушка первый блин на сковородке перевернуть — ан глядь в окно — уже опять антихрист в сине-красной шапке!..

«...Жанчыны не толькі ехалі за мужамі ў ссылку, але і каля турмаў далёкіх некаторыя ацірaліся — куды б яго ні перавялі. Падаянкі перадавалі.

А мужчыну, які ўслед за жонкай прыехаў, бачыў я толькі аднаго...»

«...Вось табе, браце, навела. Арыштаваны быў Тар Качаран, замест Эр Качарана, памылкова. Дзесяць год дамагаўся ён праўды, ды так і не дамогся. Выпусцілі з турмы, а потым зноў узялі, на высылку. «Дык я ж не Эр, а Тэр Качаран!» — апраўдваецца ён. «Але ж сядзелі вы. Вам, значыцца, і на высылку!» Логіка ёсць, — што за розніца, каму сядзець, каго саджаць?..»

Шматгадовы пакутнік, а ўсё ж вясёлы і разумна просты чалавек, сустрэўшыся неяк на выхадзе з Дома літаратара, Мікола сказаў мне:

— Надумаўся, браце, і я адзначыць свае семдзесят пяць. Відаць, апошні раз гэта. Хай будзе, хай пагавораць...

Як напрарочыў, што апошні, бо гады праз два памёр.

На тым юбілейным вечары, даволі прыстойным, работнікі тэлебачання чакалі са сваёй апаратурай да самага канца, да выступлення юбіляра. І трэба ж яна — такая іронія няхай паласкавелага, а так доўга суровага, несправядлівага лесу! Рыхтуючыся з-за стала на трыбуну, Мікола Хведаравіч зашпіліў пінжак не на тыя гузікі. Адно крысо ніжэй, борт адпаведна тырчыць угару. Асвяцілі шаноўнага на трыбуне, узялі, нарэшце, буйным планам, ён выступав, а здымаць няма як... Прыкра, столькі чакалі.

А ён?..

1988

## «КАЖЕТСЯ...»

У канцы 1947 года Кагановіча адклікалі з Украіны ў Маскву, і таму ў Кіеве не адбыўся пленум пад вельмі змястоўнай назвай: «Барацьба супраць нацыяналізму як галоўнай небяспекі ў КІІ(б)У», да якога ўжо рыхтаваліся. Крывавага шаўца натхняла пастанова пра часопісы «Звезда» і «Ленинград», пагром Зошчанкі і Ахматавай, адпаведнікаў якім, дарэчы, шукалі і знаходзілі ў кожнай рэспубліцы.

Улетку была праведзена нарада маладых украінскіх пісьменнікаў, якія былі адпаведна нацкаваны зверху на старзйшых, у першую чаргу — на Рыльскага. Так на паэму «Мандрівка в молодість» быў нацэлены сённяшні прагрэсіўны эмігрант Мікола Рудэнка і, як засведчыла прэса, заданне выконваў горача. Партызан Платон Варанько ў сваім выступленні не знізіўся да бэштання Рыльскага, Яноўскага, Сенчанкі, выдатных пісьменнікаў і высакародных людзей, якіх і я меў гонар пазней уведаць. Міхайла Стэльмах, якомуРыльскі зрабіў нямала добрага, на той пагром не з'явіўся, што было як-ніяк пэўным пратэстам.

Выступленні маладых падтрымалі... ажио пісаць не хочацца: Тычына, Бажан, Первамайскі... Само сабой Карняйчук, І некаторыя іншыя, каго я потым уведаў, але, аказваецца, недастаткова.

Да гонару Міколы Бажана — пазней ён прызнаўся, маючы на ўвазе загадана-калектыўны здзек з Юрыя Яноўскага:

«Мне нялёгка пісаць пра тое, што і я тады выступаў так, як не павінен быў выступаць. Не сцёр і не сатру гэтага са сваёй памяці, не скіну гэтага цяжару».

Іншы цяжар залёг у душы Максіма Рыльскага, якога прымусілі-такі напісаць пакаянне ў «Литературной газете» ў канцы таго самага года.

Чытаю поа ўсёгэта ў «Літературноі Украіни» — і згодзен з незнаемым, відаць, маладым аўтарам публікацыі, які не хоча, не можа цытаваць з таго вымушанага «прызнання». Не будзе яму месца, з гонарам дадае таварыш, і у дваццацітомным Зборы твораў Рыльскага.

Мы, беларусы, кажучы з горкай іроніяй, менш ганарлівыя. Наша «Літаратура і мастацтва» летась надрукавала пакаяльныя пісьмы Купалы і Коласа, глыбока-сумныя акты іхняй капитуляцый, што так выразна адбілася на далейшай творчасці. Мала гэтага, дык яшчэ нядаўна на вечары, прысвечаным памяці вымардаваных сталіншчынай пісьменннікаў, у канцэртнай частцы ўрыўкі з тых страшных пісьмаў былі ўрачыста зачытаны артыстам — пад партрэты абодвух класікаў, па чарзе высветленыя на экране...

У Рыльскага на сходзе, дзе ўжо сам Кагановіч падвёў яго аж пад пятлюраўца, хапіла духу ўстаць і сказаць, што такім ён ніколі не быў. У дзённіку Аляксандра Даўжэнкі значыцца, што ў ЦК Камуністычнай партыі Украіны, дзе Рыльскага апрацоўваў хтосьці з найвышэйшых, Максім Тадэевіч сказаў такое, што лепш, як і вершы яго, цытуецца ў арыгінале:

«Ви прийшли і підете, а я вже остався». І яшчэ — пра яго сапраўдную інтэлігентнасць.

Калі праз паўтара года пасля ад'езду Кагановіча ў Маскву пачалася кампанія супраць «бязродных касмапалітаў», пад новы агонь трапіў адзін з тых, што так нядаўна таптаў «нацыяналіста» Рыльскага. Аўтар публікацыі не называв таго «касмапаліта», і мне таксама важней іншае. Рыльскаму хтосьці сказаў, што вось і прыйшла магчымасць адпомсціць пагромшчыку, на што ён, без пары пасівелы паэт, які сівець пачаў яшчэ ў засценках 1937-га, адказаў, — таксама трэба прывесці ў арыгінале:

«Чим би я тоді відрізнівся від нього?..»

І яшчэ скажу — ужо такое, што над старонкаю «Літературноі Украіни» не першы раз успомнілася.

У чэрвені пяцьдзесят восьмага года, праездам гасцюючы ў мяне ў надсвідзянскай леснічоўды, Максім Тадэевіч расказваў, між іншым, і пра сваю сустрэчу на сесіі Вярхоўнага Савета СССР з тым самым Кагановічам. Тым ды не тым — ён ужо блізу год лічыўся ў «антыпартыйнай групе», а дэпутатам па куль што быў. Сустрэліся ў

гардэробе. Рыльскі павесіў паліто і адвярнуўся. А тут — ох, як жа знаёмае, шанаючы вас, аблічча!.. І ўсмешачка, і пытанне:

«Кажется, Максим, Фадеевич?»

Адказ:

«Да, кажется».

І — міма.

Хоць столькі чалавечага задавальнення.

1989

## ЛЫЖАЧКА ДЗЕГЦЮ

Напярэдадні Кастрычніка ў семдзесят першым годзе я гасцяваў у М. П. Прыляжаевай на яе перадзелкінскай дачы, прыйшоў туды з Дома творчасці.

Гасцей было ніштавата, пераважна старыя ды пажылыя жанчыны, а з мужчын, апроч мужа Марыі Паўлаўны, заўсёды карэктнага, прыемнага педагога, сусед па дачы Канстанцін Федзін, крытык В. О. і я.

У цэнтры ўвагі быў, вядома, Федзін. І гэта ўжо не проста павага была, а спрэс богатварэнне з боку састарэлых анеліц, ад чаго было прыкравата. Скажам, такое:

«Таварышы, а цяпер кожны з нас, адзін за адным, скажам Канстанціну Аляксандравічу штосьці добрае! Гэта будзе так слаўна — такія тосты...»

Хочаш не хочаш — нікуды не дзенешся.

Мая чарга была пад канец, я паспеў настроіцца на прыстойную шчырасць, сказаў пра «Першыя радасці», добрае ўражанне ад гэтай кнігі, па якой я некалі і пазнаёміўся з Федзіным-пісьменнікам.

Перад такім кальцавым славаслоўем быў першы нумар анельска-федзінскай праграмы. Канстанціну Аляксандравічу ўрачыста ўручылі сігнальны экземпляр другога тома акадэмічнай гісторыі савецкай літаратуры, яго другі паўтом. Таксама не проста ўручылі, як шаноўнаму саўдзельніку выдання, а з адпаведным уступным малебнам. Які ён, наш Канстанцін Аляксандравіч, акуратны ва ўсім, як ён не пераносіць хоць бы найменшай памылачкі ў кнізе, тым больш у такой, і як мы ўсе, дарагія таварышы, рады, што гэты паўтом выйшаў — «ну, без сучка і задорынкі»!..

Кніга пайшла спачатку ў рукі нібы імянінніка, пасля яе бралі, гарталі, цмакалі іншыя. Дайшла чарга і да мяне. Гэта было ўжо ў час тых кругастольных здравіц, настрой у мяне быў прыкра-прэсны, і я, калі ўжо ўсе адгаварылі сваё, з нейкай блазенскай прыемнасцю ціха

сказаў той пасівелай анеліцы, што ўручала кнігу і наогул асанніла найбольш:

«А Уладзімір Калеснік усё-такі Андрэевіч, а не Іванавіч, як тут».

Так значылася над падраздзелам пра заходнебеларускую літаратуру, не ў тэксце дзе-небудзь, а на самым відавоку.

Гады праз чатыры, у Дубултах, я нечакана сустрэўся ў Доме творчасці і з Прыляжаевай, і з тою яе сяброўкай. Марыя Паўлаўна зноў пачала нас знаёміць, а тая з калючай усмешкай сказала:

«Помню я, помню вашу лыжачку дзёгцю!..»

А мне жыва прыгадалася тая вялізная кадзь старэча-анельскага мёду, якім увесь вечар кармілі старога, рассаладзелага пестуна, і прасіць прабачэння не захадзелася.

1987

## СПАКОЙ

Знаёмы мой, малады літаратар, прыляцеў з Масквы ў Ашхабад, узяць для «Литературной газеты» інтэрв'ю ў Кербабаева. Сазваніўся, завітаў да класіка на дачу.

— Ваш погляд, паважаны Берды Муратавіч, на сучасны стан нашай савецкай літаратуры.

— Які погляд, якое інтэрв'ю, дарагі, хутка вечар, будзем чай піць.

Уранні зноў:

— Які погляд, дарагі, якое інтэрв'ю з самага ранку, будзем чай піць...

Камандзіровачны пачаў прасіцца. Гаспадар палепшаў:

— Ну добра, дарагі, прыязджай пасля абеду.

Прыехаў, зноў просіць, што больш ужо аніяк
не можа.

— Дык што ты хацеў, дарагі?

— Ваш погляд на сучасны стан нашай літаратуры. Для газеты, для шматмільённага чытача гэта вельмі цікава і важна...

Нічога не зробіш, можна і так.

Паважаны пайшоў на прыдуманы, падрыхтаваны гумар, звярнуўся да свайго сакратара:

— Слухай, дарагі, пайдзі ты пазвані ў аддзел культуры ЦК, спытайся, які мой погляд на сучасны стан нашай савецкай літаратуры.

І засмяяўся сыценька, прыплюшчана, пашанотна падтрыманы сакратаром.

Гадоў праз пятнаццаць, у Алма-Аце, на ўрачыстым літаратурным вечары, паважаны аксакал нявінненька драмаў у прэзідыуме, ужо выразна састарэлы, хоць і гладкі па-ранейшаму. На гэты ціха-шчаслівы міні-сон я шэптам звярнуў увагу суседа, даўняга ўжо, пры ўсіх перабудовах нязменнага ўсесаюзнага сакратара па арганізацыйных пытаннях. Ён іроніі не адчуў, душэўна зашаптаў мне з гаспадарскай задаволенасцю, што вось нядаўна Берды Муратавіч быў у Маскве і яго паглядзеў у паліклініцы літфонду сам прафесар... Назваў прозвішча таямнічай славутасці.

— Вполне здоров. Как хорошо, как ровно бьется его сердце!..

І тут нячысцік падсунуў мне лермантаўскі радок — пра сэрца, якое можа так біцца... Ды гэтага я ў адказ не шапнуў.

1987

## ТЭОРЫЯ І ПРАКТЫКА

Улетку пяцьдзесят чацвёртага года ў нашым Саюзе пісьменнікаў прымалі госця з Японіі, перакладчыка рускай прозы, прозвішча якога я не запомніў.

Ён папрасіў расказаць яму пра сацрэалізм.

«Мне ўжо гаварыў пра гэта таварыш Ілья Эрэнбург, аднак я прашу вас яшчэ раз мне растлумачыць. Толькі, калі ласка, паволі і простымі словамі, бо рускую мову я яшчэ ведаю ўсё-такі слаба».

Прыблізна так прасіў ён, з усім сваім пацешным нібы знарокавым крыўляннем і амаль стабільнапрыязнай ці ветліва-цярпкай усмешкай.

Задача!.. Нас было на сустрэчы не вельмі многа, а да таго яшчэ гарачыня. Не без цяжкасці ўгаварылі аднаго-з-нашых. Язык у яго, мы ведалі, падвешаны нядрэнна. Дый разбіраецца, вядома. І вось ён пачаў інтэлігентна і многа, надежным курсам.

Японец толькі падтаквае, як з удзячнай усмешкай: «Да... Да... Да-да...» А потым, калі наш энергічны тэарэтык, нарэшце, выгаварыўся да дна, госць пакланіўся яшчэ раз, з той самай усмешачкай:

— Спасибо. Я тоже ничего не понимаю.

А справа ж не ў Адным-з-нашых — ён гаварыў зусім правільна.

* * *

Пасля вайны ў партыйную школу бралі па заслугах то партызанскіх, то ўжо новых, працоўных. Пры гэтым — абавязковы працэнт жанчын. Адзін з маіх землякоў, дасціпна-вясёлы, злёгку адукаваны партызан, тады таксама слухач, госцячы неяк у мяне, смяяўся. Перадавіца такая, партызанка ці цялятніца, накрыўшы

плечы вялікай, ярка расквечанай хусткай, ідзе ў перапынку па калідоры і — пасля лекцыі па філасофіі — тупа, разгублена, прастадушна, здаровае дзіця прыроды, скардзіцца:

— Божа-божа, і хто ж яго ўсё гэта запомніць?!

Той жаласны ўздых часамі ўспамінаецца — пасля чарговай, мудрагеліста туманнай пропаведзі таго ці іншага тэарэтыка ад прыгожага пісьменства.

* * *

А гэта ўжо з практыкі.

Сталічны, акадэмічны крытык Ламідзе ў юбілейным артыкуле ў найважнейшай газеце пра садружнасць савецкіх літаратур ад кожнай з іх, як Ной у каўчэг, выбраў па пары. З нашай — Броўку і мяне. Броўку — як тагачаснага сакратара ўсесаюзнага праўлення, знаёмага па сумесных маскоўскіх сядзеннях. А што да мяне, дык прыпомніў таварыш адэскі Дом творчасці, дзе мы адпачывалі, часамі ў «дурня» разам гуляючы.

Другі маскоўскі крытык, В. Новікаў, у другім юбілейным выказванні, таксама згадаўшы нашы сустрэчы ў іншым Доме творчасці, залічыў мае «Птушкі і гнёзды» ў... экалагічны падраздзел. Арніталогія! Спачатку даў у газеце, а потым — значыцца, беспамылкова — і ў дадатковым томе Літаратурнай энцыклапедыі.

У першым выпадку я проста ўсміхнуўся. У другім — пры нагодзе спытаўся ў знаёмага з «Литературного обозрения», ці дадуць яны маю рэпліку. Не, — быў адказ, — таварыш Новікаў — з недатыкальных: доктар, прафесар, выкладчык вышэйшай партыйнай школы.

Ёсць тут, зрэшты, і іншы аспект, прыкры для аўтара кнігі: лепш напісаў бы, дык не блыталі б...

Можна пацешыцца і так. Тым больш — і на гэта махнуўшы рукою.

1987

## СВАБОДА ВОЛЕВЫЯЎЛЕННЯ

У першай палавіне шасцідзесятых я прымаў удзел у рабоце абласной выбарчай камісіі. У перапынку ў вестыбюлі пазваніў у рэдакцыю «Полымя». Салідная незнаемая дама, спыніўшыся збоку, з усмешкай спыталася:

— Вы говорите по-белорусски?

Яна была на пасадзе адказнай за справу народнай асветы, пра што сказала мне, з гордасцю дадаўшы:

— Была у меня одна белорусская школа, но я и ту прикрыла.

— Гэта для нас не нова, — сказаў я. — Да таго ж у вас былі адпаведныя папярэднікі.

— Кто же?

— Мікалай Раманаў, Юзаф Пілсудскі...

Яна, варона, спыталася, ужо без усмешкі:

— А при чем здесь я?

— Варта падумаць.

Пасля паседжання была вячэра. Два маладыя раённыя таварышы, якія, аказалася, чулі нашу з дамай гутарку, падышлі да мяне з чаркамі, каб выказаць разуменне. Гутарачы з хлопцамі, я зірнуў у той бок, дзе за сталом сядзела тая рэфарматарка. Яна глядзела на нас і, злавіўшы мой позірк, прыўзняла свой фужэр і зноў з усмешкай сказала:

— А я свое дело делала и буду делать!

І гэта, вядома, не самадзейнасць была, — калі не па «прямому указанию свыше», дык з «поощрением» напэўна.

І гаварылася гэта як-ніяк беларускаму пісьменніку, у той час нават «члену ўрада».

Зрэшты, гады са два перад гэтым, на першым паседжанні камісіі Вярхоўнага Савета БССР па культуры, першае пытанне было зададзена энергічнай пышкай, настаўніцай з Віцебска:

— Что же, товарищи, будем делать с белорусским языком?

Намесніца старшыні камісіі падклікала энтузіястку да сябе і амаль шэптам пачала тлумачыць пра тактычную заўчаснасць пытання. Пра гэта я толькі здагадваўся, ведаючы тую жалезную лэдзі па яе ранейшых выказваннях, на яе штатнай пасадзе.

На адным з наступных паседжанняў нашай камісіі я ўбачыў яшчэ адну лэдзі. Худая, чорная, з цыгарэткай і ўсмешкай, затоенай у непахісных паўнамоцтвах. Ва ўрадзе яна адказвала за фінансаванне спраў культуры і патрыятычна націскала на эканомію. Тады якраз быў прыкры перапад у тыражах нашых часопісаў, і дама з цыгарэткай прапанавала перавесці «Полымя» і «Маладосць» на выхад — упершыню ў гісторыі — раз у два месяцы.

— Я полагаю, этого вполне достаточно.

Слова ўзяў міністр культуры, лагодны, ветлівы Р. Кісялёў. Ен прасіў, так прасіў тую даму:

— Пусть еще побудет пока так, как есть, ежемесячно. Ибо где же печататься нашим писменникам?

Па звычаі начальства, з такою скідкай: не писатель, а писменник, з цвёрдым «с», нават з двума.

— Рыгор Якаўлевіч,— сказаў я, узяўшы слова,— дагэтуль лічылася, што справа беларускай культуры — гэта справа нашага народа, нашай партыі, а па-вашаму, яна датычыць толькі пісьменнікаў?

Мяне падтрымалі Р. Шырма, Н. Сняжкова, сакратар магілёўскага абкома партыі, рэдактар «Советской Белоруссии» А. Здаравенін, рускі па нацыянальнасці і светлы ў поглядах на справы братэрства. Яшчэ адзін даволі адказны абласны беларус толькі ўсміхаўся, нібыта ў мудрым прадбачанні сваіх пазнейшых высокіх пасадаў. А я неўзабаве быў пераведзены ў камісію па народнай асвеце, у значна большую ізаляванасць.

Усё гэта ўспамінаецца праз дваццаць з гакам гадоў, калі, бывае, чую або чытаю пра «свабоднае волевыяўленне» нашага народа ў «выбары роднай мовы»...

1987

## ФІЛОЛАГІ

Хто нашай цёткай не нацешыўся!.. Кажучы гэта, народнае, значна мякчэй.

Палавіна шасцідзесятых. Па прапанове ЮНЕСКА рыхтавалася анталогія беларускай паэзіі для выдання на галоўных еўрапейскіх мовах. Складалі ды абмяркоўвалі яе нашы найлепшыя паэты, дастойную прадмову напісаў Уладзімір Караткевіч. Ды вось не ўлічылі з належнай пашанай, што новы міністр культуры, М. Мінковіч, яшчэ і старшыня рэспубліканскай камісіі па справах таго ЮНЕСКА. І ён узяў гатовы рукапіс на прагляд, сказаўшы: «Я і сам філолаг!»

Забракаваў ледзь не добрую палавіну вершаў. Мала, маўляў, палітычнай паэзіі. Зверху, вядома, яго падтрымалі. Хоцькі-няхоцькі палітыкі рэдкалегія дадала. У выніку — справа з той анталогіяй заглухла...

Праз два гады, вясной шэсцьдзесят восьмага, міністр-філолаг прыехаў на Свіцязь, дзе ў доме адпачынку праходзіў рэспубліканскі семінар творчай моладзі. Я быў там ад Саюза пісьменнікаў, адказным за маладых літаратараў. На той сустрэчы сядзеў зусім ззаду, за мной нікога з нашай літаратурнай групы не было. Тым не менш калі адтуль, з-за мяне, пайшла да трыбуны загадкавая піеулька, потым яе, «дзе трэба», палічылі пісьменніцкай. Ледзь паспеўшы разгарнуць тую затеку, высокі прамоўца прачытаў:

— Чаму міністр культуры Беларусі гаворыць з намі не на беларускай мове?

Прачытаў і без найменшай паўзы абрынуўся на такую апалітычнасць. Зноў пачулася і «я філолаг», і не менш доказнае: «Думаеце, я не ўмею гаварыць па-беларуску?!» З такім высокім падтэкстам: «А вось жа не гавару!..»

Пасля выступлення ён і яшчэ адзін філолаг, камсамольскі кіраўнік семінара, вёрткі таварыш, які, дарэчы, і сёння плавае зверху, адразу ж, неадкладна пазванілі ў Мінск — пра ўспышку нацыяналізму, якая імі «паспяхова ліквідавана»...

Здаецца, праз год, на сустрэчу з амерыканскімі журналістамі ад Саюза пісьменнікаў, па сакратарскім абавязку, прыйшлося пайсці мне, дзе зноў сустрэўся з магутным філолагам, на той самай глебе.

Журналісты былі з прагрэсіўных. Пытанні былі ў іх па справах, нацыянальнай палітыкі, і трэба сказаць, што праз пытанні тыя выразна праглядвала вельмі нядрэнная абазнанасць. Адказваў Рыгор Раманавіч ,Шырма, потым і я. ІФілолаг яўна перажываў, баяўся, як мне здалося, асабліва за мяне. І тут жа, як толькі я закончыў, ён паспяшаўся справу з адсутнасцю ў Мінску школ на роднай мове як мага больш «праясніць»...

Хоць і я адказваў асцярожна, да прыкрай самапагарды падкавана...

## «ВЫ — НЕ ТОЕ...»

У верасні пяцьдзесят чацвёртага года, на беларускім пісьменніцкім з'ездзе, мілы львавянін Юрка Мельнічук запрасіў мяне ўвечары ў свой гасцінічны нумар. А прыйшлі мы туды — за намі з хола прычапіўся крыху знаёмы абодвум масквіч, «праўдзіст», таварыш шырокай рускай душы. Толькі селі за стол, да бутэлькі віна, госць няпрошаны рассаладзеў:

— Люблю я вас, белорусов. Это не то, что украинцы, националисты!

Спакойны, мужна прыгожы Юрка сказаў:

— Изрекая такие истины, надо сначала, уважаемый, застегнуть ширинку.

Той устаў, зірнуў уніз — і сапраўды...

— Мне что, уйти?

— Да, так будет лучше.

Пайшоў. Пачакаўшы, вярнуўся. Прасіў прабачэння. І ўсё намагаўся пераканаць нас, што і Украіну ён таксама вельмі любіць.

Ну, гэта — чалавек з «хваробаю».

А на Днях беларускай літаратуры ў Маскве, калі не памыляюся, у пачатку шэсцьдзесят дзевятага, Сяргей Смірноў («брэсцкі») і той, хвалячы нас, нашу дэлегацыю, і наогул усіх беларусаў, сказаў у сваім выступленні:

— Вы не тое, што вашы паўднёвыя суседзі!..

І я, вахлак, службова адказны за тое мерапрыемства, і ніхто іншы з нашай трупы не спытаўся ў яго:

«А што вы, паважаны, скажаце на такіх самых днях таксама братняй украінскай літаратуры?..»

І так яшчэ было, у ялцінскім Доме творчасці, напрадвесні таго самага шэсцьдзесят дзевятага. Ціхан Сёмушкін, з якім я там пазнаёміўся і якога хацелася паважаць, гаварыў нам, двум беларусам:

— Украінскія пісьменнікі самі прыдумалі сваю ўкраінскую мову. Народ іхні так не гаворыць.

Арыгінальным гэта мне не здалося — такое самае я чуў раней ад Барыса Палявога. Стары, прасцецкі з выгляду Сёмушкін гаварыў сваё, у Ялту прыехаўшы з Ірпеня, дзе яго ў тым украінскім Доме творчасці, сам расказваў, прынялі вельмі добра, нават два тэрміны пабыў. Ну і падзякаваў здалёк. А Палявой сваю ісціну выдаў як госць украінскай Дэкады літаратуры і мастацтва ў Маскве, у канцы шасцідзесятага. Седзячы ў прэзідыуме перада мною, другому адказнаму маскоўскаму госцю ён гаварыў тое «самі прыдумалі» такім шэптам, што і я чуў гэта, не падслухоўваючы.

Як сёння, бачу яго. Нага за нагу, разваліўшыся з вялікадзяржаўнай свабодай. Увесь свет аб'ездзіў, усюды навыступаўся, пра ўсё панапісваўся, у розных прэзідыумах насядзеўся... А мне здавалася, што тут ён — як асвінелы кулакаваты дзед, падпусціў на ўсе застаўкі... І водар гэты помніцца.

1987

## ЛЮБІЦЬ З ЦЯРПЛІВАСЦЮ

Пятрусь Броўка папрасіў мяне прачытаць рукапіс яго рамана «Калі зліваюцца рэкі». «І, прашу цябе, толькі строга». Потым прыслаў па мяне машыну, з Каралішчавіч. Там, у яго фінскім доміку на лясным водшыбе, сядзеў і Янка Скрыган, які нядаўна вярнуўся з «доўгай адсутнасці». Быў чэрвень пяцьдзесят пятага. Мы пачалі з Пятром Усцінавічам размову, а Ян Аляксеевіч сядзеў, слухаў, прыемна ўсміхаўся. Запрошаны да строгасці, я пачаў гаварыць выбарачна, па мясцінах, на полі адзначаных лічбамі па пяцібальнай сістэме. Гэта, ведаючы аўтараву чуйнасць да крытыкі, было трохі лягчэй, чым

адразу сказаць пра агульнае ўражанне. Не дайшлі мы і да палавіны рукапісу, як гаспадар сказаў:

— А можа, хлопцы, і няблага было б нам перакусіць?

Загаманіліся да поўначы, але пра рукапіс размова не была прадоўжана.

Гэтая проза паэта, можна сказаць, трыумфальна ішла ў спецнаборы раманаў, якія з не меншай сілай сведчылі пра тагачасны «буйны рост» нашай эпікі. А ў нетрыбунных гутарках старшынёў раман называўся інакш: «Калі зліпаюцца векі». На нейкім сходзе і я, без усякага злога намеру, ледзь не ляпнуў такое, асекшыся на палавіне фразы. А ў дакладзе на пленуме, у студзені шасцідзесятага, са смешнай сёння смеласцю дакрануўся і да першага ў абавязковых пераліках.

Шаноўны Вацлаў Жыдліцкі ў адным з чэшскіх слоўнікаў пісьменнікаў свету, сказаўшы добрае слова пра лепшае ў Броўкавай паэзіі, з прастадушнай аб'ектыўнасцю, збоку, зводдаль дадаў: «...а таксама аўтар схематычнага рамана «Калі зліваюцца рэкі». Гэта было яму ўлічана: у нашу энцыклапедыю ён не трапіў, у дапаўненне да яе таксама. Праўда, тут дапамаглі «падзеі» 1968 года, аднак і асабістая прычыначка сваё зрабіла.

Час прайшоў. Жыдліцкаму знайшлося законнае месца і ў энцыклапедыі літаратуры і мастацтва і ў купалаўскім энцыклапедычным аднатомніку, аднак... Аднак таксама засталося. Верны, актыўны друг нашай літаратуры, закончыўшы сваю чатырохгадовую выкладчыцкую працу ў Маскве, вяртаўся ў Прагу спецыяльна цераз Мінск, каб на дзень-два спыніцца ў нас па нашых справах. Усё было дамоўлена, аднак сваё зрабілі ўжо новыя асабістыя прычыны ды прычыначкі, — адзін з маладзейшых кіраўнікоў Саюза пісьменнікаў — сёння, вядома ж, прагрэсіўны — пайшоў «куды трэба», патрыятычна пашаптаўся, і ў Маскву, насустрач госцю пайшла тэлеграма з ідыёцкай матывіроўкай, чаму яму нельга спыніцца ў Мінску. Нешта накшталт «в виду сложившихся» ці «изменившихся обстоятельств»...

Вось так. А чалавек робіць якраз аднатомнік Кузьмы Чорнага, намагаючыся данесці слова яго да чэшскага чытача як мага найлепш. А ў нашым выдавецтве каторы год пераносіцца ў планах кніга Жыдліцкага пра беларускую літаратуру, бо ён з-за Чорнага ўсё адкладае яе здачу.

Любіць нас, беларусаў, таксама трэба з немалой цярплівасцю.

Думка вядзе мяне ад чэха да паляка, Яна Гушчы, да адной гутаркі «наверсе», калі я яшчэ працаваў сакратаром Саюза пісьменнікаў і адказваў за сувязі з іншымі літаратурамі.

З Лодзі прыйшло пісьмо з просьбай прыняць за кошт іхняга выдавецтва паэта Гушчу, тэрмінам на два тыдні, для папярэдняй працы па падрыхтоўцы Анталогіі беларускай паэзіі ў перакладзе на польскую мову. У адказ на нашу радасць — першая такая Анталогія! — таварыш Марцалеў, адказны за культуру ўсёй рэспублікі, накіраваў на мяне свой сурова ашклёны позірк і ва ўпор спытаўся:

— А чего ему здесь надо?

На спробу яшчэ раз раеглумачыць, што гэта азначае, велікамудрае «а чего?» было паўторана з не меншай глыбінёй.

Пасля гэтай гутаркі я на два дні паехаў у Брэст, да сябра, каб адпачыць.

Гушча пазней усё-такі йрыехаў, мы дамагліся гэтага, і першае, што ён сказаў мне, яшчэ на вакзале, было пытанне:

— Ну што вы за маразматыкі? Сілаю трэба да вас дабівацца, каб для вас жа што-небудзь зрабіць!..

Прыйшлося і апраўдвацца, і сорам мулкі глытаць...

Зноў Жыдліцкі.

Калі мы з Адамовічам прыйшлі на перон, каб сустрэцца з Вашакам хоць на некалькі мінут стаянкі яго цягніка, супакойваць «праезджага госця» не трэба было. Ен па-свойму міла ўсміхаўся, спакойна, элегантна гаварыў на сваёй выдатнай беларускай мове. А на сумленнае сэрца — пасля двух інфарктаў — яшчэ ўсё асядала копаць новай крыўды...

1988

## ДАЛЁКАЕ РЭХА

Дваццатае верасня трыццаць дзевятага года. Назаўтра пасля капітуляцыіі абаронцаў польскага Узбярэжжа.

Учора ўсё для нас закончылася пад вечар. Калі даўжэзная калона марской пяхоты, матросаў і касіньераў — усе бяззбройныя, выкачаныя ў зямлі, галодныя, аброслыя — уваходзіла ў Вейгарова, горад быў у гітлераўскіх сцягах, а вясёлыя дзеўкі крычалі нам з тратуара:

— Чы то польске войско машэруе на Бэрлін?

Матрос, што ішоў побач са мной, адгукнуўся:

— Чэкай, курво, мы ешчэ ўруцімы!

Начлег быў без вячэры, на мокрым бруку турэмнага двара. А раніца — без снедання. Пад'ём і паход, далей на захад.

Голад для нас пачаўся на перадавой. Калі меркаваць па сабе, дзён чатыры таму назад. Наш «цэкаэм» — станкач хаваўся на ўзгорку,

паміж гнілаватых ад непагадзі пракосаў канюшыннай атавы. З сямі нумароў разліку нас засталося чатырох, без камандзіра, які, разам з яшчэ двума, заблытаўся недзе ў тыле. Першы нумар, «цэлёўнічы», прыгажун Філец, сілезскі шахцер, цярпеў па-свойму спакойна, моўчкі. Гаваркі Бунчук толькі божкаў па-бабску, ці то ад голаду, ці то ад страху. Другі беларус, мой недалёкі зямляк, цельпукаваты Капыцька, раз-поразу глуха стагнаў: «Есці хачу не-вы-на-сі-ма»!.. Сціхаў, калі над намі зноў вылі снарады, што выбухалі далей, у яры Бабі Дул, дзе раней быў заразны шпіталь, а цяпер апошні пункт бязладнага супраціўлення акружанага гарнізона Гдыні, — сціхаў, а потым зноў сваё: «Не-вы-на-сі-ма!» І матам яго беларускім, вясковым, той польскі, ваенны голад.

Апошняе, што я еў па-салдацку, адпоўзшы, адбегчы ў даліну, дзе дагараў харчовы склад, была ў адной абсмаленай, пагнутай і ўжо некім распоранай бляшанцы таматная паста, а ў другой, таксама пачатай, густое вішнёвае варэнне. Шырокім багнэтам, кінжальным штыхом, я чэрпаў з бляшанак на змену, то прыгарэла церпкае, то прыгарэла салодкае, і праз голад з даўкай агідай.

У «Птушках і гнёздах» я напісаў, як два пажылыя немцы, гонячы ў тыл палонены кулямётны разлік, у сваіх акопах далі галодным трохі хлеба і мяса з недаедзенай кансервы. Так было і са мною з сябрамі па разліку. Аднак і надта ж мала было той літаецці салдацкай, душы мы так не заткнулі — маладое душы, з прагай жыць.

Дык вось, дваццатага верасня мы ішлі. Няхай сабе і з вольным ад страху смерці небам над галовамі, але ж і пакутліва галодныя. Там, дзе вёскі бліжэй да гасцінца або дзе хутар які, да нас выходзілі жанчыны. Па міжнародным мадярынскім ці сястрынскім абавязку. Полькі, кашубкі. Яны падавалі нам хлеб, яблыкі, грушы, памідоры — хто што паспеў схапіць, выбягаючы з дому. Канвойныя не адганялі іх — абы толькі калона не спынялася. Мала было таго, каму што дасталося. І так нямала, бо па-роднаму, на ярывітанне і развітанне. І са слязьмі, вядома. У жанчын.

Ужо даўно тая вайна, той пачатак другой сусветнай — гісторыя, заключаная ў разнамоўныя кнігі, пазбаўленая большасці непасрэдных удзельнікаў і сведак. Ужо дзяўчынка, якую я памятаю, састарэла тым часам або і памерла, а я вось бачу яе і цяпер. Мілага падлетка з кошыкам чырванабокіх яблыкаў. І са страхам, відаць, у сэрцы, і з чыстай, інчырай спагадай. Яна то сама падае нам з кошыка, ідучы побач з калонай, і не спраўляецца падаваць, бо нашы прагныя рукі перашкаджаюць яе малой руцэ, то з пустым нарэшце кошыкам ідзе, не адыходзіцца. І нічога не кажа, а толькі глядзіць... Пакуль яе не

адагналі. Не так і злосна, як па салдацкім, па варожым абавязку. Канвойныя.

Не памятаю выразна, ці яна падала тое яблыка і мне, ці сам я схапіў яго з кошыка, ці наогул мне на той раз пашанцавала. Памятаю другое — самую яе, як яна подбегам спяшалася з роднага саду, як яна потым ішла з пустым кошыкам побач з калонай. Малая жанчына, з амаль дзіцячай чысцінёй і горкім недаўменнем у вачах...

За тагачаснай, крывавым гвалтам парушанай польска-нямецкай гранідай нашу калону прыпыніў пасёлак, назву якога я назаўсёды запомніў — Бошполь. Нічога надзвычайнага — праз шаснаццаць гадоў я праязджаў тым гасцінцам з Гдыні ў Шчэцін і не спыніўся ў тым пасёлку, толькі прачытаў з акна машыны яго іншую назву — Божэ Поле. А тады, у першы дзень міру і няволі, у тым нямецкім на той час пасёлку нас сустрэлі таксама жанчыны.

Маладзенькія элегантныя фройляйн з чырвонымі крыжыкамі на па-анельску белых павязачках над рознымі колерам і стараннем прычоскамі. Сястрычкі міласэрнасці. Яны толькі што выйшлі з белай ашклёнай веранды — неслі гарачую каву ў далікатнай парцэляне кубачкаў на сподках. Яны так міла ўсміхаліся...

І сёй-той з нашай галоднай, бруднай, стомленай братвы з наіўнай радасцю сунуўся насустрач тым усмешкам,

Ды тут была ўжо не польска-кашубская чыстайоліца. тут быў ужо іншы патрыятызм, тут для канвою была свая жаночая маладосць, каля якой і пажылому хочацца быць салдатам. Тым больш калі цябе сустракаюць кавай, усмешкамі. Была вайна — з абавязкам варожасці. І мы адчулі гэта ў зласнейшым, чым у дарозе было, амаль такім, як на турэмным дварэ, вахманскім крыку:

— Цурык, фэрфлюхтэ польнішэ швайнэ! Дурык!

* * *

Усю тую восень, зіму і прадвесне я не меў аніякай вестачкі з дому.

Абодва старэйшыя браты, як думалася, былі на фронце, — што з імі цяпер? Як там старая, нямоглая маці? А яны ж там усе, хто жывы, не ведаюць, што са мною...

Пасля некалькіх галодных ды халодных сутак у лагерных «цэльтах», вялікіх брызентавых палатках, з горада Старгарда нас, чалавек паўсотні, вывезлі ў маёнтакФалькенвальдэ, дзе мы капалі бясконцую бульбу, пераводзіліся сякойтакой ядою, начавалі на сцюдзёным гарышчы бровара. А неўзабаве я, у групе з дваццаці чалавек , трапіў у недалёкую і вялікую вёску Альтэнведаль.

Уранні нас два вахманы разводзілі па «баўэрах», гаспадарах, а ўвечары збіралі ў «штубу», пусты, высока абгароджаны калючым дротам дом з закратаванымі вокнамі. З ядой, у параўнанні з лагерам і маёнткам, стала значна лепш. Баўэрам забаранялася саджаць палоннага за стол разам з сямейнікамі, але большасць махала на гэта рукой, часамі і дадаючы што-небудзь не надта нацыянал-сацыялістычнае. Ну, а работы хапала: гаспадаркі ў большасці багатыя, і з кожнай хаты, куды далі палоннага, нехта з мужчын быў на вайне.

Гаспадар, да якога я трапіў, лічыўся «кляйнбаўэрам», ледзь не бедняком, — толькі дзевяць кароў і адзін конь, бо другога забралі, калі пачалася вайна. Сыны абодва на фронце. Бацькі абое старыя. А яшчэ і бабуля, гаспадынiна маці, зусім нямоглая, амаль не паказвалася са свайго пакоя.

Спакваля ды сяк-так уваходзячы ў мову гаспадароў, да пажылых мужчын мы звярталіся «фатэр», а да жанчын, вядома, «мутэр». Мой «фатэр», тоўсты, задышлівы і, як неўзабаве аказалася, людскі дзед, мог часамі паразважаць пра ўсё блізка да нармальнага. Гаварыў ён са мной не памеранскім «платам», як усе ў вёсцы, а на «гохдойч», які я разумеў трохі са школы, а тут стараўся запамінаць. Бравая «мутэр», і маладзейшая за яго, і ўладная, хадзіла — па-нашаму беручы, як не вясковая, у акулярах ці нават у пенснэ, быстра і не гнучыся, нібы яна нікога і нічога не баялася. І гэта мне даволі хутка прыдалося.

Разоў колькі пачуўшы ад мяне, у адказ на яе пытанне, што весткі з дому, ад сваёй мутэр, я ўсё яшчэ не маю, яна параіла напісаць дахаты не цераз вахмана, не на спецыяльным бланку, а прыватна. Дала паперы, канверт з маркай, самапіску і запрасіла да кухоннага стала. Не адкладаючы, «энэргіш», як любіла часта паўтараць. Зваротны адрас, сказала, няхай будзе іхні.

Калі на гэтае пісьмо адказу хутка, як хацелася, не прыйшло, яна дала мне другі канверт і паперу. На гэты раз я напісаў ужо не дахаты, а ў абход, як здавалася, больш пэўным чынам: Валянціну Булгакаву, з якім мы, я і брат Мініа, перад вайной перапісваліся настолькі часта, што адрас я памятаў дакладна. Пісьменнік, апошні сакратар Льва Талстога, ён жыў у Чэхаславакіі, якая ўжо стала пратэктарам Багемія і Маравія, у Збраславе каля Прагі, яшчэ не быў інтэрнаваны як савецкі грамадзянін, што з ім здарылася пазней, калі пачалася вайна з Савецкім Саюзам. Пра гэта я, зрэшты, даведаўся аж праз дванаццаць гадоў, калі мы з Валянцінам; Фёдаравічам сустрэліся ў Яснай Паляне.

На гэтае пісьмо адказу я таксама не атрымаў. Яшчэ адзін канверт ад гаспадыні, і яшчэ раз дарма.

Ды тут нас, сем беларусаў з тое дваццаткі, перавялі на іншую «арбайтскаманду», зноў у маёнтак, у планава-казённую прыгаладзь.

Тады ўжо ўсе польскія палонныя былі падзелены па нацыянальнасцях. Нас, хто «з-за Буга», павінны былі, як гаварылася, неўзабаве адпусціць дахаты. За восень і зіму мы двойчы запаўнялі адпаведныя анкеты. І ўсё чакалі, спадзяваліся...

І вось у адзін з тых вясняных маёнткавых дзён вахман раптам павёз мяне ў лагер.'Чаго — не тлумачыў: проста загадана. А ў мяне і ва ўсіх нас, таварышаў па камандзе, адно хваляванне — галоўнае. На грані радасці і надзеі ў мяне, а ў хлопцаў яшчэ ж і зайздрасць.

А сустрэў мяне допыт у лагернай камендатуры. Пра забароненую перапіску. Даволі ветлівы унтэр дапытваў па-польску. Ад яго я пачуў, што ў доме маіх гаспадароў «порткі носіць не муж, а жонка». Прымаўка. Значыцца, з тымі прыватнымі пісьмамі вінавата яна, гаспадыня. Ды я ўзяў усё на сябе — сказаў і двойчы паўтарыў, што канверты, маркі, паперу купляў я сам. Вядома ж, не за лагерныя боны, што выдаваліся нам па трынаццаць на месяц, а за нармальныя грошы, бо я, маўляў, знайшоў іх на вуліцы ажно цэлую марку. І сам, без ведама гаспадароў, пакарыстаўся іхнім адрасам. Якія пісьмы былі затрыманы — мае ці да мяне, спытацца я ці не асмеліўся, ці унтэр мне не адказаў на такое пытанне — не памятаю. Паверыў ён мне ці не паверыў, таксама цяжка сказаць. Проста даў на паўгода «постшпэрэ», забарону пісаць і атрымліваць пісьмы.

Яшчэ ў Альтэнведэлі адзін з нашых хлопцаў нажыў сабе новую мянушку. Баўэр, у якога ён працаваў, спытаўся неяк, адкуль ён родам, колькі яму кіламетраў «нах гаўзэ». Гаварылі яны, што называецца, як гусь з парсэсем. «Віфіль, кажаш, кілямэтар?» — перапытаў наш Васіль і заду маўся. «Гундарт — замала. А тысяча ты фарштэй?» — «Ды не фарштэй». — «А мільён фарштэй?» — «Ох, я, я!» — «Ну, то мільён». Расказаў нам пра гэта ўвечары і з таго моманту стаў Мільёнам. Неўзабаве і адгукацца на гэта пачаў, бо хлопец быў з гумарам.

А ў гэтым штосьці было і не смешнае. Без вестак з дому дом наш быў вельмі далёка. Асабліва чамусьці ў мяне, бо іншыя хлопцы пісьмы спакваля пачалі атрымліваць. А тут — на та бе! — яшчэ на паўгода «постшпэрэ», слова і ўпершыню пачутае, і гідкае адразу...

Аднак і ў акуратных немцаў тым разам здарылася няўвязка.

Вахман, пакуль унтэр мяне дапытваў, быў недзе на дварэ, а потым, калі мы з ім вярталіся, забраў на лагернай пошце пісьмы для нашай каманды. Ні ў шталагу, ні ў вагоне вузкакалейкі ён мне нічога не сказаў, пра нішто не спытаўся, пісьмы тыя таксама не паглядзеў. А

як прыехалі, у нашай адрыне на пяцьдзесят чалавек проста аддаў аднаму з палонных прывезеныя пісьмы, сярод якіх было і мне.

З дому! Першае! І ўсе нашы жывыя!..

Яно ў мяне захавалася. Напісанае Мішам, яго прыгожым почыркам, фіялетавым чарнілам, на чатырох старонках са сшытка, у лінейку. Датаванае 20 сакавіка. Не першае, што высылаліся мне. А гэтае — пасля атрыманай паштоўкі ад Булгакава, высланай ім 16 студзеня. «Ен коратка, але сардэчна, — пісаў мой Міхась, — звяртаецца да мамы, паведамляючы пра цябе, і просіць цераз яго пісаць табе, мяркуючы, што так мы з табой хутчэй наладзім сувязь. Я, вядома, пішу і яму. А мы пісьмы твае атрымліваем, але не ўпэўнены, што нашы да цябе даходзяць». Далей ішлі навіны — сямейныя і вясковыя. Пра новае жыццё: хату-чытальню, самадзейнасць, лесавывазкі... І сам сабе я чытаў яго, перачытваў, і сябрам прачытаў, як яно ў нас заведзена было, і рады быў, што вось і я магу нарэшце таксама пачаставаць.

З войска, вайны і палону я вынес блакнот. У ім хімічным алоўкам запісана і такое:

«Мулькентын, 6.IV.40. Дзень сённяшні — трывожная надзея, суд, пісьмо — найбольш хіба радасны, памятны дзень няволі... Калі ж дадаць да гэтага смерць Васілеўскага, магу сказаць, што гэты дзень ніколі не забуду...»

Валодзя Васілеўскі, нёманскі плытагон, з якім мы і ў войску служылі ў адным аддзяленні, і ў палоне был і найбліжэйшымі, яшчэ з папярэдняй каманды быў вывезены ў шталаг, да доктара, і памёр ад аперацыі апендыкса, пра што мы даведаліся ў той самы дзень, трывожны, радасны і сумны для мяне.

Есць у тым блакноце і запіс, зроблены пасля няўдалых уцёкаў дахаты, калі я адседжваў у «штрафкампані», штрафной роце. У свежых успамінах пра ночы і днёўкі ёсць і пра маці, і пра недапісаныя дома апавяданні, і пра зорачнасць неба, і пра вясельны «брэх» аленяў на вячэрнім узлеску. Есць таксама і пра «кляйнбаўэра», у якога мне было найлягчэй батрачыць. Калі нас забіралі з Альтэнведэля, нямоглы «фатэр» са слязьмі ў вачах прахрыпеў: «Ду варст майнэ зонэ ім гаўз» — ты быў маім сонцам у хаце. А бравую «мутэр» я ўспамінаў з удзячнасцю і адчуваннем віны: як жа яе пакаралі за тую спагадлівасць?..

З такім ды падобным я, калі пісаў свае апавяданні і раман пра перажытае ў палоне, павінен быў асцерагацца. Бо і ў пачатку шасцідзесятых, хоць і «адліжных» гадоў, калі я надрукаваў свае «Птушкі і гнёзды» ў часопісе, увесь крытычны вэрхал накіраваны быў

на «адсутнасць антыфашысцкай барацьбы», па строга заведзеных стандартах, на той славуты «абстрактны гуманізм», які лічыўся ледзь не замаскаванай здрадай радзіме. «Навошта табе любавацца іхнімі соснамі? — пытаўся ў мяне сам-насам адзін з літаратурных кіраўнікоў. — Табе што, сваіх не хапае?!» Другі спагадлівец, стары бібліятэчны работнік, на абмеркаванні рамана ў іх калектыве спачатку маўчаў, а потым, таксама сам-насам, зашаптаў мне: «Вы ведаеце, як я добра адношуся да вас, але крытыку раю ўлічыць. Борьбы-то ведь нет!» Нават на рускую мову для большай значнасці перайшоў.

І «борьбы нет», і соснамі нямецкімі любуецца, а яшчэ ж і пра нейкую там складанасць ды чалавечнасць!..

* * *

Як і задумана было, найбольшы голад быў у « штрафкомпані ».

Грэблівасць я захаваў і там — не мог жаваць смалу са слупоў агароджы, як некаторыя штрафнікі, не лез далоньмі пад карыта для мыцця посуду, каб шукаць там штосьці або высмоктваць яго з гразі, як бачыў гэта, яшчэ не ў штрафной, у нейкага мараканца. Цярпеў, як цярпелі ўсе, уголас не стагнаў.

Аднойчы наш Коля Корбан, вясёлы, людскі хлопец з-пад беластоцкіх Крынак, у невялікай групе палонных вяртаўся з вясковай каманды ў лагер. Заўважыўшы яго, я гукнуў. Коля падбег да нашай штрафной загарадзі, мы паспелі перакінуцца словам, і ён, расшпіліўшы свой «хлёбак», салдацкую торбу, падаў мне цераз калючы дрот брамы «штўле», дзве лустачкі хлеба са шмальцам з падсмажанай цыбуляй паміж імі. Што самому яму недзе ў вёсцы дала на дарогу нейкая добрая душа. Ен пабег у свой строй, бо адтуль пачуўся вахманаў крык, а я на месцы расправіўся з такім нечаканым шчасцем і ап'янеў ад яго. Ужо як быццам прывычны да голаду, але глынуў той бутэрброд і — ап'янеў!..

Бывае, што адчуванне тое вяртаецца.

«Глынуў»... Наогул я ем хутка. Часамі нават няёмка бывае, у санаторыі, у Доме творчасці, калі падыдуць ды ветліва-прыцішана спытаюцца: «Вам дабавіць? Вы не саромцеся, кал і ласка». Прывычка ў мяне трохі з войска, дзе ўсё спяшацца трэба было, а больш з палону, па яшчэ больш зразумелай прычыне.

У штрафной роце сядзелі найбольш за ўцёкі. Пад восень уцекачоў было значна менш, даседжвала нас у верасні чалавек трыццаць. Пасля гэтага ўцекачоў чакала яшчэ так званая «Ц-кампані», рота прамежкавая для тых, што адбылі ў штрафной, а ў агульны шталаг не

выпускаюцца, адбываючы яшчэ адзін, трохі лягчэйшы курс перавыхавання. І на працу ходзяць асобна, і барак таксама ізаляваны калючым дротам., Штрафная рота ў камендатуры значылася літарай «S», прамежкавая — «С». А сядзелі тады ў той «С» чалавек з дзевяноста.

І вось аднойчы на кухні пераблыталі тыя літары, і нам, на трыццаць чалавек, прынеслі дзевяноста порцыяў баланды! Паку ль на кухні раздатчыкі схамянуліся, прыбеглі ў наш барак, адбіраць, мы — во было, дык было! — паспелі высербаць усё. Няхай сабе швабы цяпер лаюцца колькі хочуць!

Вечар наш быў вясёлы — як пасля чаркі. Нават і з небывалай дагэтуль «музыкай»...

* * *

Зімой, пад канец сорак пятага года, на ўскраіне зруйнаванага Мінска, каля драўляных домікаў, у адным з якіх я жыў, у горад часта вярталіся грузавікі з доўгай драўнінай, на бясконцую адбудову.

Неяк увечары два з тых лесавозаў спыніліся ўзбоч вуліцы, салдаты ўнутраных войскаў забеглі ў дом да знаёмых дзяўчат, а сваім памагатым, палонным немцам, дазволілі зайсці ў іншыя домікі — пагрэцца.

Нас у пакойчыку было чацвёра: старая маці, маладая жонка, маленькая дачка і я, нарэшце, уладальнік жыллёвай плошчы — цэлых дзесяць метраў!

Ашушканы немец прысеў перад грубкай, у якой гаманіла полымя, пагрэў далоні, потым пачаў гаварыць, балазе ўжо трохі набыльваў «паруску» :

— Цайтунг шрайбэн, радыё шпрэхэн: скоро, скоро нах гаўзе, домой... Унд ніхт скоро, ...твою мат!

Як і не лічачы гэта лаянкай.

Дробязь, а ўспамінаецца. Нядаўна я прыгадаў гэта жонцы. І яна дадала, што я забыўся — як той немец скардзіўся і на харч:

— Нур суп унд хлеп, онэ путтэр!..

Без масла, значыцца.

А я тады, — таксама жонка мне нагадала, — расказаў яму, як нас кармілі ў іхніх лагерах. І немец змоўк.

Бо ведаў, можа, і значна большае — пра страшны лес палонных чырвонаармейцаў...

1990

## ЗАКАЗ І ПРОСЬБА

Пазнейшы наш прэзідэнт В. Казлоў вясной сорак сёмага года быў першым сакратаром Мінскага абкома партыі. Пасля Перамогі прайшло толькі два гады, а ўжо шчымела жаданне ўвекавечыцца ў слове. Ен так і гаварыў: трэба раман. Разумеецца, пра яго. Гаварылася гэта двум нашым маладым таварышам, якіх узяцца за той раман угаворваў ці толькі сам натуршчык, ці і з нейчай дапамогай — я ўжо не памятаю, як і таго, чаму яны не ўзяліся. Затое добра помніцца, як зверху прысланы ў Саюз пісьменнікаў адказны сакратар выклікаў мяне і ўрачыста прапанаваў «дапамагчы Васілю Іванавічу з кнігай». Што азначае такое «дапамагчы», я ўжо чуў і таму яшчэ ўсё памаладому нявыхавана адказаў: «Няхай ён піша сваё сам. І я буду сваё». Нешта так. А ўжо дакладна помню, як адказны здзівіўся: «Ты яшчэ пашкадуеш!..»

Другая спроба ўцягнуць мяне ў падобную службу была зроблена праз дзесяць гадоў. П. Машэраў узначальваў тады Брэсцкі абком партыі. З Пятром Міронавічам мы пазнаёміліся ў пачатку пяцьдзесят трэцяга, калі ён кіраваў камсамолам рэспублікі і рупліва ўдзельнічаў у арганізацыі часопіса «Маладосць». Свойскі ў абыходжанні з намі, першым рэдакцыйным калектывам, мне ён, як часамі здавалася, нібы крыху сімпатызаваў, у гутарках сам-насам збіваючыся з «вы» на «ты». І вось неяк увечары ён пазваніў мне з Брэста дахаты, што трэба было б сустрэцца. А неўзабаве мы і сустрэліся, у оперным тэатры, перад пачаткам нейкага ўрачыстага сходу. Зноў «вы» і «ты», нават пад руку ўзяў на хаду. І горача гаварыў пра тую партызанскую брыгаду, у якой быў камісарам, пра вельмі дастойнага таварыша Р., камбрыга, які варты значна большага, чым пра яго пакуль што вядома. Словам — патрэбна кніга. А мне аніяк не хацелася брацца за гэта. І адчувалася ў агітацыі штосьці «не да канца»: бо як жа гэта пісаць пра камбрыга ды пра брыгаду без камісара-Героя? Я яшчэ ўсё маўчаў. І тут ён сам незнарок дапамог мне, сказаўшы: «Я падумаў, што гэта найлепш зрабілі б два чалавекі: ці Смірноў, ці ты». Сяргей Сяргеевіч якраз тады вёў свае брэсцкія пошукі, і з Машэравым яны сустракаліся часта. Ухапіўшыся за гэты, няхай сабе і міжвольны, тактычны промах таварыша сакратара, я ціскануў у той бок, на Смірнова: вядома ж, лепей, каб ён — усё-такі пісьменнік рускі, маскоўскі, кніга адразу пойдзе шырэй і далей... Потым Анатоль Вялюгін, зямляк і сябар Машэрава па школе, перадаў мне яго нездавальненне... А ўсё ж стаўленне яго да мяне, хоць і з пэўнымі перападамі, дзякуючы

падшэптам зацікаўленых асобаў, у асноўным было прыязнае, яшчэ больш за дваццаць гадоў.

Трэці заказ такога характару ўлетку пяцьдзесят шостага года прыйшоў пісьмова, з маскоўскага выдавецтва «Госполитиздат». І не пра раман або кнігу, а пра мастацкі нарыс у серыю «Людзі вялікага лесу» — пра старшыню распраслаўленага калгаса К. Арлоўскага. Я адказаў, што тэма мяне не цікавіць, што ў нас ёсць людзі не менш дастойныя, пра якіх варта было б напісаць, але яны «не ў модзе». І назваў, для прыкладу, першага сакратара Любчанскага райкома партыі П. Жалезняковіча. Выдавецтва адрэагавала хутка і канкрэтна — дагаворам. Адступаць не было як. Ад гэтага пачаўся нарыс, у «Полымі», паку ль я хварэў, названы «Сэрцам камуніста», што мне даўно карціць, хоць з пэўнай няёмкасцю, а раней нават з рызыкай, замяніць на сціплейшае — проста «Павел Арсеньевіч».

У гэтага светлага чалавека было жывое, актыўнае жаданне, якое сяму-таму, па сытай ляноце або надзьмутай недалёкасці, здавалася ледзь не дзівацтвам, — увекавечваць памяць пра тых з народа, хто гэтага варты, шанаваць сваю гісторыю. Ці гэта помнік па цэлай вёсцы мірных жыхароў, як яно суха гаварылася пра дзяцей, жанчын і старых, па-зверску знішчаных фашыстамі; ці помнік на партызанскіх могілках, з пералікам імён; ці помнік аднаму заходнебеларускаму падпольшчыку, закатаванаму санацыйнай паліцыяй, — усё такое, яшчэ да афіцыйна-масавага «ніхто не забыты, нішто не забыта», рабілася або па асабістай ініцыятыве, або пры непасрэдным удзеле Жалезняковіча. Ва ўсіх тых раёнах нашага Наднямоння — Мірскім, Любчанскім, Карэліцкім, — дзе яму, не па здароўі нястомнаму нізавому падзвіжніку, давялося працаваць.

На заказаны мне нарыс, так сказаць, помнік яму самому, Паўла Арсеньевіча ўгаварыў я не адразу. А пра другіх стараўся ён настойліва. Праўда, і мякка, нават весела. Наогул ён быў вясёлы і дасціпны. Дарэчы, з яго расказаў я выкарыстаў некалькі вясёлых момантаў у сваіх лірычных запісах. Расказ старога карчмара местачковым дзецям пра паравоз; масла, насычанае матам упаўнаважаных; кіслае малако, якім таксама можна даганяць Амерыку; сёе-тое яшчэ...

У нарысе я не сказаў, што ён, Жалезняковіч, — сын свяшчэнніка, што яго старэйшы брат пасля бацькавай смерці святарыў у іхніх Ярэмічах. Сам Павел выразна, падкрэслена намякнуў, што «пра гэта не варта». А яно якраз і лепш было б — сказаць усё па праўдзе. На такім фоне і рэвалюцыянер выглядаў бы жывей. Дый брат яго быў не звычайны поп, а чалавек пасвойму прагрэсіўны, паважаны і ў парафіі, і ў школе, дзе ён выкладаў закон божы, пра што ў сваёй кнізе

«Лесам пазнанае» (раздзел «Гняздо паэтаў») піша яго былы вучань Уладзімір Калеснік. А нядаўна брат майго другога сябра, паэта Алеся Мілюця, які загінуў на фронце, расказваў, як айцец Віталій, праязджаючы цераз іхнія Скорычы, кожны раз спыняўся, каб зайсці да Алеся, пагаварыць пра родную літаратуру, паслухаць новыя вершы. Бо і сам крыху пісаў у заходнебеларускія газеты, выступаючы супраць уладнага апалячвання праваслаўнай царквы. У адной са сваіх першых пры Саветах пропаведзяў— землякі памятаюць дагэтуль — ён раіў не епяшацца крыўдаваць на новую ўладу, не ўспамінаць, як там каму пры Польшчы жылося, бо «добрая мачаха — усё-такі не родная маці»...

Увосені сорак першага года, калі я прыйшоў з палону, Паўла яшчэ не знаў, толькі пачуў пра яго добрае слова ад брата Мішы. Хтосьці тады расказаў мне, як два гады перад гэтым сустрэліся браты Жалезняковічы. Герой камуністычнага падполля, пажыццёвы вязень пасля адседжаных трынаццаці гадоў, і свяшчэннік, няхай сабе і не вінаваты перад новаю ўладай, але ўсё-такі поп. «Суха сустрэліся. Як чужыя...» А нядаўна пра тую сустрэчу я пачуў дакладнейшае, непасрэднае.

Вызваліўшыся з турмы, дабраўшыся праз усю ваенную Польшчу і вольную «ад паноў» Заходнюю Беларусь у родныя мясціны, знясілены Павел не пайшоў у братаву хату ў Ярэмічах, а спыніўся ў сям'і свайго старэйшага таварыша па падполлі і турме, Уладзіміра Царука, які вярнуўся крыху раней, бо ў дарозе яны выпадкова разлучыліся, дома яго не было, працаваў у райцэнтры. Сын ягоны, тады шаснаццацігадовы Шура, расказваў мне, што неўзабаве пасля прыходу «дзядзькі Паўлушы» да іх пад вечар завітаў айцец Віталій, зблізку знаёмы Шуру, нядаўняму вучню сямігодкі. Камуніст і святар абняліся, пацалаваліся і да позняй ночы прагаварылі. «Усё ж такі браты!» — расказваў^ Шура, у нашы дні намнога старэйшы за іх абодвух у той далёкі вечар. Пра што яны гаварылі, яму не помніцца, дый не вельмі чуў, бо не лез да іх бліжэй, а што спакойна гаманілі — гэта ў памяці засталося. І такое яшчэ: гаворачы, айцец Віталій нібыта ўсё хацеў схаваць пад расу свой нагрудны крыж...

Па-дастаеўску трэба дадумваць тую сустрэчу братоў... А я тут думаю пра самога сябе. І мой, намнога старэйшы, родны, але далекаваты не толькі таму, што жыў на паўночным Урале, а што таксама свяшчэннік, пісаў мне, і неаднойчы, які я «премудрый пескарь» — ніяк не збяруся наведаць яго па-братняму. І цяпер я шкадую. Яго ўжо даўно няма, і я даўно ўжо шкадую.

Дружба...

Мая з Паўлам Арсеньевічам пачалася з таго, што ён — і перад вайной, і ў партызанскім лесе, і пасля — сябраваў перш за ўсё з Мішам. Прывяду некалькі сказаў з Паўлавага пісьма пасля Мішавай смерці. Сам ён тады, у сакавіку шэсцьдзесят шостага, ляжаў у мінскай бальніцы з цяжкім пераломам нагі, і я, наведаўшы яго, не змог сказаць яму пра наша гора. Даведаўся ён пазней, ад іншых наведвальнікаў. «Няўжо гэта праўда? — пісаў мне. — ' Чаму ты нічога не сказаў? Мне ён быў блізкі і дарагі. Любіў я яго за светлы розум, за адкрыты сумленны характар. У сваёй працы ён заўсёды быў прамалінейны, не здольны крывіць душою., Шмат гадоў я працаваў з ім у Міры, пасля ў Карэлічах. Ен часта прыходзіў да мяне, і ўспамінаецца, як мы радаваліся тваім першым літаратурным поспехам. Сваёю працай Міхаіл Антонавіч пакінуў значны след на зямлі...» У абодвух названых раёнах брат кіраваў сельскім будаўніцтвам, літаральна да самай раптоўнай смерці. І яшчэ што — у партызанах гэта ён сказаў Паўлу, што дома я пісаў і з яго, Жалезняковіча, камісара атрада і наогул паважанага таварыша, пачалася ўвага камандавання нашай брыгады да мяне як маладога літаратара, там радавога разведчыка.

У лістападзе семдзесят першага года, вярнуўшыся з падмаскоўнага Дома творчасці, я застаў на стале нераспячатанае пісьмо Жалезняковіча, напісанае не ім самім. Яго ўжо не было... Ах, гэты клопат пра нас нашых блізкіх!.. Жонка мая, калі ёй пазванілі пра смерць Паўла Арсеньевіча, вылічыла, што я ўсё роўна не паспею на пахаванне, і не патурбавала мяне гэтай весткай.

Я напісаў жанчыне, якой ён дыктаваў тое апошняе пісьмо.

«...Увесь час, — адказала яна, — ён успамінаў сяброў, таварышаў і многа расказваў пра сваё жыццё, пра кнігі, якія былі яму падараваныя. Паказаў усе Вашы кнігі. Ен вельмі хацеў напісаць Вам пісьмо, але пісаць ужо не мог. І калі я прапанавала яму свае паслугі, ён усцешыўся і са слязьмі ў вачах пачаў дыктаваць. Пісьмо папрасіў неадкладна занесці на пошту, а потым яшчэ некалькі разоў пытаўся, ці паслала я тое пісьмо...»

Цяпер — з тое дыктоўкі:

«...Атрымаў ад Цябе кнігу і пісьмо і за ўсё вялікі дзякуй. Я з нецярплівасцю чакаў сустрэчы з Табой, з Валодзем Калеснікам і другімі таварышамі, аднак, на жаль, атрымалася інакш. Не вельмі круглую дату 65-годдзя з дня нараджэння 10 кастрычніка прыйшлося сустракаць у бальніцы. З 21 кастрычніка я дома, але цяжка хворы і пісаць Табе не магу, і таму па маёй просьбе гэтае пісьмо піша Алена Антонаўна Заяц, работнік райкома партыі, сяброўка маёй нябожчыцы

Сусанны, наогул даўні друг нашай сям'і. Вялікі дзякуй Табе і Максіму за нашу дружбу. Сустрэчы з Вамі незабыўныя. Вы пазнаёмілі мяне з многімі таварышамі па пяру, і кожная кніга ад іх, атрыманая мною, была для мяне вялікай радасцю... Моцна абнімаю Цябе і Максіма. Цалую Вас моцна і жадаю Вам і Вашым сябрам вялікіх творчых поспехаў... , Шчырае прывітанне Ніне і ўсёй Тваёй сям'і».

Імя і прозвішча, і дата, і час — 22.X.71, 22 гадзіны — усё ўжо не яго рукою.

Максіму Танку гэтае развітальнае слова перадалося тады, калі ён ведаў ужо, таксама са спазненнем, пра адыход нашага сябра, шчырага прыхільніка роднай літаратуры.

Павел Арсеньевіч настроіў мяне на нарыс пра свайго шматгадовага друга, па панскіх астрогах і пасля, — Рафаіла Сяржанта.

Міша, які сыходзіўся з людзьмі лягчэй за мяне, нядрэнна ведаў і Сяржанта. Так што калі мы з Рафаілам Іванавічам улетку пяцьдзесят восьмага пазнаёміліся ў яго Баранавічах, мы ўжо былі да пэўнай блізкасці падрыхтаваныя, не толькі Паўлам, але і Мішам.

Прыемна помніцца, як Павел Арсеньевіч ці сказаў мне так, ці напісаў, што ён хацеў бы прысутнічаць на нашай першай з Сяржантам сустрэчы. Таксама сведчанне яго нястомнай маладой душэўнасці.

Можа, яно і дарэчы будзе сказаць, што хоць пра Жалезняковіча я пісаў з усёй шчырасцю і ўвагай, хоць нарыс гэты і меў нядрэнны поспех, слова пра Сяржанта, амаль не заўважанае крытыкай, самому мне падабаецца ці не больш. У «Дружбе народов» быў, чамусьці не падпісаны, водгук на «Сэрца камуніста», які мне з усёй друкаванай і вуснай хвальбы найвыразней запомніўся: «У каго матэрыялу на нарыс, той піша раман, а тут, дзе можна было б напісаць раман, аўтар піша нарыс». У гэтым сэнсе напісанае пра Сяржанта, «Партрэт старэйшага таварыша», здаецца мне якраз і лепшым: у ім я, наколькі аўтару відаць гэта самому, больш паспяхова вучыўся спраўляцца з жалезнай рамкай факта, вучыўся строга і лаканічна спалучаць рэальнае з мастацкім. Няхай мне тут даруецца нясціпласць...

Яшчэ адну просьбу Паўла Арсеньевіча я не выканаў і дагэтуль — вось ужо трыццаць гадоў.

Ішлося пра асташынскае паўстанне 1932 года, якое ў гісторыі барацьбы працоўных Заходняй Беларусі за сваё сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне значыцца як адно з найбольш актыўных і масавых, побач з паўстаннем кобрынскіх сялян і нарачанскіх рыбакоў, адпаведна ў трыццаць трэцім і трыццаць пятым гадах.

У нашай энцыклапедыі яно ідзе як «Асташынскае выступленне сялян». Пасля яго разгрому ваенна-палявы суд у Наваградку чатырох удзельнікаў «выступлення» асудзіў на павешанне, пяць чалавек на пажыццёвае зняволенне, астатнія сорак чатыры чалавекі атрымалі ў агульнай колькасці 241 год турмы.

Улетку пяцьдзесят першага года, калі мы з Уладзімірам Калеснікам падарожнічалі на веласіпедах па Наваградчыне, у Асташыне мы былі. І ў гэтай вёсцы, і ў навакольных людзі нам сёе-тое расказвалі пра паўстанне, у памяці іхняй і тады ўжо далекаватае. А чаму «сёе-тое»? Каб з намі не было тады нашага сябра, які родам з тых мясцін, настаўніка Міхася Петрыкевіча, былога падпольшчыка і вязня санацыйных турмаў, дык людзі нам хутчэй за ўсё і столькі б не расказалі. Сталінскі роспуск КПЗБ у трыццаць восьмым годзе спарадзіў, пасля вызвалення Заходняй, недавер і падазронасць да былых падпольшчыкаў, асабліва тых, каго Верасень застаў не за кратамі, а ў родных вёсках. Гэта прынізіла нядаўніх змагароў і насцярожыла іх настолькі, што і ў першыя пасляваенныя гады яны не вельмі ішлі на шчырасць, тым больш з людзьмі незнаёмымі, няхай сабе яны і пісьменнікі: хто яго ведае, што яны там напішуць, што з гэтага яшчэ можа быць?..

А ўжо ў пяцьдзесят восьмым, калі Павел нарэшце ўгаварыў мяне заняцца асташынскай тэмай, з даверам стала лягчэй — КПЗБ была рэабілітавана, колішнія падпольшчыкі зірнулі на свет свабадней. А ўсё ж і тады я папрасіў Петрыкевіча, які настаўнічаў у надсвіцязянскай Валеўцы, паехаць са мною ў патрэбныя Молынічы і Несутычы. Яны не надта блізка ад Міхасёвага роднага Падкасоўя, але ў Несутычах замужам яго старэйшая сястра, і яго там ведалі, хто як родзіча, а хто і як падпольлчыка, і ён таксама ведаў многіх і многае.

А чаму не ў Асташын наша дарога, а ў іншыя вёскі? Бо адтуль былі пакараныя смерцю і трох з няці пажыццёвых, яны — і вёскі, і людзі — бачыліся калі не цэнтрам усёй справы, дык адпраўным пунктам у яе даследаванні.

Жалезняковіч зрабіў для нас усё што мог. Адзін з найзначнейшых наваградскіх падпольшчыкаў, былы грамадавец з вёскі Горная Рута, Іван Кузьміч, зрабіў для мяне даволі грунтоўны спіс молніцкіх і несутыцкіх удзельнікаў асташанскага паўстання — і тых, што былі павешаны, і пажыццёвых, і іхніх бацькоў, сваякоў і суседзяў, хто яшчэ жыў і можа патрэбнае расказаць. Апроч гэтага спісу я атрымаў ад Паўла, таксама перададзены яму Кузьмічом, прымяты і пажаўцелы скрутак ватману, на якім мясцовы самадзейны мастак калісьці зрабіў з фотаздымка акварэльны партрэт маладога чарнявага дзецюка,

Сашы Мальца, аднаго з павешаных; атрымаў я і запісаны рукою Кузьміча на сшыткавым лістку прымітыўны тэкст таксама самадзейнай песні пра тых чатырох, якая ў свой час жыла ў наваколлі і «заклікала да барацьбы».

У песні прозвішчы павешаных названы ў такой чарговасці: Уладзімір Стасевіч, Іван Бахар, Аляксандр Гаўрош і Аляксандр Малец, аднак пра апошняга сказана, што гэта «найлепшы з Мольніч хлапец». Сваё гаварыў і партрэт — Малец бачыўся мне галоўным у гэтай трагічнай і, як чулася, гераічнай чацвёрцы.

Забягаючы наперад ад таго лета ажно на дваццаць сем гадоў, загадзя праясню справу цытатай з артыкула, які напісаў і прыслаў мне ўвосені восемдзесят пятага года дваюрадны брат Сашы Мальца, Іван Васільевіч Малец, былы сакратар ЦК заходнебеларускага камсамола, заслужаны настаўнік і цікавы чалавек, з той самай гвардыі, што і Сяржант з Жалезняковічам. Дадам і Якуба Міско, разам з якім мы, Танк і я, у шчодра снежным і сонечным студзені семдзесят сёмага года адзначалі 70-годдзе Івана Васільевіча ў яго Навасёлках каля Дзяржынска, дзе ён выйшаў на пенсію.

У сваім артыкуле «Забытая магіла» І. Малец піша, што пасля разгрому паўстання

«...Асташынскіх сялян не ўдалося запалохаць тэрорам. Яны адпомсцілі падпалам гумна мясцовага каменданта. А ў суседняй вёсцы былі забіты паліцэйскі і «асведаміцель». 8 красавіка сяляне разграмілі пастарунак у Нягневічах і захапілі там зброю. Узмацніліся аналагічныя выступленні ў Тупалах, Наваельні, Азяранах, Цырыне і іншых вёсках Навагрудскага павета. Група моладзі вёсак Несутычы і Мольнічы ў складзе каля 15 чалавек працягвала ўзброеную барацьбу супраць паліцыі, памешчыкаў і асаднікаў да самага канца чэрвеня 1932 года. Яны сілай забіралі з панскіх свірнаў прадукты і раздавалі іх галадаючым сялянам. Агітавалі супраць падаткаў, праганялі з вёсак секвестратараў, заклікалі сялян не даваць ні граша фашысцкаму рэжыму. Забралі ў сельскагаспадарчай школе ў Кашалеве пішучую машынку і друкавалі лістоўкі, што заклікалі сялян на барацьбу супраць акупантаў...»

Іван Васільевіч прыслаў мне таксама фотакопію першай старонкі газеты «Барацьба», органа ЦК КПЗБ, ў 1932-1933 гадах, пакуль не прыйшоў да ўлады Гітлер, выдавалася ў Берліне, прыслаў і вытрымку з другой газеты ЦК КПЗБ, на польскай мове, «Do walki». У абедзвюх паведамлялася пра пакаранне чатырох. Да таго яшчэ я атрымаў даведку з брэсцкага архіва і адно жывое сведчанне: урывак з пісьма вільнянкі Жырман, былой падпольшчыцы, якая сядзела ў наваград-

скай турме, калі туды прыгналі рэшту маладых асташынскіх паўстанцаў.

«Наколькі я тады ведала, — піша Р. Жырман, — яны выступалі індывідуальна, супраць памешчыкаў і паліцыі. У тыя гады было многа такіх баявых таварышаў. Самы галоўны з іх быў Бахар, і справа іхняя называлася «бахараўская справа».,Што яны рэвалюцыянеры — гэта факт, толькі не арганізаваныя ў партыю».

Старэнькі, нямоглы бацька Сашы Мальца, Антон Якаўлевіч, спачатку палічыў нас з Петрыкевічам нейкім начальствам і пачаў скардзіцца на нявестак, а потым, уцяміўшы, што нам трэба, сёе-тое з цяжкасцю, блытана ўспамінаючы, расказаў. Сам актыўны падпольшчык, ён з дваццаць восьмага па трыццаць чацвёрты сядзеў у турме.

«Сыну я пісаў адтуль: «Саша, не жаніся». Намёк ён зразумеў, але ўжо было позна, ужо ён быў уцягнуты ў работу... Скрывілі хлопцы лінію партыі... Да іх далучыліся ўсякія... Цягнулі да бясчынства...»

Сашаў дзядзька па мацеры, стары Дарашкевіч, трохі мацнейшы за Антона Якаўлевіча, на лаўцы перад сваёю хатай гаварыў нам так:

«...Уласцям гэта якраз і спрыяла: яны судзілі хлопцаў як крыміналістаў. Узвалілі на іх усе нявыкрытыя зладзействы, падпал цэркваў у Дольнай Руце і ў Палужжы... Каб настроіць на іх насяленне. Асташын ім толькі дадаваўся. У польскіх газетах было надрукавана пра ліквідацыю банды ў Наваградчыне: Вось да чаго даводзіць камуна!..»

Пішучы пра Жалезняковіча і Сяржанта, я меў багата матэрыялу, было з чаго выбіраць. А тут, сярод чатырох павешаных і трох пажыццёвых, пасля гутарак з іх родзічамі і знаёмымі найлепш выяўляліся толькі Малец і Бахар.

Сашу ішоў тады дваццаць першы год. Бацька расказваў, што ён быў выключаны з шостага класа Наваградскай беларускай гімназіі. Трэба думаць, што за ўдзел у падпольным камсамоле, як і Валянцін Таўлай, і Якуб Мібко, і Анатоль Іверс, гімназісты віленскія. Пра тое, як ён быў арыштаваны, нічога дакладнага не пачулася.

«..„Да суда сядзелі яны дваццаць адны суткі,— расказваў Сашаў дзядзька. — Суд ішоў тры дні. А вешалі на Яна, у дванаццаць гадзін, у турэмнай лазні... На апошняе спатканне — па двaix на асуджанага. Я з ёю пайшоў. Што там за спатканне! Маці заплакала і пайшла... А ён аддаў мацеры пінжак і кашулю — меншым бра там...»

Ванда Міхалеўская, польская камуністка-падпольшчыца, у 1927 — 1928 гадах працавала на Наваградчыне і жыла-хавалася ў Мольнічах. У сваёй кнізе «Sercem i czynem» яна піша пра мясцовых камуністаў, братоў Мальцаў, бацьку Івана Васільевіча — Васіля і Сашавага —

Антося, а таксама пра іх жонак, Кацярыну і Вольгу. «У той час, — піша яна, — у першыя гады існавання КПЗБ, нямнога вясковых жанчын належала да камуністычнага і камсамольскага падполля. Аднак яны прымалі актыўны ўдзел ва ўсёй рабоце кампартыі. І так, як Кацярына і Вольга, падзялялі клопаты і небяспекі сваіх блізкіх».

«Што за спатканне! — гудзеў стары Дарашкевіч. З дзіўнай, нібы дурнаватай усмешкай. — Маці заплакала і пайшла...»

Калі ў дваццаць восьмым пасадзілі яе мужа, Вольга не апусціла рук, хоць і засталася ў незакончанай хаце на хутары, з чатырма дзецьмі. «Гонар і надзея сям'і», як піша Міхалеўская, Саша вучыўся ў гімназіі, і маці, сама трохі пісьменная, адна вучыла яго ў Навагрудку далей, як гэта было ні цяжка. А потым, калі яна страціла Сашу: «Матчына сэрца, — цытуем далей, — не вытрымала гэтага ўдару. Вольга цяжка захварэла і памерла заўчасна. Пішучы гэтыя словы, я хачу пакланіцца памяці гэтай Маткі, што прысвяціла жыццё сваё і сваіх дзяцей будучыні».

Калі асуджаных вялі па турэмным двары да месца расправы, у лазню, хлопцы спявалі «Інтэрнацыянал». Жырман успамінае:

«Асабліва заномніўся мне Аляксандр Малец. Ен вельмі моцна спяваў і крычаў: «Бывайце, дзяўчаты! Хай назаўсёды застанецца памяць пра нас!..»

Зноў сумная ўсмешка старога Сашавага дзядзькі, яго нетаропкае гудзенне:

«...Беленькія лейчыкі з травы. На крук — і ўсё. Памацае докгар пульс — і ўсё. Па двух у адну скрынку, і пахавалі на ўскрайку могілак, каля вакзала. Не дапусцілі нікога. Усё рабілі самі турэмшчыкі. І вешалі без ката...»

У семдзесят дзевятым годзе безыменная магіла ў бур'яне (яшчэ раз — наша ахова памяці!) па распараджэнні Навагрудскага гаркома партыі была раскапана. Па чатырох шкілетах устаноўлена, што гэта яны, тая чацвёрка.

«Адзін шкілет, — піша І. Малец у сваёй «Забытай магіле», — вельмі высокага чалавека. Гэта — Малец Аляксандр Антонавіч, рост якога быў 190 сантыметраў. Знойдзеная рэштка рэменя і спражкі з турэмным знакам...»

Удзел у эксгумацыі прымалі Сашавы малодшыя браты, Аркадзь і Анатоль, які, хоць і не паўналетні ў трыццаць другім годзе, таксама праходзіў у асташынскім працэсе і быў асуджаны на два гады зняволення, якое адбываў у Навагрудку. Ад Анатоля і пачаліся пошукі патаемнай магілы. Браты ведалі, які рослы быў іх старэйшы. Яшчэ адзін удзельнік раскопак, А. Чура, убачыўшы рэмень, згадаў, што

знаёмы яму паліцэйскі Зяньковіч, які прысутнічаў пры павешанні, гаварыў, што Малец Аляксандр паводзіў сябе тады вельмі агрэсіўна і не даваў накінуць на шыю пятлю. Тады яму звязалі ногі турэмным рэменем.

Вось і ўсё, што да вобраза Сашы... Пры некаторым буйстве фантазіі, можа, і дастаткова, каб напісаць больш. А ў працы дакументальнай свой закон.

Тады, у пяцьдзесят восьмым, Іван Васільевіч настаўнічаў у Ляхавіцкім раёне. Мы з ім спаткаліся, пазнаёміліся толькі праз восем гадоў, у нясвіжскім санаторыі. Ад яго я і ў тыя дні, і да сённяшніх больш пра Сашу не пачуў. А што да пачатку трыццатых гадоў, дык ён, Іван Васільевіч, тады быў далека ад дому...

Не было ў Мольнічах, калі мы там з Петрыкевічам распытвалі ў людзей, і Сашавых братоў.

Іван Бахар, па-вясковаму Салімчык (маці Саліма, Саламея). Старэйшы за Сашу на шэсць або сем гадоў. Узяты быў апошнім. Хаваўся ў «акопе», які накрываўся крыжавінай з заўсёды свежай ялінкай і свежым дзёрнам. Было аб'яўлена: хто знойдзе яго — 1000 злотых, на той час вялікія грошы. Сувязныя насілі яму ў «акоп» яду, а ён аднойчы не вытрываў, прыйшоў у свае Несутычы. Казалі, што выследзіў яго настаўнік з суседніх Куравіч, якога потым перавялі кудысьці далей. Наляцела два аўтобусы паліцыі, чалавек восемдзесят. Акружылі. На поўнач ад Несутыч — яр Камарыха. Салімчык-Бахар выскачыў туды, хацеў вырвацца на Уселюбскі лес. Адстрэльваўся. «Як пальне, дык паліцыянты і палягуць, а ён — далей!..» Але скончыліся патроны, а яго падранілі, перабілі ногі і злавілі. Аброслы ўвесь, «ашашкацёлы», як гаварыў дзед Дарашкевіч. У «акопе» знайшлі яшчэ адну вінтоўку, патроны і пішучую машынку. Зноў Дарашкевіч: «На суд яго ўносілі на двух карабінах...»

Таксама ўсё — і пра гэтага, як мне здалёк ды загадзя здавалася, ледзь не нашага ХаджыМурата. Праўда, ніжэй дадам яшчэ трохі...

Пра двух астатніх з чацвёркі павешаных, Стасевіча і Гаўроша, не ўдалося пачуць нават столькі.

З трох, асуджаных на пажыццёвае зняволенне, адзін памёр за два гады да нашага наведання Несутыч, другі, як пісаў мне стары І. Кузьміч, «погиб при освобождении в 1939 году, когда пришла советская власть», а трэці працаваў у сваёй вёсцы крамнікам.

Мы ўжо чулі, як «погиб» той другі, і таму спатканне з трэцім было нялёгкае. І сам ён збянтэжыўся, зачыніў з сярэдзіны свой сельмаг, пачаў нас частаваць віном, кансервай. Калі Петрыкевіча ён ведаў па сваяках, дык мяне палічыў, відаць, нейкім следчым, як мы яго ні

пераконвалі, хто я. Выкручваўся, мямліў, маўчаў, і нічога мы толкам не пачулі ад яго пра тое, што нам гаварылі, чаму і сам ён, зрэшты, зусім выразна не пярэчыў.

Што ж гаварылася людзьмі?

У верасні трыццаць дзевятага, вяртаючыся з равіцкай турмы, знясіленыя спачатку катаваннямі, страхам смерці, потым сямю гадамі суровага закратнага мадзёння, два таварышы знайшлітакі сілу, каб... забіць трэцяга... «Як правакатара». Ен як быццам раней, чым быць арыштаваным ды асуджаным, данёс на іх, на ўсю групу, і, такім чынам, выходзіць, і на самога сябе... Так гаварылі нам адны. Другія — што не ён, а яго меншы брат. А трэція — што гэта паранены Бахар, калі ногі аж загніліся, не вытрымаў катаванняў, прызнаўся пра ўсё і пра ўсіх...

Я слухаў і тых, што гаварылі пра такое раней, слухаў і крамніка, і ў пэўным ахмяленні асцярожнага, слухаў і ўжо, здавалася, сам сабе ведаў, што з мольніцка-несутыцкай тэмай у мяне не пойдзе, не атрымаецца...

Бо ў памяці маёй, яшчэ з лета пяцьдзесят першага года, стаялі, а ў зачыненай краме жыва паўтарыліся дзве брацкія магілы, недалёка адгэтуль, у зяляніне шчарсоўскага графскага парку.

У адной з іх з верасня трыццаць дзевятага ляжалі, зваленыя абыяіс, пазабіваныя «чым дзерж» нядаўнімі падпольшчыкамі і новенькімі актывістамі, тыя аднавяскоўцы, што пры панах былі або падазраваліся «прадажнікамі».

А ў другую магілу, як толькі пачалася вайна і акупацыя, таксама ганебна звалены былі і тыя мсціўцы, пабітыя друкамі ды сякерамі сваякоў памардаваных блізу два гады таму назад...

«У канцы трыццаць першага года, — расказваў нам несутычанін Мікалай Гаўрош, які таксама сядзеў па асташынскай справе, але не з групы пятнаццаці маладых, — наша мясцовая партийная арганізацыя была разгромлена. Бахар, Малец і ўсе яны — гэта ўжо самадзейнасць».

Магілы ў шчарсоўскім парку — таксама жахлівая палітычная самадзейнасць.

А забойства трэцяга двума?

І тады, і доўга потым я не мог не думаць пра тое забойства: дзе, як, чым?..

Пра зняты Сашам пінжак і кашулю — меншым — таксама.

І ўжо геройства не было — была толькі трагедыя, з якое цяжка зрабіць гераізм.

Слаўны хлапчына Міхась Петрыкевіч «па прастаце душэўнай» камусьці сказаў ці напісаў, чаму я, беручы прыблізна, адмовіўся ад намеру пісаць на тэму, прапанаваную Жалезняковічам. Гэта калі ўжо нашага Паўла Арсеньевіча не было. Пра адмову маю дачуўся Іван Васільевіч Малец. У восемдзесят пятым годзе ён энергічна падмацаваў мяне фактамі, якія я вышэй прыводзіў.

А справа не ў тым, што ў мяне было тады і ёсць цяпер замала патрэбнага матэрыялу і ўменння разабрацца ў цьмянай блытаніне рэальнага і погаласак, — мне перашкодзіла іншае...

Запісы гутарак, якія ўлетку пяцьдзесят восьмага я перадрукаваў з чарнавога блакнота на ўсякі выпадак, канчаліся прыпіскай: «Здаравата-такі берыеўшчына і гэтым людзям засрала мазгі!» Берыеўшчыну, яжоўшчыну трэба пашыраць да акрэслення — сталіншчына. Славутая шпіёнаманія, усеагульная падазронасць, спаборніцтва ў выкрыванні адзін аднаго — усё гэта і за мяжу, у Заходнюю, перайшло, як дым атрутны, пранікла пад гарадскія дахі і вясковыя стрэхі, не затрымалі яго ні аетрожныя брамы, ні краты.

І ў той прымітыўнай песні пра чатырох павешаных ёсць такое, яно нават спявалася вечарамі, нібы бяздарна паныла псалом, у хатах ці на вуліцы, з маладым задорам і рызыкай трапіць на катаванне ў пастарунак і пакуты ў камерах. Урывачак:

...А трэці Гаўрош Аляксандар
спакойным і чэсным сном спіць.
Ты спіш, Аляксандар, сном чэсным,
замучаны кацкай пятлёй,
ты спіш і пра гэта не знаеш,
што брат канфідэнтам стаў твой...

Можа, яно ў гэтым выпадку і праўда. Складанасць жыцця, барацьбы. Можа, яно і няпраўда...

Аднак жа і цяжка, і горка так жыць!

* * *

Пасля таго, як гэта было напісана, за тры гады не-не ды зноў і зноў вяртаўся да мяне прыкры дакор самому сабе:

Жалезняковіч і два яго таварышы таксама ж былі асуджаны за забойства... І тая асенняя ноч, калі разбуджанаму начлежніку — шворнам па галаве, яшчэ цёплы нялёгкі труп з вёскі да ракі і ў раку, а ўсё асцярожна, ціхенька — гэта таксама ўяўляецца да сцішнаты няпроста. Асабліва калі думаць пра наймаладзейшага, дваццацігадовага, наіўнага дзецюка, начытанага, захопленага летуценніка Паўла... Чаму пра гэтае забойства я расказаў і скупа, і суха, нібыта

нават не зусім сваімі словамі, з такім ужо «глыбокім пранікненнем у героя», што і гавару там больш ягоным голасам?

Так яно бывала ў мяне і ў іншых выпадках — думаць і гаварыць за таго, каго хочацца напісаць, паказаць як найлепш.

Але ж гэта не апраўданне, асабліва разважаючы ў непадкупна справаздачнай цішыні, з аддаленасці, як думаецца, самакантролю канчатковага. Не апраўданне і тое, што Павел Арсеньевіч, і калі я пісаў пра яго, і перад тым, і наогул бачыўся мне значна менш змагаром, чым пакутнікам. Калісьці пакутнікам, пасля сумленным работникам, светлым, высакародным чалавекам. Як і Сяржант для мяне — таксама перш і больш за ўсё чалавек і пакутнік, колішняе, маладое «бунтарства» якога бачылася мне малавыразна, было не ў цэнтры аўтарскай зацікаўленасці. Павел і Рафаіл Іванавіч, старэйшы, — пакутнікі і асобы, людзі далека не звычайныя ў сваім асяроддзі, апантаная паслядоўнасць у служэнні працоўным, сумленнасць і добразычлівасць перамагалі для мяне ў гэтых вобразах усё іншае, выводзілі іх з партыйнай замкнёнасці, абмежаванасці дысцыплінай на прастор агульналюдскага, што і рабіла гэтых землякоў, свядомых беларусаў цікавымі, а ў нечым і абаяльнымі, заганяючы ў найглушэйшы закутак памяці амаль усё ценявое.

Так атрымалася, або хацелася, каб атрымалася, у маіх нарысах пра іх абодвух, асуджанага на зняволенне пажыццёвае і на пятнаццаць гадоў. Так я — у Паўлавым выпадку — пераступіў цераз забойства трыма чацвёртага, няхай сабе і трапна выкрытага небяспечнага правакатара. У самым пачатку 1957 года быў закончаны нарыс «Сэрца камуніста», улетку 1958-га я сабраў матэрыял для нарыса «Партрэт старэйшага таварыша», пасля чаго, можна сказаць, з ходу быў уцягнуты дружбай у яшчэ адну земляцкую, рэвалюцыйную тэму, аднак...

Аднак пасля таго, найдалейшага забойства, з палавіны дваццатых гадоў, пасля забойстваў ужо не групавых, а натоўпавых, калі не юрыдычна акрэсліваць, а хоць бы прыблізна ўявіць шматлюднае азвярэнне, адных увосень трыццаць дзевятага, другіх улетку сорак першага, — забойства яшчэ адно, па дарозе з турмы, двума знясіленымі — трэцяга, калі я душой убачыў яго, яшчэ адно палітычнае азвярэнне, яно стала для мяне апошняй кропляй, што так і адрынула ад «змагароў», хоць таксама ж і пакутнікаў...

1988; 1991

## «АДНЫМ ВОКАМ»

Як сааўтара кнігі «Я з вогненнай вёскі...», які на працягу чатырох гадоў слухаў апавяданні людзей, што прайшлі праз пакуты і смерць ад куляў або ў агні і цудам ацалелі, мяне часамі раздражнялі такія, як найшырэй гуманныя, заўвагі:

«Так рабілі ворагі, фашысты. А што рабілі свае са сваімі?»

На ўвазе меліся трыццатыя гады. Дый пазнейшыя таксама. І гаварыў гэта адзін з маіх даўніх знаёмых, стары талстовец, непахісны на сваім.

Другі максімаліст, настаўнік на пенсіі, чалавек таксама прыстойны, з разборам начытаны, паглядзеўшы кінафільм Э. Клімава і А. Адамовіча «Ідзі і глядзі», пісаў мне:

«Да назвы трэба дадаць яшчэ два словы, каб было так: «Ідзі і глядзі ад ним вокам. Тады будзе правільна».

Раздражняла і гэта — зноў жа паварот да зверстваў не толькі гітлераўскіх. Як быццам яно не падзяляецца, як быццам і аўтары фільма, як і мы раней, аўтары кнігі, што папярэджвала той фільм, маглі сказаць адразу пра ўсё...

Днямі ў «Літаратуры і мастацтве» з'явілася публікацыя З. Пазняка і Я. Шмыгалёва «Курапаты — дарога смерці», з апісаннем раскопак на лясной ускраіне Мінска, з жывымі сведчаннямі сучаснікаў, навакольных сялян, са здымкамі, на якіх педантычна аднолькавыя дзірачкі ў патыліцах мноства знойдзеных чарапоў... І гэтае жахліва эпахальнае адкрыццё, хоць і перад ім пра сталінскія рэпрэсіі чулася так нямала, яшчэ раз штурханула маю памяць двума ўспамінамі, ужо і даўнімі. З тых летніх дзён на пачатку сямідзесятых гадоў, калі мы, аўтары кнігі «Я з вогненнай вёскі...», слухалі з жудасным холадам у душы расказы пра зверствы фашыстаў...

Слухалі, запісвалі на магнітафонную стужку, а потым вымушаны былі ў некаторых расказах штосьці з пачутага і апускаць.

Дык вось — пра тое штосьці.

З палескай вёскі Хвойня, напрадвесні сорак другога года, маладзіца, цяжарная першым дзіцем, параненая, апаленая ў агні сваёй хаты, кіламетрамі марозна-снежнага бездарожжа несла на сабе цяжка знявечанага гранатай мужа. Потым трохі падвозіла яго на нартызанскіх санях, а тады, перавязанага партызанскім лекарам, цягнула полем ды лесам на саначках. Усё ўцякаючы, хаваючыся ад карнікаў, галодная, засмяглая, у страху за сябе, за мужа, за тое патаемнае жыццё, што несла пад сэрцам немаведама. куды...

Калі яна пра ўсё гэта расказвала нам, гаспадыня хаты, куды мы зайшлі з магнітафонам, палажыла на прыпол суседцы-расказчыцы чысты ручнік — на слёзы.

І найшрш яна, Вольга Мініч, распла калася тады, калі дайшла ў сваёй споведзі да ад ной сустрэчы з групаю партызанаў. Яна ўжо была адна, таму што зусім нечакана сутыкнулася з немцамі і, дарэшты ахопленая жахам, не справілася ўцячы са сваімі санкам і з чыгуначнага насыпу ў лес, — страціла мужа, а сама, параненая яшчэ раз, наўздагон, яшчэ раз сустрэла сваіх, яшчэ раз ратунак. І тут...

Тут яна зарыдала ў чысценькі, па канцах вышываны ручнік, а потым, выцершы твар, такая нестарая, быстрая ў свае пяцьдзесят гадоў, выбухнула бездапаможным праклёнам. Назвала прозвішча таго камандзіра партызанскай групы — Чырлін. Яно не толькі помніцца ёй, тое прозвішча, — яна яго бачыла пад партрэтам у раённым музеі народнай славы. А ён жа, той камандзір, хацеў яе тады дабіць. Не стрэлам, каб не пачулі ворагі, а закалоць кінжалам — як шпіёнку!.. Ні раны яе, ні пакуты, ні плач — нішто не значна было для ягонага падазрэння. Ледзь яго іншыя партызаны адгаварылі...

У нашай кнізе ад гэтага месца ў яе расказе засталіся два сказы:

«Усё, як было, расказала. А камандзір мне не верыць...»

Шматкроп'е — нібы з надзеяй, што і па кропках чытач здагадаецца.

У знятым з магнітафоннай стужкі тэксце, які мы пакінулі сабе, жанчына гаварыла так:

— Я яго, гэта, чэснае слова, каб разыскала... Нехарашо гэта... Я яго адблагадарыла б!.. Я яго разысківала... Дзе-та дырэктарам вінзавода работае... Ну, я ўжо ішла ў готы лес, ішла, ішла і найшла ўсіх тых, Чырліна атрад той. Усё, як было, расказала. А патом ужо і стрэл быў там, дзе я санкі аставіла, дзе жэншчыны ля агню сядзелі. А патом я ўжо хачу ісці назад, а ён на мяне кінуўся з гэтым, са штыхом, і кажа: «Закалоць нада яе! Яна, кажа, узнала, дзе мы, пойдзе даложыць!..» Я проста душу вымаю, гавару — я хачу вярнуцца труп забраць. А як ён сказаў закалоць, дык гэтыя дзеці: «Ой, ой, ой!..» — баяцца, бо дзеці. Дык ён даў каманду хлопцам двум: «Пасадзіце яе і адвязіце ў Заціш'е». Дык я думаю: «Ну, тут дзеці баяцца, каб не ўбілі, дык яны мяне пасадзяць, адвязуць у лес і заб'юць...» Ды ўжо села і думаю: «А Госпадзі, хутчэй бы гэта ўжо!» Ды не ўгадала. Прывезлі яны мяне ў Заціш'е, скінулі на сяле. Я зайшла ў некалькі хат...

Такое праз рэдактуру, цэнзуру ў той час, у палавіне сямідзесятых, прайсці не магло.

Нраз год пасля сустрэчы ў Хвойні, ужо на Віцебшчыне, былі другія падобныя слёзы. Толькі цішэйшыя, з запалоханай асцярогай, з вачэй жанчыны нямоглa старэнькай, былой вясковай настаўніцы. Зрэшты, і асцярожнасці ў яе не было, ці гэта мы выклікалі давер, ці ёй ужо ўсё роўна, асцерагацца ці не, і яна расказала.

Не памятаю ўжо нават раёна, не толькі вёскі, дзе гэта ў той адвячорак было, не памятаю і прозвішча старое, — у памяці толькі той ціхі плач, той расказ, як іхнюю вёску, іхніх людзей расстрэльвалі ды палілі — свае...

Нейкі атрад загадаў ім напярэдадні выбрацца ў лес, бо ноччу або на досвітку прыйдуць карнікі і ўсіх паб'юць. Людзі не паслухаліся: «Ну, куды ж гэта зімой выбірацца, куды ісці з малымі ды старымі, хворымі з родных хат? Што ўжо Бог дасць...» Немцы тады не прыйшлі. Назаўтра прыйшлі свае, тыя самыя. Восемдзесят чалавек было забіта, веска спалена...

Жанчыне гэтай, таксама цудам, як некаторым у іншых вогненных вёсках ад ворага, тут ад сваіх удалося ўратавацца. Прыжылася потым у другой вёсцы, дзе мы яе і запісвалі. Яна і прозвішча камандзіра над тымі, што іх каралі, назвала, і мы яго, тое прозвішча, потым прачыталі пад партрэтам у абласным музеі.

А запіс расказу сцерлі з магнітафоннай стужкі ў той самы вечар, калі пачулі яго, пагаварыўшы ў гасцініцы.

Цяпер так часта чуецца, чытаецца пра страх, якім грунтоўна і надоўга, а то і назаўсёды заражаны сучаснікі Сталіна, усе, хто жыў у той час, хто і потым застаўся ў тым страху, нібы і невылечным. Тыран сканаў, быў двойчы развенчаны, як здавалася, назаўсёды, а праз адзінаццаць гадоў пасля начнога санітарнага вынасу з Маўзалея старанна, на вякі закансерваванага трупа ў маршальскім аблачэнні, пасля разбурэння процьмы ягоных, танных і даражэйшых помнікаў дома і ў «пабратаных» краінах, — страх застаўся, нібы паднавіўшыся...

І ў нас, трох партызанаў і, здаецца, не з надта палахлівых літаратараў, — таксама. І ці страх гэта, толькі звычайны, жывёльны страх за самога сябе, ці гэта і «мудра-тактычная» асцярожнасць, заклапочанасць поспехам, лесам справы, якую ты робіш і хочаш зрабіць? Кнігу сваю мы хацелі зрабіць, мы ўжо былі апантаныя ёю, ужо сабралі палавіну патрэбнага матэрыялу, працавалі ў чацвёртай з шасці абласцей рэспублікі і не былі абыякавыя да лёсу будучай кнігі, якую лічылі патрэбнай.

Куды было з тым незвычайным запісам падзецца? Не толькі не надрукуеш яго, але і здымаць са стужкі, перапісваць з пазычанага ў

радыёкамітэце рэпарцёрскага магнітафона на вялікія бабіны, для захавання, дыктаваць машыністцы для публікацыі — усё на людзях, усё небяспечна...

У прадмове да адной са сваіх кніг, выдадзенай у рускім перакладзе для дзяцей, умудроны лагернымі пакутамі Астап Вішня з затоенай усмешкай расказвае, як ён у маленстве, на самым пачатку стагоддзя, служыў у нейкай барыні казачком. Калі яго так крыўдзілі, ён зашываўся ў яганебу дзь куток, плакаў і помсліва шаптаў:

— Вось пачакайце, прыйдзе Вялікая Кастрычніцкая Сацыялістычная Рэвалюцыя — я вам тады пакажу!..

Гэта мне ўспомнілася, лёгка ўявіўшы голас сучасніка, вядома ж, звонка ды горача маладога:

— Вам захаваць той запіс трэба было, а не апраўдвацца цяпер!..

Што ж, можна па модзе і пакаяцца. У тым, што пра сённяшні час дэмакратыі ды галоснасці мы тады не падумалі, жывучы ў часе іншым.

Мы і тады былі пад пільным вокам, працавалі над кнігай ледзь не падпольна. Самі куплялі плёнку ў радыёкамітэце, з дазволу святлейшых адказных таварышаў, прычым менш светлыя, з іх гаспадарчых намеснікаў, старанна падсоўвалі нам плёнку горшую, не новую. Самі мы выпрацоўвалі маршруты, папярэдне дамаўляліся з мясцовымі ўладамі, зноў жа залежачы ад чалавечага ўзроўню паасобных кіраўнікоў, адны з якіх дапамагалі, другія недаўмявалі і не спяшаліся зразумець, навошта гэта патрэбна, а іншыя проста ігнаравалі такую пісьменніцкую цяганіну. У радыёкамітэце перапісаная для захавання плёнка значылася не за намі, не за мяркуемай кнігай, а за адным з супрацоўнікаў літаратурнай рэдакцыі. Наперадзе чакалі нас цяжкасці з друкаваннем. Службовыя асобы, якім было звычна дый дзеля кар'ернай надзейнасці выгадна перашкаджаць нам, рабілі гэта і тайна і яўна, не чакаючы дабра ад літаратараў не надта пэўных і наогул, і з усёй гэтай іхняй «жертвенностью» і «абстрактным гуманизмом». Чыноўнікам ахвотна памагалі некаторыя нашы «таварышы па пяру», стандартныя патрыёты.

Забягаючы наперад ад таго размагнічвання плёнкі, можна сказаць, што такі недавер, непадтрымка, патайныя і адкрытыя перашкоды ажывіліся на розных узроўнях і ў Мінску і ў Маскве, калі мы пачалі публікаваць сваю працу спачатку ў часопісах, а потым кнігамі, у арыгінале і ў перакладзе на рускую мову.

Праўда, былі і такія, хто памагаў нам, асабліва ў канцы работы, што успамінаецца з удзячнасцю.

А тады, калі мы ў гасцініды сціралі запіс расказу старое настаўніцы, у нас быў ужо пэўны вопыт цяжкасцей і небяспек, было і прадчуванне яшчэ большых, была асцярожнасць і — перш за ўсё — страх за кнігу...

Цяпер такое, можа, і пайшло б у друк, з судовай справай у перспектыве (партрэты герояў могуць і абурацца!..), аднак яго як дакумента няма — таго запісу пра яшчэ адну з «вогненных вёсак».

«Адным вокам...»

Такое бачанне ў нашай кнізе, пры ўсёй добрасумленнасці яе збірання і падрыхтоўкі, ёсць. Мне яно бачыцца і ў тым яшчэ, што мы, сааўтары, «каб больш надзейна, пэўна прайшло», сям-там прыцiралі ў людскіх расказах тое, што гаварылася і пра характар партызанскай барацьбы, і пра хітрасці ворага.

— Немец ходзіць па вуліцы, сігарэтку пакурвае, а забіваюць свае, паліцаі, народнікі...

Такое чулася даволі часта і ўсюды, дзе мы пабывалі. Заграбанне жару чужымі рукамі, спрадвечнае «падзяляй і валодай», сляпое ўзаемнае знішчэнне нашымі людзьмі аднымі адных дзеля чужое мэты — у гэтым і хітрасць фашыстаў, і наша бяда. І такое ў сваёй кнізе нам трэба было самім «рэдагаваць», сугучна з умовамі часу...

А пра характар партызанскай вайны, якая ў многім была вайной грамадзянскай, — з усёй палітычнай, класавай, сваяцкай і проста варварскай складанасцю, — пра гэта наогул маўчалася.

Як і маўчыцца дагэтуль...

* * *

Праз год пасля таго, як гэта было напісана («у стол»), мне пазваніў, прыехаўшы з Масквы, Алесь Адамовіч, — спытаўся, ці памятаю я прозвішча той настаўніцы з Віцебшчыны і таго камандзіра атрада, які расправіўся са сваімі. Думаў Алесь Міхайлавіч не толькі пра маю памятлівасць: у нашых колішніх падарожжах абавязкі былі падзелены так: ён, Адамовіч, з магнітафонам, Уладзімір Калеснік з фотаапаратам, а ў мяне блакнот.

Я сказаў, што не памятаю, бо і сапраўды не памятаў, таксама як і раней, улетку 1988-га, калі пісаў у вёсцы гэты ўспамін.

Ды тут ужо мне пачало, як гаворыцца, і муляць. Не мог не думаць пра тое, пачаў шукаць хоць які-небудзь запіс. За некалькі дзесяцігоддзяў блакнотаў сабралася шмат, і я яшчэ раз удзячна ўсцешыўся, што не знішчаю іх пасля выкарыстання запісаў.

У блакноце за чэрвень 1972 года па-чарнавому, па-дарожнаму, як разабрацца толькі самому, значыцца, што расказвала нам пра той

жах настаўніца Вера Пятроўна Слабада, якой было 74 гады, у вёсцы Дубровы каля Асвеі. Пра камандзіраў яна, аказваецца, гаварыла двух: у мяне запісаны Калайджан і Блінаў. «Адзін зазлаваў, і другі зазлаваў», — такая са слоў жанчыны паметка, якую шырэй ажывіць у памяці не магу.

У кнізе «Партизанские формирования Белоруссии в годы Великой Отечественной войны» (Мінск, «Беларусь», 1983 ) прозвішчы абодвух камандзіраў значацца.

Калайджан Ваграм Пагосавіч са жніўня 1942 года да жніўня 1943-га быў камандзірам атрада імя Фрунзе, заснаванага ў Асвейскім раёне «з удзельнікаў падпольных арганізацыяў — партыйна-камсамольскай у г. п. Асвея і камсамолькай у в. Прошкі».

Складаней з другім камандзірам, якога згадвае настаўніца. Блінавых у названым даведніку тры. Найбліжэй да месца расправы — Блінаў Дзмітрый Кузьміч, які камандаваў атрадам імя Кутузава, арганізаваным з жыхароў Полацкага раёна. Да студзеня 1943-га атрад называўся 6-м атрадам 2-й Беларускай брыгады імя Панамарэнкі. 4 сакавіка 1943 года ён выйшаў у савецкі тыл і быў расфарміраваны.

У маім блакноце, апроч старое настаўніцы, запісаны яшчэ два чалавекі. З тых адзіных, што ацалелі ад расправы. З адным, Цімафеем Змітравічам Анісімавым, 73 гады, мы гаварылі раней, чым з настаўніцай, ад расказу яго ў мяне — толькі сказ: «Хто тут застаўся, таго няма, хто не паехаў у лес, як загадалі тыя партызаны». Другое прозвішча дала нам Вера Пятроўна — Рыгор Васільевіч, Шчасны. І тут ужо сказ, пачуты ад настаўніцы: «У себежскай турме дзеці самі сабе з голаду ручкі пааб'ядалі...» А^Шчаснага ў вёсцы мы не засталі.

Калі для пошукаў, для даследавання, дык вось і ўсё. Больш было ў размагнічанай стужцы...

З тым Чырліным, што «хацеў закалоць» Вольгу Мініч, справа прасцейшая. І па часе, і па месцы дзеяння ўсё супадае. І Чырлін Эдзіт Янкелевіч у лютым — верасні 1942 года камандаваў атрадам «Чырвоны Кастрычнік» на Рудабельшчыне. Прасцей справа выглядае тут і таму яшчэ, што! Чырлін, — як ні страшна было Вользе Мініч, калі яна сустрэлася з ім на сваім пакутніцкім шляху другі раз, і як ні крыўдна, калі ўспамінала тую сустрэчу праз дваццаць дзевяць гадоў, — Чырлін усё-такі не забіў яе, а даў двух правакатых, каб завезлі ў больш бяспечнае месца. Тут ужо двайная скідка: на вельмі крутую сітуацыю, у якой быў атрад, і шырэй — на той час, калі пра шпіёнаў, шпіёнства думалася перш за ўсё... Ва ўсякім выпадку справа з ім, Чырліным, непадсудная юрыдычна.

А што цяпер думаць пра тых двух, Калайджана і Блінава, пра тую ажио неверагодна вар'яцкую акцыю?

Запісанага ў блакноце — вельмі мала. Сведкаў тых хутчэй за ўсё ўжо няма: адной, калі б яшчэ жыла, 92, другому, з кім мы гаварылі, на год менш. Дзе шукаць трэцяга, якога мы не бачылі і не ўведалі, куды стары падзеўся? Дзе тыя камандзіры, ці жывуць яшчэ?..

Словам — і цяжка брацца за гэта, і, шчыра кажучы, чамусьці зусім не хочацца. І не таму, што лянуюся ці баюся...

Аднак я пачаў.

У архіве Музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, калі я назваў перш за ўсё прозвішча Калайджана, прыязна-руплівая супрацоўніца сказала, што гэтым чалавекам год ці паўтара таму назад «ізноў цікавіліся». У картатэцы на яго анкеце значыцца: «Адмоўная даведка тав. Захарава». У асабістым архіве камандзіра Асвейскай брыгады імя І Фрунзе Героя Савецкага Саюза Івана Кузьміча Захарава, які памёр ужо даўнавата, сярод іншых матэрыялаў захоўваецца напісаная ім уласнаручна, на двух лістах паперы даведка, адрасаваная кудысьці вышэй музея...

Улетку 1942 года, піша камбрыг Захараў, у іх не хапала вопытных камандзіраў, і з-за лініі фронту, «ад Беларускага штаба партызанскага руху», некалькі іх у пачатку жніўня прыслалі. У тым ліку — старшага лейтэнанта Ваграма Пагосавіча Калайджана. Спачатку ён спраўляўся добра,нават да ўзнагароды быў прадстаўлены, а пасля (тут цытую даслоўна):

«Разведкой при помощи партизан были вскрыты крупные недостатки, из которых самым страшным в наших условиях были необузданное самолюбие и властолюбие... Самолично давал распоряжения о расстрелах».

Так па яго загадзе ў адным з баёў хтосьці не названы ў даведцы «пристрочил» начальніка штаба атрада, нібы «за трусость», потым быў расстраляны начальнік паліцыі, які перайшоў да партызанаў і прасіў адправіць яго на Вялікую зямлю. «Имело место и других фактов», піша таварыш Захараў. І выходзіць на наша асноўнае: «Во время карательной фашистской экспедиции в марте 1943 года, скрывающих(ся) 9 семей с маленькими ребятишками из дер. Дубровы в лесу, под видом полицейских, также по его приказу были расстреляны. (Как потом выяснилось, никакие они не полицейские, местные жители.)»

Паколькі Калайджан быў прысланы Беларускім штабам партызанскага руху — туды яго адаслалі ўвосень 1943 года, разам з матэрыяламі пра яго «недостатки».

«Также мне потом не было известно, — ni mą камбрыг, — какое решение в , Штабе МДБ было принято. (Только слухом пользовался, что он к штрафникам был отправлен.) После войны одно письмо его из гор. Казани в/ч 33881 «М» получено, в котором об этом ничего не писал, а только обижался и спрашивал награждения».

Даведка І. К. Захарава напісана была 3 мая 1971 года.

Такім чынам, наш магнітафонны запіс, зроблены ў вёсцы Дубровы 7 чэрвеня 1972 года, не быў бы першаадкрыццём — злачынствам Калайджана, калі меркаваць па камбрыгавай даведцы, заняліся значна раней. Ці знайшлі яго, ці судзілі, ці жывы ён яшчэ, ці памёр — ні ў Музеі гісторыі ВАВ, ні ў Інстытуце гісторыі КПБ нічога не вядома. У семдзесят другім годзе мы бачылі ў Віцебскім музеі партрэт гэтага «ўладалюбца», а ў 1976-м ён быў па загадзе з Мінска зняты.

Яшчэ менш можна сказаць пра Блінава. Камбрыг Захараў у сваёй даведцы не называв яго, у музейным архіве ён наогул не значыцца. Можна меркаваць, што Блінаў Д. К., атрад якога 4 сакавіка 1943 года, як напісана ў кнізе «Партизанские формирования Белоруссии...», выйшаў у савецкі тыл і быў расфарміраваны, да злачынства ў Дубровах адносін не мае. Там, дзе, як гаварыла настаўніца: «...і адзін зазлаваў, і другі зазлаваў», мог быць і нейкі іншы Блінаў...

Такому «юрысту», як я, больш нічога даведацца не ўдалося.

Застаецца адно.

Недзе ж там, на маляўніча-азёрнай Асвейшчыне або і недзе далей ці бліжэй, куды каго доля занесла, хтосьці з таго мясцовага атрада, якім камандаваў злавесны старшы лейтэнант, хтосьці дый, можа, не адзін — яшчэ жыве, маўчыць пра тое выкананне загаду, глушыць гарай жахлівы ўспамін або вар'яцее пры яго новым ды новым прыступе.

1988-1990

## ВОПЫТ

У акупацыю сялянам было нялёгка: днём бралі адны, ноччу другія, і людзі дабро хавалі, а яшчэ больш надзейна — закопвалі.

У нас з братам у гэтым быў добры памочнік, можна сказаць — вопытны кіраўнік. «Васточнік» Фёдар, варонежскі аднаасобнік, які за тое, што не спраўляўся з аблажэннямі, перад самай вайной адбываў пакаранне на будаўніцтве аэрадрома каля Шчучына і ў трагічныя дні адступлення застаўся ў нас, як і іншыя ў Загоры, у якасці байца. Так называлі ўсіх акружэнцаў, і камандзіраў, і радавых, і невайсковых,

каму пашандавала не трапіць за лагерны дрот, бо немцы іх распусцілі па вёсках.

Іх было многа, у некаторых хатах нават па двух. Не з патрэбы, а з літасці: куды ж падзецца сваім людзям?.. Калі я прыйшоў з палону, у нашай старой невялікай хаце было аж дзесяць чалавек сям'і: маці, два жанатыя браты, трое малых і два аброслыя акружэнцы. Потым адзін з іх адышоў у суседнюю вёсачку Качаны, а другі застаўся ў нас.

Сяргей, які адышоў, быў са сваім аднаасобніцтвам такі нецярплівы, што, спрачаючыся з братам Мішам на тэмы калектыўнасці, ніякіх жартаў не разумеў — у нашай хаце, на нашым хлебе ён крычаў так зацята, што і пальцы наставіць, як двухзубыя вілкі, і ўтаропіцца, і прашыпіць заслінена:

«Глаза бы тебе, активисту такому, повыдрать!..»

ІФёдар быў спакайнейшы, хоць і цвёрды ў іхнім аднаасобніцтве. Сорак гадоў, а пры вусатым Сяргею і бараду яшчэ запусціў, дзедам лічыўся. І дома «истово» хрысціўся на маміну заіконеную покуць, і ў царкву ў мястэчка хадзіў. У працы быў ён нетаропка цягавіты, у ядзе — таксама. На будаўніцтве таго аэрадрома, расказваў, «з Сяргеем варылі вядро кашы на двух», і здзіўляўся, чаго я тут смяюся. А да чаркі ў яго было проста набожнае стаўленне. Прадчуваючы чарговы прыступ сваёй варонежскай малярыі, ён выпіваў, перахрысціўшыся, шклянку моцнага самагону, прыкусваў і, цёпла накрыўшыся, пажадана доўгім кажухом, прафілактычна лажыўся. «От нея меня всегда вино лечила», удзячна гаварыў пасля, слова «лечила» даючы ў жаночым родзе. Замест Ванька ён гаварыў мне «Ваньке», з націскам на апошнім складзе, таксама «шапочке», «коровенке»... Я любіў з ім пагаварыць. Вясной сорак другога Міша аддзяліўся, пабудавалі мы яго ў суседняй, найбліжэйшай вёсцы Маласельцы, па ўскраіне якое праходзіў наш нявузкі шнур поля; Мікалай — жанаты ды дзіцяты гаспадар; на рабоце мы з Фёдарам, два бессямейныя, часта бывалі сам-насам. Вясёлы, дасціпны быў барадач. Гэта ад яго я запісаў, што ў іх мужыкі хадзілі ў царкву з аброцямі: «Авось лошадке попадется, хорошо подъехать». Гэта ў яго я спытаўся, як ён жаніўся, па любові ці з разліку. «Нет, по соседству», — адказаў ён дзелавіта. Мне было і дваццаць пяць, і дваццаць шэсць, і ён часамі пасмейваўся з маёй нежанатасці, пацяшаў: «Ничего, Ваньке, кончится война, и мы тебе такую, брат, подберем — с двумя сиськами!..» Час быў страшны, а мы гаварылі пра ўсё з даверам, і пісаў я сваё, не хаваючыся ад яго. Словам — свой чалавек у хаце.

Тым нашым закопваннем ён кіраваў, прывычна шэпчучы ў цемры, што і як рабіць, сам рабіў хутка ды спраўна, даўно ведаючы,

чаго спяшаецца. І прыкметна дый адкрыта ганарыўся сваім антыкалгасным вопытам, які прыдаўся і тут.

У партызаны Фёдар пайшоў разам з намі. Там быў таксама «дзедам», пры конях. А ў жніўні сорак чацвёртага, узброены сабраным нашай мамай «сідарам», падаўся з загорцамі ў армію, а там, відаць, абезбароджаны — на фронт. Адтуль нрыслаў мне толькі адзін трохкутнічак, з густа-чорнымі палоскамі купюраў, праз якія высвецілася слова «автоматчики». Жонцы ягонай адрас ён даў, калі мы развітваліся, — я напісаў, але адказу не дачакаўся...

У акупацыю былі таксама наш парты, «аўсвайсы», з абавязковым фотаздымкам. Адзін такі лішні здымачак ён мне падараваў. Памяць пра шчырага і сумленнага русака.

1987

## ВЫБУХ

Пасля XXII з'езда ў нашым пісьменніцкім клубе выступаў лектар ЦК КПСС. Гаварыў ён па пісаным, а ўжо адказваючы на пытанні разгаманіўся шчырэй.,Што запомнілася: тры сталінскія забойствы — Кіраў, Горкі, Крупская, і «тое, што мы цяпер гаворым пра яго, — дзесяць працэнтаў з таго, што ведае центральны камітэт»...

Гэта было першае і апошняе выступление таго лектара ў Мінсісу — яго папрасілі вярнуцца ў Маскву.

Да нас прыйшоў таварыш X., дэлегат з'езда, сакратар ЦК па прапагандзе. З яго роўненькага, адаптаванага выступления запомніўся толькі адказ на пытанне: а што будзе з тымі, па чыіх даносах садзілі, ссылалі, расстрэльвалі?

«Таварышы,— сказаў ён,— не трэба пометы, не трэба болей лішняй крыві».

На гэта «выбухнулі» апладысмеяты, кароткія, міжвольныя, неасцярожныя, сіламі, не больш сямівасьмі чалавек. Дваіх я заўважыў, але ж няма належнай упэўненасці, каб іх тут называць.

Саюзу пісьменнікаў быў дадзены гонар першаму патрабаваць зняць помнік Сталіну на Цэнтральнай плошчы. Быў мітынг, былі выступленні, з крыкунамі на ўсіх паваротах,

А ноччу мяне разбудзіў недалёкі выбух. Момант — гістарычны. Я ўстаў, адзеўся і выйшаў, паглядзець. Дарма. Плошча была шчыльна ачэплена вайскоўцамі, ніякія просьбы не памаглі.

Уранні жонка пайшла ў магазін, Пошукі хлеба завялі яе на далёкую вуліцу па-за межамі ачаплення. Вярнуўшыся, яна расказала, як на той вуліцы з Цэнтральнай плошчы, на якой з ночы, пасля

выбухаў, гурчэла, грукала тэхніка, ішоў грузавік з поўным кузавам гістарычнага друзу, на якім зверху ляжаў вялізны Сталінаў бот.

Людзей там стаяла больш, чым магло быць звычайна. Рогат і крыкі. Асабліва моладзь.

А бабка з кашолкай, як прарочыца, на ўсіх:

— Смейцеся, смейцеся! Памрэ гэты — і гэтага абсеруць!..

1987

## АРОЛ

У студзені шасцідзесятага года я быў госцем пленума Саюза пісьменніісаў Украіны, які праходзіў у Львове і быў прысвечаны апавяданню і нарысу. Светла помніцца ён і дзелавой атмасферай, і сустрэчамі, знаёмствамі, і выступленнямі перад чытачамі, і яснымі днямі з багатым чысцень кім снегам у маляўнічым, вельмі ўкраінскім горадзе.

І Чыжам помніцца, адным з хрушчоўскіх вундэркіндаў.

«Гэта не чыж — гэта арол!» — нядаўна на адпаведнай нарадзе гукнуў гарачы Мікіта Сяргеевіч.

Новае адкрыдцё, яшчэ адна панацэя — карміць свіней сырою бульбай...

У зорныя дні «каралевы палёў» адна з вясковых жанчын, рукі якое добра ведалі зямлю, недаўмявала пера да мною: «Якая ж яна тут у нас каралева? Во каралева!» І наказала на свой агарод, дзе густа, хораша цвіла бульба.

Па просты чалавечы сэнс і пра Чыжа гаварылася: дзе яна, тая дурная свіння, што не захоча варанай, цёпленькай бульбяной тоўчанкі з мучною вобмешкай, а кінецца да сырое, халоднае бульбы?..

Аднак ён стаяў перад намі, на трыбуне пленума, няхрослы, непаголены мужычок у валенках з галёшамі, ён гаварыў, і не абы-як, а зверху:

«Пішыце так, як мы працуем! — і ў заключэнне: — Цяпер я пайду, а вы яшчэ пабалакайце...»

А ў зале і ў прэзідыуме — сівізна акадэмікаў, стомленыя, яшчэ не вельмі стомленыя і поўныя маладога задору вочы работнікаў багатай літаратуры вялікага народа.

Калі сябры мяне праводзілі, Чыж выпадкова трапіўся нам на пероне. Ен ехаў другім цягнікам, у іншым напрамку — зноў засядаць, выступаць, пакуль яго палітычна свядомыя свінні хрумкаюць недзе сырую бульбу. Ен трушком «чымчыкуваў» уздоўж вагонаў, з вакзальнага буфета ў свой купэйны вагон, яшчэ ўсё ў валёнках з галёшамі, з

чатырма бутэлькамі салодкага напітку ў абедзвюх руках. Паставіў іх на пероне і, знаёмячыся са мной, сказаў паблажліва, як па плячы паляпаў: «Знаю, знаю», ведаючы ўжо, што так яно гаворыцца ў такіх выпадках зверху.

Слава і ўдзячнасць Хрушчову за развянчанне культа, за вызваленне і рэабілітацыю многіх і многіх!.. Але ж яго рэформы гаспадарскія, нібыта крыгі на рацэ, у імкненні наперад штурхаліся, таросамі налазілі адна на адну, кружыліся, адплывалі... Разам з сырою бульбай тады якраз ішла кампанія па скарачэнні колькасці спіртазаводаў.

«Брагай корміць хітрун сваіх свіней, — смяяліся мне хлопцы пра: Чыжа, — а вось паглядзім, што будзе, як спіртзавод, які ў яго побач, закрыецца».

І праўда, увосень мяне наведаў адзін з львавян. Яшчэ з парога, не распрануўшыся, ён нібы радасна паведаміў:

«Іванэ Антонавычу, а Чыж пляснуўся!»

Я ўжо ведаў гэта і сам.

А тым не менш, вясной наступнага года, на Брэстчыне, дзе мы з Калеснікам рыбачылі на Ясельдзе, прыйшлося ўбачыць у адным калгасе прапагандысцкі шчыт, нават захацелася ефатаграфаваць яго на ўспамін, з-за верша на аперэтную мелодыю:

Разносится слава
Чижа Ярослава,
Почет им заслужен вполне...

1987

## ТАКОЕ ГАВАРЫЛАСЯ

Галоснасць, галоснасць... Цяпер яна багата выйшла на старонкі прэсы, у эфір. А была ж і раней. У народзе, паміж людзьмі, нават і незнаемымі. Патрэба ў ёй спакваля нарастала.

Адзінаццаць гадоў таму назад, вясной семдзесят шостага, на Кубані, работнік крайкома партыі, інвалід вайны, гаварыў нам, невялічкай групе літаратараў, у Прыморска-Ахтарску:

«Шкада, таварышы, што мяне адклікаюць, што не я паеду з вамі ў Новарасійск. Я вам паказаў бы там усё, расказаў...»

Пра «Малую зямлю», якая ў той час — і такое было на нашай нядаўняй памяці!— перакрывала сваім гераізмам ледзь не сам Сталінград ці Курскую дугу...

Людзям, якіх ён пазаўчора ўпершыню ўбачыў, якіх не ведае, каб давяраць, таварыш расказаў, якой не вельмі абавязкова жудасна крывавай была тая аперацыя, як там на штурм кавалачка сушы, што

языком вытыркалася ў мора з-пад ненрыступнага амфітэатра гораў, ішлі «камсамольскія часці, і крык «мама» перакрываў кулямётны і артагонь...»

А тады яшчэ і зусім неабачліва шчырае:

«А тым часам наш паважаны Леанід, далека за вадой, сядзеў сабе на гары, выдаваў партбілеты...»

Такое гаварылася. А вялізны, расшалэхтаны махавік інерцыі афіцыйна круціўся, парыпваў на поўны размах. На «малой зямлі» нам праз тры дні гаварылася пра яе зусім інакш, зрэшты ўсё тое, што безліч разоў паўтаралася ў друку, па тэлебачанні. Нам выдалі па вялізным альбоме пра гераізм, у цэнтры якога быў герой галоўны...

Піраміду яму збудавалі найлепш, бадай, украинцы, Напрадвесні восемдзесят першага года я аглядаў яе ў кіеўскім Музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. Высозная сцяна, як неабсяжны мармуровы шчыт, для мноства высечаных ды пазалочаных надпісаў. Імёны Герояў. Знізу, ад падлогі, гушчыня імён Герояў з адною зоркай. Іх так многа, што яны бачацца вельмі грунтоўнаю асновай піраміды. Мімволі думаецца, што і ніжэй, шырэй, глыбей фундамент ідзе — тыя, што толькі з ордэнаіацці, з медалям), што і без іх — народ!.. Над мноствам Герояў з адною зоркай — значна менш, а ўсё ж многа двойчы Герояў, сярод якіх нянроста адшукаць і Сталіна. Тады ідуць тры тройчы Героі — Пакрышкін, Кажадуб, Усцінаў. Вышэй — палкаводзец над палкаводцамі — Жукаў. А над ім... Сёння ўжо можна было б уголас спытацца: «Што, і над ім?» Так, і над ім, і над усімі — я пяццю зоркамі ён — Лід Ліч, як вымаўляў адзін з яго састарэлых паплечнікаў...

«Расія без цара не можа быць», — гаварыў вясковы дзед, бацька майго знаёмага, яшчэ вясной пяцьдзесят трэцяга года.

Праўда, спачатку было трохі калектыўнасці, пакуль спакваля не акульціўся «наш дарагі Мікіта Сяргеевіч». Тады зноў пэўная калектыўнасць з фіналам на цэлых васемнаццаць геройскіх зорак, сваіх і суседскіх, плюс медаль Ленінскай літаратурнай прэміі і пісьменніцкі білет № 1.

Андропаў адышоў раней, чым падхалімы здолелі разгарнуцца. Пра адыход яго ў народзе гаварылася са шкадаваннем...

Для Чарненкі, з-за недахопу якой-небудзь хоць бы «Маленькай зямлі», знайшлі пагранзаставу, дзе ён служыў, зноў жа галоўную на ўсіх дзесятках тысяч звілістых кіламетраў дзяржаўнай граніцы. Ну, і зорачкі, ледзь не як гузікі, пачалі прышываць.

Прыкрае відовішча — чалавек, пачварна раздзьмуты непамернай, неадпаведнай славай, як ён дурнее, нахабнее сам... На ўручэнні Брэ-

жневу Ленінскай прэміі ён выступаў: «Я яшчэ напішу!» Як быццам мільёны перад тэлеэкранамі... ну, хоць не ўсе, а многія не ведалі, як яна, кім яна, тая трылогія, нісалася.

А ўсё-такі сёння галоснасць! У артыкуле пра Шарафа Рашыдава, правадыра і пісьменніка, «Литературная газета» дакранулася ўжо і да героя «Малой зямлі», да аўтара той трылогіі. Хоць з асцярогай, намёкам!.

Як яно пойдзе далей?..

1987

## НЕ ДА СПОРТУ

Нядаўнія «крамлёўскія дзяды»... Непрыемна было чуць такое пра наша старэча-нямоглае кіраўніцтва, якое і сапраўды, як гаварыў адзін з маіх разумна-вясёлых сяброў, нагадвала ўшчэнт зняможаных баксёраў, што потна, захекана павіслі адзін на адным і ім ужо не да спорту...

Асабліва прыкра думалася і ціха, даверліва гаварылася пра гэта на пленуме, прысвечаным пяцідзесяцігоддзю Саюза пісьменнікаў. Тут ужо культ асобы, развенчаны васемнаццаць гадоў перад гэтым, дэманстраваўся з асаблівай пачварнасцш. Дата пленума таксама была прадумана — назаўтра пасля дня нараджэння Чарненкі, якому, у якасці імяніннага сувеніра, была дадзена яшчэ адна Зорка Героя, і ўсе выступленнй пачыналіся з віншавання...

Кульмінацыйным было выступленне Чакоўскага: «Представим себе, товарищи, если бы Ленин зашел теперь и увидел...» І расчуленавернападданы жэст у бок галоўнага ў прэзідыуме.

Мы, члены і госці пленума, бачылі тое, чаго мільёны не ўбачылі па тэлевізары, — як імяніннік нядошла дыбаў па сходках уніз да трыбуны, каб прачытаць сваё слова з паперкі. Мільёны ўбачылі яго вартую жалю старэчую нядошласць трохі пазней, калі ён галасаваў, потым прымаў дэпутацкі мандат.

«І лафет, і задзіранне ног...» Так асцярожна запісаў я ў блакноце, гледзячы па тэлевізары на яшчэ адно паныла-ўрачыстае пахаванне з усёй яго абавязковай і лішняй пампезнасцю. Па тэлевізары, вядома. А вестка пра смерць прыйшла спачатку музыкай па радыё: з самага ранняга ранку — жалобнае клыганне... Спусціўшыся да паштовай скрынкі, я прывітаўся са знаёмай з суседняга пад'езда і, не задумваючыся, сказаў:

— Што гэта сёння за музыка?

Вясёлая, бывалая кабеціна, яна адказала з усмешкай:

— Яе ж так даўйо ўжо чакалі!..

1987

## ПАД СУРГУЧОМ

Вярнуўшыся з Баранавіч у леснічоўку, іду пакупацца. Каля Свіцязі — легкавік і тры раённыя начальнікі. Ляжаць пад ліпай наўкруга разасланай газеты, на якой дзве апарожненыя бутэлькі, адна начатая і нейкае мяса, якога ў іх больш, чым хлеба.

— Прысядзьце, выпіце з намі.

Дзіка здзівіліся, што я не п'ю. Асабліва наймаладзейшы, як аказалася крыху пазней, пракурор з суседняга раёна.

— Кажаце — сэрца. Калі вам суджана пажыць яшчэ два-тры гады, дык пажывіце вы як чалавек — піце!..

Адзін з таварышаў прызнаўся, што назнаў мяне — бачыў на нейкай літаратурнай сустрэчы. Пачалі расказваць, што тут яны, у будзень над возерам, не проста так сабе, а выехалі ўпаўнава.жанымі па кукурузе.

— Ліквідаваць прарыў! — смяяўся пракурор.— Віка патрэбна нам, канюшына, але што ты зробіш...

Пасля ён пачаў даваць мне, як пісьменніку, «матэрыял».

Вось тры выпадкі з пракурорскай практыкі:

Дзядзьку, які аднойчы не выйшаў капаць калгасную бульбу, старшыня вырашыў пераараць упоперак бульбяныя соткі. Трактар прыехаў, давай пачынаць. А дзядзька гэты, перанесены з хутара ў вёску, крыў хату, каб дзедям на галаву не цякло. Спусціўся са страхі.

— Браток, — спыніў ён трактарыста, — ці ж ты не чалавек, што ж ты робіш, што ж ты арэш?..

Угаварыў хлопца, і пайшлі яны да старшыні. Той — ні доступу: «Прэч з мае канторы!» Штурхае дзядзьку, пхае да дзвярэй. А той, не даючыся, разбіў неяк старшыні нос.

І пачалася пісаніна. Ні больш ні менш, а «збіванне калгасных кадраў».

Калі наш пракурор узбудзіў справу супраць старшыні, таму далі толькі... вымову па партыйнай лініі.

Другі выпадак.

Той самы старшыня калгаса. Другую вымову яму далі за тое, што ён разам са сваімі падхалімамі і сабутэльнікамі набіў чыгуначнага рабочага, які з дазволу калгаснага брыгадзіра вёз на калгасным кані дахаты старыя шпалы.

Пакуль да тое вымовы, наш пракурор выклікаў старшыню да сябе, каб хоць пагаварыць з ім, як камуніст з камуністам, што так сябе паводзіць — нельга.

Абураны старшыня шпурнуў яму на стол сваю пячатку:

— Калі я дрэнны, дык кіруйце самі!..

Навела трэцяя.

Два раённыя ўпаўнаважаныя, кандыдат партыі і беспартыйны, ехалі п'яныя лежма на возе і, то на змену, то разам, лупцавалі нямоглую кабылку. Участковы запыніў іх і пачаў дакараць. Яны пазлазілі з воза і пачалі лупцаваць участковага, Акрывавілі хлопца і сумку з паперамі адабралі.

Пракурору прыйшло пісьмо пад сургучом: беспартыйнага судзі сабе, як хочаш, а кандидата не чапай. Калі ж ён не паслухаўся, намеціў беспартыйнаму год, а кандыдату, як больш свядомапу, тры — прымусілі выступіць з абжалаваннем супраць... самога сябе.

— Вось так, таварыш пісьменнік, — зусім па-цвярозаму гаварыў малады чалавек. — А вы нам кажаце: навошта піць... Ці пра такую справядлівасць думаў я, канчаючы свой юрыдычны факультэт? Дый паступаў туды не дзеля гэтага. Іду цяпер па вуліцы і ўжо не толькі кожны слуп, а кожная штакеціна — услед за мною: падлюга, падлюга, падлюга!..

Дзівак — ён думае, што гэта можна надрукаваць...

1958

## БЕЗ АЛЕБАРДЫ

На ўскраіне мястэчка, дзе брукаваная шаша ўздымаецца на доўгі мост, пад вербамі — цянёк,

Апоўдні мы, як спелыя грушы з патрывожанага галля, асыпаліся на гарачы перон з падножак прыгараднага цягніка і — цэлыя тры кіламетры — спяшаліся сюды з дурной міжвольнай думкай, што іменна ў гэты час, пакуль мы валачэмся, пад вербамі чакае нас машына...

А цяпер вось сядзім і чакаем самі.

За дзве бясконцыя гадзіны прайшло шэсць спадарожных машын, але ніводная з іх не спынілася, колькі мы ні махалі рукамі. Няўжо гэта шафёры, гады, настолькі разбагацелі?! Мог бы чалавек са злосці падумаць і так, каб не было відавочным другое. Гэта другое — участковы міліцыянер, які моўчкі і важна ходзіць перад нашымі вачыма — то з ценю, то ў цень, — пільнуючы тут нейкага парадку.

Вось зноў ідзе трохтонка. Да таго ж пустая, з лаўкамі!.. Мы, пасажыры, якіх чамусьці называюць «гаўрыкамі», зноў устаём і з упартай надзеяй уздымаем рукі. Зноў дарэмна!.. Зноў хочацца крыкнуць: «Едзь, няхай табе палопаюць пакрышкі!» Потым зноў пачынаеш прытомнець, вяртаецца думка: шафёры баяцца міліцыі. Пачынаеш, седзячы або лежачы на траве абочыны, вадзіць вачыма за пыльнымі ботамі ўчастковага.

Сёння нас, «гаўрыкаў», няшмат... Зрэшты, мяне толькі і можна назваць гэтым пачэсным імем, бо рэшта пасажыраў — жанчыны: дзве маладзіцы, бабуля з унучкай і дзяўчына з чамаданчыкам, відаць, студэнтка. Па абавязку найбольш адказнага «гаўрыка» мне трэба было б падысці да міліцыянера і сказаць: «Чаго вы, таварыш, хочаце ад нас? І ездзілі людзі, і будуць ездзіць у кузавах, пакуль і тут не пойдзе аўтобус. Ідзіце вы, браток, ды паглядзіце парадку там, дзе трэба». Але на мяне чамусьці напала цяга да пасіўнага сузірання, ніяк не дазваляючы творча ўмяшацца ў жыццё. Прасцей: я і не вельмі спяшаюся, і зусім не ахвотна займацца з гэтым, здаецца, трошкі падсамагоненым служакам. А нервы ўсё ж такі гудуць, як тэлеграфныя драты над галавою...

Не нервуецца, відаць, толькі адна пасажырка. Ціхая бялявая дзяўчына, якая здаецца мне студэнткай-завочніцай, сядзіць на сваім чамаданчыку і запоем чытае. Кніга як быццам знаёмая мне — ці не тыя самыя сінія вокладкі?.., Што ж, і я, відаць, супакоіўся б над гэтымі заўсёды свежымі, вясёлымі старонкамі...

Дзяўчына з кнігай зацікавіла і ўчастковага. Што за яна — і не ўстае, і не хвалюецца, як усе іншыя, не просіцца, нібы ёй і ехаць нікуды не трэба? А да таго яшчэ — нішто сабе... нават, можна сказаць... Ен падышоў, пераступіў з нагі на нагу і спытаўся:

— Чытаеце?

Дзяўчына ўзняла ад кнігі позірк, спакойна паглядзела на міліцыянера і зноў апусціла блакітныя, як мне зводдаль здалося, і разумныя вочы.

— А што вы, грамадзяначка, чытаеце?

— Гэта — Шолам-Алейхем,— адказала дзяўчына і неяк вельмі ж спакойна, адкрыта гледзячы хлопцу ў вочы, дадала:— Вялікі яўрэйскі пісьменнік.

Рыжы зусім нечакана гыкнуў блазенскім смехам. Гыкнуў і азірнуўся: ніхто не падтрымаў?.. Дзяўчына з недаўменнем пацiснула вострымі плечукамі пад квяцістай сукенкай і зноў апусціла вочы на кнігу. Тады ўчастковы, каб узняць сваю годнасць гаспадара тутэйшых

мясцін і даволі цікавага маладога чалавека, зусім сур'ёзна, нават вельмі важна заключыў:

— Што ж, яўрэі — яны нішто сабе, яны наогул здорава апісваюць...

На гэты раз ужо я выбухаю смехам.

Няхай даруе мне наша міліцыя! Каб не было ніякіх нездаровых падазрэнняў, я гатоў неадкладна ўключыцца ў конкурс па напісанні высокамастацкіх твораў пра скромных і гераічных вартаўнікоў грамадскага парадку. Калі трэба, — вазьміце з мяне тры рублі штрафу, аднак дайце ж і пасмяяцца! Дазвольце мне паверыць, што мой знаёмы не прыдумаў, калі... Ах, чорт вазьмі, машына! Не, павярнула ўлева, уздоўж ракі... Дык мой знаёмы, малады вясковы настаўнік, расказваў, як ён прасіў на вяселле свайго ўчастковага.

«Я яго так сабе — не то ад радасці, не то па-суседску прашу, а ён пытаецца:

«Жэнішся?»

«Жанюся, Іван Макаравіч».

«Ну што ж, не супярэчу... Можа, нават і зайду...»

А ці не гэтага вось рыжага прасіў мой знаёмы? Ці не быў ён і сёння на дармовай чарцы?.. І яшчэ адно пытанне: а што, каб такому даць паласатую будку і алебарду? Здаецца, было б да твару.

1958

## EX ORIENT LUX[2]

Восень трыццаць дзевятага.

«Вы, тата, можа, цяпер менш пілі б. Нашы прыйшлі. Усё цяпер будзе па-новаму».

Бацька, і праўда, часта вяртаўся дамоў пасля чаркі.

«Ну што ж,— сказаў ён,— калі ўжо такі парадак, то і я не буду піць».

А дзён праз колькі вярнуўся з кірмашу, зноў падвяселены, і ледзь не з парога сказаў свайму «разумнаму»:

«Смаркач ты! Я ж чарачкамі піў, а яны яе шклянкамі глушаць! Добра кажаш — па-новаму. Трыста грам, дзвесце грам, а сто — дык што сабаку муха!..»

Другі юнак, зямляк з яшчэ бліжэйшай вёскі, светла запомніўся з нашай першай сустрэчы.

---

[2] Святло з Усходу (лац.).

У мястэчку Ярэмчы на Ушэсця быў фэст, моладзі сышлося з усіх вёсак наваколля. ,Што ж, калі азірнуцца ў гісторыю, дык усе нашы Сёмухі, Пакровы, Дзяды і іншае, пакуль стаць царкоўнымі святамі, былі проста народнымі абрадамі. А ў гады маёй маладосці тыя святы ды фэсты былі для моладзі зручным выпадкам выйсці з цягавітай будзённасці ў свабоду адпачынку, прайсціся, з кім сустрэцца, з кім пазнаёміцца. Ну, і дзяўчаты, вядома, — кожны фэст быў дзявочым парадам, «вывадкай» — там выбіралі, знаёміліся, любаваліся ў маладым, вясёлым, наіўна неакрэсленым прадбачанні абавязковага шчасця.

Мне было дзевятнаццаць, а таму другому юнаку на год больш. Мяне з ім пазнаёмілі, а я ўжо ведаў, што ён два гады прасядзеў у турме, як камсамолец-падпольшчык, выйшаў з-за крат па амністыі. Перад турмой былі ж яшчэ паліцэйскія катаванні. Ен быў наймаладзейшы з усіх знаёмых мне падпольшчыкаў, і ўсё, што ён перанёс, бачылася з пашанай і сімпатыяй: герой! А да таго яшчэ высокі, стройны, сціпла ўсмешлівы, у чорнай касаваротцы, вышытай каласамі і валошкамі.

Такім ён жыў у памяці дванаццаць гадоў, да наступнай сустрэчы.

Зямляк завітаў да мяне не адзін, з таварышам па працы на лесазаводзе, нават нейкім яго начальнікам. Я ведаў, чым для майго земляка былі дванадцаць гадоў ад нашай сустрэчы на фэсце. Ен уцёк у Савецкі Саюз, дзе на шчырасць яго навалілася чорнае падазрэнне, зноў допыты, турма і тайга, з якое ён вынырнуў толькі таму, што меншы брат быў у партызанах, а братаў камандзір стаў Героем і захацеў, і здолеў пахадайнічаць.

Адпушчаны яшчэ ў канды саракавых, ён, мой колішні светлы юнак, у доме маім, перад старою мамай, жонкай і дзецьмі зусім нечакана расперазаўся звычайным п'яніцай, які ўжо не валодае сабой. Гэта так брыдка было, што мы з ім больш ні разу не сустрэліся.

...А начальнік яго яшчэ і хваліўся тады, праз ікаўку, як ён нас вызваляў у Верасні, як быў тады лейтэнантам і як плаціў цёмным заходнікам за прадукты не грашыма, а аблігацыямі займа — ха, ха, ха!..

Пра першага госця ўспамінаю з сумам і жалем.

А пра другога... Тут ужо мне доўга муляла ў душы, чаму не выпрасіў яго за парог.

1988

# ХЛЕП

Ліпень сорак чацвёртага года. Нарада раённага савецка-партыйнага актыву з партызанаў, забраніраваных ад фронту. Праводзіў яе першы сакратар райкома партыі, толькі што прысланы сюды з Вялікай зямлі, ці, ужо не па-лясному, а па-новаму для нас — з савецкага тылу.: Чалавек не надта пісьменны, гаварыў ён «авашча», «парасёнкі», «нямецка-фашыцкі», а слова «хлеб» вымаўляў з асаблівым смакам ды прыціскам: «хлеп-п!» Ажно капылячы з выдыхам поўную ніжнюю губу. Актыў рассылаўся па вызваленым раёне на арганізацыю хлебаздачы. Хоць жніво толькі што пачалося.

— Родине нужен хлеп-п! Ломайте ребра, выбивайте зубы, — нібыта з гумарам, нібыта і зусім сур'ёзна выступаў ён з ганка, — но хлеп-п должен быть!..

Двух камсамольскіх сакратароў і мяне, па беспартыйнасці толькі выконваючага абавязкі рэдактара райгазеты, нас, яшчэ з лесу такіх, паслалі ў найбліжэйшую ад райцэнтра вёску. Вёска доўгая, незнаемая, пад канец акупацыі тут стаялі ўласаўцы. Людзі здаваліся нам не вельмі прыхільнымі. Ды яшчэ і банды трапляліся ў наваколлі. І мы начавалі па гумнах, без гаспадарскага дазволу заходзячы ў іх прыгрыкам, з загумення. Скінем сена на ток, паляжам вачыма да дзвярэй, а зброя ў кожнага побач (два аўтаматы і трафейны чэшскі карабін).

З рэбрамі ды зубамі ў нас, вядома, нічога падобнага не было. Хлопцы мясцовыя, мы былі яшчэ і дастаткова інтэлігентнымі, каб сярод сваіх людзей адчувацца сваімі. Са старшынёй сельсавета, дзядзькам таксама з партызанаў, мясцовым, мы заходзілі ў двары ці ў хаты, угаворвалі дзе мужчыну, дзе бабу, і справа рухалася.

Толькі ж есці нам вельмі хацелася. А прасіць было непрывычна, не тое што ў партызанах, і ўжо, скажам — па-мірнаму няёмка. Асабліва пасля першай асечкі. Зайшлі ў адну хату, павіталіся з гаспадыняй, ветліва папрасілі. На стале, па звычаі пад абрусам, ляжыць вялікі бохан хлеба, а цётка тая:

— Няма! Нічога няма! Усё гасударства забрала!

Хоць мы ж гэта і былі тут тое гасударства і нічога яшчэ не забралі.

Цераз кагосьці, хто ішоў у мястэчка, паскардзіліся другому сакратару райкома, нядаўна нашаму брыгаднаму камісару, чалавеку свойскаму, і ён назаўтра ўранку прыгарцаваў да нас на сваёй лясной Буланцы. Узяўся за старшыню сельсавета: «Табе што — не сорамна? Гаспадар!..» Старшыня быў шаўцом у адным з нашых атрадаў, а сюды, на пасаду, прыйшоў з тыдзень да нас. Сутулавата-зда равенны дзядзька Дзюб, мянушка з-за доўгага носа. Ен памаўчаў і прыдумаў:

«Есць. Парадак». Толькі два словы. Калі ж таварыш сакратар паехаў, Дзюб павёў нас, як ён сказаў, да Пытляванага.

— Нейкі курач, ці што. Гадоў, відаць, за сорак, а жыве адзін. Толькі ж глядзіце, хлопцы, пра бабаў пры ім — а ні сла-веч-ка!.. А так харошы чалавек. Я ў яго быў адзін раз.

У хаце таму чалавеку ён закамандаваў:

— Таварышы будуць у вас харчавацца. А там паглядзім. У крыўдзе не будзеце.

Белавусы, з румянцам, гладкі, і сапраўды Пытляваны, гаспадар ахвотна згадзіўся. На тое першае снеданне, хоць ужо і пад поўдзень ішло, рухавы адзінец напарыў малака, наварыў крутых яек, паставіў міеачку масла, палажыў бохан хлеба. Усё гэта чыста ды спраўна, нават і стол абрусам заслаў. Паселі мы, ямо. Ды так і падкусвае, каб сказаць пра што-небудзь з бабамі ці прыблізна, аднак мы толькі скоса пераглядваемся ды ўсміхаемся з асцярогай. На абед была гарачая капуста, тушаная бульба, зноў жа малако. З тыдзень пражылі мы ў такой раскошы, ані разочку не збіўшыся на непатрэбны намёк.

Мала таго! У адзін з тых сытых дзён, кал і мы сядзелі з Дзюбам у яго сельсавеце, прыйшла жанчына, відаць, яго знаёмая ўжо, бо прасіць на даччыно вяселле.

— Прыдсядацелька, толькі ж не адкажыце ўжо!

Дзюб наш важна нахмурыўся.

— Не, не магу. Не прыйду.

— Ну як жа ж вы, прыдсядацелька? Ах

Божа ж мой! Мы ж вас...

— Сказаў: не ма-гу. Я не адзін. У мяне во друззя.

— Ах Божа ж мой! — усцешылася цётка. — Дык няхай жа ж і друззя прыходзяць! Таварышы мільыя, кал і ласачка!..

Самагону не было. Быў разведзены спірт з магутнага, яшчэ княжацкага бровара. Ен працаваў і «пры першых саветах», пасля верасня трыццаць дзевятага, і пры немцах, а потым, пакуль адны ўцякалі, а другія даганялі, дык людзі спірту і набраліся. Казалі, што там, дзе той спірт з прабітых кулямі ды асколкамі бакаў сцякаў у сажалку раўчуком, «капані, браток, на штых ці два, дык у ямцы і настаіцца»!..

Помніцца маладзенькі танкіст — з таго танка, што быў падбіты каля мястэчка: танк чакаў, пакуль яго прыедуць падрамантаваць або забраць куды, а два танкісты заставаліся пры ім, на вясковым харчы і начлезе ў непагадзь. Той маладзенькі, п'яненькі, стаяў — мне бачыцца — перад замітушонай гаспадыняй, урачыста трымаючы богведама каторую ўжо шклянку, гайдаўся ў сваёй нясталай цыбатасці, і ў

небывала, у нечакана поўным шчасці нешта ўсё блытаў, смяшліва ды захоплена паўтараючы «т-те-тень-ка м-мил-ла-я!».

А яна, што на момант спынілася каля яго, зноў трухала то на кухню, то з кухні са сваім дабрадушным «ах Божа ж мой!..».

Не памятаю, а прыдумваць не хачу, што ж гэта за вяселле такое — перад самай тут усеагульнай мабілізацыяй: ці малады калека які, ці каханне ажно такое? Але вяселле было як вяселле. І мы, валацугі са зброяй, адчувалі сябе там гасцямі...

Пасля той вёскі я, ужо заняты газетай, прызначаны быў упаўнаважаным па хлебе ў самім райцэнтры. Неяк увечары зайшоў з рэдакцыі ў клуб, на танцы. Субота была. А там — ажно не верыцца — сядзіць сам першы сакратар райкома.

У беспагоннай гімнасцёрцы са спражкай на чэраве, нават у шапцы «адказнай», без зорачкі. Проста сядзіць ды глядзіць, як маладыя танцуюць. Праўда, была якраз паўза.

Мяне ён убачыў адразу, у парозе. Падклікаў да сябе, спытаўся:

— А ты здесь чего?

— Ну, выпусцілі нумар і зайшоў.

— А хлеп-п?

— Ну, хлеб здаецца патроху.

— Ты мне, дорогой, не потрохай, а иди, буди мещан — пусть молотят, веют и везут на станцию. Будь здоров!

Я выйшаў, прыкра пастаяў і, па прывычцы да свабоды, пайшоў спаць.

1989

## ПАЛІТАДДЗЕЛ

Першы з дзевяці маіх дваюрадных братоў, старэйшы за мяне на дваццаць сем, Алесь. Пісаў я пра яго і юнаком, у «Праведніках і зладзеях», і ў позняй сталасці, у «Золаку, убачаным здалёк», і ў запісах, аднак сёе-тое з яго каларытнага вобраза яшчэ ўсё часамі паблісквае ў памяці, і хочацца запісаць.

І ў мове яго было многа нязвычнага. Скажам, такое:

«Па ўсім свеце пройдзе яна, наша пралетарская струна».

«На якую трэль чалавек пастаўлены — ці ласкай возьмеш яго, ці злосцю».

«Няма ў нас аніякага нармалу».

Нешта я браў з яго мовы, а яшчэ што і не ўзяў.

У акупацыю, дачуўшыся пра ўступленне ЗША ў вайну, ён гаварыў у нашай хаце, задаволены:

«Ну, цяпер дзела пойдзе! Калі яна з намі, Амерыка. Яна нам аружыю — ж-жых! Какаву, фрухту ўсякую — ж-жых!..»

І адпаведны штуршок рукою наперад: ж-жых не так сабе, а як маланкай цераз увесь акіян, нават над самай вадою.

У яго геранчным удзеле ў першай сусветнай вайне (чатыры «Георгіі») быў і нядоўгі аўстрыйскі палон. А гаварыў Алесь чамусьці пра Італію, што гэта там ён быў, адтуль уцёк. Можа, з-пад Трыеста?.. Калі пасля вайны з Урала прыехаў пагасціць на радзіме бацькоў мой пляменнік Шура, толькі на шэсць гадоў за мяне маладзейшы, я навёз яго з Мінска ў Загора і ў Маласельцы, да родзічаў. «Завёў» я Алеся на ваенныя ўспаміны, каб пачаставаць гэтым, Шуру, франтавіка. Калі дайшло да той «Італіі», Наташа,,Шурава жонка, інтэлігентная русачка, снытадася:

— А скажите, пожалуйста, Алексей Лукич, природа там, конечно, вам понравилась?

І ён, таксама інтэлігентным ладам, адказаў:

— А нічога. Прырода красівая. Але почва зямлі гавённая.

Калектывізацыя ў нашых мясцінах, у сорак дзевятым — пяцідзесятым гадах, пачалася з таго, што ва ўсіх вёсках ды вёсачках, нават і ў суседніх Качанах, дзе семнаццаць хат, быў свой, асобны калгас. І ў Маласельцах, трохі большых за Качаны, таксама. І старшынёй там выбралі Алеся. І бывалы ён, і смелы, і бядняк рабацяшчы. А неўзабаве нажыў ён, на старасці гадоў, яшчэ адну мянушку — Палітаддзел.

— Абы што якое, дык сам не хоча рашаць, а на каня, мяшок з сенам пад сраку, і ў Кашчычаў двор, у эмтээс. «Хай думае палітаддзел!..»

Аднак праз лета Палітаддзела са старшыні калгаса «Праўда» знялі. За тое, што вырашыў ён сам.

— За што ж цябе, Алесь? — спытаўся я, калі сустрэліся.

— Даў людзям сена накасіць. Пабілі на дзялкі і пакасілі.

— Ну, а навошта ж ты так, самавольна?

— На прымер падняцця духа!..

1988

## НАЎЗДАГОН

Толькі што была арганізавана «Маладосць», і для яе трэцяга нумара (першым была ў пажарным парадку адзначана смерць Сталіна) мы з фотакарэспандэнтам Аляксандрам Дзітлавым паехалі ў адзін з заходнебеларускіх калгасаў, да новай маладой славутасці, якая кінула ўсенародны камсамольскі покліч: «Дзяўчаты, на трактар!»

Засталі мы яе на палявой дарозе каля вёскі. Воддаль — трактар. і Член урада, член ЦК камсамола, яна стаяла з трыма мужчынамі і аднаго з іх брыдзіла так, што не запішаш. Маці мая казала калісьці, што як жанчына вылаецца матам, дык пад ёю зямля загарыцца на цэлы сажань у глыбіню. Калі б гэта так, дык тут яна, на дарозе, прагарэла б уніз цэлай шахтай — з вярсту. Дый нягегла ўсё гэта гучала, жалю і гідкага сораму варта, неадпаведна выгляду і плаксіваму голасу маладзіцы. Мой інтэлігенты таварыш, нядаўні афіцэр-франтавік, паглядаў на мяне з недаўменнай усмешкай.

Я выбраў-такі момант, скарыстаўся шчылінай паміж матамі, сказаў маладзіцы, хто мы, адкуль і чаго, запрасіў пагаварыць.

— Тады хадзем, — сказала яна, з ходу трохі ашляхнуўшы, ужо з прыкметным вопытам наконт прэсы і радыё.

Трэба было пачынаць кантакт, і я, ідучы, спытаўся:

—Што, дрэнны старшыня?

І яна адказала яшчэ па інерцыі:

— Такі ён старшыня, як з вашага... пісар!

Нейкі час ішлося з заткнёным ротам. А паварот да патрэбнага нам адбыўся ў хаце, якая была недалёка. Дома нікога не было. Не змаўляючыся з таварышам, мы папрасілі гаепадыню зняць камбінезон, памыцца, пераплясціся, пераадзецца — для здымкаў. Пакуль яна ў сумежным пакоі і ў кухні займалася гэтым, мы сядзелі моўчкі, толькі з мужчынскімі, сталымі ўсмешкамі зрэдку пераглядаліся.

Гаспадыня ўвайшла — як не тая: у светлай сукенцы, з заплеценай касой, нават з усмешкай, трошкі як сарамлівай, — нармальная.

Я папрасіў:

— Прысядзьце пакуль што. Трэба спачатку пагаварыць.

Яна прысела каля стала, хораша засланага саматканым абрусам.

— Цяпер скажыце нам, чаго вы так брыдка лаецеся? Такая маладая, мілая.

І пералом канчаткова адбыўся. Яна заплакала:

— Сталі б вы... на маё месца... ды паглядзелі б, як гэта... што гэта за смак!.. Усе людзі... як людзі... а мне...

І іншае ў такім тоне. Пра лютую працу трактарысткі ў нядаўна арганізаваным калгасе, якая павінна не проста працаваць — павінна паказваць прыклад на ўсю рэспубліку і далей. А яна ж не вольная птушка, у яе сям'я. Малое ёсць, у мамы цяпер, у суседняй вёсцы. І недалёка, а зірнуць на дачушку няма калі. І мужа, таксама трактарыста, трэба ж глядзець, і хату, і гаспадарку нейкую... Яна хліпала, уціралася ражкамі светлай хусткі, што была накінута на

плечыкі, канчала плакаць, і нам было шкада яе як нашмат маладзейшую... ледзь не сястру.

Мы пайшлі ў поле, да яе трактара. Дзітлаў здымаў, я сёе-тое запісваў. Дома ён праявіў свае здымкі, я напісаў «лірычны нарыс» — усё па форме і ў норме. Часопіс выйшаў з гераіняй. Усмешлівай і каляровай.

А мне вось і яшчэ ўсё помніцца тое не ўсё ў напісаным, тая ружовакіеельная гладкасць, ад якое мляўка наўздагон.

1987

## БАЛЮЧАЕ І ДЫМНАЕ

— Гэта, браток, былы намеснік Цанавы! — з гонарам гаворыць мне наш N. З гонарам не столькі за гэтага, даўно адстаўнога, палкоўніка, цяпер так сабе гаспадарніка, як з гонарам за самога сябе, бо вунь ажно чый намеснік — цяпер намеснікам у яго!..

— Ен жа таксама, відаць, тую муху лавіў? — ахалоджваю таварыша пытаннем.

— Якую муху?

Ён не ведае. А мне другі таварыш расказваў, са слоў свайго швагра, таксама адстаўнога палкоўніка, як у кабінеце таго Цанавы аднойчы была паказалася муха. Лавілі яе толькі вышэйшыя афіцэры.

Потым неяк былы футбаліст, які пасля траўмы вымушаны быў перакваліфікавацца на сантэхніка, расказваў мне ў бальніцы, як Цанава любіў футбол.

Калі наша каманда прайграла, ён выклікаў капітана яе ў той свой бязмушны кабінет і. разваліўшыся ў крэсле, працягнуў яму нагу ў генеральскім боце: «Здымі!» Той зняў. «Падай яго сюды і нахіліся!» І адхвастаў чалавека халявай па твары...

Гэта ўсё — яшчэ не тое ў параўнанні з расказам незнаёмага інжынера, з якім мы, Дзмітрый Кавалёў і я, ехалі ў адным купэ ад Масквы да Арла, на юбілей Тургенева. Інжынер гэты быў у свой час у Баку на працэсе другога рэспубліканскага «рыцара», Багірава.

Шэсцьдзесят кароў давалі высакаякаснае малако, каб ён, той таварыш, тройчы на дзень купаўся ў сырадоі. Ванны ад нейкай там экземы.

Малако пасля... аддавалі ў дзіцячы сад.

Да смерці буду ўспамінаць гэта, сустракаючы шнурок малечы, якая ідзе ды гамоніць, па загадзе, а ўсё ж так хораша пабраўшыся за ручкі.

* * *

Позна ўвечары, перачытваючы «Запіскі з мёртвага дома», стала жудасна, калі хоць прыблізна ўявіў, якую вялізную. жахлівую армаду так званых суддзяў, наглядчыкаў, катаў — армаду бяздушных нібы людзей стварыў той час, які мы называем перыядам культу асобы...

Успомніў, бо часта думаю пра яе, старую, тоўстую, нахабную бабу, якая зрабіла кар'еру на «пільнасці», а пасля, калі прыйшла пара масавай рэабілітацыі, выявілася, што па даносах гэтай бабы пасаджана было, потым апраўдана, у пераважнай большасці пасмяротна, больш за дзвесце чалавек. Калі дадаць сюды іх родных, што пакутавалі пасвойму, хто на свабодзе, а хто сасланы ці пасаджаны, — колькі пакутнікаў праз адну!..

Што ж, бабу нельга было далей трымаць на паверхні, на адказнай вышыні, тым больш паднімаць яшчэ вышэй, і яе паслалі... на цёплую персанальную пенсію. Яна цяпер шпацыруе ў сваім светленькім габардзіне па скверы, з унучкай за ручку, і нават аднойчы пакрыўджана здзівілася, што я, «знаёмы пісьменнік», не павітаўся з ёю...

Пачатак шэсцьдзесят дзевятага.

А мы ўжо не толькі пісаць, друкаваць, але і гаварыць пра такое не хочам,— зноў баімся, асцерагаемся, намагаючыся прыкрыць свае язвы, адштурхнуць еамакрытыку патрыятычным ды юбілейным шумам...

* * *

Калі пасадзілі бацьку, яна хадзіла да тых, якія саджаюць, і даводзіла горача, як магла, што ён не вінаваты, што тата яе...

Дай нам Бог такіх дачок!

Знаёмыя работнікі органаў употай ды паасобку папярэджвалі дзяўчыну, што не паможа бацьку, а сядзе і сама.

«Яна не паслухала і неўзабаве села», — расказвае, нават неяк смяецца адзін з сучаснікаў. І ў гэтым смеху бачыцца не проста... дакор, але ж і нейкая страшная «філасофія» таго часу. Яна ^гібыта сям-там засталася, гэтая філасофія, хоць многія з ёю — з маладушным угодніцтвам, са сляпою верай — пападаліся пад колы і самі...

Дзяўчына тая адпакутавала многа гадоў. І цяпер, у палавіне шасцідзесятых, ужо зусім немаладая, наша пісьменніца Ядвіга Бяганская — можа з чыстай душой глядзець не толькі ў бацькавы вочы (калі захавалася якое-небудзь фота), але і на ўвесь свет.

Ды як жа горка, як страшна даюцца такія перамогі!..

* * *

Прыйстойна сівенькі журналіст, даўно знаёмы і заслужаны таварыш, падзяліўся са мною ўспамінам:

— У трыццаць сёмым і мяне, брат, прымусілі давесці сваю адданасць ды пільнасць. Рэдактар выклікаў: «Столькі часу працуеш, а ніводнага ворага не выкрыў, — як гэта разумець?» Так было яно. І напісаў я на аднаго. Гэты... так сказаць вораг, канчаў тады самагубствам, але толькі аслеп. І яшчэ ўсё ходзіць па Мінску, кійком сваім торкае. Бог веку прадоўжыў. На гора і мае.

* * *

У акупацыю. Расстрэл раздзетых. Першы і апошні раз сям'я ўся разам голая. Безабароннасць гранічная. Вопратка, любая — даражэйшая за цябе. Вышэйшая нечалавечая, фашысцкая пагарда...

Зямляк мой, гулагаўскі пакутнік Коля С. (герой апавядання «Уступленне ў рэквіем»), дагараючы ад раку, ледзь не шаптаў задыхана, калі я сядзеў пры ім, у сонечнай новай хаце.

У трыццаць сёмым нашы пакідалі ў бялізне. Яму, у лагеры, расказваў пра гэта немец-камуніст, асуджаны на вышку і ўжо ў сутарэнне прыведзены., Штабель трупаў у бялізне і выканаўца высокай справядлівасці з малакаліберкай. Вось-вось было б ужо і гэтаму, чарговаму, па ўсім, аднак прыбег пасыльны — у канцылярыі ўспомнілі, што немец той — германскі грамадзянін.

Чалавек пасля гэтага сутарэння так і не пазбавіўся ад уражання, што ўсё навокал у крыві...

* * *

У 1938-м трыццацішасцігадовы Панамарэнка стаў першым сакратаром ЦК беларускай кампартыі. Кузьма Чорны сядзеў тады ў турме і не ведаў пра такую змену кіраўніцтва. На чарговым допыце, побач са следчым, на гэты раз ветлівым, моўчкі сядзеў незнаемы мужчына. Хто гэта — Чорны ўведаў, калі быў выпушчаны. Прабыўшы ў пекле дзевяць месяцаў.

Так мне расказваў Вітка. Нядаўна, у нашых васьмідзесятых.

А нешта адразу пасля вайны Кірэенка, са слоў Чорнага, з якім ён хоць і не сябраваў, як Вітка, але сустракаўся, быўшы з фронту ў Маскве, расказваў, што Панамарэнка, пасля таго даваеннага допыту, выклікаў скатаванага «нацдэма» і спытаўся:

— Николай Карлович, в состоянии ли вы простить советскую власть за ошибку с вами?

У адказ на што наш Карлавіч толькі заплакаў.

І другое,што я пачуў таксама ад Кірэенкі.

Калі ў вайну, адзначаючы 25-годдзе БССР, ордэны і медалі вылзелілі і пісьменнікам, хто ацалеў, цывільнаму, хвораму і нястомнаму Чорнаму далі...! Чырвоную Зорку, адзнаку, як вядома, баявую. І вось ён аднойчы павесіў на спінку гасцінічнага крэсла свой бывалы пінжачок з прывінчаным ордэнам, стаў перад тым пінжаком і сказаў, спытаўся:

— Здароў, Кузьма! Што, і цябе ўзнагародзілі?..

* * *

Бацькоў вывезлі адразу пасля вайны. Нехта адзін з іхняй вёскі быў у акупацыю нейкім начальнікам, дык з-за яго, для большай бяспекі ці для належнага парадку, вывезлі ўсіх з тым самым прозвішчам. Яе, сёння літоўскую наэтэсу, не вывезлі тады адразу, а пазней, калі ёй споўнілася шаснаддаць. , Шэсць сібірскіх гадоў... Інтэлігентна мілая, расказвае мне на таварыскай бяседзе, у першы вечар знаёмства:

— Зойдзе ў рэдакдыю кур'ер-паштальён, які-небудзь канверт з сургучом прынясе, дык я — ніхто не ведае — перадрыжу ад страху, што ў тым канверце абавязкова штосьці пра. мяне...

А быў канец шэсцьдзесят дзевятага.

* * *

Дачушка рэпрэсіраванага бацькі сябравала з дзяўчынкай з праведнай сям'і. І тыя сямейнікі, калі іх малая не хацела прымаць лекаў, для добрага прыкладу давалі іх спачатку няшчаснай сяброўчыцы.

Яна, цяпер пажылая настаўніца, запомніла гэта на ўсё жыццё. А ў маленетве, вядома, не разумела, што да чаго.

* * *

Мужык загінуў на фронде. Жонка гадуе двое дзяцей. Дзяўчынка ходзіць у восьмы клас, хлопец у пяты. Дзеці спраўныя, асабліва дзяўчынка, у школе з до льна я ды акуратная, а дома працавітая, як мама.

Ды вось на іхнім загуменні склалі стог калгаснай саломы. Калгас — на другім годзе, людзі ніяк не прывыкнуць. Удава, нічога ліхога не думаючы, узяла той саломы — напхаць дзецям сеннікі. Судзілі, далі сем гадоў.

Дзяўчынка школы не пакінула, хоць і хата, і брат — на ёй.

— Шкада, — расказвае пра гэта былы вясковы настаўнік, цяпер, пры сыне, гарадскі пенсіянер.— Шкада малых, а памагчы баімся.

Каго шкадуеш, каго падтрымліваеш?! Знойдзецца, каму падаткнуць. Нават і ў калектыве, сярод настаўнікаў. Аднак жа і прыдумалі, і памагалі. Дзеці не вінаваты. А сама яна У Сем год за рэзгіны саломы!..

І помніцца. І расказаў — нібы дзеля палёгкі.

* * *

У вайну ці адразу пасля вайны, у Германіі, наш капітан-шыфравальшчык у свабодны час трохі выпіваў і тады напяваў сабе ціхенька:

«Да здравствует товарищ Сталин, наш великий вождь, да здравствует товарищ Сталин, наш...»

— Што ж ты так?— спытаўся ў яго другі афіцэр, журналіст. (Дарэчы, ён мне пра гэта і расказваў.)

— Ды так, брат, каб толькі не памыліцца, не заспяваць чаго-небудзь іншага...

* * *

На палубе волжскага цеплахода, у шэсцьдзесят сёмым, чытаю напісаныя пасля з'езда партыі развažанні пра помнік правадыру на канале Волга-Дон.

Каб гэта ж, думаецца, усю тую нудную безліч істуканаў ды істуканчыкаў — ад бацькі сельсавецкага да бацькі волжска-данскога, дзе дыяметр генералісімусавай шапкі каля чатырох метраў, — каб усю процьму іх, што накрывала нашу краіну, узяць ды поўнасцю раздзець! Паказаць яго паантычнаму: толькі з вусамі ды ў шапцы?

Хоць бабы напляваліся б усмак, употай!..

* * *

Наслухаўшыся на сходзе брудных, узаемна паклёпніцкіх заяў і выступленняў, надыхаўшыся агідай, дома палез у слоўнік Ушакова, а потым у Вялікую Энцыклапедыю, шукаючы тлумачэння слова «донос».

Аказваецца — спецыфічнае, састарэлае слова. Даносы рабіліся толькі калісьці, на рэвалюцыянераў, а ў гады акупацыі — на камуністаў і камсамольцаў.

Тако рече Ушаков.

Вялікая Савецкая Энцыклапедыя дае не проста «донос», а пасылае з 12-га тома ў 15-ты, дзе стаіць «ложный донос».

Проста даносаў і проста даносчыкаў — ужо няма. Ура!..

* * *

Старога талстоўца, няхай сабе ў нечым абмежаванага, але ж сумленнага, добрага чалавека, вясковага кнігалюба з бедных і цёмных

«панскіх часоў», пасля вызвалення Заходняй хацелі завербаваць у стукачы. Ен ім тлумачыў, чаму не можа быць такім, спасылаўся і на вялікае любімае імя. Яму пайшлі насустрач:

— Ну и что же? Своей фамилией ты не подписывай, — пиши: Толстой...

* * *

«Вось вам, Іван Антонавіч, партрэт гэтага, так сказаць, партыйнага кіраўніка.

У біяграфіі Максіма Максімавіча Літвінава сказана, што ў пратаколе царскай паліцыі стаяла пра яго: «Выражение глаз умное». Пра гэтага ж таварыша можна сказаць, што выражэніе проста глупае. Снеданне яго, напрыклад, складаецца з кілаграма злёгку падсмажанага сала і паўлітра рэктыфікату. У нашым горадзе — яму падначалены, як і ўсё іншае, спіртзавод. Было раз пры мне такое. Два інтэлігентныя мужчыны, афіцэрымедыкі, словам, людзі салідныя, прыехалі да яго папрасіць сёе-тое для бальніцы. «Хоць бы яшчэ ад ну змену пасцельнай бялізны». Было гэта нешта адразу пасля вайны, у сорак пятым ці ў сорак шостым. Кажуць яму: «У вас вунь, таварыш сакратар, гардзіны тым часам якія шыкарныя!..» Намёку ён не зразумеў, а ўсцешыўся, як ад пахвалы. «Да-а, за такую гардзіну мне ахвотна дала б любая жанчына СССР!» У такім прыблізна духу гаворыць ён звычайна са сваімі, як ён лічыць, падначаленымі, у сваім вялізным. кабінеце, пад партрэтамі правадыроў. Ен пошлыя анекдоты расказвае, а падхалімы смяюцца... Гляджу я на партрэт Уладзіміра Ільіча, і здаецца, што ён вось-вось не стрывае і скажа:

«Взогвать весь этот дом вместе со всеми этими дугаками!..»

Ну добра, адразу пасля рэвалюцыі мы мелі, прызнавалі партызанскую чапаеўшчыну, адразу пасля Айчыннай вайны таксама. Навошта ж яна цяпер?..»

Запісаў я гэта ўлетку пяцьдзееят восьмага года, ад шаноўнага Рафаіла Сяржанта. Харошы чалавек, камуніст з заходнебеларускага падполля, ён быў асуджаны пілсудчынай на смерць, што яму — за паўтары гадзіны да выканання прысуду — замянілі на пятнаццаць год турмы. Да Верасня адсядзеў чатырнадцаць, з іх дзесяць — у адзіночцы.

* * *

У Кохханаве на Віцебшчыне памятаюць Лёньку-каморніка, які і чарку мог узяць, і за бабамі вельмі ж улягаў. Адна дзеўка ці маладзіда

нават «ленту» яму каморніцкую насекла з рзўнасці. А потым, калі ён стаў Генсекам, употай пабойвалася, каб не ўспомніў...

Мінскія кіношнікі хадзелі зняць штосьці дакументальнае пра пачатак вялікай біяграфіі чарговага правадыра — пры ягоным жыцці, разумеецца, — аднак тыя колішнія дзеўкі не захацелі нічога расказваць — страшна!..

* * *

Група пісьменнікаў у перадавым калгасе на Браншчыне. Пасля агляду гаспадаркі — гутарка ў праўленні. Паэт Дзмітрый Кавалёў, часцей за ўсё неспакойны, сказаў-спытаўся:

— Поспехі вашы і сапраўды значкыя, і на палях, і на фермах, і людзі жывуць нядрэнна. Ну, а духоўнае жыццё — што для душы?

Праслаўленага старшыню калгаса выручыў сам сакратар райкома «парень-рубаха», «в доску свой, народный»:

— Калі чалавек добра наесца, тады з яго і выходзіць душа. Га-га-га!..

* * *

Анекдатычны N., выходзячы на пенсію ледзь не пад дзевяноста гадоў, сказаў — калі ўдумацца — дык і. са значным падтэкстам:

— Няхай ужо маладыя. Я сваё адсядзеў.

Няхай жыве здаровы сэнс!.. А ён жа, прыпознены пенсіянер, не проста сядзеў, нікому не перашкаджаючы, — ён «кіраваў». Райкомамі, партызанскімі брыгадамі, абкомамі, рэспубліканскай культурай, гісторыяй партыі — усюды з аднолькавым бляскам паўнапраўнага невуцтва. На нейкім верхнім праве на славутае «общее руководство», толькі з такою універсальнай спецыяльнасцю...

* * *

Дабрадушны, усмешліва мудры Алесь Пальчэўскі, калі я наведаў яго ў бальніцы, у палаце на двух, як толькі сусед яго выйшаў, расказаў мне, што ён, той сусед, — рэдактар адной з газет, якога я таксама ведаў, — паслухаўшы Алесеў расказ пра культаўскія пакуты, зусім сур'ёзна ды спачувальна спытаўся, ці былі ў іх, у лагеры, піжамы...

* * *

Бачыць яго даводзілася рэдка, часцей за ўсё ў прэзідыумах. А сёння выпадкова сустрэў у Гомелі, на вуліцы. Ішоў стары цяжка, з прыкметнай дыхавіцай, аднак па-дзелавому заклапочаны. Спыніліся павітацца.

— Куды ж вы так? — спыггаўея я.
— Ды вось, разумееце, клопат які. Аддаў сюды свой камсамольскі білет, у музей. А цяпер мяне Мінск папрасіў аддаць ім. Дык я прыехаў, забяру. Усё-такі лучша...
З думкай пра царства нябеснае?

* * *

Мой сусед па бальнічнай палаце сядзіць на ложку і сумна, стомлена расказвае. Як ён працаваў сабе інжынерам на заводзе, пакуль яго не вылучылі на сакратара райкома партыі, а потым у гарадскі Савет, намеснікам старшыні па кватэрных справах.
«Навядзі там партыйны парадак».
А потым той самы таварыш, што пасылаў на гэта, звоніць:
«Слухай, Чырык, патрэбны тры трохпакаёвыя кватэры, Тром новым футбалістам. Пажадана як хутчэй».
Значыцца, без чаргі. Зноў кагосьці адсунеш, на год ці на два. Вось і парадкі. А хіба ж толькі гэта?..
Больш не паглыбляючыся лішне ў абагульненні ды вывады, ён памаўчаў і выдыхнуў:
— Сволачы! Хоць бы ўжо гол забілі — хоць адзін на год!..
Нібы яму ад гэтага палягчэла б.

* * *

Хобі бывае і такое.
Выкладчык філасофіі, лысы мужчынка, яўрэй, памятае нумары машынаў усіх начальнікаў, якіх — у сваю чаргу — добра ведае яго жонка, тоўстая бяздзетная беларуска, адказная работніца на персанальнай пенсіі.

* * *

Адзін, праходзячы каля гмаху ЦК партыі з двума тамамі Леніна пад пахай, трымаў іх залатым цісненнем да вокнаў — хай таварышы бачаць, што ён чытае, хай думаюць, пра што ён піша... Бачыў я гэта аднойчы. Дадам, бо ведаю: і дзяржаўную прэмію ён дамагаецца атрымаць за свае кніжкі для дзядей — няхай бяздарныя, але ж на якую тэму!..
Другі, зияты з пасады галоўнага рэдактара газеты за тое, што яго дысертацыі, кандыдацкая і доктарская, як аказалася, напісаны не ім сам.ім, а рэдакцыйнымі «неграмі», якія, нарэшце, не вытрымалі і прасігналілі. Знялі яго не надта каб і нізка — паставілі выкладаць гісторыю ў інстытуце. Ніжэй было нельга, бо тыя яго дысертацыі,

асабліва другая, падпіраліся перад ВАКам хадайніцтвам «некаторых работнікаў» Цэнтральнага Камітэта.

Гэтага я ўбачыў раніцай перад домам ЦК, дзе на зялёным скверыку залацілася лісце і карычнева пабліскваді маленькія боханчыкі каштанаў. Ен іх руплівa, няспешна шукаў, паднімаў.

— На дачы добра пасадзіць, — сказаў мне, калі павіталіся.

І праз аскому непавагі да яго, даўно знаёмага, падумалася:

«Во, і гэта ж не так сабе, а каб пацвердзіць вернасць...»

* * *

У школе, на бацькоўскім сходзе. Сын двоечнік, другагоднік. А бацька, нярослы адстаўны палкоўнічак, увесь у ордэнскіх ды медальных планках. Наслухаўшыся непрыемнага, супакойвае і настаўнікаў і бацькоў:

— Таварышы, не будзем лішне хваляваццa! З такіх, як, мой Толя, вырастаюць буйныя дзяржаўныя дзеячы.

Амаль усе смяюцца. З неабстрактным падтэкстам, кожны сабе ўспамінаючы сяго-таго са знаёмых і незнаемых.

* * *

Каля найпершага сакратара ўвесь час, на прыпынках у нашым пакалгасным вандраванні, прыкметна круціцца целаахоўнік. Высокі, плячысты, з заслужанай пралысінай на рыжай макаўцы. з выразам твару ці зусім ужо ірастадушным, ці нават і дзікаватым. Ад сілы гэта, ад адчування абавязку? Перад кім?..

У абласным тэатры, дзе пасажыраў нашых «семінарскіх» аўтобусаў сабралі для ўрачыстага падвядзення вынікаў пазнавальнага падарожжа, ён, той — таксама поблізу, сядзіць за спіной суб'екта ахоўвання.

Успомнілася ў Та лето га, ці не ў трактаце «Царство Божие внутри вас», як ён — у такой сур'ёзнай працы — піша, што кожны раз, гаворачы з вартавым салдатам: перад казармай ці перад турмой, яму, старому ды вялікаму, хочацца пакратаць шчопцямі за востры кончык доўгага штыха.

Мне, грэшнаму, там, у тэатры, захацелася яшчэ большага — перайсці цераз праход і свабоднаю жменяй памацаць ахоўніка вельмі важнага цела за руку вышэй локця — што ж там за такія ўсенародныя мускулы?..

* * *

Рыгор Бярозкін расказваў, як у лагеры, хутка пасля смерці Сталіна, ён даў суседу па нарах, свяшчэнніку, газету, у якой — на

трыбуне Маўзалея — новы склад Палітбюро ці там Прэзідыума, словам, асірацелыя Молатаў, Берыя, Маленкоў і далейшыя па чарзе. Баця доўга ўглядаўся, задумліва, а пасля заключыў, уздыхнуўшы:

— Нет благообразия в ликах!..

* * *

Не выходзіць з памяці, як у верасні пяцьдзесят чацвёртага года, на толькі што вельмі раскошна адкрытай Выстаўцы дасягненняў народнай гаспадаркі ў Маскве, адна вясковая жанчына ў групе экскурсантаў ад павільёна да павільёна насіла поўную авоську чорнага хлеба, які ёй пашанцавала з самага ранку купіць. Хоць і пазней магла б купіць яго, але ж для пэўнасці...

Мы з сябрам былі там ад газеты, мы пісалі пра іншае.

У тым жа верасні і другое:

Старшыня калгаса абедае ў сталічным рэстаране. Паклікаў афіцыянта, расплачвацца.

— ,Што я табе, таварышок, скажу. У нас, калгаснікаў, зарплата ў канцы года. Я тады ўсім вам і налічу — і за яду, і за гарэліцу, і музыкам. Колькі выйдзе — столькі і дам.

Афіцыянт і наведвальнікі, хто бліжэй, смяюдца: для іх гэта — як быццам толькі жарт.

* * *

Пісьменнік, што любіць падтрымліваць сувязь з вёскай, з працоўным народам, таргуе на Камароўскім рынку тварожны сыр.

Цётка, маладжава бойкая:

— Бяры, браток. Вось хутка наша пакаленне вымра, у вёсках не застанецца нікога — скулу тады купіш. Бяры. Сырок настаяшчы.

Было гэта ў шэсцьдзесят сёмым годзе.

* * *

А сёння:

— Якая там, брадзе Іване, веска цяпер! Восемдзесят два двары, а на работу выходзяць дваццаць два чалавекі! Дый то адны бабы. Бо куды ж мяне тут або Арсеня лічыць? Толькі дрэбы... Раней я кумам часта быў. Падлічыў неяк — аж дванаццаць разоў. А цяпер? Цяпер мяне толькі ямы капаць клічуць. Людзі ж усё паміраюць, вядома, старыя. Рукі ўжо мне паўрывала
лапатай. А як не пойдзеш, не паслухаеш?..

* * *

У польскай газеце:

Падпалкоўнік міліцыі быў балюча ўражаны тым, што застаў на месцы авіякатастрофы. Страшна было глядзець, як палаў самалёт, як дагаралі людзі, аднак яшчэ страшней, здаецца, было тое, як паводзілі сябе некаторыя навакольныя хутаранцы і дачнікі.

«Не магу і дагэтуль зразумець гэтага. Я ўбачыў матак з малыш дзецьмі, на руках або за ручку, як яны аглядалі жахлівыя астанкі, паадрываныя ногі, рукі, безгаловыя тулавы... Усе хадзілі навокал паразрываных целаў з павырыванымі мускулам!, растрыбушанымі жыватамі. Хадзілі, намагаліся перабіраць рэчы ахвяраў, падымалі нрадметы, шукалі...»

Шафёр «хуткай дапамогі»:

«Мы толькі што знайшлі раменьчык. ад гадзінніка, а гадзінніка ўжо няма. Мы бачылі рэшткі жаночай рукі з паздыманьымі пярсцёнкамі. Засталіся толькі сярэбраныя, расціснутыя так, што іх не ўдалося зняць. Мы бачылі таксама сумачку ад касметыкі, раскрытую, пустую...»

Чытаючы гэта, успомніў з дваццацігадовай даўнасці твар, вочы маладога мастака, нарачоная якога ўтапілася незнарок.

«Як гэта страшна, — гаварыў ён мне. А пасля горкай паузы дадаў: — А яшчэ што вельмі страшна, Іван Антонавіч, дык гэта сваякі яе. Прыехалі. Далёкія, бо ў яе ні бацькоў, ні братоў і сясцёр. Як яны разрывалі яе пакойчык — каму падушка, каму талерка, каму... Як гэта дзіка і страшна!..»

* * *

«Каля Шаўляй, у мястэчку, наша батарэя спынілася ў пустым касцёле. Спалі мы там на нейкіх рэлігійных плакатах...»

Нярослы рабочы з бабскім голасам расказвае за санаторным абедзенным сталом, як ён тады, прызваны ў армію пасля вайны, загадваў складам ці складзікам, браў прадукты і насіў у літоўскую сям'ю, дзе ў яго была дзяўчына. Проста расчульваецца сваёю дабратой. Бо і хлопчыкаў стрыг, яе меншых братоў.

І не падумае нават, што краў.

Успомніў я гэта, сустрэўшыся з ім зноў жа ў санаторыі, у іншым і аж праз дваццаць з гакам гадоў.

Гэты маляр з завода быў ужо тым часам на пенсіі з-за траўмы галавы (зваліўся са страмянкі), інвалід другое групы. Зноў па-бабску, ня-ня-ня, расказаў мне, што пенсія 230 рублёў і льготы яшчэ. І часу вольнага колькі. Сястра жыве на Украіне, дык ездзіў да яе ўжо

чатыры леты ўзапар, тыднямі там жыў. Добра жыве сястра, участак паўгектара. А яшчэ ж і поле навокал. Калгаснае.

— На велісяпедзе сабе далей паеду, у кукурузу далека зайду, каня свайго схаваю, а сам у сланечнік. Пасцілачку няйлонавую пасцялю, нацерушу таго сланечніку. Тры з палавінай вядры лезе ў рукзак. Раз, другі раз. Цэлую выварку алею націсну...

— Вы ж крадзеце, — гавару, не стрываўшы ад гэтага вякання.

— Ну?— пытаецца ён з дурнавата-мудрай усмешкай.— А таварыш Ленін сказаў жа, што трэба дзяліцца!..

Красці ў казны — не грэх. Калісьці — народная мудрасць. І класікі агаворвалі гэта. Недзе чытаў у Талстога, толькі як канстатацыю.

* * *

У мінскім Доме літаратара сустрэча нашых і амерыканскіх пісьменнікаў. На стале як звычайна кветкі, яблыкі ў вазах. Гутарка ідзе сур'ёзная, на тэмы найвышэйшыя — пра неабходнасць абароны міру. Перад гэтым госці былі ў Хатыні, тут ім толькі што паказалі фільм «Ідзі і глядзі»...

Каля сцен тым часам сціпла, пранамсі, моўчкі сядзяць маскоўскія дзеўкі ці маладзіцы, перакладчыцы. Запасныя, бо перакладае ўвесь час адзін, мужчына.

Гутарка закончана за сталом, працягваецца ў кулуарах.

А запасныя, устаўшы з-пад сцен, ужо нясуць у цэлафанавых торбах яблыкі са стала. Торбы ў іх, як заўсёды, з сабою. Справа прывычная, празаічная і... брыдкая. Абозніцы.

Згадалася такое і з Ерэвана, таксама з сустрэчы міжнароднай і высокай. Калі такія прылітаратурныя феі прагна, нібы ў запас, пілі дармовы каньяк, а цукеркі ды садавіну хавалі ў вялізныя сумкі. А ні дбаючы, як гэта выглядае збоку...

Прыклады і яшчэ знайшліся б.

* * *

Нешта ў канцы пяцідзесятых гадоў ездзіў я, па запрашэнні, у групе членаў рэспубліканскага піянерскага савета, у Сапоцькінскі, пагранічны з Польшчай, раён. Адтуль прасігналілі, што ў адной каталіцкай вёсцы бацькі не пускаюць дзяцей у піянеры. ‚Шэсць піянерчыкаў на ўсю школу, і гальштукаў дахаты не бяруць, «бо мама спаліць у печы...».

Сабралі нам бацькоўскі сход: сем ці восем цётак. Мы выступалі перад імі. Я нават і папольску. Не бярэ. Сядзяць насупленыя, маўчаць. Нарэшце адна ўстала і тонам апошняй, адчайнай просьбы азвалася:

«Адпусціце мяне! Мне трэба да дому!»

Што ж, калі ласка.

А за ёю — і ўсе...

Настаўнікі павялі нас «абедаць».

Дырэктар —непаголены, у шырачэзных сініх, паплямленых галіфэ — жыве пры школе. На школьным калідоры сакочуць куры, пішчаць парасяты, наследжана імі. Мутная самагонка, нябрытае сала, дыхціць квашаная капуста, скрылямі з галовак. Настаўніцы, і пажылыя, і маладзейшыя, куляюць шклянкі і, нюхаючы хлеб, пакрэхтваюць, як лесарубы, на капусту:

«Эх, слаўная закусь!..»

* * *

Сонечны ранак. Адны дзеці ідуць у школу, другія ў садок, у яслі. З мамамі, бацькамі ці бабулямі. Людзі на працу ідуць. А тут — будаўніцтва дома. Высока пад ясным небам тырчыць разумны кран, з якога чуецца, як божы гром, выразна падкрэслены мат, узняты ў нас на вышыню.

* * *

У раённым гасцінічным рэстаране.

Дзве дзяўчыны, відаць, са служачых, з сумным лесам «ад трыццаці да сарака». Удзвюх за сталом, які разлічаны на чацвярых, з графінчыкам гарэлкі. Ці для сябе толькі, ці з разлікам, што кавалеры якія падсядуць. Гарэлкі — усё роўна горкай, як здушаныя ў горле слёзы.

І дзікі, бяздарны крык маладога мясцовага спевака праз мікрафон — траскучы, хрыпучы да болю душы...

І гэта сучаснасць.

* * *

Шырма таксама сядзеў. У вайну, на Лубянцы. Расказваў мне, як страшэнна хацелася есці, да галюцынацыяў. І снілася яда бясконца.

— Здаецца, возім з бацькам снапы. Наклалі воз, уціснулі рублём. А потым гляджу, дык гэто не снапы, а жыдоўскія халы!..

На «жыдоўскім» шаноўны Рыгор Раманавіч і папаўся. У Заходняй «яўрэй» па-беларуску не гаварылася, у слове «жыд» спрадвеку не было нічога абразлівага ды варожага. І Шырма перад вайной, у Беластоку, так і гаварыў. Хтосьці данёс, ужо ў эвакуацыі, высакароднага, прагрэсіўнага чалавека адарвалі ад яго дзецішча, ансамбля, пачалі вырабляць і яшчэ аднаго «ворага народа»... Пакуль не ўмяшаўся Панамарэнка.

У сямідзесятых гадах мы асабліва часта пераразвоньваліся, гаварылі звычайна доўга. Старэнькі ўжо наш змагар за песню — душу народа і сам не баяўся, і не лічыўся з тым, што яму-то ўжо можна і менш баяцца, як мне, не ў тым узросце, не з тым аўтарытэтам. Сам «залішняга» не гаворачы, больш слухаючы ды з асцярогай падтрымліваючы гаворку, я ўвесь час памятаў пра таварыша «трэцяга»... А любы дзед вядзе сваё:

— Хадзіў у Цэка. Патоўкся па калідорах, па кабінетах. Няма з кім гаварыць, дурань на дурні едзе. Порторгі ёсць, профоргі ёсць, комсоргі ёсць, а хораў у школах няма і няма! І ніхто не хоча слухаць... Што гэто будзе?..

* * *

На з'ездзе ўкраінскіх пісьменнікаў.

І ў дакладзе і ў выступленнях усё так гладка ды сонечна. А два таленавітыя, якім бы толькі радаваць чытача, — Грыгір Цюцюннік і Віктар Блызнец, — «за справаздачны перыяд»... павесіліся.

І пра такое — ані слова...

Запісаў я гэта ў сакавіку восемдзесят першага года. Цяпер гаворыцца: у час застою.

У кастрычніку восемдзесят сёмага, выступаючы на ўсесаюзнай творчай канферэнцыі ў Ленінградзе, Алесь Ганчар сказаў (перакладаю з «Літературно'і'Украши»):,

«Хіба ж можна было атмасферу такой адчувальнай духоўнай прыгнечанасці лічыць спрыяльнай для развіцця літаратуры і культуры ва ўсіх яе адгалінаваннях? І ці не таму ў тыя застойныя гады трагічна ішлі з жыцця маладыя найдаравіцейшыя людзі з асяроддзя нашай творчай інтэлігенцыі?..»

«Литературная газета», перадрукоўваючы гэтае выступленне, без другога сказа ў маёй цытаце... абышлася.

А ўжо ж, калі сапраўды «галоснасць», дык Ганчар мог бы хоць дома, у Кіеве, назваць імёны тых, што самахоць пагінулі.

* * *

Вясной семдзесят трэцяга года, у Гамбурзе, на сустрэчы з актывістамі толькі што створанага таварыства; ФРГ — СССР, камуністамі і змагарамі за мір, адзін пацыфіст — ён так назваў сябе — нестары, інтэлігентнага выгляду мужчына звярнуўся да нас, членаў Савецкага камітэта абароны міру, з такім пытаннем:

Чаму на адным з паседжанняў Арганізацыі Аб'яднаных Нацыяў савецкая дэлегацыя выступіла супраць таго, каб маладых людзей, якія

з міралюбівых, чалавечных меркаванняў адмаўляюцца ваяваць, — як тыя, скажам, амерыканскія юнакі, што не хацелі ісці на В'етнам, — каб тых людзей судзіў толькі міжнародны суд?..

Кіраўнік нашай дэлегацыі, салідны латыш, на гэтае пытанне проста не адказаў. Зрэшты, як і на некаторыя іншыя пытанні, на што немцамі была звернута ўвага: «Якая ж гэта дыскусія, калі вы не адказваеце на нашы пытанні?..» Здаецца, што нават той пацыфіст і сказаў гэта.

Наколькі я разумею нямецкую мову, і перакладчыца з ходу рэдагавала пытанні, перадаючы іх кіраўніку...

* * *

Некаторыя патрыёты славянска-літоўскі Грунвальд 1410 года ўзвышаюць ды падкрэсліваюць любымі сродкамі, да пацешных уключна. Скажам хоць бы пра лагер адпачынку для беларускай малечы з такою іменна грозна-ваяўнічай назвай.

А сусветны Грунвальд 1939-1945 гадоў яны гатовы нават рэвізаваць, то ў наіўнай крыклівасці, то ў глыбакадумным сумняванні: а ці патрэбен быў ён для Беларусі?..

Дадамо: як для іншых краін, на ўсіх кантынентах...

* * *

Пачатак сорак другога года. Заходнебеларускае мястэчка.

Адзін браток у паліцыі, другі дэзерціраваў з фронту. Бацька ягонага саслужыўца, пажылы вясковы чалавек, прыйшоў спытацца:

— Можа, вы нашага Івана бачылі? Разам жа вы ішлі, служылі...

— Бачыў, дзядзька. Яго бальшавікі павесілі. Сам бачыў...

Гора якое ў хату!.. Маці так і памерла, меней чым праз год, з сынавай фатаграфіяй у руках. Меншага хлопца неўзабаве ўзялі ў паліцыю. Сілаю — бачылі людзі. А можа, і не надта ён і ўпіраўся — з-за таго павешання... Бацька працягнуў не доўга. А сыну таму прыйшлося потым уцякаць разам з акупантамі, недзе прапасці наглуха.

— Так, браце, і разбурылася нашая сям'я,— раеказваў мне пра гэта спакойны зямляк, гадоў з пятнаццаць пасля вайны. Той «павешаны», што вярнуўся з-пад Берліна афіцэрам. Быў паранены, два ордэны заслужыў. І сам, вярнуўшыся, нямала перажыў з-за брата-паліцая...

Увосень сорак першага года нехта падказаў яўрэям у Мірскім геце, што заўтра іх будуць расстрэльваць. Мужчыны — сёй-той — пачалі ўцякаць. Аднаго злавілі, і ён выдаў падказчыка:

«Гэта Освальд, перакладчык майстра жандармерыі».

Майстар вельмі здзівіўся, што перакладчык таксама яўрэй, аднак — чаго не бывае! — пашкадаваў яго:

«Ты ўцякай, а я цябе буду шукаць».

Освальд падаўся на поўнач, дзе Налібоцкая пушча. На самотным шляхецкім хутары яго так добра прынялі, што ён не толькі застаўся там, але неўзабаве перайшоў на іх каталіцкую веру. Калі пазней ад партызанаў прыехалі да яго беларус і яўрэй, два камуністы, ён хрысціянства тое апраўдваў тым, што свае яго прадалі, а тут ён — як свой. А ў партызаны не пайшоў, ужо з меркаванняў, відаць, не рэлігійных.

Праз семнаццаць гадоў пасля вайны адзін з маіх польскіх сяброў, якраз той яўрэй, што нрыязджаў па Освальда, расказаў мне працяг сюжэта. У Варшаве з'явіўся славуты «брат Данель», прапаведнік, манах ордэна «братоў кармелітаў босых». На пропаведзі яго ў адным з найбольшых касцёлаў сталіцы плакала каля чатырох тысяч верных.

І вось майму сябру пазванілі ад гэтага «брата» з просьбай сустрэцца. Як жа ён здзівіўся, калі ў манаху тым пазнаў парабка са шляхецкага хутара. «Брат Данель» папрасіў майго сябра, чалавека партыйна аўтарытэтнага, дапамагчы яму выехаць у Ізраіль, у той манастыр, што на гары Кармель. Асцярожны сябар паабяцаў дапамагчы, але спачатку параіўся з вышэйшымі. Яны сказалі: «Хай едзе, усё на аднаго святога менш будзе».

Праўда, і сябар мой праз дзесяць год таксама падаўся туды ж, на «землю обетованную». Але гэта ўжо іншы сюжэт.

* * *

Калі мы слухалі людзей для кнігі «Я з вогненнай вёскі...», мяне двойчы балюча раздражнялі выпадковыя, дурныя кулі...

Адна такая вылецела з кустоў у калону карнікаў, што ехала па дарозе. І ў вёсцы Разліцце, якая зацiхла побач, «легла за гэта», — як нам расказвалі старыя заплаканыя жанчыны з тых, што дудам тады ацалелі, — дзвесце чалавек.

Другая — у Мсціжах. Партизан начаваў у кагосьці, а тут у вёску заехалі і спыніліся немцы. Ен выскачыў з хаты, бабахнуў у той бок, а сам схаваўся ў прыбіральні за хлявом і там застрэліўся. За першы яго стрэл было заплочана сотняй мясцовых мужчын.

Абодва выпадкі з Барысаўшчыны.

І такое не вельмі мне зразумела — як мэтазгоднасць у барацьбе.

У Застарынні каля Баранавіч партызанамі быў праведзены першамайскі мітынг. Павыступалі і паехалі. А назаўтра ўранні прыехалі іншыя — батальён карнікаў з недалёкага Гарадзішча. І вымардавалі

больш за тры з палавінай сотні людзей, у тым ліку і некалькі партызанаў, што там заначавалі.

І так яшчэ яны набіраліся — нашы мільёны ахвяр, уваходзячы ў неабдымна жахлівую лічбу — дваццаць. А ўжо ж і гаворыцца: звыш дваццаці...

* * *

Скідзельскае, жлобінскае, обальскае антыфашысцкія падполлі. Подзвігі, пакаранні, слава. Аднак у цэнтр трэба ставіць агульнасаюзнае, значыцца, рускае — Краснадон.

Чатыры салдаты ў шлюпцы на бурным акіяне, якіх ад галоднай смерці выратавалі амерыканцы. Старшы па званні — татарын, два ўкраінцы і рускі. Ахламоністы хлопец, і вушы смешна тырчаць. Аднак «Комсомольская правда» фотапартрэт яго дала асобна, з подпісам «Русский богатырь».

Уявім такое: група салдатаў ці партызанаў мужна адбіваліся ў акружэнні. Іх шмат, а член партыі толькі адзін, так сабе, малапрыкметны, заўсёды задні мужчынка. Аднак усё роўна, калі напішацца, як яны з боем выходзілі з акружэння, гэта будзе гучаць няхай прыблізна, але і бясспрэчна так: «Вперед! — воскликнул коммунист Хвостов, поднимая товарищей в последнюю атаку...»

Гэта ўжо з іншай оперы, але і тут аднак. Яшчэ мацнейшае, асабліва калі ў спалучэнні нацыянальнага з партыйным.

Дарэчы, так нам, паміж сябрамі, жартавалася і да 1953 года.

А яно ўсё жыве...

* * *

Савецка-польскія ветэраны другой сусветнай вайны, набліжаючыся да канца свайго шляху Разань —і Шчэцін, мы павінны былі звярнуцца — у імя найважнейшай справы — да ўсіх пісьменнікаў свету.

Праект звароту напісалі гаспадары, палякі, на чале з Войцехам Жукроўскім. А рэдагаваць яго з незразумела поўным правам узяўся кіраўнік нашай савецкай дэлегацыі, чыноўнічак з маскоўскага апарату Саюза пісьменнікаў, таварыш Нятой, якому за тым Жукроўскім як літаратару толькі б чамадан падносіць.

Аказёньвае тэкст, абанальвае. Палякі пярэчаць, даводзяць сваёг для справы безумоўна лепшае. А ў нашага — апошні аргумент:

— Я что — из-за тебя должен свой партбилет положить?!

Праўда, было гэта ў канцы восемдзесят трэцяга.

* * *

На юбілеі Цвіркі ў семдзесят дзевятым годзе слова ад Саюза пісьменнікаў СССР павінен быў сказаць вядомы крытык В. Аскоцкі. Ён і падрыхтаваўся належна, прыехаў з гатовым тэкстам. А тут у сталіцу братняй Літвы нечакана, праездам, з нейкаю дамай «нагрянул» Сяргей Міхалкоў. Тэкст выступлення сігануў вышэй, прачытаў яго сам масціты госць. Адпаведна дапрацаваўшы. Да слоў пачатку: «Замечательный литовский писатель Пятрас Цвирка...» было дададзена: «Замечательный литовский писатель, мой друг Пятрас Цвирка...» Далей — без адхіленняў.

Дружба тая — пытанне, а права першай ночы — барскі прывілей.

* * *

Па дарозе з Алма-Аты ў Талды-Курган мы, група ўдзельнікаў Дзён літаратуры ў Казахстане, аглядалі авечы адкормачны комплекс.

Лета семдзесят чацвёртага. Гарачыня — як вытрымаць. Дзве неабсяжныя прасторы — млосна-бясхмарнае неба і рыжа-спалавелы стэп. Церпкі пах безлічы светла-шэрых жывых кажухоў. Яшчэ і нейкія прамовы, і расказ пра дасягненні...

Ах, як не хочацца называць і не буду, бо ў гэтым ён вельмі далека не ўвесь, добры рускі пісьменнік, які і тут каторы ўжо дзень з ранку да вечара ледзь-ледзь трымаецца на нагах. Горка скажам: як ад імя свайго вялікага народа — перад народам меншым.

Стоячы ў гурце ззаду, раскіслы твар «старэйшага брата» бачыў я толькі памяццю. І тое зблізку бачыў, як адзін з гаспадароў, што сустракалі нас, кіраўнік раённага рангу, пад гальштукам і ў капелюшы, слухаючы прамову яшчэ вышэйшага, ціха, старанна, урачыста — як ад імя казахскага народа — раз-поразу зганяў з прыгорбленай спіны маскоўскага госця, які стомлена пагойдваўся, сярэднеазіяцкую назолу-муху...

* * *

У падарожжы па Хабараўскім краі мы, група літаратараў, трапілі якраз на адлоў гарбушы. У рыбгасе над вусцем Амура ў Татарскую пратоку нам паказалі выдатны японскі канвеер, дзе жывая рыба ідэальным спосабам ператвараецца ў экспартныя кансервы. А перад гэтым мы аглядалі «заездак», дзе тая рыба ловіцца, нам расказалі, што за гэты новы спосаб лову вынаходнік яго быў адзначаны Сталінскай прэміяй. А ўся справа ў інстынкце левай шчакі — ён, інстынкт гэты, і заводзіць рыбу ў паўкруг «заездка», дзе з глыбіні калаўротамі паднімаюцца сеткі, густы сярэбраны касяк гарбушы, адна ў адну,

адцэджваецца і апускаецца ў лодкубасейн, кунгас, і адтуль — жыўцом на канвеер.

Інстынкт левай шчакі... Я яго ўспомніў, нібы зусім недарэчы, у іншым прыстасаванні, гледзячы з залы ў прэзідыум.

Адзін з нашых таварышаў, літаратурны шлях якога дзесяцігоддзямі значыцца, як бясконцым пункцірам, сядзеннем у самых розных прэзідыумах. У зале яго я наогул не прыпамінаю. І сам ён настолькі ўжо прывык да такога сядзення, што інакш свайго месца і не ўяўляе.

Адзін з маіх сяброў, значна старэйшы, выседжваў у прэзідыумах таксама вельмі доўга. Цяпер ужо не сядзіць і вельмі гэта перажывае. Не назваўшы першага, я тым больш не назаву і другога, бо справа тут не ў імёнах, а ў характэрнай асаблівасці нашай атмасферы. Аднак мне трэба сказаць, што мой старэйшы сябар — з іншай рэспублікі. Я быў госцем на іхнім пісьменніцкім з'ездзе, сядзеў з сябрам у зале, мы трохі перашэптваліся, а мне і ў галаву не ішло, што ён тым часам горка змагаўся са сваім інстынктам... А потым і не вытрымаў — у перапынку пакінуў мяне аднаго, нічога не сказаўшы, пайшоў і сеў, і пасядзеў — аказваецца, для душы. Хоць і не ў першым радзе, як раней, хоць і наогул «незаконна»...

* * *

У снежні сорак сёмага года мы ўтрох, Вялюгін, Кірэенка і я, ехалі ў Таджыкістан. У міжнародным вагоне з двухмеснымі купэ. Вагон быў пуставаты, дарога далёкая, пажылы праваднік гаваркі. Любіў ён пасядзець у нас, расказаць сёе-тое са сваёй бывальшчыны.

Хоць бы такое, што вось у адным з папярэдніх рэйсаў у гэтым вагоне ехаў архіерэй. Спачатку адзін у купэ, а потым (на станцыі, назвы якое я не запомніў). зайшоў у вагон ваенны. Маёр, Герой Савецкага Саюза. Адчыніў дзверы свайго, па білеце, купэ, зірнуў і раскрычаўся: «Што — з папом? Забраць адгэтуль папа!..»

— Скандал, вы разумееце. А месцаў свабодных больш няма. І ўгаварыць яго аніяк не ўдаецца. Гэта ўжо і начальнік поезда прыйшоў. Маёр скандаліць на калідоры — і ўсё. А каб яго, вы разумееце, супакоіць або ссадзіць, патрэбен не толькі старшы па званні, але таксама Герой...

Начальнік поезда на бліжэйшай станцыі пазваніў «па пуці следавання» ў Сызрань (гэта я добра запомніў), там у вагон зайшоў генерал-маёр, Герой. Далей расказ — на сумленні праваднікa. Генерал-маёр зняў з маёра Зорку Героя, зняў пагоны і аформіў пратакол. Тады папрасіў архіерэя падпісаць тую паперу. Рэшту перадаю даслоўна, як дагэтуль помніцца:

— Архіерэй дастаў сваю ручку з залатым пяром, распісаўся акуратна, ручку склаў і сказаў: «Дураков учить надо».

Тысячагоддзе хрышчэння Русі. Па тэлевізары столькі сівых і цёмных барадаў, белых і чорных клабукоў, столькі сустрэч на высокім і вышэйшым узроўні, сугучна з датай і часам, столькі дастойных паводзін, мудрых прамоў...

І ўспамінаецца тое пяро, тыя тры словы.

* * *

Часопіс «Literatura na świecie» ў лютаўскім нумары за 1991 год надрукаваў такі расійскі дакумент:

«Кштарыс экзекуцыі Івана Каляева ў,Шлісельбургскай крэпасці, складзены катам Філіпавым:

«Пераезд (у абодва бакі) — 6 рублёў, *вяроўка і дадаткі* — 2 рублі, пабудова шыбеніцы — 10 рублёў, медык для сцверджання смерці — 4 рублі, *ганарар папу* — 2 рублі, выкапанне і засыпанне магілы — 5 рублёў, нагляд за рабочымі — 8 рублёў, памочнікі (два) — 14 рублёў, кат — 25 рублёў. Усяго — 76 рублёў».

Пакуль царква была дзяржаўна пакрыўджаная, перш за ўсё думалася пра гэтую несправядлівасць. Цяпер, калі яна так прыкметна набірае ўладную сілу, — трэба для раўнавагі нешта прыгадваць, адно з адным параўноўваць.

Хоць бы тое, напрыклад, што я дазволіў сабе ў тым дакуменце падкрэсліць...

* * *

«Каб я быў рускім, дык і не лез бы нікуды з Расіі, з вялікай рускай літаратуры: хапіла б мне і свайго».

Пасля надрукавання гэтага ў цыкле волжскіх запісаў у «Новом мире» Броўка перадаў мне пісьмо чытача, адрасаванае яму, хоць ужо і не старшыні Саюза пісьменнікаў. Нейкі масквіч, пенсіянер, абурыўся гэтым «не лез бы», крыў мяне велікарускім інтэрнацыяналізмам, рэвалюцыйнай місіяй, а ў заключэнне патрабаваў абмеркаваць публікацыю, асудзіць аўтара і — галоўнае — «о результатах обсуждения сообщить по адресу», які акуратна паведамляўся.

Праўда, потым, для кнігі я тое «лез» замяніў на «ішоў».

* * *

Пачатак восемдзесят чацвёртага года, андропаўская абарона рускай мовы.

Абурана гаворыцца пра тое, што ў Ерэванскім універсітэце таму, хто пойдзе не на сваё, а на рускае аддзяленне філалогіі, прапануецца на пятнаццаць рублёў большая стыпендыя.

— Яны на гэта не бяруцца. і Чаму ж, кажуць, не трыццаць срэбранікаў, а толькі палавіна?

Гаворка пра гэта ідзе ў беларускай сям'і. Бацькі разумеюць госця-расказчыка, а іхні сын, эканаміст з вышэйшай адукацыяй, разважае інакш:

— Армяне — яны жывуць лепш за нас, ім можна і адмаўляцца.

На каго крыўдаваць?

* * *

У Варшаву я ехаў у двухмесным купэ з маладым энергічным армянінам.

— Як — вы адмаўляецеся ад армянскага каньяку?! — ледзь не абурыўся ён, калі я падзякаваў за такую зранку прапанову. Але і пахваліўся, што ў Ерэване толькі адзін выцвярэзнік, у які за год трапіў толькі адзін чалавек, вядома ж, не армянін. Як гэта часта бывае ў гутарцы з армянамі, даволі хутка дайшло да турэцкай разні ў 1915 годзе, да нянавісці — іхняй да туркаў.

— У нас гэта — на мільярд гадоў!..

І слухаць не хоча, што мардаванне нашых дзяцей гітлераўцамі — тое самае па жахлівасці.

— Як, дарагі мой, не тое самае? Узяць наша, беларускае, рускае, яўрэйскае дзіця за ножкі і галоўкаю аб сцяну — гэта не тое самае, што з армянскім?..

Адукаваныя чорныя вочы гараць.

— Гэта зусім не тое! У вас была вайна, а ў нас — вы разумееце — у нас ге-на-цыд!..

Стомлены яго патрыятызмам, я памаўчаў даўжэй. А потым, спакайнейшы, нават нібы з гумарам сказаў, што вось калісьці прыйдзе час, людзі паразумнеюць, усе народы памірацца паміж сабой, ну, а тады ўжо звернуцца да армян, каб і яны памірыліся з туркамі.

— Як па-вашаму?

— Можа, тады падумаем.

Як быццам і ўсміхнуўся. Ці не ад ветлівасці толькі схіліўшыся на кампраміс.

І захацелася хутчэй да месца прызначэння.

* * *

Нешта ў пачатку пяцьдзесят восьмага года, на пісьменніцкім пленуме, Кандрат Крапіва гаварыў пра лёс нашых сатырыкаў. Ен яму нагадвае тых лекараў, якіх даўней, у змрочным сярэдневякоўі, калі пачыналася якая эпідэмія, натоўп раз'ятрана мардаваў, бо лічылася, што гэта ад іх, ад медыкаў, чума ці інйіая халера...

Гэта не трапіла ні ў друк, ні ў стэнаграму.

Не надрукавана і яго выступленне на рэспубліканскім з'ездзе настаўнікаў у жніўні шасцідзесятага. Не надрукавалі поўнасцю, абкарнаўшы да бяззубага стандарту. А на другі дзень, на вячэрнім паседжанні таго з'езда, дзве знаёмыя камсамольскія кар'ерыстачкі, седзячы ў прэзідыуме абапал мяне, шэптам, уперабіўку расказвалі мне, што было ўчора, калі я не быў, абураліся паводзінамі «гэтага дзіўнага Крапівы», якому трэба было б «усыпаць», і як быццам нехта ўжо «ўсыпаў» за тое, што ён — па думаць толькі! — заклікаў любіць і ахоўваць беларускую мову. Сказаў нават, што ў настаўнікаў, як і ў пісьменнікаў, гэта — святы абавязак!..

* * *

У Карлавых Варах ішлі зацяжныя дажджы, а потым неяк з абеду распагодзілася, і мы, тры пары гасцей пісьменніцкага дома адпачынку, пайшлі прайсціся. Наймаладзейшыя літоўцы, тады славакі і найстарэйшыя мы, беларусы.

Далейшае знаёмства на хаду. Роспыты, хто адкуль, якая сям'я, дзе хто працуе. Славак пытаўся ў мяне, і я пачаў з таго, што мы з жонкай абое з Наваградчыны. Нагадаў пра Адама Міцкевіча, пра Якуба Коласа, землякоў. Краса прыроды, чыстая мова, песенны край...

І тут літоўская жоначка, настаўніца роднай мовы і літаратуры, з паблажлівай усмешкай аб'явіла:

— А ўсё ж гэта там наша, літоўскае!..

У душы маёй закружыліся феадалізм, капіталізм, шляхецтва, прыгон, касцёлы, цэрквы, царызм, сталінізм, пілсудчына, падвойная асімі ляцыя, вынішчэнне... І я, як-ніяк, а хочучы і ветлівым застацца, уздыхнуў:

— Ах, мілая, вас толькі нам яшчэ і не хапала!..

* * *

Успомніўся бальнічны супалатнік, былы міністр, перад тым старшыня аблвыканкома, а калі раскручваць яго біяграфію да самага заходнебеларускага юнацтва — вясковы хлопец, якому здорава пашанцавала. Хочучы ўцягнуць мяне ў дыскусію па нацыянальным

пытанні, ён успомніў выступленне Коласа на чэрвеньскім пленуме 1953 года, на якім дзядзька Якуб гаварыў пра родную мову. Былы начальнік, яшчэ ўсё энергічны пенсіянер, недаўмяваў: «Почему, говорит, дорожные знаки, где в какую деревню поворот, написаны не по-белорусски? А тебе что — по-русски непонятно?!»

Згадаў я тое гарачае недаўменне, чытаючы «Далекий гул» Ржэўскай, тыя старонкі, дзе яна ў паходзе на Берлін чула ад палякаў, якую асвету дазвалялі ім гітлераўцы. Тое самае, што і нам, беларусам, як і ўсім славянам, рыхтавалася па плане «Ост». Лічыць ледзь не на пальцах, распазнаваць дарожныя знакі... Абы было «понятно»...

Іду з малымі ўнукамі па а л еі дзіцячага парку. Перад намі два незнаёмыя хлопчыкі. Адзін кажа, што ўвосень ён пойдзе ў школу, будзе там вывучаць англійскую мову. Другі таксама пойдзе ў першы клас. Ен кажа — вядома ж, з пэўнай зухаватасцю, каб выйшла яшчэ лепш:

— А я буду изучать белорусский язык. А как вырасту — поеду в Белоруссию. У них там всегда тепло, они там все черные.

Такога не прыдумаеш.

Адна пацеха, што гэта было пазалетась...

* * *

Марак Гласка скардзіўся ў друку, што ў вялікім свеце, дзе ён пабываў, хутчэй будзе перакладзейа пасрэдная руская кніга, чым добрая польская.

А што ўжо казаць пра нас, беларусаў!..

Часамі і сумна, нялёгка бывае ад гэтага, хоць і не думалася ніколі пра зручнейшую, выгаднейшую «родную» мову — другую, з большым! правамі.

* * *

Беларус Быкаў напісаў таленавітую аповесць «Сотнікаў», украінка, Шапіцька паставіла па ёй таленавіты фільм «Восхождение». І разам у іх — пра веліч рускай душы галоўнага героя...

І сапраўды па-евангельску: у каго няма, у таго аднімецца, а ў каго ёсць, таму яшчэ і дадасца. Ад беднасці яно, нашай і ўкраінскай, ці ад лішняга багацця?

І робіцца гэта на нашых вачах.

А што ж рабілася вякамі!..

* * *

Вудзь ты пісьменнікам нарвежскім, ад чатырох з нечым мільёнаў, ці нават ісландскім, ад некалькіх сот тысяч суайчыннікаў, — цябе ў правінцыялізме не папракнуць.

А так, паколькі ты не сам па сабе, не ад еваіх дзесяці мільёнаў, а з «вялікай сям'і народаў», пры таксама вялікім «старэйшым браце», — так можна.

1958—1992

## НАЧЛЕГ

У жніўні шэсцьдзесят чацвёртага года, вяртаючыся на дзвюх машышах з падарожжа па Літве і былой Уеходняй Прусіі, мы затрымаліся, не даязджаючы да Вільні, над рэчкай Дубісай, каля самотнага хутара. Вырашылі тут і заначаваць. Чатырох лягуць у машынах, а прасіць прытулку яшчэ чатыром мы з Вялюгіным найшлі на той хутар.

Тут я другі раз, пасля латышскага выпадку, сустрэў чалавека, які нічога не разумеў па-руску.

Іершы раз было два гады перад гэтым, каля Сігулды. Маляўнічай я памятаў яе з ранейшага наведання, а ў той дзень быў зранку такі туман, што мы не толькі красы не ўбачылі, але і з дарогі збіліся. Спыніліся таксама каля хутара, загаварылі са старым латышом, а ён — нічога не разумее...

Так і старая літоўка, з якою мы з Анатолем павіталіся цераз плот. Усміхаецца, разагнуўіныся над градкамі, і толькі сваё: «Ні супранту». А потым яна, нібы толькі што здагадаўшыся, гукнула ў дом: «Альдона!» Выйшла маладая, як аказалася, дачка, што нават працуе ў раёне і пристойна гаворыць па-руску.

— Аднаго чалавека можна было б палажыць у хаце, на кушэтцы, — пачала яна разважаць,— а дзе яшчэ трох — проста не ведаю...

— А на сене? — кіўнулі мы на адрынку.

— Там у нас не сена, а салома.

— І на саломе пераспім.

Словам, сяк-так упрасіліся, сказалі, што прыйдзем зацемна, і гэта, як потым, уранні, мы здагадаліся, мела тут істотнае значэнне.

Ад ракі, дзе было вогнішча, юшка, песні, мы прыйшлі ў адрынку позна.

Салома — не сена, а ў саломе — яшчэ і мышы, Спаць яны нам не далі. Ці жыта дрэнна абмалочана, ці мышэй тут, у чыстаполіцы, такая галодная процьма? Шастаюць, поўзаюць, слінява чаўкаюць то збоку,

то з патыліцы, то каля самага вуха. Пляснеш рукой па саломе — заціхнула. Потым зноў. Толькі на досвітку сон нас усё-такі змарыў.

Ненадоўга. Ці то ад іх, мышэй, мы прачнуліся, ці то і ад таго, што пачало спакваля праяўляцца з цемры ўнізе пад торпам. Прычына праяўлялася, з-за якой хоць і ўсмешліва, але туга гасцінная Альдона не хацела пускаць нас на салому.

Каля сцен адрынкі і пасярэдзіне яе стойма і гарызантальна стаялі парасчыняныя труны, крыжы і пірамідкі помнікаў — невясёлае падсобнае рамяство гаспадара, якога ўвечары чамусьці не пабачылі. І ачмурэнне трохі ад нядосыпу, і сцішнавата неяк —пасля мышэй яшчэ і гэтая «мэбля»...

Але дарожны аптымізм зрабіў сваё. Ахвочы вандроўнік, рыбак, юшнік, грыбнік, вогнепаклоннік — Вялюгін, седзячы на саломе, з каласамі, ледзь не з мышамі ў валасах, гледзячы на труны, філосафам уздыхнуў: — Эх, калі б гэта ўвечар было відаць — лёг бы сабе ў адну, накрыўся б ды выспаўся без мышэй!..

1988

## ТЫ МЯНЕ ПАВАЖАЕШ?

З жывой цікавасцю і даўняй пашанай да аўтара чытаў у часопісе гістарычны нарыс нястомнага Міколы Ермаловіча, і зноў з усмешкай успомнілася, як я ў канцы зімы пяцьдзесят другога года выступаў у Маладзечанскім настаўніцкім інстытуце, куды мяне запрасіў пісьмова тады яшчэ незнаемы, малады выкладчык роднай літаратуры, іменна ён, Мікола.

Пасля сустрэчы са студэнтамі мы пад вечар абедалі ў рэстаране. Утрох, з рэдактарам абласной газеты, які таксама быў на сустрэчы. Удвух нам было б цікавей, аднак... Цвярозы ён больш маўчаў, а потым пачаў то прасіць, то настойваць, то зноў прасіць зайсці да яго, на свежаніну.

— Жонка, таварыш, будзе рада! Яна ў мяне...

Ен адлучыўся, пазваніў дахаты, і мы нарэшце пайшлі.

На званок адчыніла жонка. А перад ёю, фігуркай з коскамі, маме ледзь не да пояса, — дачка. Яна і прывітала нас, сказаўшы бацьку:

— Табе мала было там з імі піць, ты іх яшчэ дадому прывалок?..

На ісціну, пачутую ад мамы, калі тата званіў ёй, паўтораную «устами младенца», збянтэжаная гаспадыня адказала крыкам і плескачом па кароткай спаднічцы. Нас пачала запрашаць, прасіць прабачэння: «Малое — дурное...»

А свежаніна ўжо сквірчэла і духмяніла на электраплітцы.

Садзіцца да стала, аніяк не патрэбнага нам, прыйшлося без гаспадара. Яго спачатку штосьці не было, а тады праз прачыненыя дзверы суседняга пакоя я заўважыў, як ён, ужо ў бялізне. мудра кульнуўся ў пасцель. А нам прыйшлося прысесці, дзеля церпка ветлівага прыліку. А гаспадыні, якая перш за ўсё адправіла свайго папугайчыка туды, дзе бацька, трэба было частаваць, забаўляць незнаемых, познавячэрніх, усё-такі нецвярозых...

На цягнік я, вядома, спазніўся. Начавалі з Міколам у яго халасцяцкім пакойчыку, «на смірна» пад адною коўдрай.

І вось ужо хутка сорак гадоў, як мы не-не ды ўспомнім той пачастунак. Сяды-тады, бо і сустракаемся не вельмі часта. Але яшчэ ўсё з усмешкамі ўспамінаем.

* * *

Ранняя раніца ў маляўнічым надвозерным гарадку Картузы на польскім Узбярзжжы. Жнівень семдзесят пятага. Выйшаўшы з доміка, дзе начавалі, мы селі ў машыну, каб ехаць у іншы катэдж, на снеданне, а потым у недалёкі Гданьск.

Спалася мала, усталася раней звычайнага, ва ўсіх невыразны настрой.

Гаспадар нашага слаўнага падарожжа, ад Закапанага — сюды, Мацей Кананові, польскі пісьменнік і сябар нашай літаратуры, а перш за ўсё шчыры, сумленны таварыш, пытаецца ў мяне, як спалася. Мне трэба адказаць, што от, нішто сабе, аднак я гавару яму, што дрэнна.

— Што ж так? — пытаецца ён.

— Ат, ведаеш, і звечара не мог заснуць, і ноччу прачнуўся, і ўранні, а ў думках адно ды адно...

— А што з табой? — перапытвае ён, ужо заклапочана.

— Дарагі мой, я думаў і думаю, не магу здагадацца... Адно, толькі адно на душы...— Тут ужо трэба па-польску:— Ты мне поважаш чы не?

У нашай ціхай ды хуткай машыне — смех. Як быццам мы толькі цяпер прачнуліся. Смяецца Мацей, благі, кашлівы ад курэння; цішэй смяецца яго чарнявая спакойнаи Крыстына; смяецца мой сын-студэнт, а таксама і пан Антоні, гжэчна маўклівы «кероўца». Бо гэта ж і разрадка, бо яно ж і міжнароднае — такое пытанне за трэцяй ці чацвёртай чаркай: «Т-ты м-мя-не п-паважаеш?»

У нас да такой пяшчотнасці не даходзіла. Але ў дарозе часамі бывала — па кілішачку «под следзіка». Скажам, у вясковай гуральскай

карчме ці ў рыбацкім пасёлку на гэльскай касе. Не п'янка, а перакуска ў дарозе.

Мацей і ў гэтым быў абаяльна сціплы.

1989

## НУДЫСТЫ

У паездках па Польшчы, якіх у мяне было, можна сказаць, нямала, толькі двойчы прыйшлося часова, суткі пабыць удвух са спадарожнікам у адным гасцінічным нумары.

І дзіўна, як яны, тыя сталічныя мэтры, абодва былі падобныя ў адным, што помніцца ўжо даўнавата.

Адзін, праўда, захацеўшы раздзецца дагала, бо вельмі горача, папрасіў дазволу. Я ведаў трохі пра яго легендарнае самцаванне, і гідкавата, смешна было глядзець на мужчыну ў канцы шостага дзесятка, як ён яшчэ любуецца сваёй атлусцелай ударнасцю, слухаць, як ён хваліцца новаю, маладою жонкай, паказвае яе і іхнія разам здымкі.

Гэта, зрэшты, ён рабіў і адзеты, часта хвалячыся нерад знаёмымі і незнаёмымі палякамі, якія нас прымалі. Яны ветла хвалілі, хто менш, хто больш, што «жона ест бардзо ладна» або «пенкна», што «пара добрана». І толькі адзін, весела-незалежны сангвінік са старэйшых польскіх сяброў, які даволі часта ў нас бываў і нямала ведаў, сказаў на тыя здымкі:

— Малжонка нумэр седэмнасце-а!..

Шчаслівага мужа ён гэтым не збянтэжыў — той нават заіржаў.

Другі маскоўскі нудыст, з якім я, зноў жа ўлетку, апынуўся на суткі ў адным нумары, дазволу агалідца не папрасіў. Па-старэчы атлусделы, самаздаволены, проста раздзеўся сабе да расолу, як быццам мяне тут і наогул не было. Ляжаў, сядзеў, хадзіў, згінаўся ў мой бок над расчыненым чамаданам.

І гэтай пазіцыяй запомніўся найтрывалей.

Вершаў ён шпарыць многа, нямала іх стала песнямі. Ёсць і нядрэнныя. Але нічога я не зраблю са сваёю памяццю — усю яго паэзію бачу на адным надчамаданным фоне...

1989

# ДВА ШТОРМЫ

Пачнём цытатай, якая магла б пайсці тут і эпіграфам: «Ці хацелі б вы, васпані, мець мужам чалавека, знаёмага з марскімі бурамі?» Пытанне глухаватага Жавакіна з Гогалевай «Жаніцьбы».

У падарожжы вакол Еўропы, у кастрычніку пяцьдзесят шостага года, кал і за месяц, ад Ленінграда да Адэсы, прайшлося сем мораў і добры кавалак Атлантычнага акіяна, з бурамі мне... ну, не ведаю, як тут сказаць: пашанцавала ці не? На самым свойскім ды мелкім, Балтыйскім, пагайдала суткі і — ўсё. Кастрычнік пачынаўся золка, холадна, і мы з сябрам яшчэ ў Ленінградзе прастудзіліся, Баючыся зусім недарэчы загрыпаваць, звярнуліся ў карабельны буфет, з меркаванняў прафілактычных узялі па чарцы, і начная гайданка ў каюце была ў нас камбінаваная. ,ПІтарміла яшчэ і днём, чатыры балы. Бывальцы, а то больш таварышы з тых, што, рыхтуючыся да вялікага, экзатычнага, нарэшце дазволенага падарожжа, сёе-тое пачыталі з геаграфіі, гаварылі: «Гэта што! Вось Біскай нам пакажа!..» Не памятаю ўжо добра праз трыццаць два і гады, ці я таксама чытаў пра тую затоку перад самым падарожжам, ці памятаў пра яе і так, але цяпер, правяраючы памяць і маючы час, для рабочай «раскачкі» зазірнуў ажно ў чатыры энцыклапедыі. Наша і руская аднолькава лаканічна паведамляюць: «Частыя штормы», украінская і польская — кожная на слова больш: «Часто бувають шторми» і «Obszar częstych cztormów». А мы прайшлі той абшар пад чыстым небам, то ў сонцы, то пад зоркамі. І трэба дзякаваць за гэта, як і за тое, што ў Галандыі, дзе ў сярэднім прыходзіцца адзін сонечны дзень на тыдзень, нам ён якраз такі і прыйшоўся. Хоць пра біскайскі шторм яно і добра было б здалёк успомніць, нахваліцца знаёмствам з марскімі бурамі: «Ці не хацелі б вы, васпані...» Ну, ці якому васпану, а то і ў кампаніі.

Цяпер згадаю два штормы, марскі і азёрны, на'Чорным і на Нарачы.

Нарачанскі быў пазней, у пяцьдзесят сёмым, але начну з яго.

У дзень, калі мне чшоўнілася сорак, а да таго яшчэ і ў сумнаватым настроі, пацягнула пахмурным ды вельмі раннім ранкам на рыбалку.

Часцей за ўсё на возера я хадзіў з начальнікам вузкакалейнай станцыі, бацькам вялікай і дробненькай сям'і, гаспадаром цяжкаватай, шматвопытнай лодкі, заядлым рыбаком і выпівохам. А ў тую раніцу, для мяне як быццам юбілейную, хоць я пра гэта і маўчаў, мы выйшлі ў іншым складзе, на пазычанай маторцы. Паважаны акадэмік даверыў яе свайму маладому сваяку, студэнту. А трэцім быў таксама дачнік, мой сусед па хатах.

Бела-блакітная лодачка... Так і ўспамінаецца адзін з нарачанскіх расказаў таго акадэміка, Міхася Лынькова, — як да ляснога берага затокі куды ён аднойчы заплыў, надышлі ажно тры ласі. Напіліся на мелкім, а тады моўчкі вырашылі ні больш ні менш, а пераплысці затоку, добрых шэсць кіламетраў, да іншага краю зубчатага бору. І ён, наш вясёлы, прыязны Лынь, у небывалым шчасці сузірання, нейкі час воддаль праводзіў іх на малых абаротах матора.

Нам пахмурная цішыня паслужыла нядоўга. Як быццам толькі для таго, каб даць зайсці далёка ад берага. Спакваля, неўпрыцям Нарач раскалыхалася ў сапраўдны нямераны шторм. І мы нарэшце апамяталіся — трэба вяртацца!..

На рулі сядзеў ціхі студэнт, калека з падцягнутай правай нагой. Яму было ўжо не да спробы рабіць поўны разварот. Лодачка то ўздымалася носам на яшчэ і яшчэ і бясконца яшчэ адну пагрозліва крутую хвалю, і тады матор захлёбваўся, то ападала носам з чарговай і яшчэ чарговай хвалі ў адну з таксама бясконцых ямаў, і тады маторчык тыркаў над вадою напуста. Мы стаялі, адчайна гайдаліся на адным месцы. Я сядзеу на вёслах, і ўся мая ўвага была на тым, каб лодку трымаць супраць хвалі, крый Бог не павярнуцца бокам да яе. Сусед сядзеў на пярэдняй лаўцы, тварам да мяне. Ужо зматаў нарэшце абедзве дарожкі, сваю і маю, ашчарэпіў аберуч мокрую дошку лаўкі паміж каленьмі і толькі праз пырскі, прыжмурыўшыся, глядзеў на нас са студэнтам — як мы то ўздымаліся, то ападалі...

Пасля вялікага страху вельмі важна бывае раней за ўсіх, хто ў гэтым страху быў, сказаць: «Гляджу я на яго, а ён збя-леў!..» Што азначае — спалохаўся больш за мяне.

Больш за некага ці менш, не ведаю, але мне было страшна. Настрой быў самы сур'ёзны, перадапошні. А зацятасць — трымацца! — дапамагала, не даючы залішне ўяўляць і глыбіню пад лодачкай, — можа, якраз і ўсе тыя, найбольшыя для Нарачы, трыццаць шэсць метраў, — і лёгкую, негустую азёрную ваду, што нядоўга ўтрымае цябе, сякога-такога плыўца ды ў вопратцы, не ўяўляць і безнадзейна далёкі, нябачны бераг, дзе цяпер так звычайна пачынаюць дзень тыя, якім ты і любы бацька, і сябар-муж, на якога няхай сабе можна і пазлавацъ... І быў яшчэ, пакуль што быў вялізны свет, а ў гэтым свеце — і свет маёй пачатай-непачатай нрацы, у якой і сэнс жыцця, і галоўнае шчасце...

Словам — хто там найбольш збялеў?..

А ўсё закончылася празаічна. Нас пагайдала, пастрашыла да позняга поўдня, што можна было акрэсліць, ужо на беразе, толькі па

гадзінніку. А выгнала на далёкі ад нашага бераг, дзе ўжо спалохаліся не мы, а нас...

У «Тамані» Пячорын шкадуе, што праз сваю цікаўнасць парушыў спакой жыцця сумленных кантрабандыстаў. І таму, што гэтыя два словы аўтарам апавядання падкрэслены, яны мне даўно і жыва помняцца, маюць нейкі незразумела сімпатычны сэнс. Калі нас за мноства гадзін небяспечнай гайданкі выгнала да нізкага, парослага кустамі берага, мы там спудзілі — таксама падкрэслю — сумленных самагоншчыкаў. На самоце ды ў непагадзь, значыцца, у патрэбнай бяснецы, яны, кажучы па-мясцоваму, на польскі лад, гналі сваю «кшакуўку» — у кшаках, кустах. І ім, тром непаголеным мужчынам, ужо тады, калі і ўцякаць не надта зручна ды выгадна, падумалася, што мы начальства нейкае, што вось і ўліплі!..

Мы ім сказалі, хто мы, што з намі, і людзі з палёгкай прапанавалі пагрэцца. Хваравекі студзнт наогул не піў, я з-за «блакады сэрца» быў пяты месяц на поўным цвярозым рэжыме, і чарку прыняў адзін мой сусед. Студэнт і я шчасліва пажавалі сала з хлебам, толькі цяпер успомніўшы, што яшчэ не снедалі.

У возера мы, вядома, больш не палезлі. Каля берага, бродам брылі са сваёй бела-блакітнай — некалькі вельмі ж доўгіх кіламетраў. Тонкі ланцуг быў у маёй руцэ, адзін я быў бурлаком. І гэта не хвальба цяпер, а неабходнасць і трохі злосць — тады. Студэнт кульгаў-накульгваў побач, то па пяску, то па траве, мокрых увесь гэты дзень, а дзе нявыкрутка, дык і па бродзе боўтаўся, і не яго было прасіць дапамагчы ці выручыць. Хоць ён быў і памкнуўся разы са два. А мой шаноўны сусед, у гораДзё — з адказных, цяпер быў тройчы шчаслівы: ад выхаду з небяспекі, ад нечаканай чаркі і... чорт яго ведае, ад чаго яшчэ. Ішоў сабе па беразе і час ад часу нават усміхаўся. Адразу пасля «кшакуўкі» ён нават зноў хадзеў на ваду: няхай сабе возера і не надта ашляхла, але ж наколькі бліжэй! З ім не згадзіліся, ну дык няхай валакуць. Хоць тут і не множны лік, а адзіночны.

Праўда, пазней, калі і хмель, і дурнота трохі прайшлі, пабурлачыў са мною і ён.

Бо ўжо і дзень канчаўся. Яшчэ ўсё хмарна пануры, з нястомным шумам вялікай вады, які вёў нас да самага прычала не ў добры час пазычанай лодкі...

Пра шторм чарнаморскі пачну з мілага вобраза ўкраіначкі, які мне помніцца блізу сорак гадоў.

Люсі было чатырнаццаць, з мамай і іншымі пісьменніцкімі жонкамі яна адпачывала ў кактэбельскім Доме творчасці. Чарнявы спрытны падлетак, яна ўсё больш сціпла маўчала, добра плавала,

ахвотна загарала і з некаторымі «тіточкамй» хадзіла ў горы. А праяўлялася, як для мяне, найлепш у песнях. Спявала не адна, з жанчынамі, але голас яе выдзяляўся. Ад яе галасістай, ужо амаль зусім па-дзявочы і яшчэ падзіцячы пра стаду шнай шчырасці я палюбіў, ці не ўпершыню пачуўшы тады, чароўную «Повій, вітре, на Вкра'іну» і нібы зусім інакш успрыняў новую песню на словы Ісакоўскага: «Мне хорошо, колосья раздвигая, сюда прийти вечернею порой...»

Люсінага бацьку, Леаніда Смілянскага, я ніколі яшчэ не бачыў і не чытаў, да яго добрай прозы і да нашай прыязнасці было далекавата. Люсіна маці, спакойна-строгая Ніна Сцяпанаўна, толькі праз пяць гадоў, зноў жа на Чорным моры, але ўжо ў Адэсе, у апошні момант вынесе з бурнай вады нашу сямігадовую дачку і стане нам як роднай. А тады, у сорак дзевятым, з гэтай сям'і для мяне была адна Люся.

Як сёння бачу яе ў баркасе, шасцівёсельным, шэрым і дяжкім, глыбокім, перад сабою бачу, таксама як і я на вёслах...

Схіліла з гарачага поўдня, калі мы з паэтам Нагнібідой, узяўшы з сабою трое дзяцей, выйшлі на тым баркасе на ціхае мора. Думалася прайсці над бухтай, над якою справа высіўся суровы Карадаг, і парыбачыць там, куды амаль кожнай дасонечнай раніцы тупалі берагам. І цяпер пацягаем трохі леных бычкоў або хоць каляровых модніц-зелянух, на пацеху малым, а потым зноў пакалышамся на свой пляж. Малыя напрасіліся з намі, а мамы іхнія не мелі нічога супраць, бо і пагода такая слаўная, і дзецям цікава, і нянькі — весела сказана было — надзейныя.

А Чорнае мора, як у розных іншых выпадках гаварыў адзін з маіх старэйшых сяброў, можа рабіць нечаканасці. Толькі мы выйшлі недзе так на сярэдзіну бухты — яно неўпрыцям ды не на жартачкі раскалыхалася...

Нагнібіда, ваенны марак-чарнаморац, сядзеў на рулі. Мы з Люсяй на вёслах. Хоць я і залічыў яе вышэй у нашу дзіцячую тройку. Двое малых, далёка-будучы доктар матэматычных навук, квелаваты сынок адной з найвесялейшых украінак, і яшчэ далей будучая іспаністка, наша дачка, аднаму восем, другой няпоўныя чатыры, яны, як у вялізным глыбозным гняздзе стаіліся на дне баркаса, захутаныя адной вярблюджай коўдрай, нібы не выпадкова, а па мудрым прадбачанні ўзятай намі ў падарожжа. Над хвалямі ўзмацніўся вецер, малым было больш холадна зверху, чым страшна, хоць і гайдала здорава. А Люсі, як мне здавалася, было і не страшна, і не холадна. У чырвоным купальніку на густа загарэлай, пмаль доросла апраўнай фігурігы, яно размерана, нібы з надзейным вопытам і зусім спакойна працавала перада мною, на сваёй нялёгкай пары дарослых вёслаў... На Нарачы

мне было сорак, а там, на моры, яшчэ толькі трыццаць два. Аднак жа з намі дзеці былі, і я баяўся не толькі за сваю, за далікатнага хлопчыка — я па-бацькоўску глядзеў і на Люсю. Хоць у адчуванні такім быў не толькі страх за яе, але і любаванне, як амаль дарослай. Во малайчына, жаўранак наш!..

Пагайдала нас да позняга адвячорка. На беразе сабраўся натоўп, пераважна жанчыны. Над пляжам з крутога абрыву цікавалі ў свае біноклі пагранічнікі. Ніхто не спяшаўся на дапамогу. Яна і не патрэбна была — мы набліжаліся памалу, але ўпэўнена. Як ні ўздымала, як ні кідала ўніз, сурова і бясконца. А потым, зноў жа неўпрыцям, яшчэ адна чарнаморская нечаканасць — хваля пачала аціхаць. І мы, на вачах у нешматлікіх тварцоў, перапалоханых курортніц і зоркіх ахоўнікаў дзяржаўнай мяжы, дачапалі да шчаслівага берага. Страхам і стомай вычарпаныя не дазвання. І мужчыны, і Люся.

Праз дзевятнаццаць гадоў, у Кіеве, з сябравай кватэры я пазваніў ёй і, будучы на лёгкім, цалкам прыстойным падпітку, ледзь не расплакаўся.

За час, што мы не бачыліся, наадбывалася так многа страшнага і цяжкага ў яе жыцці. У пакутах памерлі бацькі, праз год адно за адным. Сама аўдавела, застаўшыся з малечай...

У памяці маёй найсвяжэйшай была смерць Леаніда Іванавіча. Добра памучыўшы таленавітага, сумленнага пісьменніка дзесяцігоддзямі недарэчных прычэпак, у некралозе, падпісаным ажно чатырма высокімі ўстановамі, яму афіцыйна адмералі нейкую долю даўно належнага прызнання. Нават і чалавечыя словы знайшліся, якія я памятаю і так, і паглядзеў цяпер у даўнім блакноце, выпісаныя з «Литературной газеты»: «Всех друзей и знакомых очаровывало его высокое внутреннее благородство»...

З вобразам яго цярплівай і разумнай спадарожніцы, — я зноў убачыў гэта, гаворачы па тэлефоне, — у мяне даўно спалучалася павялічанае фота нашай колішняй першакласніцы ў новенькай форме, з вялікімі белымі бантамі у косках, з надпісам на адвароце: «Мілай Ніне Сцяпанаўне ад выратаванай ёю Наташы»...

Люсінага мужа я не ведаў, ні разу не бачыў, смерць яго ўспрымаў толькі як яе гора, таксама нядаўняе. І тое, што яе — ужо кандидата навук, удаву, Валерыю Леанідаўну я назваў, як хацелася, як тады, проста Люсяй, — у гэтым было да слёз... Я зноў убачыў той шторм і спрытнага спакойнага падлетка на цяжкіх вёслах, пачуў яе звонкі, асобны ў дарослых песнях галасок, які гучыць мне так даўно... Не,

гэта не ад сяброўскай чаркі, хоць і яна крыху далажылася, — ад хвалявання я, ужо грунтоўна бывалы ды вопытны ледзь не сарваўся.

Ды вось і зноў...

Гады бягуць, хоць ты навязвай іх, як гаворыць адзін з маіх вясковых землякоў. Зноў прайшл іх ажно дваццаць, ужо ад той тэлефоннай размовы.

Неяк днямі, перабіраючы пісьмы ў асобнай, «украінскай» папцы, сярод пісьменніцкіх наткнуўся на два пісьмы ад Люсі. У адным з іх, проста віншаванні з надыходячым шэсцьдзесят сёмым годам, напісаным ужо не каторым-небудзь з бацькоў, як заўсёды раней, а ўпершыню ёю, асіроцелай Люсяй, пад подпісам «ад сям'і Смілянскіх» ёсць прыпіска: «А Ви не забули «Дзе ты, чарнавокая?..» і підлітка, якого Ви вчили іі співатй в Коктебелі? » А я, прызнацца, і забыўся тым часам пра песню і нашу, беларускую, і вельмі прыемна ўспомніў тую вучобу... А ў другім пісьме, зноў жа пад Новы год, ужо шэсцьдзесят дзевяты, яна пісала пра ўражанне ад пасланай ёй кнігі маіх лірычных мініяцюр. Ужо не проста колішні, а такі даўні падлетак, яна глыбока кранула мяне сяброўскім, сталым прызнаннем: «Ви і зараз той сайш, яким я Вас давно знаю і люблю». І нібы апраўданне: «В лйсті кажеш смілйвіше те, що побоішся сказати у вічі».

У старасці маёй, у сталасці яе — як гэта добра: прызнацца ў чыстых, высокіх пачуццях, што жывуць у душы не толькі як любы ўспамін — як дарагі, найдаражэйшы падарунак.

Над пісьмамі я зноў, ужо не ўпершыню, успомніў другі мой шторм, адчуў, перадумаў усё ад пачатку і вось нарэшце запісаў.

1988

## З ВЫПАДКУ

«Калгасу трэба прыняць дэлегацыю, шэсць чалавек, — калгас рэжа быка...»

Так гаварыў мне, смеючыся, адзін вопытны таварыш. Я і сам быў да такога вопыту дакрануўся. Увосень шэсцьдзесят шостага года, калі мы рыхтаваліся праводзіць дэкаду таджыкскай літаратуры, я ездзіў «апрацоўваць маршрут», дамаўляцца з раённым і абласным начальствам Гродзеншчыны пра іх удзел у гэтым, палітычна значным, мерапрыемстве. І сапраўды, загадаюць калгасу ці саўгасу зверху, дык ён і два быкі зарэжа на шэсць чалавек гасцей. Застолле будзе папоўнена сіламі ўласнага актыву, ды яшчэ і суседзі далучацца. Так потым і было.

А было аднойчы і інакш. У падарожжы па Прымор'і, недзе ў Арцёме ці каля яго, не памятаю ўжо, большы начальнік прапанаваў па тэлефоне меншаму пачаставаць абедам групу беларускіх пісьменнікаў:

«Сам знаешь, писатели. Гости Василия Ефимовича. Понял? Ну вот».

Мы ехалі з Уладзівастока ў Находку на дзвюх машынах, — Грахоўскі, Кіслік, Гілевіч, Арабей, Тарас, два шафёры і я. Не шэсць, а восем чалавек на аднаго быка. І ўсюды там нас называлі гасцямі першага сакратара крайкома: таварыш Чарнышоў і партызаніў на Беларусі, пад псеўданімам Платон, і працаваў у свой час, і прыняў ён нас па-зямляцку.

У гарадку, куды мы прыехалі, нас, па званку начальства, прынялі ў рэстаране. Падарожжа наша канчалася — пасля Хабараўскага краю, дзе мы вандравалі з літаратурнымі выступленням!, Прыморскі край быў толькі дзеля свабоднай цікавасці, на апошнія рублі. У нас была дарожная камуна, грошы ў аднаго. І я, на той час касір, найбольш канкрэтна адчуваў, колькі тых грошай, аднак, як усе мы, і я не ведаў, што гэтым грашам пагражае...

Даўжэзны стол, багатая закусь, некалькі гнёздаў бутэлек, у кожным гняздзе аднолькавы набор, усяго па бутэльцы: гарэлка, каньяк, шампанскае, віно краплёнае, віно сухое, піва, мінеральная вада... І актыў ва ўрачыстай гатоўнасці, гаспадароў разоў у тры больш, чым гасцей. А стол — з запасам вольных месцаў і бутэлечных гнёздаў, яшчэ хто можа падысці. Гасціннасць на шырокую душу — усе бутэлькі ўжо адкаркаваныя!..

Здзіўленне абрынулася на нас, гасцей, ледзь не поўным аслупяненнем у канцы таго абеду з тостамі. Афіцыянт падышоў да нашых, яны асуджана паказалі на мяне, касіра, я заглянуў у рахунак. Калгасны бык звычайна быў нічыйным, народным, а тут ён усёк» тушай — на мяне!..

І я з горкай сухасцю ў роце сказаў галоўнаму з гаспадароў, што аплаціць усе бутэлькі, два трацякі якіх не выпіта, мы не можам, у нас канец камандзіроўкі. І гэта дзіўна таксама, таварышы, усе бутэлькі адкаркоўваць загадзя...

Нашы шафёры, побач з якімі я сядзеў, заварушыліся, зашапталі: «З сабою, возьмем з сабою!»

Але я іх не чуў, я адмахваўся ад быка.

Гаспадары пашапталіся з выкліканай пышнацелай гаспадыняй рэстарана, рахунак быў скарочаны да памераў выпітага і з'едзенага.

На гэта ў мяне хапіла — нашай утрая тыднёвай нормы. А ўсё ж настуніла палёгка і прасвятленне.

Прозвішча галоўнага з гаспадароў было са славутага набору найбольш ходкіх — Сідараў. На наступным прывале мы яшчэ раз паскраблі з кашалькоў у агульную касу, аб'явілі найбольшую эканомію. І ўжо смяяліся, надоўга запамінаючы «сідараўскі абед».

1987

## РАНА

Што да паездак далёкіх, у краіны найцікавейшыя, то я зайздросціў Максіму Танку двойчы — з Кітаем і Чылі, дзе ён паспеў пабываць, пакуль было можна. З Кубай у мяне атрымалася неяк дзіўна, незразумела. У пачатку шэсцьдзесят сёмага. Ужо білеты былі ўзяты, інструкцыі атрыманы, і раптам — тэлеграма з анекдатычнай фармуліроўкай: «Связи уборкой сахарного тростника приезд делегации данный момент нежелателен...» Штосьці так. І дэлегацыя з двух чалавек, адзін вядомы іспаніст і я, на «востраў свабоды» не паляцела.

Я расказаў пра гэтую асечку ў нашым Таварыстве дружбы, і мне, як на суцяшэнне, прапанавалі паехаць восенню ў Індыю. Ад Кубы я адмовіўся, пазней туды замест мяне паехаў нехта іншы, а я быў шчаслівы Індыяй, адчуў у ёй бліжэйшае.

Вясной шэсцьдзесят дзевятага года я мог паехаць у Японію, вельмі рад быў гэтай магчымасці, ужо рыхтаваўся, чытаў. Не ўлічыўшы таго, што даклад на пленуме Саюза пісьменнікаў, зроблены мною ў кастрычніку, адрыгнецца дакладчыку ў красавіку. Даволі бесталковая супрацоўніца аддзела культуры ЦК партыі, пачуўшы, што даклад даручаны беспартыйнаму, радасці не праявіла. «Ну что же, — сказала яна пасля паўзы. — Только бы в свете последних решений». Нават зарыфмавалася гэта з сябрам на мелодыю песні «Раскинулось море широко»:

Он думал, конечно, что гений,
что двинет, как Бровка, доклад,
но в свете последних решений
его долбанули под зад.

«Долбанули» не адразу. Спачатку папала загадчыку аддзела культуры ЦК, які «залішне даверыўся», пазнаёміўся з дакладам напярэдадні ды на слых, «па тэзісах», прачытаных мною з асцярожнай лапідарнасцю. Мне прапанавана было сурова пакрытыкаваць двух аўтараў, Анатоля Вярцінскага, з яго паэмамі «Дажынкі» і «Даруйце», і Васіля Быкава, з аповесцю «Праклятая вышыня». А я і выкруціўся ад

гэтага, і павёў у трохі іншы бок, на што сакратар ЦК па ідэалогіі сказаў, выступаючы ў канцы пленума, што гэта не даклад праўлення, а толькі аднаго Брыля. (Дарэчы, потым я і надрукаваў яго ў пяцітомніку — як свой.) Здавалася, што і ўсё. А з Японіяй не атрымалася. Старшыня Таварыства дружбы запрасіў мяне ў свой кабінет, дзе па вышэйшым даручэнні... папрасіў прабачэння за тое, што іхні, маўляў, аддзел кадраў спазніўся з афармленнем маёй паездкі. На другім узроўні, крыху пасля, мне па-сяброўску назвалі другую прычыну — званочак адтуль...

Улетку таго самага шэсцьдзесят дзевятага я атрымаў два прыемныя запрашэнні: у Берлін, дзе выйшлі «Птушкі і гнёзды», і ў Гданьск, на трыццацігоддзе пачатку другой сусветнай вайны, куды я запрашаўся як салдат польскага верасня. На чарговым прыёме сакратарыята Саюза пісьменнікаў у ЦК паказаў гэтыя два запрашэнні — адно за подпісам кіраўніка выдавецтва «Volk and Welt», а другое Яраслава Івашкевічя". старшыні саюза польскіх літаратараў. Сказаў прыблізна так:

— Гэта не важна, што ў Японію не паехаў іменна я, важней другое: У Токіо, на высокай гутарцы пра савецкую літаратуру для дзяцей, не сказана было тое, што я меўся сказаць, — першае ў Японіі слова пра нашу літаратуру, дзіцячую і наогул. Няўжо і цяпер таксама не пусціце?

Пусцілі, паехаў двойчы. Цікава было і карысна. Пра што напісаў.

А японская рана не гаілася даўгавата.

1987

## ПАЎЗА

Калі мы ўдвух з доктарам тэхнічных навук Севярнёвым, ён ад навукі, я ад культуры, накіроўваліся ў Індыю, наладжваць братанне паміж Беларуссю і штатам сёння Карнатака, а тады, у шэсцьдзесят сёмым, Майсур, у Маскве нам званілі ў гасцініцу родзічы тых, што працуюць у Дэлі. Па наіўнасці мы здзіўляліся, што нас прасілі перадаць у якасці пасылачкі... Буханку чорнага хлеба! Нам растлумачылі, што там гэта ўваходзіць у настальгію, успрымаецца як любае прывітанне. Што ж, і мы ўзялі пару буханак, да пэўнага запасу цвёрдавэнджанай каўбасы і некалькіх бутэлек «Белавежскай». Яе, дарэчы, не для п'янкі, а, як параілі нам, для прафілактыкі ад небяспечнай на поўдні Індыі халеры.

У Дэлі мы раздалі пасылачкі, а свой чорны, родны, дзве свежыя буханкі, разам з дзвюма бутэлькамі «піва з быкам», як гаварыў удзяч-

на адзін з пажылых польскіх гасцей на беларускім высокім прыёме, пакінулі ў аддзеле культуры пасольства.

З Поўдня мы вярнуліся праз два тыдні. Таварышы дыпламатыкультурнікі прызналіся, што хлеб наш разумна з'едзены, а бутэлькі не крануты. Тут яны і пайшлі на вясёлы сяброўскі стол.

Зрэшты, у гаспадароў ён быў не надта вясёлы. Днямі здарылася непрадбачанае: іх добры знаёмы па Маскве, для некаторых аднакашнік па інстытуце, камандзіровачны ў маладзёжнай групе, таксама сядзеў тут, весела гаманіў ажно за поўнач, тады развітаўся, здавалася, з хмельнай павышанай сардэчнасцю, і нікому не падумалася, што гэтыя абдымкі назаўсёды. Як выяснілася назаўтра, ад іх ён пайшоў у англійскае пасольства. Аднак статэчны швейцар, выглянуўшы на званок, спрасонку выслухаўшы дэкларацыю на прыблізна англійскай мове, сказаў: «Мы гэтым не займаемся. Ідзіце вунь туды, у пасольства амерыканскае». Словам, той аднакашнік перабег, у надзеі на сваю англійскую мову, і мне было гэта прыкра па асабістай прычыне: я ведаў яго бацьку, саліднага літаратара і прыемнага таварыша з адной нашай сярэднеазіяцкай рэспублікі, ад разу ўспомніў яго з бацькоўскім разуменнем і спагадай.

Нас пакінулі начаваць. Развітанне пасля застолля таксама было сардэчнае. І мы з таварышам не звярнулі ўвагі на тое, што нас папрасілі даць пашпарты, для нейкай там адзнакі. Дамовіліся, што заўтра нам пакажуць горад. Нават была прызначана і гадзіна, ні рана, ні позна — у дзевяць.

А ўранку мы, чакаючы, пранылі амаль да адзінаццаці — ніхто па нас не ішоў, не званіў. На вуліцы перад аддзелам культуры, дзе мы паныла шпацыравалі, спынілася машына і незнаемы малады чалавек па-руску спытаўся, ці нам не трэба ў наша пасольства. Смешна прызнацца, як мы, мінчане, пераглянуліся: «Што ж, рызыкнём, усё-такі нас двух на аднаго, дый краіна прыязная...» А ён — супрацоўнік гандлёвага прадстаўніцтва і сапраўды прыязна прывёз нас у пасольства.

Там, зусім акрыяўшы, мы вырашылі пайсці на адпомсту. Папрасілі нумар тэлефона аддзела культуры, і я, ад нас двух, заявіў аднаму з учарашніх весела-сумных гаспадароў:

— Значыцца так, паважаны. Вы забралі ў нас пашпарты, абразілі нас недаверам, ледзь не да паўдня пакінулі нас адных, пакрыўдзілі няўвагай. І вось мы вырашылі папрасіць палітычнага сховішча ў пасольстве...

Доўгая, доўгая паўза, а потым, як выдых:

— ...СССР.

З таго боку выдых быў не на жарты з палёгкай. І голас:

— Ну, ребята, знаете... это...

Мінут праз дваццаць па нас заехаў ажно японскі лімузін. Побач з вадзіцелем-індусам сядзела душа ўчарашняга застолля Таня, наш мілы гід на ўвесь дэлійскі дзень.

Згадка — нічога асаблівага, а ўспамінаецца прыемна. І пра норавы намякае.

1987

## ЧЫСТЫ, ЗЯЛЕНЫ, СОНЕЧНЫ

У нас ён быў бы дзед Міхась або Міхаль, а там, у вялікім данскім украінскім сяле, — дзід Мышко. Маленькі, ціхі дзядок.

Мы туды прыехалі з маім партызанскім сябрам, які з дзён вайны назусім прыжыўся ў нашым Наднямонні. Сам ездзіў да родных — маці, братоў і сясцёр — амаль кожны год, разоў колькі запрашаў мяне, і вось мы, нарэшце, сабраліся.

Схіліла з поўдня, спякотнага на дварэ і душнага ў малой, белай мазанцы, у якой нарадзіўся і выраС да вылету ў людзі мой сябар. Застолле зацягнулася, і мы з галоўным госцем не дасядзелі да канца, ад гаманы ды настойлівай, нават бязлітаснай шчодрасці выйшлі ў стэп, у гарачы палын, балазе ён быў адразу за брамкай ды цераз пыльную вуліцу.

Зайшлі мы даволі далека, няспешна, святочна гутарачы, на цеплым, духмяным прыгорачку пасядзелі ды паляжалі, а потым і ўспомнілі, што, можа, так яно і няёмка — і сыну, брату, пляменніку і суседу ў адной асобе, а разам з ім і таму, каго ён прывёз.

Тым часам з хаты п'яная гамана выгарнулася на двор, шумна клубілася там у перадапошняй узбуджанасці. У цэнтры вэрхалу быў дзід Мышко. Пад кепкай, сівенькі, заплаканы. А пры ім — на шмат маладзейшы за майго сябра ягоны брат. У дружнай сям'і, пры маме, дзвюх старэйшых незамужніх сестрах ды пры цягавітай, дабрадушнай жонцы — сам пястун, лайдачок, рыбак ды вынівоха. Ен плакаў яшчэ больш за дзіда Мышко, наўзрыд, наўсхліп, з прычытаннем. Убачыўшы мяне, ад дзеда гайдануўся насустрач, абліпла, горача абняў, замурзліва падзяліўся ўсімі слязьмі і — як пра самае новае гора — пачаў ірвана, праз плач з падвываннем расказваць пра двух сыноў, што не вярнуліся з вайны. Сыноў — дзядулевых, што я сяк-так, не адразу зразумеў з яго бабскага прычытання.

— Ой, жаль, ой, жаль мэні дзіда Мышко! — галасіў ён і, адпусціўшы мяне, зноў гайдануўся да старога. Зноў абдымаліся, хлюпалі, ускрыквалі. Хто памагаў ім, мужчыны і бабы, а хто гаманіў, гаманілі

сваё. З крыкам, з рогатам, бесталкова. Нудна было ці смешна, ці так і так адразу, нават да стомы прыкра ад п'янай, яшчэ ўсё пад слякотным сонцам, таўкатні, у якую ператварылася спачатку ўрачыстае, годнае свята сямейнай, сваяцкай, суседскай сустрэчы. Хоць ты зноў ідзі ў стэп...

Назаўтра ўранку мы з сябрам былі запрошаны ў госці да дзіда Мышко. Прыходзіў ён, калі мы яшчэ спалі пад вішнямі над ракой, за бахчою, і ён будзіць нас не падышоў, просьбу яго нам потым перадалі. Сябру майму дзед прыходзіцца дзядзькам па маме. А я тут госць — нявольнік, хочаш не хочаш, а таксама трэба ісці. Каб надта хацелася, памятаючы ўчарашняе, дык не, але трэба. Пакуль сабрацца сябравым сямейнікам — мы з ім не чакалі, пайшлі ўдвух, першымі. І гэта я ўжо светла, прыемна помню цэлых дваццаць пяць гадоў.

Нічога надзвычайнага. От, невялікі дворык у частаколе, зялёны садок, беленькая мазанка. Аднак усё такое чыстае, утульнае, святочнае, прычым святочнае, відаць, заўсёды, кожны дзень. І дзід Мышко, які праз акенца ўбачыў першых гасцей, выйшаў нам на спатканне — ён таксама быў нібы зусім не ўчарашні. Без шапкі, сівасвяточненькі, з усмешкай, як вінаватай,ці што. І сапраўды вінаватай, як аказалася ледзь не ў першых словах вітання, калі ён з тою сваёй усмешкай пачаў:

— Звіняйтэ... учора воно... трошкі неяк воно не так...

Перавялося, дый хутка, на іншы лад, весялейшы. І сваяцкія роспыты ў іх пачаліся, чаго не паспелася ўчора, а то і яшчэ раз ад пачатку, і пра сухое лета пайшло, і да палітыкі неяк, вядома ж, дабраліся. Пакуль іншыя госці пачалі сыходзіцца, пакуль не выйшла з хаты, ад свайго клопату, старэнькая, таксама шчыра ўсмешлівая баба Мотра.

Маўчалі мы, пакуль былі ўтрох, толькі пра адно. Сябар мне расказаў яшчэ ўчора ўвечары, што ў дзіда Мышко і сапраўды загінулі на вайне абодва сыны, і вякуюць стары і старая адны...

І мне дагэтуль жыва помніцца той наш прыход на дзедаў чысты, зялены, сонечны ранак, дзе каля белай мазанкі мы толькі ўтрох.

Маладзейшыя — з адчуваннем сыноўняй павагі.

1988

## ПА ДЗЕТКАХ

Ах, як нам кожнаму збоку ўсё вельмі добра відно!..

Едзем па вуліцы паўднёва-данской станіцы, якая раскошна раскінулася ў зеляніне садоў і прысадаў, над шырокім Данцом, і я

ўспамінаю мазанку ў сяле майго сябра, дзе яго маці, сёстры, браты, дзід Мышко, баба Мотра...

І не толькі. У сяле тым жыве яго шчыры, з маленства верны друг.

Гэта другаву мазанку я ўспамінаю.

Палкоўнік на пенсіі, франтавы лётчык-ас, такі здаравенны, што, убачыўшы яго ўпершыню, падумаў: ну, такому і самалёт патрэбен адмысловы, значна большы. А такі энергічны, разумна дасціпны, начытаны, што і пабыць з ім евабодна ды весела, і ўспамінаецца ён здалёк прыемна.

Яны прынялі мяне ў дружбу, мы былі разам у Мінску, у Маскве, у Валгаградзе, ужо даўнавата і перапісваемся, і вось, нарэшце, сустрэліся каля самай іхняй крыніцы.

Адваяваўшыся слаўна, адслужыўшы яшчэ семнаццаць гадоў, лётчык вярнуўся ў роднае сяло. Халасцяк у сорак дзевяць, вольны ад жонкі і адзінай, ужо дарослай дачкі, ён бабылюе ў старым садзе з вуллямі, з бахчою побач, у чысценькай мазанцы, звонку звычайнай, як і ўсе іншыя, якіх там амаль дзевяцьсот. А ўсярэдзіне jffia незвычайная, са скрыжаванай зброяй на насценным дыване над канапай, з шафаю кніг, нават з пісьмовым стадом. Дарэчы, шафа і стол не перашкодзілі мне, калі зайшоў першы раз, успомніць славутага Багуна, таксама палкоўніка, якім і я захапляўся падлеткам у трылогіі Сянкевіча. А нашаму Багуну, на яго энергію, затарможаную хрушчоўскім скарачэннем арміі, бацькавай мазанкі мала. Побач з ёю пачаў будаваць цагляны, двухпавярховы дом, пры хаце надта ж вялікі. Туды ідуць зберажэнні, усе яго думкі, усё захапленне і ўсе гаспадарчыя здольнасці, што вось узялі ды на старасць прачнуліся.

І навошта гэта яму? Столькі клопату, жывучы, як-ніяк, а ў стэпавай глухамані. Нават калі і жонку новую браць, заводзіць другую сям'ю. няўжо будуецца на здзіўленне, на зайздрасць аднасяльчанам?..

Ах, як мне ясна ўсё гэта, едучы па станічнай вуліцы, гледзячы на домікі ў зеляніне, большыя за мазанкі ў паўночна-данскім сяле маіх сяброў, нібы нават чысцейшыя, таму што бель іхніх сцен падкрэсліваецца блакітнымі ліштвамі большых за тыя сельскія вокан. Калі ўжо так палкоўніку зажадалася новага жылля, дык вось такую, такую або такую зрабіў бы...

У адной з такіх вось пажыць бы і мне. Нават прымяркоўваюся да стала перад такім блакітналіштвенным, чысценькім акном — як там нядрэнна пісалася б!.. Прывычка такая — усюды прымервацца, нібыта і сапраўды яно недзе ёсць, такое надзвычай шчаслівае, плённае месца...

А людзі, да якіх мы прыехалі, жылі наводшыбе станіцы якраз не ў белым казацкім доміку, а ў звычайна цагляным, і так немалым, а яшчэ і з мезанінам. А сям'я — дзед Іван, дзядзька майго сябра, таксама «иногородний», і баба Кацярына, з мясцовых, казачка. Сыны пабудавалі дом, а самі жывуць далека, у розных месцах данскога краю.

Баба ў дзеда Івана — Кацька, а сам ён — Ванька. Я ўжо пра гэта чуў, а цяпер стары так і адрэкамендаваўся. Ванька і Кацька шчыра ўсцешыліся гасцям, і пляменніку з жонкай, і пары іхніх сяброў, нават і пятаму ў гэтай кампаніі — шаферу. Пачалося з абеду, які ўжо чакаў нас, бо мы пазванілі старым з Растова, дзе начавалі.

А пасля абеду і перадышкі сухашчава-рухавы і спадцішка вясёлы дзед Ванька прапанаваў нам даўно абдуманую ім работу — выкапаць паграбок.

Што гэта за работа на пяць чалавек, з якіх тры — мужчыны! Але сябар мой аднарукі, другая, прабітая куляй у плячы, служыць слаба. Шафёр — не на шмат маладзейшы за самога дзеда. А да таго ж яму якраз цяпер ды пільна спатрэбілася паглядзець матор. , Што ж, нашы жонкі не з тых, што называюць беларучкамі, — яны папрасілі ў гаспадара рыдлёўкі.

Пакуль да рыдлёвак — патрэбна была кірка: зямля ўпарта-камяністая. Але мне было сорак шэсць, рукі яшчэ памяталі сякеру, цэп, касу. Дзяўблі мы здорава, на змену, нават і сябар мой далучаўся — хоць для ачысткі сумлення.

Баба Кацька то выходзіла з кухонных д^звярэй на веранду, то праходзіла па двары. І, нібыта яна да гэтай справы ў апазіцыі, пакручвала галавой: «Во задаў вам работу! Гасцям!..» І дабрадушна смяялася.

А наш эксплуататар, спачатку растлумачыўшы свой план, крыху пастаяў пад першае гупанне кіркі ды скрыгат рыдлёвак, а тады падаўся да сваіх індыкоў. Бо яны ўжо, заразы, некуды ціхенька зніклі. Неўзабаве ён паказаўся з імі з-за дрэў. Індыкоў было многа, асабліва сёлетняга маладняку. Але масціты пастух спраўляўся. Тым больш што замест якога дубца ў яго была тычка, а на канцы яе, прывязаны махрачом, двума ветразямі надзімаўся, калі дзед махаў тычкай, бабін адстаўны бюстгальтар.

І з гэтага баба Кацька таксама, ужо разам з намі, смяялася, падрыгваючы шчодрым змесцівам другіх «ветразяў» — пад квяцістым халатам.

Дзеду было за семдзесят, бабе на дзесяць менш, абое яны бачыліся нам паважана старымі.

Бо не толькі родзічы, але і мы з жонкай ведалі, што Іван Фёдаравіч салдат і мікалаеўскай, і грамадзянскай войнаў, член партыі з дзён рэвалюцыі і актывіст усё жыццё. Адзін з тых сумленных, сціплых, надзейных, на кім і трымаецца лад. У дзедавым выпадку — у сельскай гаспадарцы. То брыгадзірам ён быў, то старшынёй, то вось і шаноўны пенсіянер, якому пры індыках не сядзіцца, ходзіць, бо запрашаецца, на пасяджэнні калгаснага праўлення.

Паграбок мы, вядома, у першы дзень не закончылі. Баба Кацька з вячэраю не спазнілася, а паспаць нам з дарогі сказала даўжэй. Дзед задаволена пасміхнуўся: «Яна ў мяне парадак любіць!..» Назаўтра работы нам хапіла да абеду, пасля якога дзед Ванька прапанаваў мужчынам ехаць па віно. Не ў свой станічны сельмаг, а ў армянскі пасёлак, кіламетраў з пятнаццаць стэпам. І віно там, ён кажа, лепшае, а нам і праехацца добра, цікава.

А за вячэрнім сталом, пасля тостаў за паграбок, за гасцей, за гаспадароў і яшчэ за штосьці пачалася ў нас палітычная гутарка.

Пачаў яе шафёр. Пенсіянер, якога я трэцяе лета наймаў на няпоўную стаўку, бо выязджаць прыходзілася не вельмі часта. На пасадзе такой ён адчуваў сябе і вольна, зранку пытаючыся па тэлефоне-аўтамаце, едзем сёння куды ці не, і хітравата, з набочнымі выездамі, на чым я яго прылавіў, і з адчуваннем рабочай вышэйшасці над пісакай-гаспадаром, якога ён часамі і папраўляў («гаварыць нада: цело-ві-зер!»), а то ўсё больш пасмейваўся загадкава, не кажучы чаго. І сёння ён з паграбком не памагаў, ужо і ў маторы не корпаючыся, — проста пайшоў з двара наводшыбе ў станіцу («нічаво сібе дзяравенька»).

І вось ён за вячэрай пачаў раптам пра тое, што ўсе мы ведалі, але пра што пры ім маўчалі.

Найбольш пра тое сябру і мне расказваў наш Багун. Будаўніцтва дома патрабавала раз'езду па гарадах, дзе што дастаць, дык быў ён і ў Новачаркаску. І там яму сябар з аднапалчан з дакладнасцю відавочца расказваў, летась яшчэ, што адбылося ў тым гістарычна-казацкім горадзе, таксама ў жніўні.

Едучы сюды, мы праз яго праязджалі, спыняліся, пілі халодны хлебны квас каля ларка на плошчы, дзівіліся на велічны сабор, і думалі, і гаварылі з сябрам, паміж сабою.

Маці мая казала калісьці: «Грашней таму, у каго прапала». Той многіх падазрае, а ўкраў нехта адзін. Але я быў папярэджаны вопытнымі людзьмі, што шафёры, якія возяць творчых работнікаў, умеюць слухаць. І такі яшчэ прырабатак. Казаў жа нядаўна з тэлеэкрана наш

гавпркі Мікіта Сяргеевіч, што «органы теперь, как никогда, связаны с массами», а гэта ж на практыцы штосьці ды азначае...

І пасля мазанкі са зброяй на дыване, і на плошчы перад саборам, і зноў у дарозе, і тут — усе апошнія дні, як ні прыгожа, як ні нова было ўсё навокал, у душы маёй чорна, балюча сядзела адно.

Мірны натоўп на плошчы ў Новачаркаску. Супраць людзей — салдаты. Недаўменне рабочага люду: чаму так павысілі цэны на мяса? Іх шматлюдны прыход да гарадскога камітэта партыі, быццам дзевятага студзеня пятага года — па справядлівасць да бацюхны-цара, калі... Так жа даўно было яно, тое крывава-гістарычнае калі! А вось і летась, калі яны, людзі, не захацелі ні з чым разыходзіцца, салдатам дадзены быў загад — страляць. Аднак салдаты сёння ўжо не тыя. Загад ім выгукнуў лейтэнант. А яны — і не змаўляючыся — залпу не далі. Разгублены камандзір стрэліў сам. І трапіў у дзяўчынку. Бо людзі ж сем'ямі прыйшлі. Другім стрэлам юнак-афіцэр на брук перад строем палажыў самога сябе...

З Масквы прыляцеў адзін з найвышэйшых. Да натоўпу не выйшаў, нават і на балконе не паказаўся. Аднекуль, па радыё іх супакойваў. Пасля прыляцела і спецыяльнае войска. Безадказныя аўтаматчыкі, з разрыўнымі кулямі.

І яшчэ, і яшчэ гаварылася...

Аднак у цэнтры ўсяго для мяне — тая дзяўчынка, найпершая, тыя хлопцы са зброяй, якая маўчала, і той, таксама ж для некага хлопец, які свой пісталет, так нечакана азлачынены, за другім разам ускінуў да ўласнае скроні...

Шафера за сталом пачалі папраўляць. Бо ён і гаварыў ледзь не з радасцю першаадкрывальніка. Я маўчаў, потым таксама штосьці сказаў з нязгодай. Сябар мой, хоць ён і беспартыйны інжынер, пагазетнаму растлумачваў старому, падвяселенаму чарка мі вадзіцелю, што да чаго. Але не так упэўнена ды горача, як гаспадар. Дзед абураўся «гэтай правакацыяй», станічнымі балбатунамі, што «і пры немцах тут таксама»!.. Хоць сам ён быў у эвакуацыі. Шафёр, нарэшце, прымоўк. Але і свята наша сапсавалася...

...Мілы, шаноўны дзед Ванька! Няма ўжо даўно ні яго, ні бабы Кацькі. Няма палкоўніка Колі Мартынава. Год ужо, як няма і нашага Ціхана, які мяне пазнаёміў і зблізіў з гэтымі слаўнымі людзьмі. Днямі я перачытваў іхнія пісьмы, пераглядаў фотаздымкі, успамінаў... І практык, і летуценнік Коля памёр раптоўна, на калідоры грозненскай гасцініцы, дзе ён спыніўся ў падарожжы з маладою жонкай і сынком. Нёс чайнік вару ў іхні нумар ды проста ўпаў і ітамёр. А дом застаўся незаісончаны. Ціхан Дудніісаў пакутаваў два гады. Як быццам мала

было пакутаў франтавых ды партызанскіх. Дзед Іван Фёдаравіч, таксама Дуднікаў, памёр раней за сваю Кацярыну Міхайлаўну. Калі ён зусім занямог, яна пісала нам з жонкай сама, са сваёй і вясёлай, і ўзварушлівай непісьменнасцю паведамляючы, што Ванька яе страціў памяць, нікога не пазнае, але «вас, Антоневіч, і Ціхана ўспамінае, чакае...».

Такое ўдзячна расчульвае.

Аднак найбольш мне помніцца той жніўеньскі вечар, калі мы выйшлі на двор, апынуліся з дзедам удвух пад высока і буйна зорачным небам, і ён палажыў мне на плячо сваю сівелую, нахіленую галаву, заплакаў, заківаў уткнутым лобам і сказаў, як сыну:

— Ваня!.. На сорок пятом году нашей власти по деткам стрелять!.. Как это подло!..

Прайшло яшчэ дваццаць шэсць. Да апошняй зімы я і ўпотай, і ў гутарках з найбліжэйшымі недаўмяваў, як гэта так удалося ўвесь той Новпчаркаск утрымаць у таямніцы, такой глухой, што нават і па замежным радыё пра гэта не гаварылася. Праўда, я слухаў яго вельмі рэдка, наслепа ловячы праз трэск ды хрып заглушвання якую-небудзь гаворку на чатырох зразумелых мне мовах. Другія з маіх сяброў ці знаёмых слухалі, мажа, і лепш, але таксама нічога не чулі.

А ў леташнім снежні, з ужо незаглушванай «заракі», я пачуў пра той Новачаркаск — між іншым... Ды вось жа як яно далека ў нас пайшло — тое, што сёння чытаецца, чуецца! На першым з'ездзе народных дэпутатаў новачаркаская ганебная трагедыя была названа ўсенародна, на ўвесь свет.

А з яшчэ большай даўніны ды герметычнасці выйшаў наверх і той наш першы (калі толькі першы!) Чарнобыль — паўднёва-ўральскі ядзерны, таксама «халатны» выбух у пяцьдзесят сёмым годзе, пра што нічога не было чутно...

Ва ўсякім разе я пра яго не чуў. Хоць і меў да гэтага сямейнае дачыненне. На трэцім годзе пасля таго выбуху памёр ад лейкеміі мой на семнаццаць год старэйшы брат, «протоиерей отец Игнатий», які служыў у тых мясцінах. За два гады да канца яго перавялі з паўднёвага Урала на паўночны, але хваробу ён павёз за сабой. Мы з братам Мішам спазніліся на яго пахаванне, аднак пабылі там дзён колькі, пагаварылі і з роднымі, і з іх сябрамі. І гаварылася тады, помніцца, не пра адзін той пякельны выбух, а проста пра выпрабаванні... Зноў жа не ўголас гаварылася ды не ўсімі.

Асцярожнасць? Так, асцярожнасць. Боязь і за другіх, і за самога сябе.

Я яе нават і ў запіее быў праявіў. Толькі намёкам, нікога, нічога выразней не называючы, для самога сябе, нібы абстрактна пра тое «...по деткам стрелять»...

1989

## КАБ ВЕСЯЛЕЙ, СВЯТЛЕЙ

На апусцелай пад вечар вуліцы абмінуў чалавека. От сабе непрыкметны дзядок, і апрануты бедна, і накульгвае.

І раптам ён — ззаду за мной —ірвануў:

І на тым рушнйчкові
оживе все знайоме до болю!..

На тым і спыніўея. Накульгвае далей.

Няхай сабе і выпіў трохі чалавек. Вось жа і мне зрабілася весялей. Бо гэтую песню люблю і я. Бо мне адразу жыва згадалася, як пачуў яе ў Кіеве першы раз, як хваляваўся тады — і ад паэзіі, і ад скрыпак суправаджэння, — як прыемна было, што ў песні словы Андрыя Малышкі, з якім мы ахвотна сустракаліся, як спадабаўся мне выканаўца, малады натхнёны Дмытро Гнацюк, назнаёміцца з якім давялося значна пазней і высока ў небе, калі я ляцеў у Іспанію, а ён у Канаду, а з Масквы да Парыжа разам.

Столькі згадалася ды адчулася — удзячна.

* * *

У Гаграх, калі ў мяне нечакана разбалелася нага і цяжка стала хадзіць, сусед Валодзя Караткевіч, надоўга пайшоўшы кудысьці, прынёс мне самшытавы кій. Старанна акораны і цяжэнны — як панесці. З такім хоць пад Грунвальд, у конным ці ў пешым страі. А ён, чалавечына любы, яшчэ і расказвае, як выразаў яго:

— Ты ведаеш, стары, — над безданню! На адной руце вісеў, другою рэзаў!..

* * *

Генадзь Цітовіч і на помніку сваім падобна ўсмешлівы. Ажно мне ўспомніўся адзін з яго расказаў.

У вагоне, з выпадковым суседам, палякам.

— Гдзе пан мешка? — спытаўся той, як пачалі знаёміцца.

— У Баранавічах.

Тады, адразу пасля вайны, наш выдатны работнік роднай культуры і нястомны весялун жыў там.

— О, — сказаў пан сусед, — то было польске място!

— А пан гдзе мешка? — пытанне ў сваю чаргу.
— Я, проша пана, мешкам у Варшаве.
— О-о, то было росыйске място!!
Логіка — адна.

* * *

Добрыя людзі, ад якіх зараджаешся весялосцю.

З Янам Скрыганом мы чакалі сваю электрычку. Лета, поўдзень, на даўжэзным пероне пуста. Толькі пошта чакае патрэбнага цягніка — горбаю мноства пасылачных скрынак. І побач кураць два старыя вартаўнікі.

— А што, каб нам, пане браце, схапіць па скрынцы ды наўцёкі? У розныя бакі! Ды пад вагонамі!..

Уявілася гэта, і мы — хто пад шэсцьдзесят, а хто і на восьмым дзесятку — смяёмся, як блазнюкі.

* * *

Танкіст-акружэнец Міша Іпатаў, напалавіну рускі, на другую кіргіз, бацька нашай пісьменніцы Вольгі, якая па маці і па душы беларуска, мне ўспамінаецца і так яшчэ.

Вясной сорак другога года, увечары, кампанія дзецюкоў, мы спявалі на вёсцы. І савецкія песні, што так нядаўна прыйшлі ў наша галасістае Загора, а ўжо і сталі сурова забароненымі — яшчэ раз новай уладай. Прыемна было іх спяваць, і задор адчуваўся, і нейкі пратэст. Так захапіліся песняй, што не пачулі, як па вуліцы, з-за. ўзгорка, збоку мястэчка-гарнізона грукочуць конныя паліцаі. Нават і лаянка ўжо чуваць...

Мы шыбанулі цераз двор на загуменне, у поле.

Вясёлы Міша і ў той вечар быў з гітарай. Сорак пяць гадоў прайшло, а так выразна помніцца, як на бягу звінелі яго струны, б'ючыся аб маладыя каласы, як мы побач удвух смяяліся — ад таго, што ўцяклі, што струны звіняць, а сёння кажучы, — што маладосць!..

* * *

У Альбуці на мосціку стаіць рэспубліканская дамачка, вельмі адказная за росквіт нацыянальнай культуры. Грацыёзна абапершыся на жэрдачку-парэнчу, у паэтычным настроі гаворыць:

— Тут жа калісьці была крынічка. І Колас пісаў. Памятаеце: «Цякла тут з лесу невялічка, травой зарослая крынічка?» Дзе яна, таварышы?

Музейны работнік, вясёлы філолаг, таксама цытуе:

— «Але ступіў тут бальшавік — ён зменіць гэты край!..»

Неўдаменне, амаль абурэнне:

— Вы што?!

— А нічога. Купала, «Над ракою Арэсай».

У падтэксце, вядома, асушка.

* * *

Нешта хутка пасля вайны, у гуртку па вывучэнні гісторыі партыі, адзін з нашых выказаў здзіўленне:

— І няўжо яны, капіталісты, не бачаць, што наша ідэалогія вышэйшая, што яна пераможа?

— Вы мне нагадваеце аднаго знаёмага ксяндза, — сказаў на гэта стары Маўр. — Той таксама здзіўляўся: як гэта ўсе людзі не бачаць, што пан Бог — толькі каталіцкі?!

А ў шэсцьдзесят шостым годзе я запісаў такое:

— Паслухай, Брыль, як я галасаваў. Работніца наша захварэла, дык ёй прынеслі урну. Паглядзеў я і кажу: «А можа, і мне, старому чалавеку, можна дома прагаласаваць?» Дазволілі. Малады сінявокі балван стаў перада мной у позу і пачаў: «Голосуя за блок коммунистов и беспартийных, мы голосуем за нашу могучую индустрию, за дальнейшее процветание нашего сельского хозяйства, за...» І панёс, і панёс! Я выслухаў, устаў з канапы. «Во имя отца, и сына, и святаго духа. Аминь». Перахрысціўся акуратна і ўкінуў у тую урначку свой чысты бюлетэнь. Ой, кажу табе, — трэба было бачыць, як ён, мой сінявокі, аслупянеў ад нечаканасці!..

На любым пісьменніцкім сходзе, калі нешта галасавалася і вядучы дзеля формы, па прыкладзе вышэйшых паседжанняў, не гледзячы ў залу, пытаўся «хто за?», яшчэ і «хто супраць?» і «хто ўстрымаўся», наш Іван Міхайлавіч абавязкова ці супраць, ці ўстрымаўся. Узнятая рука — адна на ўсіх. Усе да гэтага прывыклі. А калі хто з новенькіх ды службовенькіх недаўмяваў, пытаўся, а чаму тут такое, не так сабе вясёлы дзед — былы рэвалюцыянер, географ, эсперантыст — адказваў: «У нас дэмакратыя». Сур'ёзна і без клічніка.

* * *

Думаючы пра важную надзьмутасць аднаго з нашых, зноў вось успомніў чэхаўскае апавяданне «Орден».

«Лев Николаевич...» Герой такі. Тут просіцца нешта адпаведна значнае, а ў аўтара — будзьце спакойныя! — спад на прозвішча: «...Пустяков».

І паўтараеш смачна: «Лев — Николаевич — Пустяков!..»

* * *

Для кнігі «Я з вогненнай вёскі...» жанчыны расказвалі лепш, чым мужчыны. Аднак і ў гэтым былі выключэнні. Адно з іх у... ну, у адным з раённых цэнтраў Магілёўшчыны.

На сустрэчу з намі накіравалі ў райком нейкую адказную старую дзеўку ці, можа, і замужнюю зануду і ціхага няросленькага Вульфа Львовіча, вартаўніка канторы дзяржбанка. Ен — партызан з верасня сорак иершага, яна — пазнейшая, аднак жа праведная «на ўсе сто». Вульф Львовіч маўчаў, а дзеўка на ўсе роспыты адно:

— Сражались все, как настоящие патриоты, а как фамилие — уже не помню...

Так спакайней. А потым яна дадала і свайго:

— Вот вы все пишете, писатели, что и на войне была любовь, были романы всякие. А это ведь неправда. Никакой там любви не было, мы воевали! Вот мы с Вульфом Львовичем в одной землянке спали, а никакого романа ведь не было, нет!..

Валодзя Калеснік, падпольшчык і партызан на ўвесь размах, які і хваляваўся ад страшных расказаў, здавалася, найбольш, і нецярпячы біваў у дарозе на непатрэбнае, цяпер усміхнуўся, як для разрадкі, і сказаў:

— Ну, дарагая, тут ужо Вульф вінават!..

А той сядзіць сабе, як быццам нават сарамліва, усміхаецца.

* * *

З даваеннага, з панскага часу гэта ідзе.

Прыгажун з беднай хаты, прымак у дзеўкі бага тай, брыдкай, што вельмі ж «пасвіла» яго, можа, і не ведаючы слова «рэўнасць». Во жанчынам у вёсцы ён падабаўся. Пагаворвалі, што з адною ён нават і пагульваў. Во тая, у сваю чаргу, таксама за нялюбым, а сама прыгожая.

Калі тое што было, ужо дзеці павырасталі ва ўсіх, а рэўнасць усё туманіцца.

Нядаўна мясцовы самадзейны мастак, па просьбе той брыдкай намаляваў ёй дыван на сцяну. Вясёлы танец — дзяцюк з дзвюма дзеўкамі абапал. Не думаў нічога дрэннага, проста зрысаваў з часопіса.

А веска спакваля загаварыла, што гэта яе мужык — ды з дзвюма, з ёю самой і з тою!..

Сарвала дыван са сцяны і выкінула ці, казалі, пасекла нават. Хоць і грошы заплочаны.

* * *

Дзяжурны тэрапеўт, дамачка панурая, моўчкі пагартала папку з гісторыяй маіх хваробаў і пра тое, што я ўжо ведаю пасля аналізаў ад іншага спецыяліста, з усмешачкай сказала — першыя словы пасля глухога водгуку на прывітанне:

— А у вас в желудке полип!..

Хоць ты скажы ёй:

— Ну што ж, давайце разам парадуемся!

* * *

Ох, дробязі!..

Той дырэктар першай савецкай дзесяцігодкі, што пасля вызвалення Заходняй Беларусі замяніла ў гарадку польскую гімназію, — як ён харкаў, пляваў пад свой стол.

Доктар філасофіі, што ў доме адпачынку папрасіў мяне ўзяць і яму білет у кіно, а плацячы за яго... угаворваў рэшту пакінуць сабе.

Сімпатычная жанчына, медык, якая сціпла смяялася, што адзін з найвышэйшых, дый самы высокі, выступаючы па тэлевізары на ўвесь свет, па найважнейшых пытаннях сямідзесятых гадоў, са смакам слініў палец, перагортваючы старонкі.

* * *

На пахаванне свой поп з мястэчка не прыехаў: сёння Пяцёр, у прыходзе «фэст», наехала духавенства з іншых прыходаў. Дамовіліся з другім, з далейшай вёскі, не з той прыстойнай кампаніі.

Доўга чакалі яго, і вось нарэшце едзе! На «Жыгулях», матушка за рулём, бацюшка побач, ззаду нейкая баба, старэйшая. Ідуць яны з машыны па двары, на якім ужо добра нанудзілася шмат людзей. Попік — няраслы, сяк-так валасаты, чорны, як асмалак. Ну што ж, людзі бываюць розныя... Ды вось у хаце ён загалёкаў каля труны такім казліным тэнарам, што хоць ты, як той дурань у казцы, вазьмі ды не стрывай, засмейся. Матушка з тою старой памагаюць, як тры дні не еўшы. Аніякай урачыстасці!..

А потым яшчэ і пачуў — матушка за рулём таму, што самога за п'янку на тры гады пазбавілі правоў. Чацвёра дзяцей. А ён яшчэ і б'е яе...

Клопат з кадрамі! Гэта не тое што па тэлевізары, дзе цяпер гэтулькі золата, свечак, барадаў...

* * *

У даваенным польскім войску нам тлумачылі, што пяхотны полк, узняты па трывозе, павінен стаць на пляцы ў поўнай баявой гатоўнасці за дванаццаць мінут.

Гэтага дамагаўся наш гдыньскі батальён марской пяхоты, і гэта нам, салдатам, не надта падабалася.

Мне яно нагадвала познеасеннюю малацьбу цапамі, калі цябе будзяць у самы сон. Ды там хоць спакойна, па-хатняму, а то ж толькі затоіцца ўсё, толькі заснеш, а тут, як з-за куста, дзіка-агорклае: «алярм!» Рота зрывалася. Зноў таўкатня, беганіна ў прыцішанай злосці, як быццам мала яшчэ, ледзь не кожную ноч!..

Так здавалася ў злосным нядосыпе, хоць калі думаць пра тое сцішнае лета трыццаць дзевятага, дык тых «алярмаў», трывог, было не лішне многа. Мы больш дзяжурылі начамі на граніцы.

Пастроеных на начным пляцы, нас аглядалі, правяралі, і калі хоць у аднаго салдата не хапала, скажам, мыла — трывога зрывалася, «ушыстко до дупы»!

Але вось мы нарэшце дамагліся патрэбнага, тых «шчытных» дванаццаці мінут з поўнай спраўнасцю ў дробязях. Вярнуліся ў казарму, пачалі раздзявацца, лажыцца, і тут — раны пана Езўса! — аказалася, што ў кутку, на верхнім ложку спіць сабе, як у мамусі, цельпукаваты, дабрадушны стшэлец Дабжаньскі, мазавецкі вясковы дзяцюк.

Успамінаецца гэта часамі. І не так сабе, а ў ста ты стычных аспектах, слухаючы пра высокія, аптымістычныя падлікі. З промахамі ў падтэксце.

* * *

Зноў казарма. Пасля начнога дзяжурства днявальнаму — «службоваму» — належаўся адпачынак, можна паспаць да абеду. Я здаў дзяжурства, паснедаў разам з усімі, рота пайшла на заняткі, а я раздзеўся і лёг. Ляжу, збіраюся заснуць. А тут на доўгім пустым калідоры — брэм, брэм юхтовымі, падкаванымі ботамі — ідзе наш «пан старшы сержант», пажылы фельдфебель, нялюбы прыдзіра з легіянераў Пілсудскага. Спыніўся каля мяне. Мне б, дурню, прыкінуцца, што сплю, а я прастадушна гляджу на яго.

Трохі маўчання, а потым:

— Одпочываш, курва?

Гэта ў яго — так сабе, між іншым — першае і апошняе слова, і ў дзень, і на начных занятках.

— Одпочывам, пане старшы сержанце.

— Поўстань! — вякнуў ён на ўсю моц бяззубага рота. — Бегем марш! Падній!.. Я ці, курва, одпочнэн!.. А тэраз — до лужка!..

Ужо не рэкрут, а з пэўным вопытам, я адразу не лёг, чаго ён чакаў, а ўзяў ручнік і пайшоў памыць ногі.

Праз сорак шэсць гадоў, у светлым, прасторным весты бюлі кінатэатра, чакаючы сеанса, стомлена сеў на мяккай канапе і мне само па сабе прыгадалася: «Одпочываш, курва?» І ўспомніўся, пачуўся братаў смех. Ад майго яму колішняга расказу пра гэты «сонечны абразок».

* * *

Дзён за тры перад Новым годам пяцікласнік прыйшоў са школы з яловымі лапкамі. Наламанымі з тых незвычайных елачак, якія растуць каля гмаху, што так нядаўна быў у горадзе самым галоўным. Маці-настаўніца, калі ён пахваліўся ўдачай, жахнулася, пачала ўшчуваць, павучаць. Ды ён:

— А самі яны — што? Народ абакралі, а ў іх няможна?..

Такое ў хлопца, вядома ж, з гутарак з сябрукамі. Дух часу.

* * *

У купэ цягніка Мінск — Талін з намі ехала маладзенькая пара з малою дзяўчынкай. Мама сама яшчэ з міла-дзіцячым выразам твару, інтэлігентная. Тата зусім спартсмен, клапатлівы і ветлівы. А маленькая Маша — наогул адна пацеха.

Спачатку яна, знябыўшыся раннім выездам ад бабулі, паспала, тады паснедала і занялася лялькай. А потым на калідоры, у расчыненых дзвярах купэ з'явіўся хлопчык, таксама беленькі, яшчэ меншы за Машу. Яна пачала з ім з таго, што ўзяла ды мяўкнула. Раз і яшчэ раз: «Мяяў!..» А ён толькі глядзіць... І я не вытрымаў: «А ты скажы гаў-гаў!» І тут ён не проста паслухаўся — ён зусім стаў сабачкам. Пуц на калені, ручкамі падпёрся і залівіста забрахаў. Маша — сваё. Перамяў — перабрэх.

А мы — і ў купэ, і ў калідоры — засмяяліся. Хто дарослы, а хто і стары.

* * *

Вавёрачка перабегла мне паркавую дарожку і нібы нырнула пад зялёны ўжо адкос, да раўчука паміж дрэвамі. З пукатага, прыгожа апарэнчанага мосціка на яе там глядзелі, хто стаяў дагэтуль і хто спыніўся, і дзеці і дарослыя. Збочыў туды і я.

Упершыню так цікава ўбачылася — як яна, казачна мілае стварэнне, — смела, спакойна, усмак піла ваду, якая нібы і не была нядаўна пад лёдам, а так сабе цячэ ды цячэ ў маладзенькай траве.

* * *

Муха сядзела на шыбіне ў пакоі, а за акном птушка прысела на чорным ізаляваным провадзе тэлеантэны, заўважыла спажыву і кінулася на яе, стукнуўшыся дзюбікам і воллейкам у шкло!..

Пакуль малыя, што забаўляліся воддаль на падлозе, уцямілі мой расказ пра гэтую забаўную памылку, птушка апынулася ў шкляной пастцы. Адна створка акна адчынена, госця ўляцела і разгубілася паміж знадворнай і ўнутранай рамамі, не здагадалася вярнуцца праз адчыненую створку, а пачала шалпатацца ў пісклівым адчаі, біцца аб шкло. Я дастаў яе, дзіўна маленькую, на сорам мой невядомую, жаўтлява-шэрую з лімонным воллейкам, і патрымаў у вялікіх далонях. Унучка папрасіла даць ёй, каб выпусціла яна, бо яна ж першая папрасіла! З малое ручкі малая птушка і паляцела шчасліва ў акно, а дзяўчынка ад радасці захацела на мае калені. Унук згадзіўся і на гэта, ён у нас спакайнейшы.

І тут я расказаў малым два вершы, што ў памяці маёй жывуць з дзяцінства. Адзін, так сказаць, з пазакласнага чытання дома, «Птичка» з вялізнага тады для мяне аднатомніка Пушкіна. Другі са школьнай чытанкі, яго мы дэкламавалі на ўроках роднай граматы, рэдкіх у вясковай школцы дваццатых «крэсавых» гадоў, — «Добрыя дзеці» Гаруна.

Дзве назаўсёды хвалюючыя канцоўкі:

Я стал доступен утешенью,
За что на Бога мне роптать,
Когда хоть одному творенью
Я мог свободу даровать.

І другая, яшчэ прасцейшая ў сваёй нявольніцкай глыбокай шчырасці:

І матчыны словы у сэрцах дзяцей
Ласкавыя струны кранулі,
І добрыя дзеці — прыклад для людзей! —
Сініцы свабоду вярнулі.

* * *

З вялікай вёскі, каля якое наша дача, жонка прывезла прывітанне. Ад бабы Мышкі, якой ужо восемдзесят сёмы, увесь маёнтак — старэнькая хата, маленькая пенсія і трохі курэй, што, дзякуй Богу,

добра нясуцца. Дачнікі разбіраюць і гарадскія, што прыязджаюць да бацькоў.

«Прывет Антонавічу!» — так і чую зямляцкі голас — цераз прадвесне, зіму і восень, колькі там не былося. Яшчэ ўсё бадзёры голас, прыязны, хоць гэтулькі ж перажылося, напрацавалася, нагаравалася. А звыш усяго — не так даўно адзіны сын, што жыў таксама ў гора дзе, богведама чаму рукі на сябе налажыў... А ёй усё жыві. 1 жыве. Вось толькі рука баліць, не хоча правіцца. Была ў мястэчку. Туды аўтобусам, а ўжо адтуль ён узяў ды не пайшоў. Чакала, чакала, а тады пехатой. Падумаеш — пятнаццаць кіламетраў! Лесам дарога, дый вецер паддзімае ззаду. «Рукі за сраку залажыла ды іду сабе, іду... Але ж надзьмула, ліха яму, у руку!..»

Вось так. А то б і нішто сабе. Няхай толькі рука паправіцца.

Гэта ўжо я — ад сябе.

* * *

Сын з бацькам, гарадскі і вясковы, нібыта казырацца адзін перад другім сваёй «мужчынскай» шорсткасцю. Сустракаюцца рэдка і ніколі не абдымуцца пры спатканні ці развітанні. Хоць такое і вельмі патрэбна старому, нямогламу ды самотнаму бацьку.

Маладая нявестка зразумела гэта. І калі яна, развітваючыся са свёкрам, пацалавала яго, стары ледзь не заплакаў.

І любіць, і хваліць яе.

* * *

Два дзядзькі, сталяр і памагаты, абедаюць у дачніка, якому робяць прыбудоўку. Узяўшы па чарцы, разгаварыліся. Спыталіся ў гаспадара, дзе быў, што бачыў. Калі дайшло да Індыі, а там да таго, што людзі мяса не ядуць, не п'юць гарэлкі і віна, памагаты, без пары састарэлы, знягеглены штодзённай «чарнільнай» практыкай, уздыхнуў пра тых, спрадвеку вегетарыянцаў ды цвярэзнікаў:

— Ну што ты хочаш — цемната!..

* * *

Успамін — за ўспамінам.

Першы — арол на сочынскіх сонечных хвалях, адзін з маіх вельмі высока пастаўленых аднагодкаў, які любіць водныя лыжы.

Другі — сціплейшы на сваім месцы, больш прыземлены ў тым палёце, што здараецца з ім даволі часта, калі і ён адчувае сябе арлом. Пасля працы ды працы на сёмым дзесятку.

Карова зноў кудысьці забрыла, адбіўшыся ад суседскіх, зноў прыйшлося ісці шукаць. Знайшоў, вядома, нікуды не дзелася. Але сам па дарозе назад зайшоў да сябра на хутарку, а там і нацвэйкаўся ў добрага чалавека. І вось ужо не ён яе, а яна яго — на доўгім повадзе — імчыць палявою дарогай, толькі ты ногі паспявай перастаўляць. Наст'аялася, падла, прывязаная да плота, пакарміла камарэчу — вось і злосная. Спяшаецца, нібы каб расказаць пра ўсё гаспадыні. Тая ўжо і сама нагаворыць, але...

Добра, што не далека ўжо, не шырока, як на тым моры!..

* * *

Індура, Лунна... Прыгожыя назвы вёсак непадалёку ад Гродна.

Упершыню пачуў іх у раннім юнацтве, са старонак вялікага патрапанага аднатомніка Усевалада Крастоўскага, дзе апроч любоўных вершаў («Андалузская ночь горяча, горяча...», «Ванька-ключник» і іншае), апроч рамана «Деды» былі яшчэ цікавыя і вясёлыя нататкі афіцэра гродзенскага, здаецца, драгунскага палка.

Лунну потым я ўбачыў. Там і пачуў ад незнаёмага дзядзькі пра красу гэтай мясціны над Нёманам:

«Здаецца, браце, і хлеба трэба менш — так хараша!»

А Індура дагэтуль застаецца невядомай мне, гучаннем сваім загадкава, экзатычна прыгожай.

Ды вось пачуў, як недзе там, у адным з калгасаў, выступаў у клубе сталічны лектар. Памучыў стомленых людзей нудотай усім вядомага з радыё, тэлевізара і газет, а тады яшчэ папрасіў задаваць пытанні.

І нейкі весялун спытаўся:

«Скажыце, калі ласка, а якое цяпер становішча ў Індуры?»

Таварыш лектар на момант задумаўся. «Індура... Індзіра... Індыя...» Відаць, гэта штосьці з трэцяга свету... І ён пачаў: як яна, тая Індура, пасля вызвалення... пры дапамозе... крочыць наперад...

Пра смех у зале мне сказана не было, аднак ён, трэба думаць, быў.

* * *

Сход у раёне. Кампанія па барацьбе з «тунеядцами».

Нікога не выпараш выступіць. Нарэшце адзін узышоў на трыбуну і пачынае бэрсаць штосьці пра тых калгаснікаў, якія возяць у горад прадаваць свае яблыкі.

З месца чуваць свіст, а потым голас здаравеннага старшыні калгаса:

— Туняяда знайшоў! Граблі стары прадае, сам зрабіўшы, — у цябе і ён туняяд! Сказаў бы лепш, чаму гэта яму ваш калгас зробленых

грошай два гады не выплочвае! А туняяды у нас хто? Вунь участковы да старшыня сельсавета. Поўзаюць толькі цэлымі днямі — глядзяць, дзе б гэта выпіць на дурнічку. Во!

I яшчэ з таго часу, ужо не хрун чоўскага, а ранейшага:

Два раённыя таўкачы, упаўнаважаныя, вясёлыя і на такой рабоце разгультаеныя хлопцы, нядаўнія партызаны, забрылі ў чарговы калгас і засталі там — на ферме пакладаюць кнырукчкоў. Разам з брыгадзірам, таксама з партызанаў, насмажылі гэтых «адходаў» і напіліся пад добрую закуску.

Дайшло да сакратара райкома, і ён разоў са тры «скланяў» іх з высокай трыбуны як... раскрадальнікаў грамадскага дабра. «Туняядаў» тады яшчэ не было.

* * *

З нестарою цёткай каля студні.

— На калхозным, — гаворыць яна, — дык і трава лепшая, і картопля лепшая, чым у людзей...

— А чаму? — пытаюся. — Бог так распараджаецца?

— А што вы, Антонавіч, думаеце? Чалавек усё-такі неяк выкруціцца, а калхозу не дай урадзіць — яму ж тут і хана!..

I смяецца. Пры другой, старэйшай, якая таксама ўсміхаецца.

* * *

Сяды-тады зноў у памяці бачу, як ідзе са сцэны, трыумфальна адспяваўшыся, магутная красуня Абразцова. Шырокім сягам, разганяючы ўлева ды ўправа падол доўгай раскошнай канцэртнай сукні.

Ажно ўспамінаецца наймічка Маня, вясёлая, галасістая дзеўка з дзён майго маленства, — як яна аднойчы ў польцы, што «з-пад карча!», зачапіла падолам спадніцы вялікі барабан, вырвала яго з-паміж каленяў барабаншчыка і пранесла паўкругам цераз палавіну прасторнай хаты.

* * *

У Юрмале каля газетнага кіёска латыш, мужчына салідны, калі меркаваць па прэсе, якую ён браў, зачапіўся адной газетай за нейкую жалязячку.

— Асцярожна, парвецца, — кажу яму.

А ён, з выгляду хутчэй за ўсё рабочы, адказвае з філасофскай усмешкай:

— Ат, меней будзе чытаць!..

* * *

Эстонцы не любяць, калі іх прымаюць за латышоў. Не хочацца думаць, што яны лічаць сябе лепшымі, — проста хочуць быць самі сабой.

У канцы 1965-га, у Варшаве, калі мы з Танкам былі на Першым міжнародным з'ездзе перакладчыкаў польскай літаратуры, сімпатычны высокаадукаваны эстонец Аляксандр Куртна, перакладчык ці не з усіх еўрапейскіх моў, расказваў нам такое.

Перад вайной ён вучыўся ў Ватыкане. На выпускной урачыстасці да абсальвентаў прыйшоў сам папа. На такі прыём кожны з навучэнцаў павінен быў надзець нацыянальны касцюм. Усе яны кленчылі, а папа, маестатычна праходзячы перад пакорным строем, ласкава пытаўся ў кожнага, хто ён, адкуль. Калі дайшло да Куртны, той адказаў, што эстонец.

— А-а, — здагадаўся святы айцец, — Рыга!..

І тут наш Аляксандр таргануўся, каб усхапіцца з каленяў, запратэставаць. Аднак дужыя рукі святое аховы паставілі ганарліўца зноў на калені.

Пасля пра яго гаварылі: «Гэта той, што захацеў устаць перад святым айцом!..» Калі Куртна працаваў там архіварыусам.

* * *

Палякі ўмеюць смяяцца. Даўно ўжо помніцца з іх сатырычнага часопіса «Шпількі» малюнак з вялікім эпіграфам-растлумачэннем:

«У некаторых гарадах ёсць некаторыя рэстараны, у якіх некаторыя афіцыянты дазваляюць сабе ў адносінах да некаторых кліентаў некаторую нетактоўнасць».

На малюнку стол, за сталом кліент, над ім афіцыянт. І подпісдыялог, які лепш прагучыць у арыгінале:

Той, што сядзіць:

— Пан мі ласкаве пода зупэн.

Той, што стаіць:

— А пан мі поцалўе ў дупэн.

Толькі і ўсяго.

Гэта ў палякаў пра саміх сябе. А можна і пра нас. Бо і нашу нягегла-бяззубую сатыру — колькі я памятаю яе — вязала па руках такое: «некаторы», «некаторыя», «некаторых»...

* * *

Польскаму сябру-літаратару расказваю наш анекдот пра бедняка, у якога згарэла гумно з ураджаем, а ён пацешыў сябе тым, што «і

мышэй жа ляснула!». Сябар ведае нашу мову, ён смяецца адразу, а тады расказвае са сваіх татранскіх мясцін.

Згарэла ў беднага гураля хата, дык ён пабедаваў, падумаў і зрабіў сабе будан над ракою, каб на выпадак чаго лепш было тушыць. А тут — паводка, змыла, знесла яго будан. Стаў чалавек на калені і моліцца з родным акцэнтам:

— Пане Бозэ, за цо ты мне так казэс?!

У адказ — з-за хмараў маланка і гром — божы бас, зноў жа памясцоваму:

— Цосік ты мі, курва, не подобас сэнь!..

У набожнай Польшчы такое гучыць востра.

* * *

У летку шэсцьдзесят дзевятага года мы вячэралі ў экзатычнай саксонскай «гаетштубэ», рэстаранчыку. Малады вясёлы немец, знаёмы нашага пажылога шафера, спацелы і прыхмялелы ад піва, гаварыў:

— На соценнай паперцы — Маркс, пяцьдзесят марак — Энгельс. Ясна: наша інтэлігенцыя павінна добра авалодваць марксізмам. Ьа дваццатцы — Гётэ, на дзесятцы — Шылер, на пяцёрцы — Гумбальт. Таксама правільна: наша класіка належыць працоўнаму народу.

Рагочуць — гучна і цішэй, малады і стары, заражаючы гэтым смехам і нас, гасцей.

Прыпомнілася, як вясной пяцьдзесят шостага ў Будапешце, на востраве святое Маргарыты, нас, мінскіх турыстаў, здзівіла... у той час вельмі здзівіла адсутнасць у парку ўсякіх лозунгаў і партрэтаў.

— А ў нас, — сказаў адзін весялун, смялейшы ці легкадумнейшы, — возьмеш дзяўчыну, пойдзеш у парк ці на сквер і месца не знойдзеш, каб пацалавацца. З-за кожнага дрэва пазірае член Палітбюро!..

Здаровы гэта смех — з саміх сябе, вельмі патрэбны нам і вельмі ў нас рэдкі.

* * *

Так нязвычна, прыемна было прачытаць у аскета Махатмы Гандзі такое:

«Я даўно закончыў бы самагубствам, каб у мяне не было адчування гумару».

1956-1992

## ІСКРЫНКІ

Побач з нашым Загорам, уздоўж яго, з даліны на гару пяўся спрадвечны гасцінец. Цяпер ён ужо не пнецца, яго пакрылі асфальтам, і мноства машын снуе па ім значна цішэй і няпыльна. А ў дні майго маленства пяўся, глеіста-гразкі, і ніякія шараваркі не маглі яму памагчы стаць прыстойнай дарогай.

Пасля трох класаў загорскай пачатковай школы я пайшоў у чацвёрты клас турэцкай сямігодкі. (Заўсёды спаткнешся на гэтым «турэцкая школа», а яно ж — ад мястэчка Турэц.) Нас, такіх «гімназістаў», як падкусвалі ў вёсцы, было чацвёра, тры хлопчыкі і дзяўчынка, я наймалодшы. Ніхто нас, вядома, спецыяльна не падвозіў, пра гэта і думкі не было, ні. ў нас, ні ў бацькоў, ні ў «панскай» дзяржавы. Чатыры ісіламетры туды і столькі ж назад для быстрых пастушыных ног, хоць і абутых у школу, гэта было не цяжка. Хоць часамі, узыходзячы на гару, калі мы вярталіся, мне зручней было апірацца далонямі на калені, папераменна, так памагаючы нагам. Ды гэта болей жартам. А яшчэ і ґара вінавата.

Гара — не ґара, але і ўзгоркам яе не назавеш. Заходні канец нашай вёскі ўздымаўся высока, а калі яшчэ выйсці з яе на гасцінец, дык і адчуеш, як ты падняўся над наваколлем. Ва ўсе бакі так далека, так хараша ўсё відно — і палі, і вёскі, і мястэчка з шасцю светла-салатавымі купаламі царквы, і лясы, меншы на поўдні, а на паўночным усходзе большы. У меншы мы, школьнікі, мінулай восенню хадзілі па бярозкі, якія саджалі абапал гасцінца, а ў большы лес, які далей на поўнач, за Нёманам, і называецца Налібокамі, пушчай, дарослыя зімой ездзілі па дровы і дзеравякі.

Я і сёння яшчэ ўсё люблю сяды-тады, чым далей?то ўсё больш зрэдку, апынуцца на нашай гары. Калі адзін, дык моўчкі пастаю, паазіраюся, а калі з кім-небудзь госцем, бывае і з замежным, дык і спытаюся: «Што, прыгожа?» А ў маленстве я ўмеў яшчэ радасць ад вышыні выказваць і крыкам — тонкім, пранозлівым, доўгім, — лепш за ўсіх сябрукоў і сяброўак. Гэта тады, калі мы пасля заняткаў выбягалі з сумачкамі на школьны двор, адкуль таксама было далека відно, і крычалі ад радасці, а я — наймацней, «як паравозны гудок».

Стоўбцы былі тады павятовым горадам, Наваградак ваяводскім, і паміж імі хадзіў аўтобус, самаход. Для 1927 года гэта было дасягненнем, а для нас, «гімназістаў», радасцю. Некалькі дзён.

Аўтобус той быў падобны на таварны вагон, з дошчак, толькі значна меншы, карацейшы і цёмна-шэры, а не брудна-белы, як той, у якім мы, наша сям'я, пяць гадоў перад гэтым вярталіся з Адэсы. З

абодвух бакоў у яго было па акне, а дзверы ззаду, калі пагода, дык і адчыненыя ўсярэдзіну. А ад парожка ўніз — дзве жалезныя прыступкі.

Калі аўтобус, натужна гудучы ды крэхчучы, паволі пяўся на нашу гару, мы проста беглі за ім, не снадзеючыся, што ен нас возьме, падвязе. Вераснёвая раніца, у якую стаўся цуд, пачалася сонечна, і дзверы таго крахтуна былі адчыненыя. Усярэдзіне — людзі, паны, якіх ён вёз, а злева каля дзвярэй дзядок. У паліце, пад кепачкай, глядзеў, як мы весела трухаем, а пасля... Гэта нават і падкрэсліць хочацца: пасля ён узяў сваю кульбу за канец і дужку выставіў нам!.. Не прыпомню, хто з нас ухапіўся першы, хто другі, хто апошні. Мы ўсе паспелі, адно за адным, пакарыстацца кульбай, дзвюма прыступкамі, і вось — Бог ты наш добры! — ужо сядзім на падлозе самахода, а ён нарэшце адкрахтаўся, узабраўся на гару, лягчэй пайшоў па роўным, а потым і пакаціўся зверху ў даліну.

Не памятаю, вядома, што гаварылі паны і пані ў аўтобусе. Але і сёння бачыцца, што той дзядок зноў апіраецца на кульбіну дужку і ўсё маўчыць, нават нібы ўсміхаецца. І нам ён, я мяркую па сабе, бачыўся таксама пасажырам, хоць слова гэтае, не ўпэўнены, што ўсе мы ведалі. Іірасцей было думаць, што і ён таксама едзе, як і ўсе.

Цуд паўтарыўся некалькі разоў. Не памятаю, ці ўзапар, ці з паўзамі на непагадзь, калі дзверы над дзвюма прыступкамі былі зачынены. У адчыненых дзядок еядзеў на тым самым месцы, таксама з далоньмі на дужцы, таксама выстаўляў сваю кульбу, а потым маўчаў і ўсміхаўся зрэдку ў сівыя вусы над сівой бародкай. І мы ўжо думалі, і гаварылі, ідучы, паміж сабой, што ён або грошы бярэ з усіх за праезд, або і самаход — ягоны.

За апошнім разам са мною здарылася бяда.

Так жа ёмка сядзеў, ускочыўшы пасля ўсіх, і ногі мае на прыступцы, адной рукой трымаюся за вушачок дзвярэй, другая рука свабодная, сумка вісіць на тым плячы. Гляджу сабе, як гасцінец пад намі ўцякае назад. А пасля... Пасля мая сумка з кніжкамі ды сшыткамі ціха шуснула ўніз, на дарогу!.. Я, не паспеўшы нічога іншага падумаць, сігануў за ёю. Аўтобус тым часам ужо скаціўся з гары і ветрам імчаўся па цвёрдай жвіраванай роўнядзі. А я ж ніколі не скакаў на хаду. Што грукнуўся аб цвёрдае, дык гэта, можа, і не адчуў так страшна, а жорстка перакуліцца ў калючым пыле давялося разоў некалькі.

А ўсё ж мне бачыцца... калі не помніцца, дык чамусьці дагэтуль, праз процьму пражытага, бачыцца, што дзядок наш — смяяўся. Нават і рукі прыўзняў, адна з кульбай, другая так сабе. І смяяўся, я думаў, разам з усімі, хто бачыў маю ганьбу...

Было балюча і крыўдна. Я ўстаў, трохі асцепаўся, даклыгаў да сумкі, падняў, тады вярнуўся да шапкі, абабіў яе аб калена, надзеў на стрыжаную галаву і падаўся ў недалёкае мястэчка. Не плачучы.

...Колькі разоў за два апошнія гады аўтобус той не-не ды зноў загудзе, закрэхча ў маёй старэчай дальназоркай памяці. І ва ўспаміне гэтым бачу, адчуваю — як галоўнае — не тую крыўду і злосць за сваё кулянне падбітым зайцам услед за сумкай, не той, можа, і ўяўны смех, а перш за ўсё — працягнутую дужкай кульбу, а тады маўчанне дзядка, яго таямнічую, дабрадушную ўсмешку...

* * *

На тры гады раней, зімою, здарылася такое, што наша маці паехала ў госці адна, а мяне не ўзяла, колькі я ні малёкаў.

Госці былі далека, за сямнаццаць вёрст, да Ганны, маёй найстарэйшай сястры, і не так сабе, а на хрэсьбіны — у нас гаварылася: на радзіны — мамінай унучкі, маёй пляменніцы.

Толькі вароты нашы зачыніліся, а я яшчэ не зусім адрумзаўся, калі з мяне пачалі пакепліваць браты. Няхай сабе той, што старэйшы на тры гады, а то ж і той яшчэ, што на сем, вялікі!.. Яны смяяліся: «А не ўзяла, не ўзяла!», я агрызаўся: «А я паеду, паеду!», і дайшло да таго, што я зноў надзеў зношана-сіні, з чорным каракулевым каўняром гарадскі паліточнык, які па праве даношвання пасля старэйшых быў маім, і выбег на двор. З двара — на вуліцу. Ніхто мяне не даганяў, бо ніхто не падумаў, што я гэта напраўду, і я пачаў даганяць сваю маму.

Наша хата ў ніжэйшым канцы вёскі, і мне спачатку трэба было бегчы па вуліцы ўгару. Я спадзяваўся, што за першым узгоркам, дзе жыла Віліта, другая з нашых замужніх сясцёр, мама спыніцца, бо і яны, Віліціны, таксама ж паедуць на радзіны. Але саней, і нашых, і іхніх, на вуліцы ўжо не было. І я далей варухнуўся подбегам, яшчэ не крычучы.

Крычаць пачаў за вёскай, на самай гары, калі здалёк убачыў, як абодва «вазкі», святочныя сані, следам за чорнай і сівай кабыламі, пабеглі з гары ў далінку, каб потым зноў на ўзгорак... Я бег, крычаў адно толькі слова, мой паліточнык быў не зашпілены, адліжны снег паміж каляінамі рассоўваўся на бакі, боты чапляліся адзін за адзін, а ўсё ж я ні разу не паваліўся!.. Пратрухаўшы рыссю з узгорка на роўнае, коні пайшлі ступой. І я закрычаў часцей і, мне здавалася, мацней. А яны ўсё не чулі — нават і мама, хоць ехала ззаду, хоць гэта ж і яна!.. Потым коні зноў пайшлі бегма. І я ўсё бег. Да мястэчка было ўсё бліжэй ды бліжэй. А зацятасць мая яшчэ ўсё мяне падганяла, яшчэ ўсё не думаў: а што, а як жа далей?..

Я ўжо бываў у Ганны, ведаў, што вельмі далека, але цяпер пра гэта як быццам не памятаў.

Коні і сані ўбеглі ў нашу, ад нашага боку, вуліцу мястэчка і пайшлі памалу. Яны былі далека, аднак надзея мая зноў пачала крычаць, як і раней, вядома, з прыплачам. Вуліца злёгку уздымалася ўгару, пасля быў паварот управа. І нашы туды схаваліся. А я ўсё бег, неўзабаве — сярод першых двароў. Кагосьці бачыў я, хтосьці мяне, і гэта было незвычайна — як я то клыпаю, то зноў бягу, тут ужо гукаючы зрэдку...

І радасць — нарэшце — прыйшла!..

За адным, пасля за другім паваротам вуліцы распасцерлася рыначная плошча. І там нашы коні і сані стаялі, спыніўшыся каля крамы. Потым на ганак выйшлі мама, Віліта, Юстын. А я падбягаў да іх ужо з усмешкай. Мокры, незашпілены.

Вусаты, панурысты дзядзька, што быў маім шваграм, сказаў:

— Дайце рэспусту пугі і няхай бяжыць назад, як і сюды дабег!..

Штосьці так. Калі ж у словах не зусім дакладна, дык тон я памятаю добра.

А з маміных пазнейшых слоў помніцца тое, што яна тады падумала:

«Скулу табе, таўлуй! Каб я сваё дзіця...»

Нават заплакала. Але гэта пасля, калі мы ўжо ехалі.

Спачатку мы дваімі саньмі павярнулі з плошчы ў бакавую вуліцу, да мамінай цёткі, а там пазычылі кажушак. Мама апранула мяне, каўнер кажушка наставіла і падвязала хусткай. І вось я зноў сяджу ў перадку, спіной да нашай Сіўкі, носам да мамы, і ногі мае не толькі ў сене, але і накрыты коўдзеркам, таксама пазычаным. І мне так добра — і цёпла, і свайго дамогся, і лепш пра гэта не скажаш!..

Маці была, як на мой сённяшні лік, яшчэ нестарая, пяцьдзесят другі, і моцная характарам. Аднак і на гэта ў яе хапала цяжару. Году яшчэ не было, як аўдавела, засталася на разбуранай вайною гаспадарцы з трыма хлапчукамі. Старэйшаму толькі чатырнаццаць. А гэты...

Тут я спынюся, каб не расчульвацца. Бо і не плакала яна, думаецца цяпер, — слёз яе няма ў маёй памяці, яны былі, відаць, толькі ў мамінай душы. Маўклівай... Самотнай!.. Дачка і зяць?.. Значна пазней я пачаў разбірацца, што да чаго, чаму яна і ехала асобна, на сваім вазку, чаму яна і «скулу табе!», хоць не сказала, а толькі падумала...

Далей была дарога, якая і не здоўжылася, і закончылася цёплай хатай, дзе былі дзеці, пляменнікі, не надта старэйшыя за мяне, і тая,

трэцяя, з-за якое мы прыехалі, зусім маленькая на падушцы. Была сястра, таксама як і Віліта, падобная больш на цётку, і быў яшчэ адзін швагер, дзядзька не толькі вусаты, але і з барадой... Было б што яшчэ расказаць.

Ды мне далей успамінаць не хочацца. Мой дзікі бег і крык, няхай сабе і пястунскі, чатыры зімовыя кіламетры, а потым мама, сані, кажух, перамога — гэта важней за ўсё!

* * *

Яшчэ раз пра нашу гару на гасцінцы, за вёскай.

Веска ніжнім канцом адыходзіла ад гасцінца, а чым далей угару, то ўсё ішла да яго бліжэй. Адтуль, з вастрыні таго кліна, уніз, па загароддзі бегла сцежка, па якой хадзілі найбольш на могілкі. Цяпер усё тут забудавана і замест сцежкі вуліца. А тады каля сцежкі быў толькі нізкі зрубік крыніцы. На ват і там, так высока — крыніца? Нас, малых, такое не здзіўляла, як не здзіўляе нічога, што ёсць, бо есць яно,і ўсё. Сцежка жыла вясной, улетку, увосень, а зімой яе не пратоптвалі, бо і на могілкі хадзілася па вёсцы. Толькі тая сцяжынка, што збоку, ад крыніцы ў бліжэйшыя двары, была і зімою хаджалая. А замест большай сцежкі, з вострага кліна далека ўніз, на ніжэйшыя загуменні ды загароддзі, снежная неруш — вечар такі надыходзіў — праразалася палазамі саней. Тых вялікіх, што называюцца лясньмі.

Сані гэтыя, адняўшы аглоблі, пастронкам усцягвалі на гару дарослыя дзецюкі. На сані іх валілася, і наўздоўж, і наўпоперак, колысі ўлезе і яшчэ трохі больш. Разагнаўшыся на працавітых, слізкіх палазах, сані ад цяжару яшчэ мацней шыбавалі з гары ў даліну, каб там недзе збочыць без рулявога ў сумёт або з маху перавярнуцца пад які адкос. Вясёлая гурба з крыкам ды рогатам валілася ў снег. Усгавалі, асцепваліся, а то і не, біліся ў снежкі або закурвалі, а тады зноў цягнулі свае лясныя на гару. Каб зноў — ці поцемку, калі ў адлігу, ці ў пагодлівую ноч пад зоркамі, а лепш пры месяцы адчуць асалоду лёту.

Нам, падшыванцам, не ўдавалася пачапіцца на тыя сані, нас адкідалі, бо месца і так не хапала. Зрэшты, у нас было сваё — ці «козачкі», якія, калі возяць драўніну, падстаўляюцца пад доўгі хвост дзеравякі, то адмысловыя самаробныя санкі, то лыжы, таксама сваёй работы.

Я рос нароўні са сваім пляменнікам, Віліціным Мішам, старэйшым за мяне на паўгода. Разам пасвілі, хадзілі ў школу, кавалерылі, нават у польскае войска нас узялі ў адзін дзень і ў адну часць, разам і ваявалі, і ў палоне былі, і партызанілі пасля ўцёкаў. Усё ў свой час. А на сваім

чатырнаццатым годзе мы зблізіліся найбольш. Праўда, найбліжэйшым у мяне быў Міша, брат, але тады ён вучыўся ў наваградскай гімназіі, і вось мы сталі на той час бліжэй, чым было ў нас раней, з другім Мішам, які мяне дзядзькам, вядома, калі і называў, дык толькі жартуючы. Не перашкаджала нам і тое, што, крыху больш, чым я, распусны ды гультаяваты, Міпіа яшчэ ў загорскай школе адстаў ад мяне на клас.

Нешта зімой, ён шасці-, я сямікласнік, мы раптам — бывае ж яно і так — вырашылі як след падцягнудца з вучобай., Школа — школай, а будзем і дома падвучвацца. Распрацавалі план заняткаў, амаль па ўсіх прадметах, апроч «закону божага», але абавязкова з урокам гімнастыкі, у канцы і кожны дзень.

Спачатку энтузіязму, а потым настойлівасці хапіла дзён на некалькі. Потым мы спакваля пачалі ашукваць самі сябе. Гімнастыка з канца заняткаў стала пераносіцца на пачатак, першы раз толькі на спробу, потым з угаворам, што «на гадзінку, не больш», і нарэшце яна, наша гімнастыка, не толькі выбралася наперад, але і выцесніла ўсё іншае.

Бо ўся яна была проста паходам з лыжамі на могілкі.

Яны ў нас за гасцінцам, на схіле той самай гары. Адтуль на поўдзень — зверху, у разлогую даліну, аж да маёнтачка пана Лісіцкага, распасціраўся бязмежны, некрануты снег. Сюды ніхто не прыходзіў ні з санямі, ні з санкамі, ні з лыжамі. І таму трохі, што могліцы, дзе прыцемкам і сцішнавата, асабліва падшпаркам. А мы не баяліся, і нас гэта прыўздымала ў сваіх вачах. Дый на той наш «вучэбны» час лепш было заставацца адным.

Зрэшты, якая там патрэбна матэматыка, фізіка, шпрэхен зі дойч, калі так здорава ляцішча ўніз, потым ідзецца, потна і радасна, зноў угару, і адтуль... Да цямна ці да зорак і месяца, пры якіх — яшчэ і яшчэ раз, да шчаслівай, бясконца шчаслівай стомы!..

* * *

Падумаўшы, дык жа нічога ні асаблівага, ні надзвычайнага ні ў той кульбе з аўтобуса, ні ў той пагоні за мамай, ні ў самаробных падлеткавых лыжах — тым больш. У кожнага свае ўспаміны. Яшчэ і не такія, цікавейшыя, страшнейшыя...

Але ж пішу я не за кожнага, не за ўсіх — за самога сябе. Няхай сабе будзе, што старасць гэта — жывейшае вяртанне да найпершых успамінаў, няхай нават і сентыментальнасць, у нечым, сям-там. Але ж і просяцца яны, і добра бачацца, і паўтараюцца час ад часу — тыя

іскрынкі, калі на тое пайшло, дык, можа, і найсвятлейшага, найсапраўднейшага чалавечага шчасця.

## АДКУЛЬ ІШЛОСЯ

Накрышыць цыбулі, паліць алеем, найлепш — канапляным, і даць пастаяць. Пасаліўшы, вядома. А то і адразу можна на стол. Якая смака та! Аднак назаўтра, калі цыбуля размякне, выдыхае горыч і пасаладзее — яшчэ смачней.

Так у сям'і, у хаце бывала.

А ў агародзе ці ў садзе, у сваім ці ў чужым, ужо самастойна ці ўпотай? Набраць повен рот чорных, «як жучкі», вішань і раздушыць іх, каб аж у носе сокам заказытала...

Тады ўсё гэта было вельмі звычайным, а потым і мудрасць, набытая сярод людзей і ў кнігах, засведчыла, што простае, здаровае — найлепш.

Зямлю мы ў маленстве бралі рукамі, на пашы капаючы «печкі», а дома, пакінутыя дамаўнікамі, штодня ўкопваючы бульбы. («Пад вечар бульбы кошык укапай!») І на смак яе, тую зямлю, каштавалі, прайграўшы ў «ножыка», — бо як ты тады ні мянцi нажом перад раскрытым ротам, той, хто выйграў, умудрыцца ўкінуць табе на язык скачаны з сырой зямлі шарык.

Крышылі мы, дамаўнікі, і зелле свінням, навыбіраўшы ў градах бацвіння, дыхалі пахамі агароду, сокамі яго. Зубы нашы заходзіліся ад аскомы, яблычнай і вішнёвай. Моркву мы хрумсталі тут жа, у градах, толькі «добра абцёршы» падолам кашулі ці проста аб порткі. А на зубах была-такі чуваць зямля.

Нядаўна знаёмы закройшчык з опернага тэатра ўспамінаў, як у верасні трыццаць дзевятага веска яго разбірала маёнтак. Бралі — хто што мог, а ён, хлапчук, нарваў поўную запазуху панскай морквы!.. Дый то не адразу, не самі дзеці ў той маёнтак пабеглі, а іх танкіст савецкі падахвоціў.

* * *

Што такое глухамань — я ведаю добра.

Што я рабіў бы тады, каб не кнігі?

Не бачыў бы, не адчуваў бы гэтай глухамані на ўсю яе глыбіню і, можа, не так было б сцішна.

А калі да глухамані, да цемры дадаць яшчэ горкія думкі пра смерць? На пятнаддцатым годзе жыцця. На вечарынках — за гучнай музыкай, за потнай радасцю дарослых, за вясёлым прасцяцкім

гоманам, за ўсмешкамі маладых, здаровых работнікаў ды работніц на заслужаным адпачынку я бачыў... іх чарапы, іх шкілеты... З сілай галюцынацыі (здаецца, яшчэ' не ведаючы гэтага слова).

Што гэта было — пераходная хвароба ці залог таго, што я не хацеў растварацца ў гэтай глухамані, у гэтай цемры-смерці?..

Асабліва цяжкай была глухамань у позиюю восень, калі не было адраджэння красы вяснянай і летняга росквіту яе, спялення, калі не было зімовай чысціні і прасторнасці, асабліва ў сонечныя дні, а была непралазная гразь, балота.

Што такое балота? Да сарака пяці гадоў я не бачыў Палесся, а балота — глеістае, глыбокае, ад плота да плота, бясконцае, на ўсю глыбіню вясковай вуліцы, з выгана ўнізе і з гасцінца «на гары», — балота я ведаў.

Вяртаючыся з пашы, каровы цягнуць вым'е па бяздоннай халоднай гразі.

Выцягванне ног адна за адной — нялёгкая, абрыдная работа і табе самому. А ісці каля плота, дарма выбіраючы сцежку? Балота мы валаклі з двара, з вуліцы ў свае і ў чужыя хаты.

Святочнае адчуванне — ты ў намытых ботах. Гэта ўжо тады, калі трохі падмерзне. А ўжо пра тое, як іх памажаш дзёгцем ды выйдзеш — і не кажыце!..

Гэтыя думкі-ўспаміны абудзіліся былі нядаўна з новай сілай, калі чытаў пра Эфендзі Капіева — пра тую глухамань, з усёй цемрай мусульманскай абмежаванасці, з якой ён выходзіў у вялікі свет.

Ен — дзякуючы рэвалюцыі, а я — вызваленню, пра што не трэба лішне балбатаць, але ж не трэба і забывацца.

1987

## НАСУСТРАЧ

Іду на папрок: «Во дапісаўся — пра кожную дробязь!..» У апраўданне сабе можна згадаць і чэхаўскую попельніцу, і яшчэ што-небудзь, аднак лепш не апраўдвацца, а пайсці насустрач настойлівасці пачуцця.

На лысіне валасы больш не вырастуць. А на двары пакінутай сядзібы — хоць двор той, нібы самы надзейны ток, быў, здавалася, назаўсёды ўбіты,утрамбаваны шматгадовай, штодзённай безліччу ног і капытоў, — на панадворку тым за некалькі гадоў апусцення паднялася густая трава. Адзін з цудаў сучаснасці!..

Праўда, зямля тут вельмі добрая. Вунь крапіва паміж хатай і свірнам дык тая загула да самага падстрэшша, густа, духмяна ў сваёй

пагрозлівай пякучасці. А на шчодрых калісьці градах зялёная дзікасць ажно ўшчацінілася знізу ў лістоту яблыняў, абвіслую пад цяжарам бяздогледных белых наліваў, штрыфлінгаў, антонавак...

Адтуль, ад таго суму, вельмі выразнага ў летнім росквіце, адзіны сын колішніх, зямля ім пухам, гаспадароў, малады падпалкоўнік у адпачынку прывёз мне папрошаным грузавіком на прылясную, надрэчную дачу некалькі патрэбных на абжытак рэчаў. Пілу, сякеру, касу, граблі, сахор. Пілу там, у напалову апусцелай вёсцы, хлопцы старанна развялі і навастрылі, касу накляпалі. Прыемна ад такога клопату. Яны там — даўнія суседзі, сябры маладосці, некаторыя трохі і сваякі. А ён, пляменнік, светлы, спакойны Лёня, «хлопец з рукамі» — жывая памяць пра найбліжэйшага з маіх братоў.

І яшчэ ён дзве рэчы прывёз — карціну і глобус, яе з апусцелай бацькоўскай хаты, а яго з закрытай вясковай школы...

Гарызантальны алейны пейзаж, бераг чароўнай Свіцязі, лодка з людзьмі, сасна паднебная, за лясным небакраем светлае нагрувашчанне яго любімых белых аблокаў — гэта ў маім рабочым пакойчыку на гарышчы вісіць ужо чацвёрты год. Вялікі, трохі расшалэхтаны на восі і падрапаны цікаўнымі пальчыкамі школьны глобус стаіць у кутку, каля пісьмовага стала, на табурэціку. І яны мне ўзварушліва, сумна гавораць пра мінулае.

Пра таго, хто — з маленства захоплены — маляваў той родны пейзаж, адну з мноства іншых карцін, раздораных ім у навакольныя вёскі, у хаты родзічаў і сяброў; пра таго, што не адбыўся на ўсю сілу як мастак, воляй жорсткага лесу так і застаўся самадзейнікам. Пра таго самага, што працаваў у сельскім будаўніцтве, з-за беспартыйнасці сваёй то на трохі вышэйшай, то зноў на ніжэйшай пасадзе, саступаючы месца таму, хто з білетам, а недзе прагарэў і павінен быў прызарплаціцца. Аднак ён, наш Міша, сціпла і заслужана ганарыўся тым, што ў родным раёне будаваў і фермы, і дамы калгаснікам, і некалькі школ зрабіў, у тым ліку і ў сваёй вёсцы, пачатковую.

Карціна зрэдку, між іншым нагадвае мне пра тое, што дома, у Мінску, у адной з тумбаў майго старога ды вялікага пісьмовага стала вось ужо больш за дваццаць гадоў ляжыць дарагая мне папка. Яго малюнкі. На кавалках ватману і проста паперы — аловак, пастэль, акварэль, пяро. Аўтапартрэты, партрэты сваіх і суседзяў, у тым ліку і мае, з найранейшых, што захаваліся.

Профіль мой і тады, у адзінаццаць гадоў быў лепшы за анфас, не так тырчалі вялікія вушы. Іастрыжаны я быў, як заўсёды ў вясковым маленстве, «пад бручку», другой са старэйшых сясцёр, вясёлай майстрыхай на ўсе рукі, і ўжо тым часам зноў трохі аброс, як той

Понцій Пілат, які быў у нас на каляровай рэпрадукцыі з карціны Ге «Что есть истина?». Дата пад малюнкам — па-школьніцку на польскай мове: «1928 rok, lato». Мішаў почырк і тады ўжо прыгожа-хлёсткі. А збоку — і маёй рукою, нібы па-руску (нібы — бо з кропкай над «і»), з патугай на гумар: «Антонов сынішка Ваня»...

Сваё гэта, толькі сваё — у кожнага.

Але ж бывае, што і тое, толькі нейчае свае хвалюе і цябе, чужога...

Пачатковая школа, адна з тых двух дзесяткаў школ, якія пабудаваны братам на маляўнічых прасторах нашага прынёманскага, прысвіцязянскага раёна, — школа ўжо даўнавата не працуе. І не жыве, дажывае. Закрытая па вельмі простай сучаснай прычыне: вучняў няма. Іх цяпер убачыш, пачуеш толькі ўлетку, гарадскіх унукаў. І вось яны, тая малеча, а з імі і дарослыя нядаўна — якое нядаўна: хутка зноў будзе дзесяць гадоў! — пабурылі тую, калісьці белую, чыстую, у кветках школку, як гаварылі з любасцю нашы бацькі і дзяды, так апаганілі яе, нібы даўно чакалі гэтай шчаслівай магчымасці, гэтай пястотнай свабоды — у малых і спрадвечна-сучаснага хамства — у дарослых.

І тут ужо смутак і горыч у мяне не свае, не толькі свае, але і не чужыя — нашы.

Пра гэта гаворыць мне глобус. Не тады, калі дашкольныя, шчабятлівыя ўнукі трывожаць, круцяць яго, з ультрасучаснай цікаўнасцю — ад тэлевізара яна, ад раскошнага мноства дзіцячых кніжак — шукаюць на шматколернай пукатасці не толькі кантыненты, краіны, а і сталіцы, — але, не тады, а ў мой самотна ціхі час...

1988

## СЯРЭДНЯЯ

Кузьма Чорны ў сваім дзённіку піша, што ў вайну, яшчэ ў Маскве, у жніўні сорак чацвёртага Панамарэнка гаварыў яму пра свой намер адкрыць пры Акадэміі навук двухгадовыя курсы, «інстытут мовы». «Сабраць туды такую нізавую інтэлігенцыю, як сельскіх маладых настаўнікаў, і зрабіць з іх ахавальнікаў чыстаты беларускай мовы ў школах і нізавым друку».

Відаць, гаворка пра гэта, яшчэ ў Маскве ці ўжо ў Мінску, была і з іншымі пісьменнікамі: Панамарэнка любіў сустрэцца з імі, пагаварыць. Гаворка — не толькі пра сельскіх маладых настаўнікаў, але і шырэй, і не толькі пра мову, але і пра літаратуру. Нешта накшталт маскоўскіх, пазней адкрытых, літаратурных курсаў.

Ці не ў сорак пятым годзе была ў мяне, у рэдакцыі «Вожыка», а то яшчэ і ў «Раздавім фашысцкую гадзіну», гутарка з Крапівой наконт маёй вышэйшай асветы, у сэнсе набыцця яе. Не памятаю, ці сам я пра гэта пачаў, ці ён неяк да гэтага дакрануўся, калі мы з ім, галоўны рэдактар і літсупрацоўнік, былі ў адзіным тады рэдакцыйным пакоі ўдвух, — добра помніцца, як ён, Канрат Кандратавіч сказаў:

— А што яны вас навучаць на тым філфаку? Пачакайце. Пры Акадэміі навук павінны адкрыцца двухгадовыя літаратурныя курсы. Я вас туды парэкамендую.

Курсы тыя, як вядома, не адкрыліся. А кампанейскі Валодзя Агіевіч вясной сорак восьмага так актыўна заняўся маёй адукацыяй, што падключыў да гэтага работніка міністэрства асветы, майго земляка. Іой запрасіў мяне ў свой кабінет і прапанаваў пайсці ў сярэднюю школу імя Купалы, «дзе ў вас — усё дамоўлена — прымуць экстэрнам экзамены за дзесяць класаў...».

Тады ўжо не было, як у першыя пасляваенныя гады, недабору студэнтаў, калі з паступленнем ішлося лягчэй. Згадаю дзвюх зямлячак, сорак пяты год. Адна з незакончанай польскай гімназіяй прыехала паступаць на філалогію, а ў другое, якой захацелася быць географам, я спытаўся, што яна закончыла, і дзяўчына з поўнай нявіннасцю ў позірку і ў голасе адказала: «Шэсць класаў». Паступілі абедзве. Ды што ісазаць пра іх, пасля вясковых настаўніц, калі і ў пазнейшых дактароў навук, прафесараў ёсць такія прарэхі ў сярэдняй асвеце, пра што адны маўчаць, а адзін з іх неяк прызнаўся мне весела: «Закончыў я перад вайною сем, а даведку зрабіў на дзесяць».

У мяне было сем польскіх класаў і дваццаць гадоў бессістэмнага чытання... Зрэшты, я і дагэтуль не ведаю, што гэта азначае — чытанне, так сказаць, сістэмнае?.. З-за прадметаў дакладных я пасаромеўся ісці ў тую школу, з тым «усё дамоўлена».

Ці шкадую? А можа, па-старэчы хвалюся сваёй прыстойнасцю?

Не раз вяртаўся да думкі і гаварыў пра гэта ў сям'і і з найбліжэйшымі сябрамі, што мне найразумней было б тады, калі жонка вучылася ў інстытуце замежных моў, пры ёй, стацыянарнай, паступіць на завочнае аддзяленне і авалодаць, скажам, нямецкай і англійскай мовамі. Гэта ў мяне, здаецца, пайшло б, і як жа прыдалося б!..

Праўда, парог з атэстатам за сярэднюю заставаўся, яго трэба было пераступіць, і перакладчыцкага аддзялення ў інстытуце пакуль што не было, а вывучаць педагогіку, каб не ісці пасля настаўнікам, здавалася недарэчным. І яшчэ дзве праўды. Першая — была ўжо сям'я: жонка, двое дзяцей, старая, хворая маці і нянька, дзяўчына з

вёскі, са мною шэсць чалавек, трэба было зарабляць, а жылося нятанна. І другая — працы было нямала і ў рэдакцыі, і дома, і ў бібліятэцы. Хоць гэта і не апраўданне. Відаць, і ў мяне было і засталося ў характары тое, у чым я не раз папракаў старэйшага, Мішу, — слабая воля, гультаяватасць.

А яшчэ і тое, што я з поўным юначым даверам вычытаў калісьці ў «Пути жизни» Льва Талстога — словы М. Г. Чарнышэўскага (перакладаю адтуль):

«Навука не ў школах. У школах — надзьмутая тупасць невукаў. Навука ў кнігах і ў асабістай працы па здабыванні ведаў з кніг і з жыцця, а не са школы, дзе ніколі з таго часу, як было вынайдзена кнігадрукаванне, ад навукі не засталося нічога, апроч плесні».

Аднак і заключэнне просіцца.

Нядаўна хлопец-зямляк, не даслужыўшы двух месяцаў у арміі, напрадвесні дэзерціраваў. Даплёўся з Палесся ў наша Наднямонне і з тыдзень нядрэнна пажыў на трох дачах на змену, у кожнай штонебудзь знайшоўшы: кансерву, бульбы, цыбулі, нават і бутэльчыну. А потым яго там накрыла міліцыя. Элегантны ваенны юрыст, лейтэнант, знайшоў мяне ў Мінску. У сваім ветліва акуратным апытанні дабраўся і да асветы. І я — пры ім, з «бубнай» на кіцелі, і пры сваім сыне, кандыдаце навук, не здолеў сказаць: «незакончаная сярэдняя» — сказаў пра поўную... Праўда, і ўспомніў у думках, з нейкай няёмкаватай весялосцю, два акрэсленні сярэднесці.

Адзін з пярэстаркаў, з якім я ў 1924-1927 гадах хадзіў у загорскую пачатковую школу, вахлакаваты і дабрадушны Валодзя, вучыўся так туга, што вершык ім наш наста ўнік заказваў вывучыць удвух з другім такім самым пярэстаркам і гультаём. Сябры па няшчасці адказвалі, вядома, не дуэтам, а на змену, па радку, па два, хто што лепш успомніць. Дагэтуль чуецца мне той прасценькі польскі вершык, дванаццаць радкоў, бачацца тыя пакўты двух таўкачоў, пад смех ці падхіхікванне меншых аднакласнікаў, бо да таго ж яшчэ ў дуэце адзін заікаўся, а другі прышапетваў. А пасля вызвалення, зімой 1939-1940 года, калі і наша Загора ўступіла ў эпоху анкет, той Валодзя, ужо сямейны мужчына, каваль, калі яго хтосьці з упаўнаважаных апытваў і дайшоў да графы пра асвету, сказаў і ў сталасці шапялява: «Шарэдняя». Ні замнога, значыцца, ні замала.

Другое, што мне прыгадалася, гэта народны анекдот. «Як, браце, жывеш? — Ды сярэдне. — Як сярэдне? — Між дзвюх торбаў». Гэта — калі яны ў жабрака надзеты насілкамі накрыж, на абодва плячы.

Смех смехам, філасофія філасофіяй, аднак і прыкра, горка бывае, калі ўпіраешся такімсякім гуманітарным ілбом у глухую для цябе сцяну матэматыкі, фізікі, хіміі, біялогіі...

1988

## ПРЫЗНАЮСЯ

Сорак шэсць гадоў — гэта больш за ўсё жыццё Кузьмы Чорнага, ледзь не ўдвая больш за пражытае Максімам Багдановічам...

У жніўні восемдзесят восьмага пераглядаю свае запісы з ліпеня сорак другога. Учора пераглядаў, а сёння, ідучы, як штодня, у вёску на ўсходзе сонца, успамінаў учарашнюю рабочую раніцу, тыя даўнія запісы, думаў, што адкрываць самога сябе — прыемна. Як быццам не проста ўспамінаеш забытае, а глядзіш на самога сябе збоку, на таго, што не быў яшчэ ні сівым, ні стомленым, для каго было ўсё наперадзе.

«Пішу — як жыву». Пра перажытае ў вайну і ў палоне я напісаў нямала. Тут і адзіны мой, як гаворыцца, раман, і цыкл апавяданняў, і адступленні-фрагменты ў іншых апавяданнях і эсэ, і лірычныя мініяцюры. Лепш ці горш, але зроблена.

А пачыналася так:

«Задумаў гэтую працу яшчэ з першых дзён у палоне. Думаў аб ёй увесь час. Дома — таксама. Устрымаўся часова ад Мішавай парады — рабіць не запіскі, а цыкл апавяданняў. А цяпер, абдумваючы «Чалавек сабе ідзе...», зноў падумаў, што мне, з маёй слабой сюжэтнасцю, цяжка будзе выблытацца ў гэтым цыкле апавяданняў, з якіх дагэтуль жыве толькі «Арманд» і пара пачаткаў. А ўспаміны-запіскі пойдуць лягчэй, і тыя апавяданні, што мяркую зрабіць, будуць у цэлай кнізе (а што за радасць — цэлая кніга!). як устаўкі, якія легка вымаць, калі зойдзе патрэба. Раздзелы (як у «Пятры Першым» А. Талстога, вялікія, прыблізна 20) будуць знаменаваць важный змены майго жыцця ў палоне. Падраздзелы — аб важнейшых эпізодах, каб пазбегнуць дробязнасці, а даць мастацкімі абразкамі. У літаратуры такога яшчэ не было, тым больш у нашай.

...Кіруюся наступным:

«Личные переживания, впечатления — это всегда интересно». «Прожил жизнь и сознайся». «Но писать надо так, чтобы стыдно было диктовать». «Будьте искренни в своих произведениях и пишите только о важном и нужном. Ведь талант — это искренность» (Л. Н. Толстой).

Трохі наіўна: дата, 30.VII.42,— няхай сабе, але ж яшчэ і месца — Загор'е... А як заўвагу дадам, што апавяданне «Чалавек сабе ідзе...» самастойна не выклявалася, увайшло потым у эсэ «Родны кут», а

другое, «Арманд», гэта «Чатырох і прыганяты», у цыкле «Ты мой найлепшы друг»; палонны француз Ружэ спачатку называўся там Армандам.
Запіс, які цяпер не без прыемнасці працытаваўся, зроблены быў, як прыпіска, у канцы не першага накіду плана кнігі ўспамінаў, якая, як штосьці асобнае, не была напісана. У тыя гады, 1942-1943, напісаны былі, калі гаварыць толькі пра ваенную тэму, дзве аповесці, з якіх праз дваццаць гадоў зроблены «Птушкі і гнёзды». На подступах да гэтай «кнігі адной маладосці» я, вядома, перачытваў не толькі рукапісы аповесцей — пераглядаў таксама і ўсе намёткі планаў. Пасля чаго прайшло зноў нямала гадоў, больш за чвэртку стагоддзя, што мне, аднак, не перашкодзіла цяпер убачыць сябе маладога здалёк.

Зразумелы мне сёння і суровы, горкі папрок, які напрошваецца сам: на дваццаць пятым годзе жыцця, у такі вырашальны час айчыннай і сусветнай гісторыі рана было спыняцца ды азірацца на пражытае. Партызанскі рух у нашых мясцінах пачаўся з вясны і лета сорак другога года, некаторыя мае равеснікі і будучыя сябры былі ўжо ў лесе або збіраліся туды. А я пісаў, мне ўсё думалася, што я не маю права адкладаць. У сшытках, купленых і самаробных, з мала прыдатнай паперы. Алоўкам і пяром. Летнім будзённым дасвеццем, пакуль ісці ў поле, позняй асенняй і зімовай ноччу, завесіўшы саламянымі матамі невялікія вокны старое хаты.

У самы напружаны час работы над аповесцю «Жывое і гніль» (у «Птушках і гнёздах» яна ўвайшла ў другую аповесць, «Гнёзды за дымам») ноччу я не пачуў за вокнамі чужое хады, не заўважыў, што мату прыпаднялі за рог... Пачуў я толькі ўжо стук у шыбу і голас: «А ну адчыняй!..» Перш чым выйсці ў сенцы, я прывычна змахнуў свой сшытак і аловак у шуфляду стала, гэтай шуфлядай павернутага, як для большай бяспекі, да сцяны. Але хавацца было ўжо позна. «Што пісаў?! — грозна спыталася незнаемая дзеўка ў портках і з вінтоўкай. — А ну даставай, дзе схаваў!..» Дастаў і пачаў растлумачваць. А яна загадала і пачытаць. Выбраў найбольш адпаведны кавалак, чытаю. Старонка, дзве, і вось дзябёлая госця, стоячы над сталом, абарвала мяне: «Усё гэта хяр-ня! Хадзем, паможаш нам сабраць аўса».

У партызанах я спатыкаў яе, у пасляваенным Мінску зямлячка нават аднойчы звярнулася да мяне па вельмі нялёгкай сямейнай справе. Аднак ні разу не загаварылі мы пра тую праверку, на якую яна, безумоўна, мела права і павінна была яе зрабіць. З некім іншым магло б атрымацца інакш, нават і з партызанам якім, ужо не кажучы пра паліцаяў. Цікава толькі і дагэтуль, штб я, на думку яе, мог тады пісаць — каму? пра што? — і як ёй было зразумець гэта адразу?

Маладая наіўнасць (ці як тут сказаць?) і рызыка, небяспека, на якую ішлося, цяпер часамі, у горкія хвіліны разлікаў з мінулым, успрымаюцца як палёгка. У іншых краінах, скажам, у Польшчы, такое лічылася і лічыцца таксама барацьбой...

Тыя даўнія запісы планаў і творчых разваг пераглядаў я ўчора не так сабе.

«Птушкі і гнёзды» даваліся мне нялёгка, не з адйаго прыступу, і шлях ад рукапісу да кнігі, цераз часопісную публікацыю, быў такі, што часамі сумота бярэ. Не толькі ад успаміну пра цяжкасці вымушаных «дапрацовак», але і пра страты, якія панесены, якія трэба было б, наколькі мага, вярнуць, паправіць.

Вясною семдзесят трэцяга, у іншым свеце, пасля шматлюднага мітынгу гамбургскіх абаронцаў міру, мне прыгадалася, як Валодзя Караткевіч гаварыў «з грубаватай шчырасцю», што свой раман пасля публікацыі ў «Полымі» я для кнігі пагоршыў. «Пакуль што не бачу гэтага», — напісана-надрукавана мною. А ўжо тым часам пачынаю і задумвацца... Алесь Адамовіч пісаў, а гаварыў мне яшчэ выразней, што ў кніжным варыянце рамана, паддаючыся рознага часу рэдактарам, я перастараўся з «рэвізіяй» сваіх юнацкіх талстоўска-пацыфісцкіх поглядаў.

Ох, рэдактары, цэнзары, крытыкі!.. А перш за ус.ё — дакор самому сабе: залішне легка я ішоў на тыя «дапрацоўкі». Была, вядома, і ўпар. тасць у адстойванні свайго, аднак было яе, відаць, замала. А быў жа яшчэ і давер да шчырасці, кампетэнтнасці некаторых сяброў, таксама ў нечым і залішні...

Аповесці «На Быстранцы» і «Апошняя сустрэча» абедзве з нялёгкім лесам, добра-такі прыпс.аваныя рэдактарамі і самім аўтарам, я давёў да жадання ладу для чатырохтомніка, у шэсцьдзесят шостым. «Птушкі і гнёзды», апроч самай першай «рэдактуры», двойчы яшчэ з асаблівым стараннем скубліся ў рускіх выданнях: у семдзесят чацвёртым, няхай сабе ў цэйтноце «застойнага перыяду», а то ж і праз дзесяць гадоў, што асабліва прыкра, бо перад самым прыходам палёгкі з правам на большую свабоду слова. І вось трэба правіць, вяртаць панесеныя страты. І так няпроста гэта — блытацца ў варыянтах, з не заўсёды надежным, найбольш дакладным бачаннем і цэлага, і «дробязей», са страхам перад новымі стратамі...

А тут яшчэ час ад часу вяртаецца думка, што, можа, яно і найлепш было б — не раман, а жывыя, непасрэдныя ўспаміны?..

Як думалася тады ўжо, цэлае, немалое жыццё таму назад, калі я, у тыя чыста, шчасліва хвалюючыя раніцы і ночы майго свабоднага

ўступлення ў найраднеі.шы свет, аказваецца, ведаў, у чым мая слабасць, а ў чым большая пэўнасць.

Кніга, якую цяпер раблю, у якую пішу і гэта, па сутнасці, можна сказаць, пачалася тады. І тое, што я вярнуўся да даўняй задумы з большай яснасцю, з большай тэматычнай шырынёй і з адпаведным правам на падвядзенне вынікаў, сёння пераклікаецца са зразумелым ужо і тады, з блізкім ужо і на пачатку «прожил жизнь и сознайся».

Дарэчы, у тым запісе сорак другога года выказванні Льва Мікалаевіча я прыводзіў з розных прачытаных кніг. Потым я тое «сознайся» замяніў чамусьці на «расскажи». Магчыма, так яно ў Яго гучала ў іншым месцы. Буду рады сустрэць гэта недзе яшчэ раз, у адзіна дакладным гучанні. Што справы ў галоўным не зменіць.

А цяпер, яшчэ раз дарэчы, прыемна было купіць нядаўна кнігу ўспамінаў Пабла Нэруды з іменна такой змястоўнай, «талстоўскай» назвай: «Прызнаюся: я жыў».

## З М Е С Т

Літаратурна-мастацкае выданне
БРЫЛЬ ІВАН АНТОНАВІЧ
Пішу як жыву
Аповесць, апавяданні, мініяцюры, эсэ
Рэдактар В. І. Рабкевіч Мастак М. Р. Казлоў Мастацкі рэдактар А. І. Цароў Тэхнічны рэдактар І. Дуброўская Карэктар JI. А. Дзядзюля
ІБ № 4156
Здадзена ў набор 18.01.93. Падл. да друку 03.12.93. Фармат 70Х100/.32Папера друк. № 1. Гарнітура школьная. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 14.95. Ум.-фарб. адб. 14,95. Ул.-выд. арк. 14,07. Тыраж 8800 экз. Зак. 101.
Выдаведтва «Мастацкая літаратура» Міністэрства інфармацыі Рэснублікі Беларусь. Ліцэнзія ЛВ № 3. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.
Друкарня «Перамога». 222310, Маладзечна, вул. В. Таўлая, 11.

Брыль Я.

Пішу як жыву: Аповесць, апавяданні, мініяцюры, эсэ. — Мн.: Маст, літ., 1994. — 363 с.

ISBN 5-340-01422-3.

Пражытае і перажытае Янкам Брылём за семдзесят пяць гадоў і расказакае вельмі ашчадна, але глыбока. Пражытае і перажытае разам з людзьмі — гэта і трагедыі, і няшчасці, і беды, і светлыя мары і радасці, і глыбокая вера ў людскаець ад нязломнага духу. І ўсё расказанае пісьменнікам вярэдзіць душу і розум.